# Г А В О Р А Ц Ь

# Ч А Р Н О Б Ы Л Ь Ц Ы

МІНСК. 1994

Дзяржаўная гісторыка-культурная экспедыцыя
па выратаванню помнікаў гісторыі і культуры Беларусі,
у раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа
Акадэміі навук Беларусі

# ГАВОРАЦЬ ЧАРНОБЫЛЬЦЫ
( з мясцовых гаворак чарнобыльскай зоны ў Беларусі)

Мінск, 1994

Падрыхтаваны ў аддзеле дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АНБ

Складальнік і навуковы рэдактар
А.А.Крывіцкі

А.А.Крывіцкі

# З ПАЕЗДАК ДА ЖЫХАРОЎ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЫ

Найцяжэйшай бядой навалілася на Рэспубліку Беларусь і яе насельніцтва аварыя на Чарнобыльскай АЭС. На значнай частцы краіны склалася надзвычайная этнасацыяльная сітуацыя. Гэта не толькі няабыўны псіхалагічны стрэс для жыхароў адпаведнай зоны радыяцыйнага забруджвання, рэальная небяспека для іх здароўя і жыцця, але і масавае арганізаванае перасяленне і стыхійнае перамяшчэнне іх з месца пражывання. У выніку ў некаторых месцах зоны адбылося поўнае разбурэнне традыцыйнай этнасацыяльнай структуры або яе істотнае збядненне. Узнікла таксама складаная праблема адаптацыі перасяленцаў у іншых этнасацыяльных умовах у новых месцах пражывання ў краіне.

Разам з разбурэннем этнасацыяльнай структуры або яе збядненнем адбылося і руйнаванне традыцыйных мясцовых гаворак, дыялектнага ландшафту ў зоне. Частка мясцовых гаворак у сувязі з поўным перасяленнем людзей зусім выпадае з традыцыйнай этнатэрытарыяльнай сістэмы, выносіцца ў іншыя месцы. У месцах жа стыхійнага адтоку мясцовага насельніцтва адбываецца згортванне структуры мясцовых гаворак, беззваротная страта мясцовай моўнай спадчыны і традыцый.

Ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Беларусі асабліва пацярпелі, як вядома, два рэгіёны. Гэта самыя паўднёвыя раёны Гомельскай вобласці на поўдні ад Мазыра і паўночныя раёны гэтай вобласці разам з раёнамі паўднёва-ўсходняй часткі Магілёўскай вобласці. Тут вызначаны тэрыторыі поўнага высялення людзей з зоны так званага радыяцыйнага кантролю, адкуль адбываецца частковы і стыхійны адток насельніцтва.

Дыялектная база мясцовага маўлення ў адзначаных рэгіёнах як у адносінах разнастайнасці традыцыйных гаворак, іх асноўных асаблівасцей, так і ў адносінах іх узаемнага размяшчэння вядомая ў дыялекталагічнай навуцы. Асабліва шырокія і разнастайныя звесткі пра мясцовыя гаворкі гэтых рэгіёнаў, як і ўсёй Беларусі, былі атрыманы ў выніку збірання матэрыялаў для ДАБМ[1].

---

[1] Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мн., 1963.

Паводле даследавання асаблівасцей мясцовых гаворак і іх групоўкі на аснове матэрыялаў ДАБМ [2] для рэгіёна, у які ўваходзіць поўнач Гомельшчыны і паўднёвы ўсход Магілёўшчыны, характэрны даволі блізкія па асаблівасцях гаворкі. Гэта пераважна гаворкі ўсходнемагілёўскай міжкаэрнай групы паўночна-ўсходняга дыялекта беларускай мовы. Праўда, частка гаворак заходняй акраіны гэтага рэгіёна ў межах Магілёўшчыны, што з'яўляюцца цвёрдаэрымі, — гэта гаворкі, якія адносяцца да другой, полацка-мінскай групы паўночна-ўсходняга дыялекта. Аднак паўднёвая акраіна дадзенага рэгіёна з'яўляецца адметнай па сваіх гаворках. Аснову дыялектнага ландшафту складаюць тут мясцовыя гаворкі сярэднебеларускай міждыялектнай групы з усімі характэрнымі для іх асаблівасцямі. Але вядомай і важнай адзнакай дыялектнага ландшафту гэтай часткі рэгіёна з'яўляюцца гаворкі рускіх перасяленцаў (стараавераў), якія знаходзяцца тут у досыць складаных узаемаадносінах з мясцовымі сярэднебеларускімі гаворкамі[3].

Дыялектны ландшафт рэгіёна поўдня Гомельшчыны складаюць у асноўным гаворкі слуцка-мазырскай групы паўднёва-заходняга дыялекта, у прыватнасці, так званыя ўсходнепалескія гаворкі. Але дыялектны ландшафт тут неаднастайны. Гэта ўсходняя ўскраіна ўсходнепалескай групы гаворак, дзе гэтыя гаворкі адрозніваюцца рознымі своеасаблівасцямі і нават досыць экзатычнымі па сваёй прыродзе[4].

Самая паўднёвая частка гаворак гэтага рэгіёна ў сувязі з поўным высяленнем адсюль мясцовага насельніцтва зараз поўнасцю разбурана (Камарынскі, Брагінскі і Нараўлянскі раёны).

Аднак адзначанае руйнаванне традыцыйнага дыялектнага ландшафту ў адзначаных рэгіёнах — значная страта ў галіне нацыянальнай моўнай спадчыны, а тым самым і для нашага мовазнаўства і славістыкі ўвогуле. Не выяўлены поўнасцю лексічныя багацці гаворак гэтых

---

[2] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1968, 1969.

[3] А.Ф.Манаенкава. Лексика русских говоров Белоруссии. Мн., 1973.

[4] А.А.Крывіцкі. Фанетычныя асаблівасці адной з гаворак поўдня Беларусі - Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР. Мн.,1959.

А.А.Крывіцкі, А.І.Падлужны. Практыкум па фанетыцы беларускай мовы. Мн., 1987 (тэксты).

рэгіёнаў, ёсць патрэба ў больш глыбокіх і дэталёвых даследаваннях іх фанетыкі і граматычнага ладу. Вядома, што як усходнемагілёўская мякказрая група гаворак, так і Усходнепалеская група, якія падпалі пад адзначанае руйнаванне, з'яўляюцца цэнтральнымі, найбольш старымі групамі гаворак у складзе аднаго і другога дыялекта, дзе захаваліся асаблівасці гэтых дыялектаў у найбольшай колькасці і ў адносна больш архаічным выглядзе. Акрамя гэтага, усходнепалескія гаворкі прыцягваюць да сябе асаблівую ўвагу і ў сувязі з меркаваннем аб прыпяцкім Палессі як прарадзіме славянства.

У гэтай кнізе змешчаны матэрыялы, сабраныя ў выніку экспедыцый, праведзеных аддзелам дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АНБ па даследаванню і фіксацыі асаблівасцей мовы і духоўнай культуры насельніцтва рэгіёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Збіранне, апрацоўка, падрыхтоўка і публікацыя дадзеных матэрыялаў ажыццяўлялася ў адпаведнасці з заключанымі дагаворамі з Дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспедыцыяй па выратаванню помнікаў гісторыі і культуры Беларусі у раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Публікуюцца выбраныя, апрацаваныя і падрыхтаваныя матэрыялы экспедыцый 1991 — 1993 гадоў.

Першы экспедыцыйны выезд навуковых супрацоўнікаў аддзела (М.П.Антропаў, М.А.Ісачанкава, Ф.Д.Клімчук, С.Г.Лобач, Т.М.Трухан, І.Я.Яшкін) быў зроблены ў сакавіку 1991 года ў Жлобінскі раён Гомельскай вобласці, дзе атрымалі новае месца жыхарства перасяленцы з палескай радыяцыйнай зоны. Вёскі з перасяленцамі і маршрут экспедыцыі быў вызначаны з дапамогай аддзела культуры раённага выканаўчага камітэта. На пачатковым этапе працы аддзел культуры аказаў таксама дапамогу транспартам для паездак з раённага цэнтра ў вызначаныя вёскі для азнаямлення з перасяленцамі і працы. Працавала экспедыцыйная група ў раёне два тыдні. Праводзілася збіранне матэрыялаў у вёсках Акцябр, Бабоўка, Кароткавічы і Проскурні, дзе атрымалі новае месца жыхарства перасяленцы з Хойніцкага (вв. Баршчоўка, Арэвічы, Дронькі і Малочкі), Нараўлянскага (в.Вуглы) і Брагінскага (вв. Слабада і Пучын) раёнаў Гомельскай вобласці. Паводле сабраных матэрыялаў падрыхтавана падборка ўзораў дыялектнага маўлення перасяленцаў і невялікая падборка лексікі. Сабраны таксама матэрыялы па апытальніку для складання атласа народнай духоўнай культуры Беларусі.

У 1992 г. арганізаваны і праведзены два экспедыцыйныя выезды. У ліпені месяцы была зроблена экспедыцыйная паездка у Мазырскі раён Гомельскай вобласці, які уваходзіць у зону радыяцыйнага кантролю. Адна група удзельнікау гэтай экспедыцыі (Ф.Д.Клімчук, А.А.Кравіцкі, С.Г.Лобач, Т.М.Трухан) працавала у в.Жыхавічы. Вынікам апрацоукі сабраных імі матэрыялау з'яуляецца падрыхтаваны артыкул аб асаблівасцях гаворкі жыхароу вёскі з падборкамі лексікі і тэкстамі мясцовага дыялектнага маулення, якія апрацаваны пераважна на аснове магнітафонных запісау. Другая экспедыцыйная група працавала у в.Махнавічы (М.П.Антропау, М.А.Ісачанкава, В.В.Казначэеу). Тут праводзілася пераважна збіранне матэрыялау па традыцыйнай мясцовай духоунай культуры. Зроблена таксама паездка у в.Шаламы Слаугарадскага раёна Магілёускай вобласці (І.Я.Яшкін). Тут былі праведзены запісы мясцовага маулення, падборка узорау якога падрыхтавана таксама.

У лістападзе месяцы была праведзена экспедыцыя у Буда-Кашалёускі раён Гомельскай вобласці (М.П.Антропау, В.В.Казначэеу, Ф.Д. Клімчук, С.Г.Лобач, Т.М.Трухан, І.Я.Яшкін). Даследавалася мясцовае дыялектнае мауленне і традыцыйная мясцовая духоуная культура у раёне, які уваходзіць у зону радыяцыйнага кантролю. Праводзілася праца у вв. Буда-Люшава, Губічы, Дуравічы, Іванаука, Крыуск, Мікалаеука, Нягаука, Недайка, Прыбар, Старая Буда, Уза, Чырвоны Гарадок, Шарибаука і Широкія. Маршруты паездак па раёне вызначаліся з дапамогай аддзела культуры раённага выканаучага камітэта (Усціменка Г.Ф.). Для паездак быу выдзелены аутатранспарт. Супрацоунікі аддзела культуры А.М.Нікоенка і І.В.Гардзіенка пастаянна суправаджалі экспедыцыйную групу у паездках і аказвалі вялікую дапамогу у арганізацыі яе працы у вёсках і у вырашэнні пытанняу побыту у іх. Шмат увагі аддавалі экспедыцыйнай групе для забеспячэння яе паспяховай працы працаунікі сферы культуры у вёсках (вясковых клубау, бібліятэк). Знаходзілася група у раёне 10 дзён. У кнізе змешчана падборка тэкстау, выбраных з запісау мясцовага маулення у некаторых адзначаных вёсках, а таксама невялікая падборка лексікі гаворак.

У 1993 г. у лістападзе месяцы зроблены экспедыцыйны выезд у Чачэрскі раён Гомельскай вобласці (В.В.Казначэеу, В.М.Курцова). Даследавалася дыялектнае мясцовае мауленне у в. Залессе, цэнтральнай сядзібе калгаса, а таксама праводзілася збіранне звестак па мясцовай традыцыйнай духоунай культуры. Аб мясцовым дыялектным

маўленні падрыхтаваны досыць грунтоўны нарыс з дадаткам узораў маўлення (тэкстаў). Моўная сітуацыя ў гэтай вёсцы і ў іншых вёсках, якія ўваходзяць у склад калгаса, з'яўляецца прад этам дэталёвага вывучэння ўдзельніка гэтай экспедыцыйнай паездкі В.М.Курцовай.

Асноўная ўвага ўдзельнікаў праведзеных экспедыцыйных паездак пры даследаванні гаворак накіроўвалася на запісы звязных тэкставых узораў мясцовага дыялектнага маўлення і на выяўленне характэрнай для гаворак лексікі. Абумоўлена гэта тым, што падобныя матэрыялы з'яўляюцца якраз неабходным і каштоўным дадаткам да вядомых ужо навуковых звестак пра адпаведныя гаворкі і адначасова асновай для больш дэталёвага даследавання іх асаблівасцей (тэксты).

Матэрыялы кнігі па іх зместу згрупаваны ў два раздзелы. Раздзел "Дыялектныя матэрыялы" складаюць апрацоўкі дыялектных тэкстаў і падборкі лексікі гаворак. У раздзеле "Этналінгвістыка" дадзены артыкулы аб розных з'явах і асаблівасцях мясцовай традыцыйнай духоўнай культуры. Сабраныя звесткі па духоўнай культуры прызначаны таксама для выкарыстання пры стварэнні этналінгвістычнага атласа Беларусі і ў спецыяльных манаграфічных даследаваннях.

Звесткі, сабраныя ў адзначаных экспедыцыйных паездках, былі выкарыстаны ў паведамленнях М.П.Антропава "Беларускі этналінгвістычны атлас у палескім люстры" і І.Я.Яшкіна "Антрапалагічная сістэма сярэдняга Пасожжа". З гэтымі паведамленнямі яны выступалі ў кастрычніку 1992 г. на канферэнцыі ў Мазыры і Гомелі.[5]

---

5 Праблемы народнай адукацыі, навукі, культуры Беларускага Палесся (Тэзісы дакладаў і паведамленняў). 27—28 кастрычніка. ч.І, П. Мазыр, 1992; Навукова-практычная канферэнцыя "Сучасны стан і праблемы выяўлення, выратавання і аховы гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі ў раёнах, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС". Гомель, 1993.

Ф.Д.Клімчук, С.Г.Лобач, Т.М.Трухан

# З ГАВОРАК БЫЛЫХ ЖЫХАРОЎ ХОЙНІЦКАГА, НАРАЎЛЯНСКАГА І БРАГІНСКАГА РАЁНАЎ

## Хойніцкі раён

### В.Барышчоўка /ДАБМ № 1010/

У чэцвер ноччу сорвала /дах рэактара/. Мы от станцыі дванаццаць кілометраў. Попрыбегалі уноччы нам сообшчылі. Трэццего мая нас акуіровалі. Прылеціць самолёт, землі наберэ і леціць. У красну суботу -- напрэціў паскі: получай грошы, будуць акуіроваць. "Бабу, не падайце ў паніку, на тры дні будуць куіроваць". Колонамі машыны. Скот, свіння забіралі. До Хвойнік везлі і по дзерэўнях. У два часы карусы прыехалі, тры скорых помашчы. Развезлі по хатах. У Бабчын -- скот, нас у школу. Не пускалі ў колодзеж, радзіяцыя, вугонялі з колодзежу /ваду не давалі браць/. Месеца тры булі. Прыехаў з Хлобінского праццядацель, розвелі по хатах. Чотэры годы у Москвє у дочкі, усе ждала, дадому шчо пусцяць. З зоны забрана посцілкі, єадзілі з Бабчына туда, стула усе пропалі. А я гола, як біч. Я забрала кухвайку. У меня у Москве отобралі. Паску, еечка, оала ўзела -- і поєхала ў Москву. У Москве сталі проверацъ -- восемсот мілірэнтген була, у друге места завезлі, праверылі, покупалі, одзежу содрелі, далі плацце шэрсцянэ, граферованэ, платка́. Кроў узялі, ездзяй бабо, куда надо. А я ім: "Мо бу оказалі, дзе така аотенаўляецца" /пра дачку/. І поўєз шофёр мяне до зяця. Жыла там. Бабу собе́руцца там на вуліцу -- шапу-шапу -- і пойдуць на проходку. А я нє. Потом упала, розбіла голову. Да ў Москвє воздуху стало не хватаць. Я і прыєхала ў Хлобінюк. Жыву ў сестры. Облатала, обшыла, усе подзелала. Свінню ўбіць нада, нема балона, нема чым смаліць. Заб'ём кабана, поєду у госці у Москву, на Сірэневы бульвар, окучыла за праўнучкамі. От так і жыво́м.

Думаеце, надоўго радзіяцыя? Я думаю — надоўго. Вўведзеце ее са своей стороны, а ена на мою пералезе. А не боящца людзі. Поехалі до себе ў зону. У домі вугалле, коструля ў пєчы стоіць. Хтосьці печ паліў. У шкафі одзежы — нічаво. Забралі. Походзяць екія цюрэмшчыкі, да і так якіе. І есці знойдуць — закатак екіх, горэлкі. Як убачыла — пагано зробілося. А усе там ведзецца шчэ: і кабаны, і свіння, і зезюля куе, і сарокі. І козы бегаюць.

А ці будзе што далей весціся — ніхто не знае.

---

Ездзілі мы одсюль, з Акцябра, у дзерэўню свою, Боршчоўку на дзевятого мая. У селе, у зоні, поставілі посерод села стол. Як на кладбішча ходзілі, обедалі. Бабка Марына Колас і ее дочка́ настаўлялі на стол. Што там бутылок було! Карэспандэнт з Гомля — да мене: "Плач, баба! Фотка ў музеі, у Гомлі, будзе". А шчо плакаць? Куды ні зірні — нашы людзі. Адусюль з'ехаліся. Ат, думаю. Адным вокам плачу, другое заслоніла хусцінкою. Так і выйшла. Зірні, яка шкрага ..! Потом поплакала. Одсюль, дзе му абедалі, моей хаты крыша відно. Шоўковіцы, абрыкосы рослі пуд хатой, акацыя, сірэнь, сліву. У шоўковіцы ягоды чорные-чорные, укусные. Горэлка укусная з ее.

Хазеіны́ му булі, коровы, свіння дзержалі. А цепер у мене хата-лата. Хіба што аслобоняць дом екі.

---

Радзіяцыя ху́жэй войны. Толькі розбагацеліся, наковесіўся Чэрнобуль. Як нас зусім не пазатра́ўлівало? Тоды, у войну, попалілі, а цепер жыўем згорэло. Я ў войну машыну закопала і полотна назако́пала, усе і поостовалося. От села буў попел. Луччэй построілася, як було. З Прыпеці лесу нацегала, подоўжной пілой дзерэво рэзалі, разжыліся. У нас там і рыба, і усе шчо, шчо. Крыгамі ловілі рыбу, утрох. Дзед — і два полазы расапнуць. Пойдам сена грэбці, панаварваем рыбы... Дом мой у зоні на чатыры комнаці зостаўся. Лацце поставалося, пуўкідалі шкафе, усе-усе. Лежыць жакетка чорна з каракулевум воротніком. Я за жакетку, узела на руку, а потом: начорта ена мне! Поклала на дзіван. Узела пудзорнік, сама ўшыва́ла, кружэвы везала. Сцірала разоў п'яць тут. Голубую обшінку і чисто кашміровую хустку побрала. Шчо й поостовалось. А зака́ток стольккі було, калінь! Такее добро кінулі!

Як ёздзілі цезр — позаростало, бур'ян по городчыках, бур'ян по клубніцах. Боком заборы попадалі. Дзверы ў шкафах, у домі павурывалі, домоўку, відно, робіць ці шчо. За п'яць кілометроў од нас, од Прыпеці до Брагіна ў петнаццаць радоў проволока.

---

Як прыехалі паліць немцы, девоцы було пяць лет. Немец прышоў у хату, вынёў два дробочкі сахару — і девоцы. Я де его: "Пан, будзеце паліць?" Покруціў головой. "Вуйдзеш на вуліцу, як чорные ракеты — людзей убіваюць, як красные — село спаляць, людзей вувезуць". От так. Платкі я забрала, хромовуе чоботы на высокіх каблуках. Дзевачку узела. Думаю - пойдом до рэкі ў Комароўкі. А там немцоў, як плытоў плавае. Коб не ўгледзелі — у корчы. Перва лодка прыходзіць — і ускакваюць з лодкі немцы. А парцізаны на той бок. У другой лодцы буў одзін немец, у мене дзесець еец браў. Угледзеў мене — стаў гергетаць: паліць і біць людзей будуць. Му побрылі по шыю ў водзе, у лозу зайшлі. Уночы прышлі ва ўрочышчэ Пухово. Худоба рэве. Пераночэвалі на лузі у лазе. У друге место перэйшлі. Дзеці шчавель едаяць. А Ганны Слепенькой брат: "Пойдом у село, што возьмем: ці горшка, ці голушкі". Прышлі у свае село — труп лежыць коло хлева. А хто такій? А ў траве пудджак дзедаў. Дзед мой — бацько мого бацька, такі буў, што ў зубах хоч бы одна дзірка. А тут — нутранасць відно. Дале лежыць баба позгарана, кульшы цалые булі. Дзядзько Паўло заступа знайшоў, посцілку ў яму, сёго-таго назгрэбалі. І дзеда туды. А баба! Ад ее тольки дробненькія косточкі зосталіся. Нагледзелася, нацерпелася у войну ету. І косы мое посівелі.

---

Му ў курэне седзелі. У лесі слобоцно, не так страшно. Будку з снопоў. З намі буў одзін на воко слепу. Гоніў немцаў скот, да удраў. Пошлі му, да ожыннік. На ім свіна свое роботы. Попоўзлі — світа на клоччэ! Як немцы страляюць — му поўзём. Того чоловека немцы схвацілі, казнілі, езыка вырэзалі, вочы повуколупліваді. Назаўтра —красные прышлі. У село му — попел. Дай жэ палкі не було, жылі ў землянках, покуль хаты поставлелі. Подымусь боса, ускочу, чорные ногі /ад вогай/. Пабежу ў бульняк, повыбіваю, а ены ізноў. Сморкачыкі зробім, кноціка, бляшку, і свецілі. Собою эралі. Горэлые пугі булі. Одну корзіну, што ў войну закопала,

шчо не шукалі! Земля не рушане, а корзіну не нашлі. Станок згорэў, а машына швейная не згорâла. Я ўсе ў кубел, соломой обложыла, закопала -- і кубел цâлы і там шчо.

Нагорэваліся. Цепер завезлі мене сюдн /у Жлобінскі р-н/, як на Брынцьком лêсі, посадзілі. Я ўжэ збувач. Як кварціра ослобоняецца -- роботніку даюць.

---

Я колісь ў дзеўках у дзвê косê заплетувалася -- і почти по плечы. Красіла шчокі, пейсы гвоздôм круціла. Хто боцінкі надзене, хто чоботы хромовуе, а хто ў постóлях -- і танцуюць падыспан, крукоўяка, коробушку, кадрэлю. А я любіла танцоваць польку і вáльса. У постóлях танцовала. Раз обора оборвалася -- і загубіла постола. Думала -- вêк мнê угомону не будзе. А цепер, зірні, ека шкрага я!

---

Буў у нас Грыгорый Алексеевіч -- вечны грамоцей. Што кому росчытаць -- да его. Ліст напісаць -- ён. Розумны, грамотны чоловêк. І хазяін добрэнны! Хомут, седзелка, у оглоблі коня, дугу поехаў. І корову у его добрэнные, і свіння не благіе. А сослалі его туда, дзе собакамі êздзілі. До войны сослалі. Там і погіб. Я була ў Гомлі на свадзьбі тры днê, а мо чатэры у его родні. У цветы посцілкі -- свінірчык такі завезла. Успомнілі про Грыгорыя. Мало такіх людзей було. Важко робіў і ўсё вêдаў. Не злюбілі такіх людзей і со свêту позжывалі.

Запісала С.Г.Лобач у в. Акцябр ад
Кернажыцкай Марыі Андрэеўны, 80 гóд

Лобода, мокрэц у болоце росце. На лузе цегаюць рêзьнік, плавае ў возеры, возамі возілі. Зверобой од дзевенесто болезьней, пустырнік -- от сэрца, як не опіцца. Серпорêзнік як рýку порêжеш. Ромонок од волос, змуваецца, волосы ўкрэпляюцца. Жыжка печэ. Костолом, як косці не зростаюцца. Од заднюкі ў болоце плюшнік, пахне гарно. Як рвеш -- гразь, обмочышся. Медуніца ето -- у нас росце. Курына слепота жоўта. По гóлому натры -- пузыр і схваціцца. Цмін у хлêб кідаюць, пахне. Дросен буў, горчак, бугало, цвіце волохатым цвêтом. Чорноголóвец по лýзі, зразу шышкі чорные. У сітнеку навêрсе шышкі. Конопелькі е: дрыжаць. Чобрик росце по полю ад

жолудка, по мешку рвала. У нас одзін хворы на жолудок поміраў, замест чаю піў чобрык — і зробіўся, як кабан. Па пешчанай землі мацерынка росце. У мене у дворэ валóм м'яты. М'ята, трох сортоў: кругла м'ята, ледавá м'ята, холóдна м'ята. Кругла м'ята — круглы лісточок, пахне. Ледова м'ята — ушчыкніце ліста на езык, як м'ятные каплі, с корэня сіненька, лісток як бы сіноваценькі. Холодна м'ята — нáчэ пахне, волохаценькіе лісточкі. Воўчкі ад кашлю парацъ. І дзівосіл ў городзі. Там у городах півоня — цветы шышкамі, як цветы од голоўных болей настойваюць. Од усякіх болезней спотрэбляюць травы. І людзі лечуцца, і зверы, і птушкі.

---

Лечэбнік абъевіўся. Кажуць, ай як лечыць. Людзей прыêхала цёмна хмара. І мене завезлí, як на Брыныцьком лесі посадзілі. Хто с чым. Дзве бабу неўмелі коўтаць его зелле ды подавіліся.

---

Прамо такіе людзі булі: обойдуць вокол огню — усе тому огню. Обойдуць — огонь угору. Есьцека така молітва. Дзядзька такі буў. У сенніку /хлеў/ сêно загорэлось. Ён тры разы з іконой обойшоў — огонь угору.

---

Бувалі на лузе дубý, шчо грôм розбіваў. Бралі од зубóў. Кажуць, нельзя на дрова. Як годное дзерэво — на дом беруць. Як ударыць чоловêка гром — у землю закопаюць, і отходзіць.

---

Вуясніло, мороз. Сáву — заўтра, дзеветнаццатого — Мікола.

Голоўня ў просе чорная. Рожкі ў жыці невелічкіе. Як молоцяць, вулятае. Молоцяць, веюць, путсеваюць на рэшота.

Жóрнаву як вýглядзелі? Набівáюць з чугуна, чуруецца одно з одно /камяні/, і мука получаецца.

Ціху, о розетка. Уключайце шчо там у розетку. А шчо гэто за чорт говорыць? Гэто ж я таке говорыла?! Можэ я, як ся навуворот сказала?

На русалным тыжні перасушваюць одзежу: платкі, посцілкі. Шчо і прыробляюць. На дзерэві могуць закруціць.

Як не було дошчу́, гладышкі кідалі ў колодзезь. Восьмох бралі бороны, запрэгаліcь на чэтырох і цег..лі по канаве. Дошч по̂йдзе, я не брэшу́. Колісн бацюшко і людзі ідуць на поле, ідуць, молюцца, обходзяць поле — і молюцца. І дошч по̂йдзе.

Малая я пасла овечкі, як шчэ калхозоў не було. Одзін подражняў дзѐвок. Нашоў кучку муравейніка, палочку ўзяў. "Ці бачылі мураўіну матку? Роты поразеўляйце і дыхайце!" Як пукнуў ён лопаточкой — пообсыпаў, і ў мой рот мураўі залецелі!

Колісь на Благовешчэнне і пальца не кіне ў землю. Нічого не робілі.

Як гроза — вукідалі лопаты хлѐбные. Як град — самэ лопату кідалі, коб перэстаў.

Запісала С.Г.Добач у в. Акцябр ад розных асоб з в. Баршчоўка.

В. Арэвічы /бліжэйшыя ДАБМ № 1006
в. Дронькі, № 1010, в. Баршчоўка/

На Радоўніцы поѐхала до себе /у в. Арэвічы/. Вуцегнута швейная машына, розобрата, поломана, радзіёду зломано. ікону. Розрэ̂зано матрас у кроваці. Шукалі усе, а што? Грошай! Прыпець і озера ад нас і кілометры нема. Як розліва весною — вода ў село, і хаты потопіць. Лѐс блізко, нема кілометры, ягод, грыбо̂ў: зелёнак, маслюко̂ў, хоць косу закладай.

---

Одна, як палец тут. А не схоцела доміка браць. Хлѐў не крыты, картопліну некуды вусыпаць. Я перэхо́дзіла на пенсію, ніхто не вѐрыў, така я була. А дочка пошла за трэцяго. Доступна була,/в/уступала, опевала, танцовала. Трэці /мужык/ яе і ўладзіў /забіў/. І мнѐ обухом даў, теменну косць перэламаў. І сам завѐсіўся. Я цяпер аніяка. І нерву ў мене, звігнула нерву. Скажы насточ — мене ўсю колоціць. Не забрало розуму, хоць мозговая оболочка затронута. А мнѐ ж зноду не было.

Лантуш /ландыш/ от серца, як серцэ колоціцца. Дзе вода аплавіста, там лотаць жоўта. Од зубоў, у спірт — і до зуба. На берэгу лотаць е. Натры ногу, нарыў узпуецца. Мацерынка — серцэ ўбівае. Зверобой — крэўка — жоўценькім цвіте. Як не пускае мочы — хвошч мочэгонны. Кроп мочэгонны. Ціхе лето /кветка/ — от моляры, жоўценьке, нізеньке, бу налітэ. Ліпу здаюць, бессмертнікі здаюць на аптеку. Хмель у задзелку кладуць, у лозе уецца, хмел'я знаюць. Чорноголоў от горла. Чобор по лугах кало лесоў. М'ята суконна і рогова /оліскушчая/, як суконна — холодзіць, рогова — с цветком сінім. Ромашку рвуць, ноготкі лекарственные е, усерэдзіне, як вергонь.

Запісала С.Г.Лобач у в. Кароткавічы
ад Прыходзькі Вольгі Маркаўны, 82 г.

Я ўсе плачом одбывала. Сварў штоб ні було, я сыходзіла с хаты. Кажного шкодую я. Дзецей не мела. Кепско нікому не зроблю, перэжываю за чоловека. На кожного сочуствую, перэжываю. Абы здороўе було, то ўсего хватае. Запасу зробіла на весь год.

Перэтомілася, у голове даўленне жахнуло, пекло. Як лінулася кроў — еле сунелі. Крыву богата сышло. Ужо дваццать год уколы гахаюць.

Гладышэчкамі цвіце медуніца. Жоўтым цветум цвіце лотаць у водзе і на берэгу цвіце. І дзе вода оплавіста, там лотаць росце. Волошкі ў жыці раслі, лекароцвенные. Козылікі ў жыці рослі. Зверобой жоўценькім цвіце. Хвошч мочогонны, кроп мочогонны. Ціхе лето цветком жоўценькім цвіце, нізеньке. Лебеду здаюць на аптеку, рвуць. Хмель кладуць у задзелку, шо крэпка горэлка. Горчак усыпаецца, на горчаку беруць мед пчолы. Чобор рос по лугах, по долінках, кіешок такі выходзіў з его. Ромонок рвуць да купаюць дзецей. Мята сукона і мята рогова цвіце цветком сінім. Ноготкі цвітуць, у сярэдзіне чорненьке.

Учора была Мікола — празнік большой. Голову празнік Ільля. Ворвэры ночы ўворвалі. Прыдзе Ільля, чоловек як свіньня.

Запісала Т.М.Трухан у в. Кароткавічы ад Прыходзькі Алены Маркаўны, 76 г.

Жалі серпамі. Картоплю копалі копаніцамі. Блошчыцы булі, стоногі. Оспанка була, кор. На лёгкіе болелі. На печэні камні, ча почках. Жоўтуха була, хіньдзя — вугналі. І подушча болезь була, цыганкі лечылі. Подзюшчу болезь і бабкі лечаць. Каб у мене не слепота, я крэпка була. Я больна суўсім. Сільно горэ было веліке. Як облягу, то облягу, усе заклякне ў мене. Зяць обухом даў у голоў, а сам завесіўся. І трэба мнё очунець, чому не ўмерці? Доўжэнно ў больніцы лежала, очы покраснелі, була аніяка. Я думала — мне зносу не будзе...

Запісала Т.М.Трухан у в. Кароткавічы ад Прыходзькі Вольгі Маркаўны, 82 г.

Не ўсей народ однакоў. Голубко, негодзяі зломалі цэркоў. Бацюшко служыць не Суоу, а хлеба кусу.

На куцью солому стаўлялі. Як покойнік умірае — брызгаеш колоскамі.

---

Хрэсцік на шыі ношу, іконочку з занізкамі /намісты/. Голкаю нанізую, бо недобачу. Пятніца оёння, не ём скорому.

На молодзіку нельзя беліць печ — багато будзе пужы усякой.

Біло у кровиці. Сопуха ў печы. Печ здорова. Ле печы вілочнікі. Над печчу — вешэлка. У той каструльцы буйстро закіпуе. Чым маём, тым прымаём.

Рада б душа ў рай — да грэхі не пускаюць.

Ідзі, возьмі глёчык, попі, як утоміўся. У Параскі поўны кадоўб воды.

Горбузы называюцца, оны солодкіе. Пеклі горбузы. Доўгунцы — горбузы кургузоватые. Шчадрыкам давала, коб гарбузы родзілі.

Мне тут высокія ганкі, ступанкі. Мне нада, каб я лі кого жыла. Не хочу пры государству. Божэ спасі!

Такая жытка була — не маліна. Жыто жалі серпамі, кортоплю копаніцэю обробляі.

О, ето рай, хто добрэ жыве, свой куточок мае. Свой кусцік — наноч пусціць.

Запісала С.Г.Лобач у в. Кароткавічы ад розных асоб з в. Арэвічы.

В. Дронькі /ДАБМ № 1006/

Зроола я ў Дроньках. Я мешанка, не украінка. Сваха на Украіні. У нас усе круглолІцые, поўненькіе, гладенькіе. Я без маткі жыла, цешыла чужые дзеці.

Сюды вуселілі. Дваццаць пяць кілометраў ад нас була станцыя. У нас усе росло, шчэ й на боку давалі землю. Сады — сліву, грушыдзічкі, лес ніпходзімы, ягоды, грыбу.

На Паску станцыю сорвала. Сказалі нам: не берыце нічого. Павезлі нас /у Судкі?/. Там жылі ў зданьі, дзе студэнты прыезджалі на роботу. По петнаццаць чоловек жылі, краваці пассоўвалі, столова була, корміли. Радзіяцыі понабіраліся. Так і пудхваціліс ходу. Ужэ ж мне дадзено не жыць на одном месці. Прыеду, у одное пожыву, у другое. Што е — то і твое.

Му там, у Дроньках, сорок год жылі. Дзеток у мене нема.

Мой чоловек попогорэваў. Ен, бедненькі, у плен попаў, заболеў ціхом, да не ўмер. На вочко мало бачыў. А трактар водзіў. Можэ, тысячу гактар болотоў, куп'е ораў. Як хатку дабулі — хлеба нема. А потом розжылісл. Стоўпак дроў, усе було. Нема, донечко, ўмер дзесяты год.

Забралі пасле аварыі і прывезлі сюды. Тут нас чотэры сем'і. У два тажцы далі кватэру. Подавалі — і не канчаюць. У етым акне сцекляць.

Мало сіротою, а ў старосці — удовою.

Запісала С.Г.Лобач у в. Бабоўка
ад Марчанка Вольгі Піліпаўны,
79 г.

Россыпаліся нашы Дронькі по городох. У Дроньках сільные болоты булі, пшэніца не вельмі росла, ав'ёс рос, жыто, капусты. понапахвалі. Там буў мой дом. Дваццаць два годы з чоловеком прожыла там. І на вечэру, на снеданне, на абед без ее /гарэлкі/ ен не буваў. Вуп'е чарку, одненько еечко з'есць — і на роботу. Нікolі не ўларыць. Дзесець год, як у земельцы лежыць. На Радоўніцу ежджу. Ногі болящь. Ідзеш — у голоўцы зажыгало. Далленне, але усе адно еду. Як успомню его — русяву, гарны такі буў. Одненька я тут. Збор-дружына тут людзей. Эге, чужнікі.

Запісала С.Г.Лобач у в. Бабоўка ад
Шырчанка Марыі Апанасаўны, 79 г.

Екі перву дзень Поста — такое будзе лёто, прымхі такіе. На Серэдопосце — крэсцікі пеклі, як ідуць засеваць, беруць іх на поле. Волом, мабуць, оддавалі. Учынялі хлеб, здымалі з дзежы вершка — і крэсцікі пеклі.

---

Сорокі — веліке свято. У скакалкі гулялі, бабу помпушкі пеклі. Молоды.. дзёўкам сорок дошчок зламаць нада.

---

Івана Купайло — гонь клалі, перэскаквалі, русалку перэводзілі. "Проведу русалку до межы. А сама вернуся до дзежы". Хлопцы, дзеўкі прыгаюць, на одну дзёўку-русалку венок надзеваюць.

Русальны тыдждэнь лётом, на Тройцу, троечны тыдждэнь. Як русалку проводзяць, я з краю. "Проведу я русалочку ў чысты бор, а сама вернуся ў таткін двор". Бачилі, гусьмі лецелі русалкі. Нада еду настаўляць, ночоваць.

Бёлая недзеля — муюць полоценца, вешаюць хвіранкі.

Попероd жа дзеды ў п'ятніцу. Міхайловуе святы опраўлялі перэд Тройцай. На Юр'е, як е роса, сей просо. Мікола одна — холодна, друга Мікола — голодна.

Поперод Благовешчанне, потом Паска. Грэх печ топіць. Пушок /пышак/ напекуць, маку намнуць. Ні плота не кутаюць, ні столба закапаюць — лётом дождж не будзе. На Благовешчанне не чапалі землі.

---

Хто светкуе Аўдокі /Яўдокі/ — голые бокі. А на Аўдоку пралі. Петнаццатого феўраля — во ж я здумаю. Стрэчанне — у цэркоў ходзілі. Стрэчана свечка. як умрэ чоловек, давалі ў рукі. У хлеў ідуць, як корову прогонялі — стрэчану свечку, як запасвалі карову. На Лексея гналі /30 сакавіка/. Празнували Лексея. Божы чалавек, ён, донечко. Родзіўся, ожэніўся, пошоў по свету, покуль сільным страднічком стаў. Бацько глянуў на его, не пусціў ночоваць. Саўсім ён буў слабі.

Колядкі — сядкі, паеў — да спаткі. Ходзілі, спевалі, пу-под вокнамі Колядкі. Давалі грошы, горэлку. Тады — вечор, прыгласілі музыку — гуляем. Дзе носілі звезду, а ў нас — коза.

На Юр'я спевалі: "Не стой, Юр'я, под водой — гôрка вода под тобой". Голос далеко ішоў. У лêс ходзілі, копалі зелле — зезюлькі. Острэнькіе ў алешніку. Клалі ніткі, замукалі замком, коо кароўка домоў ішла. Позабывалі празнікі.

---

Займанку пастуху давалі на Паску — хлеба, сала, м'ясо, еечка. Абêдалі, снêдалі. Моê хлопцы худобу паслі. На Паску крэсты робілі, перад Паскаю — чисты чэцвер. У чысты чэцвер хаты обметаюць, посцель перэсушвалі. У нас у канаві плаціце пралі. До чыстого чэцверга побêлём, помуём. Адна у чысты чэцвер комін обметала — згорêла хата.

---

На Паску напеклі пасок, еец накрасілі. Лупайкі курам давалі, коб у курэй крэпкіе яйка булі. Коб у блуд не ішлі — насыпаць у /о/бручы просо, ечмень.

Ліпу, клён, ясень, берозу закопвалі под вокнамі /на Тройцу/. Маткі, бацькі нашы ўсе зналі.

---

Бêлая недзеля — мыюць полоценца, вешаюць хвіранкі.

Запісала С.Г.Лобач у в. Бабоўка ад розных асоб з в. Дронькі.

Учоро була племенніца, ее чоловек на ўсылцы умер, сестра умерла на ўсылцы, усе умерлі. С сылкі племенніца пêшкі прышла, можэ, дзê і êхала. Нема у еê, апроч мене, нікого крэўного, родного. Нічо не кумекала доўго, тавар пасла ў лêсе.

У ссылцы, у Котласе, куганялі на работу. І свекры, зовіцы там булі. Свêкра білі. "Як ены мене будуць цегці, скажы, што я — нêму". Свêкор паробкоў не дзержаў, сваімі сіламі зêмлю обрабляли. А усероўна у ссылку его. Там ложкою муку дзелілі. У Котласе вўшыя /на нарах/ мочылісе на ніжніх. Перэжыў там дзень — і слава Богу. Добівайцеся цепер, хто нужыў, будуць оплачваць!

---

Дзе она вас запала? Хадзеце, будом пушкі есці. Со сметаной. Снедайце. Зупейце. Бабі на слёзы не зоставуляйце. Галько, ідзі до нас, у мене гулянікі дома. Свого не беры чоловека, моцно п'е горэлку твой раздурак. Што баба мае, тым і прымае. Піце з пушкамі. Гарачого німа. Пережыў дзень — слава Богу.

---

Вушывання было, усе пропало. І рушнікоў, і простынёў. Усе пропала.

---

Беднасць була. З ціфу умерлі дзеці — чатэры. І бацькі умерлі. Як не смерць — я вырасла. І голодом, і холодом, і боса. І брат сірота, я — сама менша. У лесі полянка була, хата — нас побралі, брат худобу пас, я — свіння. Худоба бугая побіла. Брат додому не йдзе. Дочуліся, побеглі его шукаць. Седзіць-ле гоньчыку /агеньчыку/.

В. Малочкі /бліжэйшы ДАЭМ № 1010 в. Барычоўка/
Чарнобыль

Кажуць, зорваўся блок чэрнобульской станцыі у Прыпеці. Вуйшла на двор — дыхаць запірае, так у рот лезе. Кажуць, свіню ведзеце, корову здавайце. Сядзеце ў хаці. Я свінню здала, корову. За худобою, за свіннямі колона ідзе машын.

У Веліком Бору была. Нас там годовалі. У сталову валі. Молодзіца, у екой жыла, ключа кідала мне. Зобралась, поехала на Хвойнікі. У молодзіцы жыла з нашого села. Там і небога наша. Усе каелася, што ўсего не дозабірала. Новэ брала, старэ кідала. Дзіван за сто шэйсят рублей купіла, кінула. Залетась ездзіла. Паеду, поочу. Сестра там лежыць, бацько, небожа. Бронхі больные сталі, дыхание було нікке, корэнь із шчаўя коньского ў гарелку, попіла зіму, як дзелося дзе. Урачы сказалі — бронхі больные, зелле давалі, не п'ю. Горке зелле з конского шчаўя, богато не трэба, по однэй ложэцны. А я тое корэнне піла. Его ж п'юць усе. Мне лехчэ і лехчэ. І кашэль сунімаецца. А то як устану с краваці, пака одзенусь, не сунімаецца кашэль.

Запісала С.Г.Лобач у в. Акцябр ад
Кавидзенка Ганны Паўлаўны, 75 г.

Нараўлянскі раён
В. Вуглы /бліжэйшыя ДАБМ № 1009
в. Нічыпараўка і № 1012 в. Акопы/

Лён сушылі на печы, терлі ў терніцы на терт..у. Грэбень буў і грэб'ёнка. Самі робілі мучкі, почэшэм тонюсенько. Койстрыца, койстра падала. На грэбенях пралі на верэцено. Пралі на вечорках. Одна ўшывае, другá плете корунку, дзе коноплі, то мýчкі робілі. Хлопцы ходзілі да дéвок. Лучыну кололі да коміна робілі. Кросна ставілі: статівý, дзве навóйкі, што наматваюць ніткі і полотно. Палка ў адной навóйды і ў другóй, штоб ні крутіліся. Сукайло було, чоўнік. У чоўніку пруток, а на пруток цёлочку надеваюць. Поножы, як ногамі перэстаўляе. Одворотка, як неўгадаеш пры тканні помылку зробіш. Ніты, покотелкі, штоб ніты ходілі, бердо. Так і ткалі.

---

На хвоі колода стояла, на высочэнной хвоі. Вероўка, по ек.. лазілі на колоду, то лытня. Робіць пéтля, ногу заложэе і лезе на колоду. Дзé пчолам летаті, то око. Пчолы ў лéс. на п'яць кіламетроў летять. Летáють, самі собе садяцца на гречышку, на лю..ін. Ліпа цьвіте, то пчол поўно, на конюшыну садяцца. Темны мед на верасе.

---

Жóрвана зробілі самі. Тегалі ўдвох. Лечая ў жорнах, по жмен..цы сыпалі пшэніцу, ечмень. Унóчы крутілі жорнава.

Запісала Т.М.Трухан у в. Проскурні ад Хвешчанкі Марыі Андрэеўны, 83 г.

Маці постолы плела. Пожэне товар, п'ять пар сплете. Ходілі у посто..ех. Оборок наўе. Портного вутчэ, сумку сшые. Спіцы булі потплетать, де ворочать -- вушы,потплетанка. Надерэ луття -- і до лаўкі, продасть. Самá пêч зробіла. Прывела мурніка, а дым не йдзе. І грубу робіть. І стёбачку зробіла, большу хату. Ошчу .атурылі хату. Êздилі по дрова на корові. Десеть гôд на корові езділі. Десеть год хозяйковала, êзділа по дрова. Горэ наўчыць калачоў есці.

---

Одна я тут ў брыгадї, одна з перэселенцаў. Пошла на херму. П'яць сараеў адкїдай гною. Затыхаюся, упаду на гнôй. День вумахаюся. Чоловêк мôй грузноваты такї. У его чорные лёгкїе. Тепер ї тюкї розгружае ї солому. У мене двеотї петьдесят днёў — не путходї! Дзêцї помогаюць. Петьдесят соток озьму ї зроблю. Петьдесят чотыры тоны здала буракоў. Я пудобрала нêколькї гектароў лёну. Проскуранцы боящца радїяцыї.

---

Чоловêк мой буў на Фїнляноксй войнê. Потом — у Германеї. Брукву êлї з чэрвямї. Чоловêк мôй ї два сыны померлї. Другї сын умер на тройцу, сердечнїк. Усе на светечкї умêў. Прыêхаў на обед, пообêдаў — ї ўпаў. Якося з дому болêло ему серцэ. Схопїло їнфаркт, у рамїнацыї нашы людзї, мушчыны, многїе ужэ померлї. Дочка е, хлêба прыносїть. Наболêло у мене серцэ от плачу. Там у мене буў велїкї дом. Му ж у лêсї, ї грїбу рослї. Му ж толькї жылї з ягодаў, грїбоў. Белые грїбу былї дешеўшые, потôм дорогїе. Брушнїцы ї журавїны — чого хочэш було ў нас. Здавалї тону-полторы м'яса.

Нашто ены нас сюды оперлї? Однака радїяцыя, однакенька. I тут платять трыццаць рублёў.

---

Булї му ў Чарнобулї. Як сорвалося — у горле клуб буў, дыхання не було. Му там лêтувалї, там душылїся да чавїлїся. Я лêто барабанїла, зерно чыстїла. Му ж ета буракї, картошку посêелї, поросло. Ешчэ ї здавалї ї гарбузы, ї буракоў на склад. У баню гонїлї — радїяцыю змуваць. У концы октябра нас прывезлї у Проскурнї. Прывезлї на страданїя. Накїдалїся на нас, што понаволокалїся му. Гїркаюць, як на собак. Тут таке мêсто, што дроў нет. Гоек нет. Два стола, дрова бралї оттуль. Кажын год до себе êздїм. Поўбївалї вокна, усе чыстенька. Богато там постовалася: стол, койка, кожух, сечкарня, осталася. Не далї рады дотегтї.

Запїсала С.Г.Лобач у в. Проскурнї ад Хвощанка Марыї Андрэеўны, 83 г.

---

Ето ўтїральнїкї, порудело лежачы. Вубельвалї. Спечэ — дыблїны ложыть. Багато пороздавала. Тончêйшые зосталїся.

---

У хате вісеў комін з брэзента, з любого полотна, на кліні дірку робілі, штоб дым ішоў, дробінкі жэлезные, лучыну клалі. Я топіцьму. Котла почыстіла. У часбў тры топлю. Торх /брыкет/ і вуголле вуно́шу. І увечэры тепло і цэ̂лу ноч тепло.

---

Пілінпоўка -- постілі, теперака не пошчу. Затне дыхать, нічогс не ем, ні до посту.

---

Быў зрыў -- і потом свêт /пра Чарнобыль/.

---

Батько купіў петнащать десецін землі. Хлêб забралі ў его, худобіну. Палага, так ён до жонкі, не бойся, я погодую цебе на адной купіне.

---

Дзêжок чотыри поставім. У дзêжцы учыняли /хлеб/. Закваска остаўляецца. Пудбівае назаўтра. З дёжкі вуйдзе п'ять, чотыры /бохан/. Устілалася лістом дубовум, слізенькі дубову ліст, на чэрэне́ не пудгорае.

Пудпалкі опечы, як хлебу не було. А як ужэ мукой обкочаём -- поляніч.і.

---

Жорваны зробім, мололі крупу. Колодка на колодку, удвох кругі. Лічая́, лічэйка, дзе крупу сыпеш. Кручу левою, правою сыплю по жменьцы. Му ўжо ўночы мололі.

Запісала С.Г.Лобач у в. Проокурні ад розных асоб з в. Вуглы

Брагінскі раён
В. Слабада /бліжэйшы
ДАБМ № 1026 в. Спярыжжа/

Лабаду, радзькоўнік, буракі, картофлі наварым -- і свінням. Бабоўнік апарыш, крапіву. Плюшнік е, скольк і хочаш е. Кідаюць на

мост ад блох. Чорненькі рожочок у жыці. За дзень кілаграм у каласкóх набіраю, здавалі. Вaўчкі дзяцей купаць, панаўязвала пукі, каб спалі дзеці. Зверабой ад жалудка. Дзê радзіяцыя я не рвала. Каліўцы зверабою запарвуюць. Бессмертнік буй, нанізала на нізачку сырога кілаграм сêм. У гароччыку м'ята, на язык пакладзеш, пячэ,халодна. Усякіх траў е.

Склáдалі штаблі дрôў. Удванаццацёх кладôм штабель. І на херме конем варыла. А цепер ніхто і нішто. Катарак ачамі. Ето вока закрываецца. Браліся дзелаць аперацыю: "Му тут здзелаём, да спорцім. Едзь дзе дáлей". Уранні у куточкі /вока/ гной. Усе валіцца на чалавека.

---

Коўбік так рабілі: печонка, лёккага помеліцца, усё павáрыцца. м'яса не шкадуеш. Начыняюць кішкі, кроў ллюць — крывянка. Бабка — сала накідаеш, со сметанай êлі. Як дзеды — каша, боршч. Як назáўтра — бабý, скаромнае. Сахару, мед, бублікаў — таку сыту êлі. Гарêлка начуе ў чарках. Сыта начýе.

---

Хата ў мене була дабрэнная, ох, комнат, комнат! Сêм хлеўчыкоў: і на куры, і на каровы, і на свіння, усе пакідала. Тры карові — тры дні адпасвала. Прапала пооцілак. Покрадзена усе чыста. Усе ж пакідалі, як нас вуселілі.

---

Сын настаўнікам. Што напішэ ў газету, тое напечатаюць. Прыеждаў да мене, раненька ўчора уéхаў. Сказаў, што прыêдзе навесну с каровай. Хату ему атпісала, а хата мая ў зоне асталáся. Зяць у машынах работаў. Дачка на херме. Малуе ее ў кашалі на плечах насіла. Му бункеры поробілі ў войну. Дзе папала па сёлах хадзілі, у лазê седзелі. А тут такі зяць — адбірае здароўе у ее. Ена мýла прасціну машынай. Зрабілася штось ёй — упала. Матка родная, упладзіла я ее на гора!

---

Канопі церлі. Семя патаўчэш, сахару, мачаеш каржы. А ў пачкóх мак — крысы паелі. Мой хлопец быў крыклівы. Хто стукае,

жэрдка екая стукае — крычыць. Макаўкі напару дзве ложкі, дам — і не крычаў. Хрышчэнніца яго ў Хойніках.

---

Пагналі на пашу татар. Каней багато було. Стада свіней, стада коней. Лысы — красны конь, пятна па ем як бу чорные. Лашак — цыцку ссе. Рабка /карова/ ідзе з пашы. Дуе ее. Луска сыпецца, ліша: вучесувала. Лішаі мазалі, од лішая зелле е. Му купілі таку карову, у ее — жаба. Худая, худая ідзе з пашы! Цэбер малака выйшаў з ее, як зарэзалі. Уракнулі карову. Папладзіліся парасята, ачамі адзін зірнуў — і прапалі. Ластавачка перэбежыць — малака нет.

Запісала С.Г.Лобач у в. Бабоўка
ад розных асоб з в. Слабада.

В. Пучын /бліжэйшыя ДАБМ № 1021
в. Спярыжжа, № 1022 в. Чамярысы/

Ета акурат на паску бу$^{ы}$ло́, етае дзêло. Госпадзі! Машы́ны так êдуць, от е$^{я}$к во$^{а}$йна́, страх! Вы$^{у}$шлі мы там. Ле нас недале́чко, еты насып, ну саша́ ж там, за дзерэ́венькаю блізко. Êдуць, везуць дзецей, везуць скôт, везуць і стары́х. Госпадзі, што ўжэ рабілась! Ну, ў во́йну я так не прэдстаўляла, страх такі бы$^{у}$ў, што ой-ёй-ёй. Ну, а тады к нам ўжэ прыêхалі, да гавораць, што мы$^{у}$ выс выселім. Ну, людзі ж плачуць, ходзяць — кіда́й сваё ўсё на сьвêце, гарава́ў вêк. Ой не не хацелі ж зразу людзі вуяжджа́ць. Міліцыя прыяжджала. Падагналі машыну. Мы зразу сыну, ў Рагачоўскім раёне, пазванілі, дак ён прыêхаў і нас забраў. Трох забраў, ско́лькі ж забя$^{е}$ра́, а трох астаецца. І тады ўжэ падвезлі машын багата, пагружа́лі етых людзей. Галосяць на ўсю дзярэўню людзі, плачуць. Ужэ нас перасялілі за петна́ццаць кіло́метраў. І жылі́ там. І мы$^{у}$ пабы$^{у}$лі, пака ўжэ етые домікі пастроілі.

А тады прыежджае ўжэ старшына, шефёр... І аўтобусы, машыны. Пагружа́юць нас і наве́злі сюда. Прыве́злі, дак адразу ў абшчэжыцьце. Ну, дак падавалі ў абшчэжыцьці комнаты. Праўда, стрэ́лі добрэ, н'льзя абіжацца. Пастроілі етые домікі. Дзеці ў каго есьцека, дак быстра ім далі́, штоб было дзецям у школу хадзіць, дак штоб домік свой мêў. А ужэ стары́м — пасядзелі, як кажуць! А тады пастроілі

і нам падава́лі кварціры. Кварціры харошые падавалі, тры комнаты. Як нам удвох, тры комнаты далі, кухня і дзве комнаты. Ну, вот і жывём. Зразу прыве́злі, дак далі картошку бесплатна. Куры прывезлі, дак давалі. Кôлькі ўжэ? Шэсьць гадôў на ра́даніцу. Хароняць там, у Пучыне, возяць туды. Можа трыццаць два чалавекі там захаранілі, а тут мало. Просішча, як памірае: завезіце ме$^{я}$не на сваю сто́рану, пахараніце. Там такая харошая была дзерэўня. Блізко рêчка, ну й там арêшнік, лêс там, па грыбы там. Поля багато бу$^{ы}$ло, засе$^{я}$валі. Цепер там зарасло, зарасло ой-ёй-ёй, страх! І свінні ж тые ходзяць, так ізрылі тую вуліцу, што адны ямкі.

— Але хату сваю знайшлі, як ездзілі?

Найшла, найшла сваю хату! Тады былі ваенные, багата было ваенных у дзерэўні, дак білі вокны, страх!

---

Вот знаеце, як ўвойдзеш /у лес/, дзе такіе лі́неі, дак паўз лінеі, ек пагл$^{я}$дзі́ш — во такіе грыбкі /паказвае рукамі/ — такіе, мо бо́льшые — красного$^{о}$ло́венькіе се$^{я}$дзяць. Ой-ёй-ёй, страх! Набя$^{е}$ре́ш ету карзіну, а шчэ на карзіну й платок, чуць не$^{я}$сеш! Ой, грыбôў у нас бы$^{у}$ло. Божа мой сьве́цік! Да такіе ж етые белые грыбы, ены́ ж укусные, ето не то што там моховікі́. Зелêнкі шчэ сладкіе, тожэ$^{а}$ харошые, дак у іх песку багата, ены ў песку растуць. Грыбы тожэ любяць по песку.

Во такіе се$^{я}$дзяць! Калі прыдзеш, дак ку́чамі. Вот сядзяць прамо. Нарêжэ$^{а}$ш на месцы кашэль. От было грыбаты́ ў нас, ай-яй-яй! Наша дзерэўня была не веліка, ну, не ўсе ж хадзілі. Ета вот такіе грыбôўнікі называюцца ены. Вот я ка́жны дзень; на днê дак і два разы схаджу, тры разы пайду, з дзе́цьмі, дзе$^{я}$це́й пабе$^{я}$ру́. Дак багата таргавалі, багата за грыбы, дарагія ж былі. У нас такіе е грыбоexternal бо́лоўны$^{у}$.

Да к нам багата êзьдзіла. І з Гомля аўто́бусам êзьдзілі, і з Хвойнік. Пôйдзеш у лêс — поўна іх у лêсê; аўтобусы, машыны, багата, багата. Вы$^{у}$ знаеце, чужые прыêдуць, дак ены ж не знаюць, дзе грыбôўшчэе мêста. Я ўжэ, напрымер, знаю, дзе ро$^{а}$стуць, я бе$^{я}$гом туда. Прыдзе́ш, на сваі места́ ідзеш, і е грыбы тамака. А такіе попрыежджаюць, ходзяць, не знаючы, дзе нарвецца, дак возьме.

---

— Ганна Фёдараўна, раскажыце калі ласка, як у вас у Пучыне вяселле рабілі, што было перад вяселлем, як пачыналі, як праходзіла вяселле, чымканчалі, усё, калі ласка, ад пачатку да канца раскажыце.

— Ну, перад вяселлем былі сваты́, а вяселле цераз нядзе̂лю ці там цераз месяц.

— А калі сваты ехалі да маладой?

— Вечарам усегда́, сваты вечарам е̂халі.

— А якія коні былі ў сватоў?

— Ну, уякіе коні, і сі́вые, уякіе коні... і сватоў тады пераўя́зуюць.

— А жаніх такcама ехаў?

— А як жа, без жаніха не е̂дуць сваты́.

— А ці не было такога, калі перад тым, як ехаць у сваты, некага пасылалі ад жаніха да дзяўчыны спытацца, ці пойдзе замуж?

— Папы$^{у}$та́ецца, дак е$^{я}$на ўседно́: а дзе ж то той хлопец, што сватае мя$^{е}$не? Вот як.

— Ну а гарэлку бралі сваты?

— Гарэ̂лку абе$^{я}$зацельно. Бу́тэль гарэ̂лкі, аб'я́зуюць красную лентаю, украшаюць е$^{я}$го. Ну, прыязджаюць і ста́ўляюць на сто̂л. Ужэ ж дзе̂ўка, казаў той, саглашаецца, тады ўжэ начынаюць... Піро̂г разраза́юць еты. Беру́ць жэ піро̂г. Калі́сь пе́клі пірагі́. Разразаюць еты піро̂г. Ну, тады ўжэ маладую гука́юць, штоб разрэ̂зала піро̂г, штоб ужэ, сагласна ты, дак разраза́й піро̂г. Ну, начынаецца ўжэ тады І пайшлі ўжэ сваты /сватаўство/.

— А садзіліся за стол?

— За сто̂л? А як жэ!

— Пасля таго, як пірог разрэзалі?

— Да, разразаюць піро̂г, налліваюць ўжэ па$^{о}$ чаркы, гукаюць бацька, матку. Первое етым, дзе̂$^{у}$кі етай. А тады ўжэ ўсіх етых сватоў. Первое ўжэ бацька, матка. Вот як.

— Гэта ўсё сваты называецца?

— Да, ето сваты́ называецца.

— Ка́лі дзеўка захоча замуж, дык пірог разразае?

— Разраза́е.

— А калі не захоча?

— А не хоча ўжэ, дак, казаў той, не по́йдзе. Не панаравіцца ёй. Я$^{е}$ны забіраюцца і $^{в}$ухо́дзяць із хаты, вот як.

— А як паваталі, дагаварыліся?

— Дагаварыліся. Ну тады ўжэ змо́віны называюцца, змовіны. А тады намячаецца свадзьба.

— А на змовінах можа тожа пілі што?

— Ну канешне, трохі ўжэ й еты, жэніх везе гарэ̂лку, а ўжэ бальшынство маладой /гарэлка/, маладо́й ужэ. А тады ўжэ свадзьба.

— А можа пелі што на змовінах?

— На змовінах? Пе̂лі на змовінах, на заручынах пе̂лі:

Цешча зяця прасіла:

— Ой зяць мо̂й любы. Не будзь ты окупы́у.

Штоб цябе людзі зналі.

Кладзі ру́белька на тарэ̂лачку, Штоб дружачкі спева́лі.

А кладзі другога, штоб залатога, Штоб ця^е^бе ўсе людзі зналі.

— Гэта на змовінах пелі?

— На змовінах, на змовінах.

— А мо яшчэ пелі што?

— Ну, пе̂лі па-ўсякаму:

Заручае мя^е^не мамка, заручае, Чаму я^е^на сваіх суседачак не гука́е?

Кажуць людзі — у то̂м доме све́кар горды. Ён го́рдуе невёхнаю маладою.

Гардаві́ны два лісточкі апа́ла, там мая го̂рка доля прапала.

Эта шчэ такую пе̂лі. Тады свадзьбу ўжэ гуляюць, гуляюць свадзьбу.

— Колі пачынаецца свадзьба?

— Ну пачынаецца ета ўжэ ў суботу, вечаром, у суботу ўве́чары пачынаецца свадзьба. Ну тады ўжэ е̂дзе свадзьба, пе^я^юць, гуляюць.

— Ну, а можа збірала нявеста сваіх падруг?

— А як жа, дру́жак, а малады ўжэ вя^е^зе дружко̂ў. Е^я^на свеці́лку бярэ, све́чкі запа́люць і садзяцца за сто̂л тады ўжэ. Малады прыежджае з сваімі хлопцамі, а е^я^на берэ сваіх дзе̂во^а^к, і начынаецца свадзьба.

— Гэта вечарам?

— Ета вечарам ужэ, як свадзьба гуляецца, вот як. Свадзьба ўжэ тады начынаецца, пе^я^юць, гуляюць, му́зыка іграе, усякае праісходзіць.

— А ці рабілі кветкі на свадзьбу і калі рабілі?

— Ну, прышываюць, дзе̂ўкі етыя^е^, дру́жкі ўжэ называюцца, етыя — маладой. А ў его́ княжы/е/, дру́жкі, дак е^я^ны ўжэ прышываюць ім

кветкі, і княжы́е плацяць.

-- А калі іх наробяць гэтых кветак?

-- К свадзьбі ж падрыхтоўвуюцца і ўсе етае робяць.

-- А якія там пелі песні? Вечарам?

-- Пабёг кругом хаты, з ве^я лікаю да ламакаю.

За дурной за сабакаю.

Ето^а ўжэ дру́жкі пёлі калісека. А княжы́е ўжэ дзёўкам плацяць за етые кветкі, княжы́е, ^в ушыва́юць ім, а е^я ны ўжэ ім даюць грошы.

-- А што пелі тады?

— Ой хадзіла там Машачка кругá сáду Да гукала сва^о го татку на параду: -- Устань, устань, мôй тата^о чка, на параду Да дай мнê парадак з усе^я го саду.

—Ой, рада б я, мая донька, к табê ўстаці -- Насыпалі сырой зямлі на рукі ма^о і^е.

І я табê парадачкі не дам, патаму што я не ўстану су сей землí. О цéту пёлі. Ну тады шчэ якую?

Ой, хадзіла Галечка па^о полю, віла сабê два ве^я ночкі с куколю,
Да хацёла да дружачкам раздаці. А дружачкі еты ве^я ночак разарвалі,

А Галі добру долю далі.

Так шчэ пёлі. Ну, тады ужэ гулялі ету свадзьбу дзень...

-- Не, чакайце, тады раз'ехаліся?

-- Раз'êхаліся.

-- А на другі дзень?

-- Зноў прыязджаюць, гуляюць, зноў дзень, па бяседах ходзяць. От там, радня заве к сабê, па хатах ужэ ходзяць.

-- А хто такія княжые?

-- Ета княжы́, ета так, як це^я пер сьвідзêцель, мае́ дзіцятка, дак ета ўжэ малады берэ сабê княжо́га, дак ета княжы называецца.

-- На другі дзень малады сабраў...?

-- Сваю радню. Да, прыязджаюць, гуляюць, забіраюць маладую.

-- Да маладой прыехалі?

-- Да. Прыêхалі туды да дому і забіраюць ужэ маладую.

-- А маладая ў гэты час нешта гатовіцца?

-- Ну, канешне. Яê тады ўжэ ісхаваюць, ік сусêдзям завядуць, а е^я ны ходзяць да шукаюць, на́йдуць, прывядуць яê.

-- А вянчацца калі ехалі?

— Вянчацца е^я^ны ўжэ ўранні, прыяжджаюць і ёдуць ік ве^я^нцу. Раненько^а^ ў цэркву ёдуць. А тады ўжэ с царквы^у^ прыяжджаюць і гуляюць свадзьбу.

— А калі ехалі с цэрквы, спявалі ці не?

— Не-е, тады не пяюць. Не, не пяюць тады. Ета ўжэ як за сталом сядзяць, дак пяюць.

— Ну, а прыехалі с цэрквы ва двор, тады што?

— Сустракаюць із гарэлкаю. Становіцца матка па адзін бок і бацька. І сустракаюць етых ужэ дзя^е^цей і даюць па чарцы. Хто вупіў, а хто вуліў, як хто, вот як.

— А можа што пелі тады?

— Не, не пяюць тады. Пака ўжэ за стол, дак не пяюць. Сустракаюць толькі і даюць ужэ па чарцы. Ціхенька ідуць і саджаюць маладую ўжэ на кажух, штоб багатые былі. З маладым.

— А дзе той кажух рассцілалі?

— На куту, на куту, дзе ўжэ садзіцца маладь з маладой.

— Ну, а абходзілі кругом стала?

— Абходзяць круга стала, даюць віконку ўжэ ім. Ужэ ета тады, мае дзіцятка, як забіраюць е^я^е ужэ ік маладому. Дак бе^я^рэ ўжэ бацька хросны ці брат, які есьцека, за руку іх, абходзіць круга стала. І тады ўжэ прашчаюцца і забіраюць маладую.

— А што калісьці маладой надзявалі на галаву?

— Завівалі я^е^ё, ета ж цяперака ўжэ хвата тая. А тады ж не було. Тады так у платочку. Тады садзіцца маладая за стол, ідзе дзьве маладых жаншчыны, расплятаюць косу: "Ацец, маці, благаславіце косу расплятаці". Ну, а тады ўжэ матка атказуе: "Бог благаславіць", другі раз — "Бог благаславіць", трэйці раз — "Бог благаславіць". І расплятаюць етую ей косу і завіваюць ужэ её, её голаву. Косу расплелі, дак ужэ так чуць закручуюць ёй, маладой.

— А вянка надзявалі маладой? на галаву?

— Не вянка, а якогась так я^е^к абручыка нагнетуць. Не было вянкоў. Ета цяперака такая мода, што етые хвата і вяночак, а тады не, тады не было такога.

— А ленты былі?

— Ленты бы^у^лі, бы^у^лі ленты ў маладой, былі, канешне, багата, штукі чатыры.

— А да чаго яны прывязваліся?

— Каса ж у яё заплетана. Ёдзе ў цэркву, яе^е^на ўжэ іс касою заплетанаю.

-- Ну а адзяваща памагалі маладой, пакуль ехаць у цэркву, яна ж чакае, калі прыедзе малады?

-- Яна сама надзяéшца. Тады такога абýчая не было, як цяпераке. А тады я[е]на сама ужэ надзéнешца, косу заплетýць дрýжкі ёй еты ужэ. Косу заплетуць ёй, ленты поўплетáюць ёй, паêхалі ў цэркву венчаща.

-- А калі вянчаліся, на чым стаялі маладыя?

-- Ну, там у цэркві, ручнік расспілаюць.

-- А ці было такое, калі бацюшка абводзіць маладых, штоб яна гэты ручнік...?

-- Штоб цéгла за сабою? Ну, бы[у]лó, бы[у]ло...

-- А для чаго гэта?

-- А Бôг я[е]го знае, ето бацюшка ужэ ім пазваляе.

-- Ці не гаварылі, што гэта для таго, каб другія дзеўкі ішлі замуж?

-- Гаворáць так, гаворáць, штоб цéгла ужэ, штоб працéгла, штоб вуцяґвала ўсіх дзêвак замуж.

-- А калі маладыя вянчаліся, што трымалі над галавой у маладых?

-- Ну ета ж венéц.

-- А хто трымаў?

-- Ну ета ўжэ сьвецíлка і князы́, дзяржыць ужэ над галавой еты венец.

-- Князы над чыёй дзяржыць галавой?

-- Над маладым, а ета над маладой, сьвецілка. У е[я]ê ж сьвечкі ужэ ў руках гарáць.

-- Свецілка, хто такі?

-- Дзêўка, подрýга еê, подруга.

-- Так у яе ж можа рука забалець, калі яна доўга дзяржыць? Можа паможа хто?

-- Нічога! Аж заклякне рука, доўга дзяржыць. Там ужэ ніхто не памагае.

-- Аднаму да санага канца? Доўга ж, пакуль павянчающа.

-- Няўжэ, доўга! Ён жа іх водзіць там па вóлтарах, кругá водзіць бацюшка і путáеща, ці сагласные ужэ. Ну, канéшне, ужэ гаворыш, што сагласны.

-- А ці былі такія случаі, каб сказалі, што не сагласны?

-- Ну, ужэ еслі скажаш, што не сагласна, дак бацюшка вя[е]нчаць не будзе.

— Значыць, с царквы прыехалі да маладой, да бацькі маладой?

— Так, да маладой.

— А вось бывае ў маладога такі чалавек, старэйшы, які кіруе усім?

— Ета ужо знаеце, мо хросны етай маладой?

— А як яго называюць?

— Ну, дружо́к звалі, дружок.

— А ў маладой такоама быў такі чалав ?

— Ну тожа, е́сьцека і ў маладой, булі такіе ўжэ. Шчэ пелі:

Ой хадзіла Машачка па полю, вя[і]ла сабе два вяночкі с куко́лю,

Да й прасіла ў татачкі дзянёчка, штоб знасіць да вечара вяночка.

А бацько ўжэ ёй так кажа: панасі, дзіця маё, панасі,

А тады ўве́чары дружачкам аддасі.

І дружачкі етага вяночка разарвуць, і твае горкія слёзы разальюць.

— Калі гэтую песню пелі?

— На вяселлі гуляюць і завіваюць яе.

— А ці было такое, што жаніх плаціў хлопцам за дзеўку?

— Плаціў штось. Захаваюць ету дзеўку ў другую хату. Я[е]ны шукаюць-шукаюць. Падводзілі якую ужэ стару́ю: "Ета не твая?" Ён ка́е: "Не, ета не мая маладая". Ну, на́йдуць ужэ етую маладую, падвя[е]дуць. І плаціў жэ малады грошы. Ён ужэ ім заплаціць тады етыя грошы. Маладую ўжэ пасадзяць дя[е] маладога.

Назаўтра ці на трэйці дзень прыяжджаюць. Ну, беру́ць етае ўжэ кольле. Дзіця ўжэ етае здзелаюць за́місь, ляльку якую здзелаюць. Скажуць: Маладая кінула ў нас дзіця, забірай дзіця. Ну, йдуць, перадзяюцца і ідуць ужэ так, як цыгане. Беруць кольле, да разьбіваюць етые ўжэ печы, замісь. /г.зн. робячы выгляд, што разбіваюць печы/. Із гачка́мі, іх не пускаюць, яны варвуцца. Ну, калісь добра ж гулялі.

— Ну, а чым канчаецца свадзьба?

— Ну, свадзьба канчаецца так. Находзяць ужэ ета на трэйці дзень па бя[е]се́дах па етых ужэ, па ха́тах, і тады ўжэ разьвітуюцца. Маладую ўжэ забралі, маладая ўжэ у маладога. Тады ўжэ канчаецца свадзьба.

— А можа ў самы канец што пелі?

— Хто яго, мо й пе́лі.

— А вось у каторы дзень забіралі маладую да маладога?

— Да маладога?Так як калі, як ужэ далека,так увечары забіраюць.

— Каторы дзень, першы?

— Першы дзень. А як ўжэ блізка, дак і назаўтра, но обучно, штоб у перву$^{ы}$ дзень забраць её, увеча$^{э}$ры.

— А можа, калі забіраюць, можа што пелі?

— Да по ўсякаму пêлі. Гопа$^{о}$дзі, усякіе песьні.

— А ці было, што з вёдрамі абносілі, пераходзілі дарогу маладым?

— А, ну ето ўжэ, штоб пашча́сьціла.

— Рабілі такое?

— Да. Поўные ведра ўжэ, як маладые ўяжджа́юць із двара, дак не дай Бôг, штоб ўжэ лішні хто не перайшоў дарогі, а ўжэ свôй там які, прыяцель.

— А пасля вяселля ці запрашалі ў госці маладых? Хто з імі хадзіў ці ехаў?

— Ну, бацька ўжэ яго... й малады, ік етай маладой ўжэ у госьці едуць, называецца ўжэ госьці. Цераз нядзелю пряжджаюць, п'юць ізноў, гуляюць.

— А радню якую бралі?

— Ну, радня ж, канечне, там хросная... такіе ўжэ блізка рôдные. Бе$^{я}$руць вазоў два прыяжджаюць у госьці.

— Спявалі можа што?

— Спеваюць. Панапіваюцца, дак пяюць. Усякіе, ўжэ тады якіе зра пя$^{е}$юць.

— Такіх спецыяльных песень не было?

— Не, тады ўжэ такіх не было.

— А да маладога запрашаюць у госці?

— А тады ўжэ ў другую нядзелю. К маладому тожа êдуць у госьці. Первую ня$^{е}$дзелю к маладой, а на другую ня$^{е}$дзелю к маладому êдуць. Етые ўжэ ат маладой рукі едуць гасьцява́ць калі́сь.

— І так кончылася.

— І так канчаецца.

— А што на галаву маладой надзявалі потым? Што яна насіла у канцы вяселля?

— Ну, ужэ як ко́су распля$^{е}$туць, дак ужэ надзяюць ёй абруч такі.

— А з чаго той абруч?

— Платок, ну, трошкі лёну ўкру́чуюць, і тады ужэ так, завіваюць я$^{е}$е. Як абручык ёй такі.

— А наверх на абручык што надзяюць?

— Платок надзяюць.

— Як звалі платок?

— Ну, тады хустка, называлі хустка. Надзяюць ўжэ етую хустку ей. Ета ўжэ такіе$^{я}$ маладые$^{я}$ завівалі калі́сь.

— А наміткі, былі такіе калісь?

— Наме́ткі? Не, мамка, тады не бы$^{у}$ло. Ета ж я$^{е}$к у каго ўжэ.

— А калі тыя наметкі надзявалі?

— Ну ета ўжэ заплетуць ей дру́жкі косу і тады его ўжэ наме́тачку надзевалі. А тады ўжэ, як за сто̂л саджаюць, расплета́юць.

— А старыя жанчыны надзявалі наметкі?

— Не, етага не знаю.

— А што на галаву надзявалі пажылыя жанчыны?

— Платкі́, платкі надзевалі, ў усіх платкі бу$^{ы}$лі.

— А як па-колішняму звалі: вяселле ці свадзьба?

— Вясельле, да, вясельле.

Гутарка з Ганнай Фёдараўнай Давыдоўскай, 1918 г. Запісаў на магнітафоне ў в. Широкае і зрабіў транскрыпцыю Ф.Д.Клімчук.

Т.М.Трухан

# З ЛЕКСІКІ ГАВОРАК НАРАЎЛЯНСКАГА І ХОЙНІЦКАГА РАЁНАЎ

БРУШНІЦЫ. Журавіны, брушніцы -- чого хочэш було. Вуглы.
БУЙТРО. Вода буйстро закіпіць. Арэвічы.
ВАРГОНІЯ. Варгонія була, астры. Вуглы.
ВОРАХ. Машына лежыць у ворасі, разобрата. Арэвічы.
ВЕЧОРК.. Дзеўкі на вечоркі ходілі: одна ушывае, друга плете корунку. Вуглы.
ВЫСОЧЭННЫ. На хвоі колода стояла, на высочэнной хвоі. Вуглы.
ГАХАЦЬ. Ужо дваццаты год уколы гахаюць. Арэвічы.
ГЛЕЙКІ. Тут глейка земля. Вуглы.
ГЛЁЧЫК. У глёчыку вода под снопамі лежыць. Арэвічы.
ГНІЛЬ. Пазбіралі гніль по лесу і прывезлі. Арэвічы.
ГОЛОДНЫ. Голодна-голодна, як собака. Вуглы.
ГОЛУПКА. Его нема дома, голупко. Арэвічы.
ГОРЧАК. На горчаку беруть мед пчолы. Арэвічы.
ГОРЭ. Сільно горэ було вялікэ. Арэвічы.
ГОСЦІЦЬ. Ніхто у нас не госціць. Арэвічы.
ГРУЗНОВАТЫ. Грузноваты ён такі, я не дотегну его. Вуглы.
ГРЫБ. Грыбу рослі і ягоды, із грыбоў етых му і жылі. Вуглы.
ДАЎНІ. У мяне даўні-даўні хлеб, нема свежого. Арэвічы.
ДВА. Удвох я з хлопцом жыла. Вуглы.
ДОБІВАЦЦА. Вы кого добіваецеся? Дочкі ці кого? Арэвічы.
ДОБІЦЦА. У лаўку неможно добіцца, гіркаюць, як на собак. Вуглы.
ДОБРАЦЬ. Я не добрала розуму, сільно забываюсь. Арэвічы.
ДОМОВІНА. Як покойнік умірае, домовіну брызгаеш колоскамі. Арэвічы.
ДОНЬКА. Моя донька, ето пекла, а не рай! Арэвічы.
ДУХОЎСТВА. Люблю крэпка духоўство. Арэвічы.
ЖЫТКА. Яка жытка настала? Арэвічы.
ЗАВЕСІЦЦА. Сам зяць завесіўся. Арэвічы.
ЗАГРЭБУШЧЫ. Очы завідушчые, а рукі загрэбушчые. Арэвічы.
ЗАКВАСКА. Остаўляла закваску на ноч у дзежцэ. Вуглы.
ЗАКІПВАЦЬ. Холодно на дворэ, на газох ні закіпвае кар-

топля. Арэвічы.

ЗАЛО́ЖВАЦЬ. Ногою робіть пе́тлю, ногу зало́жае і лезе на колоду. Вуглы.

ЗАМО́ЖНЫ. Заможные сем'і нас не пускалі к собе. Арэвічы.

ЗАНІ́СКІ. Го́лкою нанізваю заніскі. Арэвічы.

ЗВЕКОВА́ЦЬ. Я ў больніцы звековала. Арэвічы.

ЗВЕРОБО́Й. Зверобой жоўценькім цвіце. Арэвічы.

ЗДЗВІ́ГНУЦЦА. Уся здзвігнулась. Арэвічы.

КА́ДОЎБ. Цэлы кабоўб воды було. Арэвічы.

КА́ЖНЫ. Кажны раз ездзілі ў брушніцы. Вуглы.

КІ́НУЦЬ. Свое мілэ кінуў на пасты́лэ. Арэвічы.

КІ́ШКІ. Кішкі солодкіе ў горбу а бува́юць. Арэвічы.

КЛУБ. У горлі буў такі клуб, дыхання ні було. Вуглы.

КО́ЗЛІКІ. Козлікі ў жыці рослі. Арэвічы.

КОЛАЦІ́ЦЦА. Ена за грошыма колоціцца вельмо, хоць бы і не варто було. Арэвічы.

КО́МІН. С полотна шылі коміна, унізу лучыну клалі. Вуглы.

КРЭ́ЎКА. Крэўка жоўценькім цвіце: трэба піць, як не пускае мочы. Арэвічы.

КРЭ́ЎНЫ. Прыцягае мене кроў, крэўнэ. Арэвічы.

КУ́СЦІК. Свой кусцік на ноч пусціць. Арэвічы.

ЛІНУ́ЦЦА. Як лінулася кроў, але суялі. Арэвічы.

ЛЕ́ТУВАЦЬ. На велікодня жылі яшчэ і ле́тувалі. Вуглы.

ЛО́ТАЦЬ. Лотацью натру ногу, як норыў. Арэвічы.

МА́РКІ. Яна ні марка́я, сівенькая кохта. Арэвічы.

МАСЛЮ́КІ. Маслюкоў -- хоць ко́су закладвай -- беры. Арэвічы.

МУ́РНІК. Прывела мурніка, зробіў печ, да дым не йдзе. Вуглы.

МУ́ЧКА. Самі робілі мучкі, чэсалі тонюсенько. Вуглы.

НА́ВАЛАКІ. Наволокі прыехалі до нас. Арэвічы.

НАВО́ЙКА. Дзве наво́йкі, што наматваюць ніткі і матер'ял. Вуглы.

НАНО́СІЦЬ. Я наносіла грыбо́ў бе́лых і зварылі іх. Вуглы.

НОГА́. У ногах мну коноплі, а лён -- не́. Вуглы.

НУ́ЖА. На молодзік нельзя грубу беліць, будзе богато нужы /агіды/ усякой. Арэвічы.

ОДНА́КЕНЬКІ. Однакенька радіяцыя тут, однакенька, як і там. Вуглы.

ПО́ВЕН. Повен глёчык воды. Арэвічы.

ПОДВОЙНЫ. Перчаткі подвойные, сівенькіе. Арэвічы.

ПОДЗЕЛЛІВЫ. Подзелліва сестра, добра. Арэвічы.

ПОКОТЁЛКІ. Покотёлкі, штоб ніты ходілі. На прут надеваюцца покотёлкі. Вуглы.

ПОЛЮБОЎНІЦА. Полюбоўніца его там роботае, свечкі продае. Арэвічы.

ПОНОЖЫ. Поножы, як ногамі перэстаўляе. Вуглы.

ПОСТОЛЫ. У постолёх ходілі. Вуглы.

ПОСТРАХАЦЦА. Да пострахалась у цэркаў іці, у мене даўленне. Арэвічы.

ПОТПЛЕТАНКА. Потплетанка -- дзе вушы заворочать у постолёх. Вуглы.

ПРОСТІНЯ. Одну простіню ўшывала цэлу зіму. Вуглы.

ПРЫМАЦЬ. Чым маем, тым будзем вас прымаць. Арэвічы.

РОЗУМЕНЬ. Ето одзін у мене коцік розумень. Арэвічы.

РОШЧЭХНУЦЦА. Рошчэхнуўся сколок на два кускі. Арэвічы.

РУКА. На руках мясо продавалі. Арэвічы.

СЛЕПОТА. Каб у мене не слепота, я крэпка була. Арэвічы.

СЛЁЗЫ. Серцу не поткажэш, слёзы самі плывуць. Арэвічы.

СУЎСІМ. Я больна суўсім. Арэвічы.

СТЁПОЧКА. Коморка да стёпочка ў домі. Вуглы.

ТЁРТКА. Сушылі лён на печы, терлі на тёртку. Вуглы.

ТЫЖДЗЕНЬ. Полежала тыждзень і ўмерла. Арэвічы.

УВОРВАЦЬ. Ворвары ночы ўворвалі. Арэвічы.

УНОЧЫ. Му уночы крутілі жорвана. Вуглы.

УСТАВІЦЬ. Я свого характера ні ўстаўлю ей. Арэвічы.

УСТІЛАЦЬ. Устілалі ліст дубовы пот хлеб. Вуглы.

УСТУПІЦЬ. І разочку ў хату не ўступіла сестра. Арэвічы.

УЦІРАЛЬНІК. Уціральнікі, да порудзелі, вубель іх. Вуглы.

УЧЫНЯЦЬ. Учынялі ў дзежцы хлеб. Вуглы.

ХМЕЛЬ. Хмель кладуць у задзелку, то крэпка горэлка. Арэвічы.

ЦІХЕ ЛЕТО. Ціхе лето цветком жоўценькім цвіце, нізенькe. Арэвічы.

ЧАБОР. Чобор рос по лугох, по долінках, кіешок такі вуходзіў з его. Арэвічы.

ЧОВІЦЦА. Душыліся там і човіліся людзі. Вуглы.

ШЧЭДРЫКІ. Шчэдрыкам горбузы давалі, штоб родзілі.Арэвічы.

А.А.Крывіцкі, Ф.Д.Клімчук,
С.Г.Лобач, Т.М.Трухан

# УСХОДНЕПАЛЕСКАЯ ГАВОРКА НАВАКОЛЛЯ МАЗЫРА

У наваколлі Мазыра згодна з "Дыялекталагічным атласам беларускай мовы" /1963/ пашыраны гаворкі з тыповымі ўсходнепалескімі асаблівасцямі. Але звяртае на сябе ўвагу тое, што ім уласціва недысімілятыўнае аканне пасля цвёрдых зычных. Гэта аканне тут звычайна няпоўнае. Паслядоўна выступаюць і адрозніваюцца ў дадзеных гаворках галосныя /о/ і /а/ у розных умовах у канцавых адкрытых ненаціскных складах /тыпу сéно, мáло і хáта, сáда/. У іншым жа становішчы як пасля націску, так і перад ім назіраецца або паслядоўнае вымаўленне гука /а/ ў адпаведнасці з галоснымі /о/, /а/ пад націскам, або вымаўленне яго з асобнымі адхіленнямі ад гэтага прынцыпу /яго "парушэннямі"/ ці з не зусім выразнай якаснай рэалізацыяй гука ў адносінах яго блізкасці да галоснага /о/ або галоснага /а/.

Гэтыя акаючыя гаворкі складаюць суцэльны масіў на правабярэжжы Прыпяці на захадзе ад Мазыра. Да іх ліку адносіцца і гаворка в. Жахавічы Скрыгалаўскага сельсавета Мазырскага раёна.

Мясцовая гаворка в. Жахавічы ў сваіх асноўных усходнепалескіх дыялектных рысах у жыхароў вёскі захавалася даволі добра. Яна з'яўляецца асновай іх паўсядзённых вусных моўных зносін. А ў памяці вяскоўцаў захавалася таксама шмат з таго, што ўжо з іх цяперашняй працай, побытам і ўяўленнямі ніяк не звязваецца /напрыклад, лексіка старых заняткаў і рамёстваў, вераванняў і інш./. Абумоўлена гэта тым, што сучасныя вяскоўцы -- гэта за невялікім выключэннем пенсіянеры. Усё іх жыццё, праўда, прайшло ў савецкі час пераважна пры калгасным ладзе з усімі яго вядомымі асаблівасцямі ў сельскагаспадарчай вытворчасці, культуры, побыце і г.д. Але моўна выхоўваліся яны ўсё ж перш за ўсё ва ўлоўні роднай сям'і ў бацькоўскай хаце ў яе традыцыях і на аснове тых размоў, якія тут чуліся ад бацькоў, дзядоў, бабулек, суседзяў і інш.

Да таго ж усе сучасныя жыхары вёскі Жахавічы -- карэнныя жыхары /тýбальцы/. Быў у вёсцы толькі, як сцвярджаюць, адзін нейкі чужынец за прымака, але ён "не даў патомства". Сама вёс-

ка як цэлы населены пункт, як тып пасялення паводле мясцовых паданняў — адносна позняе ўтварэнне. Яна склалася ў выніку сцягвання невялікіх селішчаў. Ніхто, праўда, пра гэтыя селішчы нічога канкрэтнага не ведае і не чуў ад сваіх дзядоў[1]. У нейкія ўжо адносна блізкія мінулыя часы, пра якія старэйшыя жыхары вёскі захавалі ў памяці апавяданні сваіх дзядоў, у вёсцы было 24 надзелы зямлі. Магчыма, з гэтым можна неяк звязваць так званыя неафіцыйныя прозвішчы сучасных жыхароў вёскі, якія склаліся, безумоўна, на аснове ўласных асабовых імёнаў нейкіх забытых ужо зараз продкаў[2]. Паводле ж гэтых прозвішчаў сем'і вяскоўцаў аб'ядноўваюцца як бы ў нейкія родавыя адзінствы, праўда, чыста фармальна. Такія сем'і не лічаць сябе, як правіла, нейкай кроўнай раднёю. Дарэчы, падобныя асабовыя найменні — пашыраная з'ява на Палессі.

Зараз у вёсцы Жахавічы налічваецца 170 гаспадарак /двароў/. Ёсць пустыя хаты. Дакладней, былі. Іх зараз асвойваюць пад дачы мазырскія нашчадкі былых гаспадароў або проста гарадскія жыхары, якія набылі іх з дазволу калгаса.

Вёска Жахавічы знаходзіцца каля Прыпяці. Паміж вёскай і ракой толькі шырокі /больш за паўкіламетра/ надпрыпяцкі луг /Бало́ние/, які з'яўляецца вясковым выганам. Праўда, вёска размешчана якраз каля даліны, якая злучаецца з ракой. Але гэта даліна ўжо амаль замыта, служыць воднай дарогай на раку толькі вясною, а ўлетку амаль перасыхае і зарастае высокай травяністай расліннасцю /лепе́шнік, раго́ж і інш./.

---

[1] Недалёка ад вёскі ў лесе ёсць вядомае археалагічнае месца старажытнага селішча. Але існаванне яго адносяць яшчэ да новай эры. Праўда, як паведаміў былы дырэктар вясковай школы Андрэй Фёдаравіч Ткач, у наваколлі Жахавіч у асобных мясцінах трапляюцца прыкметы старых могільнікаў /чалавечыя косці ў выніку выдзімання на могільніках пяскоў/, якія, магчыма, маюць непасрэдныя адносіны да адзначаных селішчаў — папярэднікаў Жахавіч.

[2] Асноўнымі афіцыйнымі прозвішчамі вяскоўцаў лічацца, як яны адзначаюць /па алфавіту/, Бабро́ўнік, Казак, Клімчанка, Рабчанка, Рассоханка, Сіліч, Ткач, Турбал, Шахман. Спіс неафіцыйных прозвішчаў жыхароў /назвы "па-вулічнаму"/ пададзены ў раздзеле "Анамастыка".

Займае вёска прыўзняты над далінэй бераг даволі значнай па плошчы крыху ўзвышанай раўніннай прасторы. Гэта -- асноўныя вясковыя палявыя ўгоддзі. Вёска мае дзве вуліцы: старую, уздоўж даліны з адным радам хат, і новую, паралельную да яе, з хатамі па абодвух баках вулічнай дарогі. Злучаны вуліцы вулкамі паміж сядзіб /падвóрыцамі/.

Палявую прастору вёскі з захаду і поўдня акаляе шырокая пясчаная града з досыць значнымі па вышыні дзюнамі. Яна пачынаецца з заходняга краю вёскі /відаць, і вёска размешчана на зруйнаванай частцы гэтай грады/. На градзе для замацавання пяску, які паступова насоўваўся на палі і самую вёску, расце пасаджаны вяскоўцамі хвойнік і шы́льнік /від лазнякоў/. З усходняга ж боку палявую прастору вёскі адгароджвае даволі значны па вышыні, шырыні і працягласці штучны насып, які пачынаецца ад усходняга краю вёскі, ідзе на поўдзень і там злучаецца з адзначанай пясчанай градой. Зроблены насып вясковымі жыхарамі яшчэ ў даўнія часы. Града і насып не дапускаюць затаплення вясковых палёў на ніжэйшых мясцінах у паводку, калі вада ў рэцэ запаўняе пойму, забіраецца, падымаючыся на 2--3 метры, іншы раз за вясковыя платы на Старой вуліцы, затапляе нізінныя лясы навокал вясковых палёў /алёсы/.

Зараз вёска Жахавічы -- мясцовая перыферыя ва ўсіх адносінах /нават у межах калгаса з новай назвай "Беларусь" з цэнтрам у в. Балай за 6 км ад гэтай вёскі/. Аснова сучаснай калектыўнай гаспадаркі вёскі -- значны статак рагатай жывёлы. Таму што найбольш істотным сельгасугоддзем вёскі з'яўляюцца не палі, а пашы і сенажаці /лугі па адным і па другім баку ракі і ў навакольных нізінных лясах/. Чарнобыльская забруджанасць вёскі і наваколля лічыцца не небяспечнай для жыцця. Мясцовыя жыхары адносяцца да гэтага зусім безуважна. Ніякай засцярогі ад радыяцыі не прытрымліваюцца, хаця ў асобных мясцінах каля вёскі яна, як быццам, досыць значная.

Наведвалася вёска навукоўцамі розных гуманітарных напрамкаў не адзін раз. Найбольш значныя звесткі і матэрыялы аб яе гаворцы былі сабраны па апытальніку "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы" /№ 849/, па апытальніку "Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа" /№ 395/, а таксама ў выніку палескіх

экспедыцыі пад кіраўніцтвам М.І.Талстога[3].

Асноўнай задачай нашай групы на час кароткага знаходжання ў Жахавічах было знаёмства са станам мясцовай гаворкі зараз, удакладненне і пашырэнне звестак па яе фанетыцы і марфалогіі ў межах апытальніка ДАБМ, а таксама апытальніка Лінгвістычнага мікраатласа Тураўшчыны. Але больш за ўсё ўвагі было аддадзена, як і намячалася, слоўніку гаворкі, а таксама фіксацыі на магнітафоне найбольш тыповага мясцовага дыялектнага маўлення. У артыкуле абагульняюцца вынікі праведзеных назіранняў і падаюцца найбольш цікавыя, на нашу думку, мясцовыя лексічныя рэгіяналізмы /з ліку адзначаных/. Змешчаны таксама выбраныя з магнітафонных і звычайных запісаў гаворкі найбольш паказальныя звязныя тэксты, якія ілюструюць мясцовае вясковае маўленне жыхароў старэйшага пакалення. Для зручнасці чытання тэксты і ўсе іншыя матэрыялы з гаворкі пададзены "арфаграфічнай" транскрыпцыяй.

За ўдзел у нашай працы ў якасці інфарматараў мы вельмі ўдзячныя Марфе Блічан, Васілю Харытонавічу Баброўніку /1928г./, Ганне Мікалаеўне Баброўнік /1931/, Вользе Якаўлеўне Баброўнік /1914 г./, Тацяне Харытонаўне Баброўнік, Надзеі Антонаўне Пазняк /1912 г./, Вользе Сафронаўне Рассошанка /1926 г./, Наталлі Стахаўне Рассошанка, Ткачу Ісаку Паўлавічу /1900 г./, Шахман Вікторыі Ісакаўне /1936/. А асабліва мы ўдзячныя гаспадарам, у якіх мы кватаравалі і якія аддавалі нашай справе ўвесь свой вольны час, -- Кацярыне Савелеўне /1931 г./ і Мікалаю Аляксеевічу /1921 г./ Баброўнікам. Прыязна сустрэлі нас і аказалі дапамогу ў правядзенні працы, у знаёмстве з мясцовымі жыхарамі загадчык вясковага клуба Клімчанка Мікалай Андрэевіч і былы дырэктар вясковай школы Ткач Андрэй Фёдаравіч.

Як ужо адзначалася, гаворка вёскі Жахавічы акаючая. У той жа час аканне ў ёй своеасаблівае. Па-першае, у канцавых адкрытых ненаціскных складах вымаўляецца /о/: та́то, дзе̑ло, ско̑лько. Але гэта не самае галоўнае ў спецыфіцы жахавіцкай гаворкі, паколькі адзначаная рыса характэрна значнай частцы гаворак паўднёва-заходняга дыялекта беларускай мовы /гл. ДАБМ, карта № 14/.

---

[3] Полесье /Лингвистика. Археология. Топонимика/. М.,1967; Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968; Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мінск, 1971.

Спецыфікай акання гаворкі з'яўляецца яго своеасаблівая "рыхласць". Ёсць пазіцыі ці выпадкі, дзе /а/ на месцы /о/ вымаўляецца выразна. Але часта на месцы ненаціскнога /о/ вымаўляецца "сярэдні" ці "прамежкавы" гук паміж /а/ і /о/, у адных выпадках ён бліжэй да /а/, у другіх — да /о/. Адзін і той жа чалавек у адных і тых словах вымаўляе гэты гук або бліжэй да /а/, або бліжэй да /о/. Калі ж папрасіць чалавека, каб ён паўтарыў слова, дык вымаўляе ён яго звычайна з /а/. Таму ў прыкладах і дыялектных тэкстах, якія прыведзены ў гэтым артыкуле, мы звычайна абазначалі гэты гук праз /а/. Каб выявіць заканамернасць вымаўлення варыянтаў гэтага гука, неабходна больш дэталёвае даследаванне гаворкі. У чарнавых запісах у разглядаемай пазіцыі траплялісся выпадкі напісання /а/, /о/, /а$^{о}$/, /о$^{а}$/: малажэйшы, мані́сто, ночо́вачкі, твая каза́, вêхаць, каро́бка, саўто́рыць, у Слобадзê, сасхне́цца, каро́мусел, восьмо́го, касе́, пом'яў, волоха́ты, очо́маўса і ачо́маўса, ажыве́ла, ве́чаром, ахвіцэроў, жывасілом, го$^{а}$ршчо́к, го$^{а}$ршкі, па$^{о}$ртные, адно́ і одно́, зоўсім, поўцека́лі і г.д.

Якание часта лічыцца разнавіднасцю акання. У той жа час гаворку в. Шахавічы мы не адносім да якаючых. Пасля мяккіх зычных у ненаціскным становішчы тут вымаўляецца /е/ або гук, блізкі да /е/. Аднак сітуацыя тут нагадвае становішча з ненаціскным /о/. Ненаціскны /е/ ў шахавіцкай гаворцы "рыхлы". Ён можа вымаўляцца, як /е/ "звычайны", як гук "сярэдні" паміж /е/ і /а/, а часам бліжэй да /а/. Прыводзім прыклады з чарнавых запісаў: німа́, нема́шэка, село́, сестра́, прывезе́, цяліцка, бер́эзнік, цябе́, земля́, пеская́р, Неме́шчына, паперо́чка, мене́, дзецей, се$^{я}$ло́, ме$^{я}$не́, уце$^{я}$клі, ве$^{я}$чо́ркі, него́да і г.д.

На месцы ѣ /а часам і ў іншых выпадках/ пад націскам вымаўляецца /е/ "закрыты" паслядоўна: вêхаць, дзêжка, ле̂с, хлêб, сêно, чмêль, насêкці, плêн, плêнны, шэ̂сьць. Вымаўляецца гэты гук, як /е$^{і}$/, радзей як /і$^{е}$/, вельмі рэдка як /е/ або /і/.

На месцы націскнога /о/ ў новых закрытых складах паслядоўна вымаўляецца /о/ "закрыты": кôнь, нôж, вôз, рôг, у тôм, кôп, глêк, Сôшкі /урочышча/. Можа ён вымаўляецца на месцы /о/ і ў іншых пазіцыях: пôлечку танцава́лі, пôльскіх, Пôльшча, двôхручны /пабочны націск/. Гэты гук вымаўляецца, як "сярэдні" паміж /о/ і /у/, у працэсе маўлення бывае бліжэйшы да першага ці дру-

гога.

На месцы /ы/ пасля губных зычных і /л/ пад націскам і ў ненаціскным становішчы вымаўляецца /у/ або радзей гук "сярэдні" паміж /у/ і /ы/: му́лі, каро́мусел, калува́ецца, муса́тне, в'язалі гу́жву, каб́ула, з лі́пу, пул, бу́йстра, гу́жву$^{ы}$, плу$^{ы}$ву́ць.

Галосны /ы/ пасля /р/ нярэдка вымаўляецца, як гук больш пярэдняга і больш нізкага ўтварэння, чым /ы/ ў літаратурнай мове: ри́ба, кари́то, мато́ри, пузыри́, шнури́.

Зычны /р/ цвёрды, аднак нярэдка ён вымаўляецца, як гук невелірызаваны /"паўмяккі"/, звычайна перад /е/, /и/: на гар'э́, бер'эзнік, бер'э́мак, гар'э̂лка, р'э̂чка, кур'эй, шар'э̂ш, р'и́ба, кар'и́то, правёр'ну́, шнур'и́, з бер'о́зы, упер'о́д.

Дзеканне-цеканне ў гаворцы в. Жахавічы паслядоўнае. Зычныя /дзь/, /ць/ звычайна вымаўляецца палатальна, праўда, без той некалькі "павышанай" свісцячасці, якая характэрна зычным /дзь/, /ць/ у гаворках паўночнага ўсходу Беларусі.

Звонкія зычныя на канцы слоў і ў сярэдзіне слоў перад глухімі зычнымі вымаўляюцца звонка: грыб, но̂ж, дуб, ло́жка, дзе̂жка, усе̂дка.

Адзначым яшчэ шэраг заўважаных намі больш дробных фанетычных асаблівасцей гаворкі.

Пераход бн > /мн/: дро̂мненько, дро̂мны.

Пераход дн > /нн/: анно́, аннаго́, тру́нны, на нні́ 'на дні', тры нні́ 'тры дні', на нно̂м ме̂сці, сінно́ 'усё адно', слабо́нны.

Пераход льн > /нн/: сі́нно 'сільна'.

Пераход з' > /дж/: хаджа́ін.

Пераход д' > дж > /ж/: ты́ждзэнь, малажэ́йшы.

Пераход ц' > /ч/: ваўкачэ́ча, чэ́шча.

Пераход ч > /ц/: целіцка, крыніцка.

Пераход цч > /шч/: Неме́шчына.

Пераход в > /й/: с'я́то.

Пераход дч > /шч/: самашэшчы.

Пераход м > /н/: санапрадка.

Пераход ч > /ш/: шастакол.

Пераход с > /ш/: шклюд, штрахоўка.

Пераход к > /г//: гароста.

Пераход ы > /у/ пасля /р/: паруш.

Пераход ф > /хв/, /х/, /хл/, /п/: ахвіцэрч, хвіранка,

херма, хунт, ціх 'тыф', шахва і шафа, штрап, цюхляк /параўн. руск. 'тюфяк'/.

Пераход е >/о/: стромка 'стрэмка', паперочка.

Пераход е >/у/: сунокаць.

Пераход у >/о/: ток 'тук, тлушч'.

Пераход ы >/а/: трамцець.

Пачатковае /са/ ў дзеяслоўных формах: саберу, саўторыць 'зробіць уторы ў бочцы', сасхнеціца, сасхнуціца, сацёр 'сцёр' спічку.

Цвёрдасць ці "паўмяккасць" зычных перад рэфлексамі галосных пярэдняга рада /асобныя выпадкі/: м'ед, валіхі, сарамацца, цьвордо, цьворды, сытнік.

Адпадзенне пачатковага /в/: аўчкі, восьмого і осьмого, ўгода 'выгода', упальваць 'выпальваць'. упісваць 'выпісваць', усоко 'высока', сёраўно 'усероўна'.

Адпадзенне /й/: акраз.

Адпадзенне /ць/: глупось, жысь.

Адсутнасць прыстаўнога /в/: угор, ум 'розум'.

Захаванне /г/ у слове тагды.

Кантамінацыя чавун + чыгун = чагун.

Марфалогія ў мясцовай гаворцы з'яўляецца тыпова ўсходнепалескай[4]. Варта толькі крыху раскрыць некаторыя вядомыя асаблівасці словазмянення.

У галіне марфалогіі назоўнікаў адзначым наяўнасць клічнай формы ад назоўнікаў жаночага роду на -а. Гэта форма, зразумела, вельмі натуральная ў першую чаргу ад уласных асабовых жаночых імёнаў на -а, а таксама асабовых назваў жаночага роду: Ідарко, Ніно, Надзе, Вале, Ганно, Каце, дочко, сестро, бабо, мамо, цётко, браціхо і г.д.

Звычайныя пры звароце падобныя формы ад назоўнікаў мужчынскага роду на -а: тато, дзядзько, Коле, Іванко, Андрэйко, старшыно і інш. Аднак формы на -о маюць гэтыя назоўнікі і ў назоўным склоне ў ролі дзейніка: Мой тато прыехаў. А дзе той дзядзько? Праўда, пры зваротнай форме старшыно форма назоўнага склону адзіночнага ліку — старшына: Наш старшына заеждаў.

---

[4] Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Мн., 1969. С.

Дарэчы, магчыма ў нейкай сувязі з ужываннем форм тыпу та́то, дзя́дзько ў назоўным склоне адзіночнага ліку трэба тлумачыць і форму бу́сько 'бусел', характэрную для гаворак усходняга Палесся, і падобныя формы назоўнага склону адзіночнага ліку іншых назоўнікаў мужчынскага роду на -а /Сашко́, Петро́, можа нават і Днепро́/.

Адзначаныя клічныя формы ад назоўнікаў жаночага роду на -а з'яўляюцца агульнавядомымі ў гаворках усходняга Палесся. Аднак дакладны арэал іх не высветлены яшчэ.

Матэрыялы ДАБМ сведчаць, што ў творным склоне адзіночнага ліку назоўнікі жаночага роду на -а маюць у мясцовых гаворках паўднёвага захаду Беларусі, і асабліва ўсходняга Палесся, пераважна так званы поўны канчатак -ою /-аю/, -ею. Пераважае ён і ў гаворцы в. Жахавічы: смало́ю, пад сцено́ю, за ха́таю, пад геро́ю, за рэко́ю, шчо́ткаю, сокэраю, папліскаю, пражкаю, мукою, параю, галавою, мусаю, межэю, шашэю, з душэю, с кашэю, сажэю, зь земле́ю, з Манею, с кудзелею, жменею, жызьнею, пешнею, простынею і г.д.

Адзначаны ў падобных умовах і кароткі канчатак -ой /-ай/: граб'ёнкай, ло́жкай, старшыно́й, Тэ́клей.

Але трапіліся прыклады ўжывання падобных формаў у творным склоне адзіночнага ліку ад назоўнікаў жаночага роду з асновай на зычны ў назоўным склоне адзіночнага ліку: сме́рцею, з ра́дасцею, с хітрасцею, з ула́сцею. На жаль, звернута ўвага на гэта была не пры назіранні над гаворкай, калі можна было б прыглядзецца да гэтай з'явы асабліва, а пры аналізе сабраных матэрыялаў.

Многія назоўнікі жаночага роду на -а з націскам у склонавых формах адзіночнага ліку на канцавым галосным маюць у вінавальным склоне адзіночнага ліку форму з націскам на аснове: ко́су мантуеш, покупа́еш зе́млю, набіра́е во́ду, упо́ўз у ко́пу, саджа́ла ру́ку, сена на зі́му, па тва́ю ду́шу, пад го́ру, на во́йну, зі́му, у рэку, о́бразну, го́лову /і го́лоў/ і інш.

Але -- узя́ў пілу́, ба́чу сестру́, дачку́, сосну́, траву́, муку́, метлу́, куццю́, свінню́, дугу́, межу́, пчалу́.

Паслядоўна захоўваецца ў гаворцы паўднёва-заходняя дыялектная, у тым ліку і ўсходнепалеская асаблівасць -- канчатак -а ў назоўнікаў ніякага роду ў назоўным склоне множнага ліку:

гу́мна, во́кна, сёла, ве́дра, дзэрава́, памо́тна, свя́та, се́лішча, сцёкла, ве́сла, болота́ і г.д. Да гэтага раду больш-менш вядомых прыкладаў на гэту асаблівасць варта дадаць такія, як веселля́, зелля́, вулля́, паля́.

Захоўваецца ў гаворцы характэрная паўднёва-заходняя дыялектная асаблівасць — канчаткі -ом, -ох пад націскам у назоўнікаў мужчынскага роду з цвёрдай асновай адпаведна ў давальным і месным склонах множнага ліку: брато́м, па дваро́х і г.д. /праўда, непаслядоўна/. Але насуперак аканню адзначаны прыклады з выразным вымаўленнем такіх канчаткаў у падобных назоўніках і не пад націскам: занесі́ мушчы́ном, мушчы́ном раска́зую, к парціза́ном.

У творным склоне адзіночнага ліку назоўнікі мужчынскага і ніякага роду выступаюць з канчаткам -ом пры цвёрдай аснове, у тым ліку адначасова з -ум і не пад націскам насуперак аканню, і з канчаткам -ем /-эм/ пры мяккай аснове: дро́том, во́ском, матро́сом, му́жом, ву́тром, м'я́сом, рэ́шэтом, столо́м, воло́м і г.д. Але — коне́м, руж'е́м, грэ́бенем, карэ́ннем.

У творным склоне множнага ліку назоўнікі маюць звычайна канчатак -амі. Але некаторыя назоўнікі выступаюць з канчаткамі -мі і -ыма: коньмі́, саньмі́, дзецьмі́, вушы́ма, вачы́ма, плечы́ма, грудзі́ма і нават пчалы́ма.

У прыметнікаў у гаворцы адзначаюцца асаблівыя, характэрныя для ўсходнепалескіх гаворак формы ў назоўным склоне адзіночнага ліку.

Канчатак прыметнікаў у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду — бясспрэчны і выразны галосны -ы /-і/ і -у ў становішчы пасля губных зычных. Асабліва не выклікае гэта сумненняў, калі на канчатак прыпадае націск: стары́, малады́, бараву́ і г.д. Аднак пры адсутнасці націску пасля галоснага канчатка чуецца іншы раз як бы працяг яго ў выглядзе кароткага гука й. Асабліва прыкметны ён пасля канчатка ў выглядзе -у, што абумоўлена, відаць, большай кантраснасцю гэтага й у спалучэнні з у, чымся з ы /і/.

У назоўным склоне адзіночнага ліку жаночага роду прыметнікі маюць паслядоўна канчатак -а як пад націскам, так і ў ненаціскным становішчы: така́ харч, мука́ така́ м'якка́, падо́ўжна піла́, гара́ча з'емля́, дачка́ мая́ селядо́рша, здаро́ва ека́, слабо́дна цэна́, пешча́на земля́, сі́ня вало́шка, дупләва́та, лету́ча муш,

харо́ша, бу́йстра, хі́тра кобу́ла, ска́церка палатня́на, ла́дашна дзе́дка, не́ка часъ, кобу́ла сі́ва, вода велі́ка була́, крыклі́ва дачка́ була́ і інш.

Назіраўся іншы раз і канчатак -ая. Аднак цяжка сказаць зараз, што гэта -- мясцовая асаблівасць, ці пазадыялектная з'ява таго ці іншага паходжання.

Аднак незвычайна тое, што падобны двухскладовы канчатак -ее /-эе, -ае/ маюць прыметнікі ў назоўным склоне адзіночнага ліку ніякага роду: ра́знэе, друге́е, такее урэ́м'е, чо́рнэе, вугнуотэе, усе́ тако́е дакла́днэе, бе́днэе, малэ́е, а тэе наза́д, пара́ся малéнькее, дзе́рэво до́ўгае, кру́глае, бу́йнэе да́лей лецінь, мелкае тэ, дзіця́ груднэе і г.д.

Назіраюцца таксама выпадкі ўжывання аднаскладовага канчатка -е /-э/ тыпу: малако́ топленэ, сало́дке се́м'е, ено́ м'якеньке, тэ мало́дзіво, пустэ́, як гэ бу́йнэ і інш.

У дзеясловаў мае адметнасць формаўтварэнне ў першай асобе множнага ліку абвеснага ладу. Дзеясловы першага спражэння з асновай на цвёрды зычны ў першай асобе адзіночнага ліку ў першай асобе множнага ліку маюць канчатак -ом і захоўваюць яго якасць: ідо̂м, несо̂м, везо̂м, беро̂м, уцеко̂м, пеко̂м, запраго̂м, насеко̂м, скрабо̂м, прадо̂м, плето̂м, тко̂м, таўко̂м і г.д. Канчатак -ом з выразным гукам /о/ вымаўляецца насуперак аканню і не пад націскам: кіном, сохном, будом, паедом, возьмом, прыдом, кажом і інш.

Але найбольш цікава тое, што канчатак -ом выступае ў мясцовай гаворцы паслядоўна не пад націскам і ў становішчы пасля мяккіх зычных: ву́ллём, ву́п'ём, атца́джваём, помеша́ём, называ́ём, се́ём, по́лём, пабіва́ём, пасце́лём, назбіра́ём, абдзіра́ём, накру́чваём, здыма́ём, шыём, ме́лём, саджа́ём, памяня́ём і г.д. Пад націскам -- абаллём, снуём, п'ём, даём і інш.

У сінтаксісе гаворкі прыцягнулі ўвагу некаторыя своеасаблівыя спалучэнні слоў, а таксама выразы.

Ці даўно́ буў /і зноў тут/. Ці мала даваў я ім. Ці малень ты ўжэ. Ва ўсіх гэтых выпадках часціца ці праз пытальна-ўзмацняльную інтанацыю выступае як бы адмоўем пры слове /у выразе/.

Адно на дном /іх/ пахо́вано. Што іх нане́сено /пра каларадскіх жукоў/. У іншых гаворках гэтым сказам з дзеепрыметнікамі ў якасці выказніка адпавядаюць звычайна сказы з формамі прош-

лага часу дзеясловаў /Адно на адном іх пахавалі. Што іх панясліі!/.

За етым не хочуць раджа́ць. Я за етым прада́ў /коня/, што не напраўля́ецца. Тут выраз за етым указвае на прычыну, адпавядае выразам з-за гэтага, пагэтаму.

Палоска ву́зка, только аб каню́. У гэтым сказе выраз аб каню азначае меру шырыні палоскі /як каню прайсці/.

Да таго пчолы стаяць, пака тое дзерэво не ўсохне. Тут выраз да таго...пака мае значэнне часавай мяжы /мяжы працэсу існавання/.

К месяцу пралі мы кудзелю. Выраз к месяцу мае тут значэнне ўмовы /пры месяцы/.

Занатаваны некалькі малавядомых, але досыць цікавых прымавак і іншых устойлівых выразаў: Двор плачэ без хазяіна, хата -- без хазяйкі. І пірагоў жаль, і гасцей сорам. Хто з езычком, той з піражком. Як цюк, так і дзецюк. Дзе горачэ, там і болечэ. Крупіна крупіну наганяе, а слеза слезу не мінае. Босы чалавек сабацы таварыш. На Барыса сам себе сцеражыся /не рабі, не жні і г.д./.Земля любіць пот. Прапаў, як сабака на ярмалцы. Не гаворыць, а лістом сцеле. Я падушкі не жалею для каровы.

З лексікі гаворкі

Пры назіранні над мясцовай гаворкай найбольш увагі было адддадзена яе слоўніку. Натаваліся словы ў час звычайных размоў з мясцовымі жыхарамі пра іх жыццё і справы, а таксама пры гутарках з імі па апытальніках /апытальнік лексічнага атласа беларускіх гаворак, мікраатласа Тураўшчыны і інш./. Сабраныя словы падаюцца дзвюма алфавітнымі падборкамі.

Першая падборка з'яўляецца слоўнікам слоў, якія ў адносінах да слоўніка літаратурнай мовы па розных адзнаках можна разглядаць, як рэгіяналізмы. Гэтыя словы забяспечаны тлумачэннем іх значэння і нярэдка ілюстрацыяй на ўжыванне.

У наступную падборку ўключаны мясцовыя словы, якія ёсць і ў літаратурнай мове і выступаюць у ёй у тым жа значэнні, што і ў гаворцы. Яны натуральна толькі пералічваюцца ядно за адным у радок без тлумачэнняў і памет. Толькі пасля некаторых з падобных словаў, якія выступаюць у досыць асаблівым мясцовым фанетычным выглядзе, падаецца ў дужках іх літаратурны адпаведнік.

Лексічная частка завяршаецца алфавітнай падборкай анамастыкі з тлумачэннямі.

АБАПІ́НЕНКА ж. Хустка, якой абкрываюцца. Абапіненка ў цвяты, іх було у лаўцы, што гразі.

АБАРВА́ЦЬ зак. Пакусаць, парваць. Тамака вас сабакі не абарвалі?

АБАУ́ЛШЬ зак. Абвянуць, страціць самавалоданне. Цётово хлопец ёхаў машынкаю малой, чуць-чуць на капо́т лось не ўлёз, хлопец спужаўса, абаўяў, як памінаваў тое место.

АБВЁРТВАЦЬ незак. Абгортваць. Панато́ўкваюць сем'я, у палатняну трапку абвёртваюць /і прыкладаюць да болькі/.

АБВІ́ЎКА ж. Трэцяя столка у аборцы /вяроўцы/, звітай з двух столак, якой яе абвіваюць.

АБДЗІ́РКАВУЙ прым. З абдзірак, адыходаў валакна пры часанні. Просцілкі ткалі з абдзіркаваго палатна.

АБДЗІ́РКІ мн. Адыходы валакна пры часанні на грэбень.

АБДЫМА́ЦЬ незак. метаф. Акружаць. Стагі абдымае вада.

АБЕ́ЧКЮ н. Абечак у рэшаце, у сіце.

АБЗАДА́ЧЫЦЬ зак. Даць задатак. Я сабе ў Мазыры́ абзадачыў дом.

АБЛА́ВА ж. перан. Мноства, як пры аблаве, людзей. Дзікіх свіней цэла аблава!

АБЛЕГА́ЦЬ незак. Вянуць і абвісаць. Ста́ло аблегаць, вянуць ўжэ /пра лісты на гарбузах у час спякоты/.

АБЛЯ́К м. Плотка /буйная/.

АБО́РКА ж. Тонкая вяроўка. Аборкаю кудзелю прыўязвалі да прасніцы.

АБРО́ШЧАНЫ прым. Аброслы.

АБСЛУ́ГА ж. Працаўнікі па абслугоўванні. Забралі ў армію, у абслугу госпіталя палевого.

АБЦЯГА́ЦЬ незак. Абыходзіць наўкола /цягнучыся/. Старуха із ракі знходзіць, абцяга́е кругом /сухадол/.

АВА́Д м. Авадзень. От авади́ пакусалі!

АГЕ часц. Але, так.

АДБІВА́ЦЬ незак. Адзначаць лінію распілоўвання. Шнур адбіваць дзерава.

АДГАРАВА́ЦЬ зак. Адпрацаваць.

АДЗЁНАК м. Паддон пад стог. На адзёнка складвае стажка.

АДНЕ́НЬКІ, АННЕ́НЬКІ прым. Аднюткі. Наша свіння ідзе дадому адна-адненька. Анна я анненька, куды ж мне іці?

АДНА́КІ, АННА́КІ прым. Аднолькавы.

АДНА́КО, АННА́КО прысл. Аднолькава. Ето аднако, ці атварог, ці сыр.

АДНА́КОВУЙ, АННА́КОВУЙ прым. Аднолькавы. Годы у нас аднаковуе.

АДУВА́ЦЦА незак. Уздзімацца і адставаць. Вапны плохо для печы, адуваецца.

АЖЫВЕ́ЦЬ зак. Ажыць, аджыць. Рыба ета ажывела і пашла зноў /пасля замору/.

АЗІ́РВАЦЦА незак. Азірацца. Надзя пашла і не азірваецца.

АЙСЬ выкл. Выгук пры адгоне свіней.

АКРА́З прысл. Якраз. Акраз трэба шчэ й упасці.

АЛА́ДКА ж. Блін, печыва на ўсю скавараду.

АЛЕ́ЙНІЦА ж. Станок для выціскання алею. Алеі білі, лейніцы булі.

АЛЕ́ШЧЫНА ж. Адна вольха.

АЛЁС м. Нізінны лес. Чэрэпахі ў альсах. У альсе мокро, бульнік.

АММАРО́КА ж. Абмарачэнне. Амарока сільна ў голаве, вулічкі без палкі не перайду.

АНІГО́ДНЫ прым. Ніадзін, ніводны. Аніоднаго чалавêка не було.

АНІКУДЫ́ прысл. Зусім не ў нармальным стане. Сёння людзі анікуды, ідуць моўчкі, нема вясёласці.

АННО́ н. Тое ж самае. Ето анно, што кірмаш, што я́рмалка.

АПА́ТРЫЦЬ зак. Агледзець, выгледзець. Цыганы апатрылі і ўкралі грошы.

АПО́ЎЗНІК м. Апоўзіны, галіны для абкладвання вяршыні стога. Апоўзнік на стог клалі, стога завершалі.

АПРО́Ч прыназ. Апрача. Апроч іх другая брыгада е.

АСАЛО́ДАЦЬ незак. Зрабіцца салодкім. Кулагу рабілі: цесто асалодае да ўкуснэ.

АСІ́ПНУЦЬ зак. Страціць голас. Асіп, напіўса вады халоннай.

АСО́БЕННО прысл. Асабліва. Пражыла, не бачыла дабра, асобенно як малые дзеці засталіса.

АСО́Т м. Вадзяны разак. Асот расце ў далінах, свінням дава-

лі.

АСТАЦЦА зак. Застацца. Асталіса мне вуха да капута, а ўсё аддала ім.

АСТРАПЕЦЬ зак. Аслупянець.

АТАТУЛЬ, АТТАТУЛЬ прысл. Вось адтуль. Ататуль буў у яе хлопец, з Бёлае. Можа хто аттатуль прыехаў?

АТАЦЕРЦІ зак. Адцерці.

АТВОДЗІСТЫ прым. Павольны, плаўны. Разгавор у нас атрывісты і громкі, а ў Косцюковічах атводзісты.

АТКРЫЯЦЬ зак. Акрыяць. Аткрыяў крыху.

АТМАНЧВАЦЦА незак. Адмаўляцца ўсімі спосабамі.

АТМАЯЦЬ зак. Адмаяць. Баба са стога ўпала, але атмаялі.

АТМЕЛІСТЫ прым. Палогі, нізкі /пра бераг ракі/.

АТРУЕНЫ прым. Атручаны.

АТСТАРАНІЦЦА зак. Адхіліцца, адвярнуцца ўбок. Куды ні павярніса, крычаць — атстараніса.

АТСТРАЧЫЦЬ зак. Адтэрмінаваць. На пяць дней атстрачылі яму ў армію ісці.

АУЧКІ мн. Расліна ваўчкі.

АЦЁ выкл. Выгук пры адгоне свіней.

АЦУРАЦЦА зак. Адмовіцца зусім. Ацураўса дзіцяці. Ацуралаunion я сотак, сілы не маю на іх.

АЦУРВАЦЦА незак. Адмаўляцца зусім. Ацурвацца карову трэба, кажэ мой хазяін.

АЧОМАЦЦА зак. Ачухацца. Ачомаўса — паздаравêў.

АЧУМАРЫЦЬ зак. Ачмурэць. От галава баліць, палола, палола і ачумарыла.

БАБКА ж. І. Ёрш. Бабкі пукнаценькіе. 2. Бабка для кляпання. 3. Отраказа. 4. Абабак.

БАБКАВАТЫ прым. Стары на выгляд.

БАГАТО прысл. Шмат, многа. Багато гадоў у лесе не була.

БАГАЦЬКЮ прысл. Шмат, многа. Там так не багацько сêна.

БАГВЁД, БАГВЁДЗЬ часц. Бог ведае. Багвêд што було, спевалі, танцавалі. Гаравалі багвêдзь як.

БАЛЮ прысл. Бывала, калісь. Бало варыла кашу ў гөрачыку.

БАЛОННЕ н. Луг перад вёскай. Чапля прылецела, у балонні седзіць.

БАЛТУНЯЦЦА незак. Боўтацца, бадзяжнічаць. І балтуняўся я

па Саюзу.

БАЛЯЧЭ прысл. Балюча. Дзе гарачэ, там балячэ.

БАРАБАНЬ м. Бубен.

БАРАН м. Гэблік.

БАРДЖЭЙ прысл. Хутчэй.

БАРЫЛО н. Невялікая пасудзіна з клёпак для вады, гарэлкі. Барыло дваццаць пляшок.

БЕЖКІ прысл. Бягом. Ні бежкі, ні пешкі.

БЕЗГАЛОЎНЫ прым. Не кампетэнтны, не здатны да разумення. Безгалоўна ўлась стала.

БЕЗДУШНЫ прым. Які не мае бяссмертнай душы. Жукі бездушны, ены заміраюць усё на зіму.

БЕЗУСВЕТНЫ прым. Несусветны, небывалы, жудасны. Безусветная вайна!

БЕЙДЗІК м. Рыба пячкур.

БЕЛІЗНА ж. Рыба жэрах, бялізна.

БЕРАГ м. Месца на беразе ракі, дзе складвалі лес для сплаву. Коньмі вазілі у берег.

БЕРАЛОЗ м. Від лазнякоў. Бералоз белаваты, жаўтаваты, а лаза зелёна.

БЕРАСЦІНА ж. Дрэва бераст, лём, вяз.

БЕРАСЦЯНКА ж. Пасудзіна з бяросты на ягады.

БЕСКРЭЎНЫ прым. Бессардэчны, бязлітасны.

БЕСПРАЛІЎНЫ прым. Бесперапынны. Дожч ліў бесправіўны.

БЛАТЫНЯЦЦА незак. Сноўдацца без справы.

БЛЁХАЦЬ незак. Хадзіць па вадзе з плёсканнем.

БОЙЛО н. Бойка. Прыдуць на вечоркі хлопцы -- і бойло!

БОРТНІК м. Пчаляр. Бортнік, надзеры мне меду.

БОХАЦЬ незак. Бабахаць. Малаткі паберуць дзеці да бохаюць.

БРАЦЦА незак. Жаніцца. Яны як браліса, я сільно не хацела, штоб ён ее браў.

БРОДЗІЦЬ незак. Хадзіць па залітым вадой лузе, полі. Бродзілі по водзе, а інши год сухо.

БРУСЦІ незак. Ісці праз перашкоду з вадой /даліну, канаву і інш./.

БРЫЖ м. Камінак. На брыжах клалі мыша. На брыжах пачынкі сохнуць.

БРЫКНУЦЬ зак. Брыкнуцца, памерці. Будзе піць, пака не

брыкне.

БУ злучн. Нібы. Туман, бу дым.

БУДЛО н. Быдлячына. Нап'ецца да будлом дзелаецца.

БУЙСТРЫ прым. Быстры, хуткі. Буйстры конь — не дагнаць.

БУЛЬБАЛАЧКА ж. Бурбалка. Відно, дзе крыніцка, бульбалачкі ідуць.

БУРЧАК м. Ручай /веснавы, пасля дажджу, крынічны/, пратока. З лесу бегуць бурчакі. Паеду тым бурчаком.

БУР'ЯН м. Вялікі вецер, бура. Град буў, бур'ян такі, усе пглажыло.

БУСЬКО м. Бусел. Буські на дубох кублы робілі. Як буська дзіця скіне, то трудны год, як ейцэ — добры. За ейцэ купіш хлеб, а за дзіця не купіш.

БУСЛЕНЯТКО н. Буслянятка. Дзеткі, побачце, кого скінуў бусько: ейцэ ці бусленятко?

БУХАЦЬ незак. Гулка стукаць. Чулі, як сын бухаў у дзверы?

БУЦЕЛЬ ж. Бутля.

ВАЖКО прысл. Цяжка.

ВАЗАЧ м. Вазак.

ВАЛАХАТЫ прым. Калматы, зарослы валасамі.

ВАЛОМ прысл. Навалам, шмат. У магазіні валом було кацюшак чорных. А рыба йшла валом, сетку не вукаціць.

ВАЛЯЦЬ незак. Валіць, рабіць павал. Лес валяй да вазі.

ВАРОТНІЦА ж. Падваротніца.

ВАРТ прым. Варты, годны, прыгодны. Іці не варт чалавек. Мы не вартые ўжэ каровы дзержаць.

ВАРУХАЦЦА незак. Варушыцца. Як я варухаюса, то шчэ жыць можно.

ВАУКАЧЭЧА ж. Ваўкі /мноства/.

ВЕЛІЧАК м. Даўгунец /пра лён/.

ВЕРБНІК м. Вербалоз. Лозу, вербнік дралі.

ВЕСЕЛУХА ж. Вясёлка, радуга. Веселуха набірае воду, усяка нітачка у ей, і зелёна, і красна; як красненька, то набірае пагоду, а як зелёна — набірае негоду.

ВЕСЦІСА незак. Сябраваць, гуляць. Даўно ўжэ ведзецца з другім чалавекам.

ВЕЧКА ж. Авечка. Вечкі дзержалі.

ВЕШНІЦА ж. Правулак. Вешніца, дзе кароў на балонне ганяюць.

Ёгай вешніцай ідзіце на бераг.

ВІД м. Твар.

ВІЛКІ мн. Вілы. Іс праку веку ў нас дзераўяные вілкі.

ВОБЛІЎ ж. Абліваха. Вобліў як дала, скоўзко так стало.

ВОЖКІ мн. Лейцы.

ВОЙРА ж. Танец. Парэчаньку, войру, каханачку танцавалі.

ВОНЬ, ВОНЯ часц. Вунь. Весло вонь ляжыць.

ВОРАХ м. Куча, груд. Ворах еды. Ворах буракоў.

ВОТО-О часц. Вось. Вото-о дарога.

ВОХРАПАМ прысл. Нахрапам.

ВОЦЕТО прысл. Вось гэта, вось толькі, вось тут. Рушнікі воцето такее ткалі. Воцето пом'ёр мой брат.

ВОШЫ мн. Зерняты у плодзе шыпшыны.

ВУГАІЦЦА зак. Стаць здаровым пасля знікнення балячкі, зарастання раны. Зашылі шкуру на чэраве, да вугаіўса конь /чэрава распароў каню дзікі кабан/.

ВУГЛЯДЗЕЦЬ зак. Убачыць у выніку назірання. Вугледзела, ена на двôр пашла.

ВУДАЦЬ зак. Падацца, памроіцца. Мне вудало, што я каго-то б'ю.

ВУДЗЕРЖАЦЬ зак. Вытрымаць. Малады да шчэ вудзержаў.

ВУДРАПАЦЦА зак. Выбрацца, пралрацца.

ВУНЁ-ОНЬ часц. Вунь. Вунё-онь ены стаяць.

ВУПЛАДЗІЦЦА зак. Вывесціся. Столькі за лёто вупладзіцца жукôў!

ВУРВАЦЬ зак. Адарваць. Вурву табе яблочка, падажджы.

ВУСКАРКІ мн. Шкваркі.

ВУСКЛОБАЦЬ зак. Вычасаць, выдзяўбці часлою /склобкай/. Вусклобаў човен.

ВУСЦІНКА ж. Уваход для рыбы у жаку.

ВУТВА ж. Дзікая качка-крыжанка.

ВУХВАЦЕНЬ м. Хапуга. Такі вухвацень ён буў.

ВУХО н. 1. Вуха. За вушыма напухло. 2. Ручка у пасудзіне з гліны. З вухом глêк. Карэц дзераўяны з вухом. 3. Гнязло для закладкі рэбраў у кошыку. 4. Ручка ў цэбры.

ВУЧАВІЦЬ зак. Выдавіць.

ВУШВУРГАЦЬ, ВУШМІРГАЦЬ зак. Вышмаргаць, вышараваць. Комінпраміх, як вецер, вушвургае сажу на прыпечак.

ГАВО́РКА ж. Гаварэнне. Хутко гаворыць, не можно его гаворкі паняць.

ГАДА́ЦЬ незак. Узгадваць. Працiўно гаварыць і гадаць пра яго.

ГАДЗІ́ЧНЫ прым. Гадавы. Не свежае, гадзічнае сало.

ГАДЗЯ́ШЧЫ прым. Добры, даладны, прыгодны. Гадзяшчых нема, можа добраго не раддаецца?

ГАЙТА́Й м. Той, хто правіць канём у возе. Без гайтая кôнь ехаў, без вôжчыка, сам знае кôнь, куды ехаць.

ҐАЛАҐУЦКІ прым. Завацкі. Ґалаґуцкі певень.

ГАЛАСНЫ́ прым. Галасісты. Рог галасны.

ҐАЛДУН м. І. Галушка. 2. Нешта накшталт галушкі. Ґалдун такі, як атцвіце мо́мел.

ГАРА́ ж. Гарышча.

ГАРАПА́ШНЫ прым. Працавіты. Нашы Жахаўцы -- гарапашныя людзі булі.

ГА́РКАЦЦА незак. Лаяцца адзін з адным злосна. Не вартые мы то гаркаемса.

ГАРО́ЎЛЯ ж. Цяжкая праца. Якая гароўля була, які труд вялікі — ткаць ручнікі.

ГЕ́БЕЛЬ м. Гэблік без ручак і з двума ручкамі.

ГІ́ДКІ прым. Агідны.

ГІЧ м. Сцябла расліп. Раз нема гічу́, не будзе картопляў.

ГІЧЫ́НА ж. Асобная сцябліна расліны.

ГЛАДЫ́Ш м. Гладышка. Гладышы памула.

ГЛЕЎКІ прым. Вязкі, глеепадобны. Глеўкі, недапечаны хлеб, за зубамі дзержыцца.

ГЛІ́СНІК м. Пiжма.

ГЛУ́ПАСЬ ж. І. Глыбокая ноч. 2. Зарасці.

ГО́ДЗЕ прысл. Так. Так стала, дый годзе.

ГО́ЖЭ прысл. Гожа, прыгожа, добра. Не кажан скажэ, каб гожэ було.

ГО́ПАЦЬ незак. Біць аб бераг. Вална гопае.

ГРА́ЗКО прысл. Гразна.

ГРУД м. Сухадол, узвышаная мясціна. Гру́да ніяк не касіў, згарэло.

ГУ́ЖВА ж. Жгуты з лазовых галін для вязання лесу ў плыты.

ДАБРЭ́ННЫ прым. Вельмі добры. Свякруха сільна дабрэнна.

ДАЛА́ДНЫ прым. Дастасаваны да месца, да ўжытку. Усе такее даладнэ, гожэе.

ДАЛЕ́КАВЫ прым. Далекаваты. Далекава ўнучка -- дваюраднага брата.

ДАЛО́НКА ж. Далонь. У далонку го́лка ўвашла.

ДАПРЫЗЫ́ЎНІК м. перан. Кактус, які цвіце вясною і восенню /калі прызываюць у армію/.

ДАРАЖНЕ́ЧА ж. Дарагоўля. Даражнеча зараз такая!

ДАРАЗУМЕ̂ЦЦА зак. Дадумацца, скеміць. Я даразуме̂ўса, што яму сказаць.

ДАСТАЧА́ЦЬ незак. Дастаўляць. Мо ў горад дзе што дастачаюць.

ДАЎНЕ̂ЙШЫ прым. Ранейшы. Узела́ даўнейшага хлеба.

ДА́ЎНІ прым. Стары, ранейшы. Той, тожэ даўні чалаве̂к, стары.

ДАЧЧЫНЫ́ прым. Даччын. Унукі прыежджалі даччыные.

ДВО́ЙКО н. Двое. Двойко дзеток.

ДЗЕНЯ́ШНІ прым. Дзённы. Дзеняшне малако.

ДЗЕ́РАВО н. Дрэва.

ДЗЕРАЎЯ́НЫ прым. Драўляны. Ведро дзераўянэе.

ДЗЕРЖА́К м. Вілачнік.

ДЗЕРЖА́ЦЬ незак. Трымаць. У селе трэба што яке дзержаць.

ДЗЕЦЮЧО́К м. Хлопец. О хароша, дзецючок, драцьвіна.

ДЗЕ́ШАВО прысл. Танна. Хай бу меней грошай да ўсё дешаво було.

ДЗІВАВА́ЦЦА незак. Глядзець, прыглядвацца. Яны ўсе дзіву́юцца, як там маль маці.

ДЗІЦЯ́ТКО н. Дзіця. Родзілосо дзіцятко нежывэе. У ее з маім сыном дзі́цятко.

ДЗЯДЗЮ́ХНО м. Дзядзька.

ДЗЯ́ННА ж. Жонка дзядзькі.

ДОЛ м. Далоўка, самы ніз. На до́лі ста́ўлялі ву́лі. Ён долі стаіць.

ДО́ЎБАНЫ прым. Выдзяўбаны. І доўбаныя бочкі булі.

ДРО̂ЙКА ж. Першацёлка.

ДУБОУЕ́ н. зборн. Дуб'е. Хле̂б пеклі з дубоўя лісты бралі.

ДУХАЧЫЦЦА незак. Зазнавацца, ганарыцца. Ены і духачацца, што чалаве́ка прымаюць.

ДУША́ ж. 1. Асоба. Сваей душэй у горадзе пражыў. 2. Унутраная існасць. Пчала з душэю /а ўсе іншыя насякомыя без душы, бо

яны гінуць на зіму/.

ÊДКІ прым. Кусліва. Такіе êдкіе сабакі -- усêногі паабрываюць.

ÊРНІК м. Аір, плюшчай. Êрнік -- пахучы. Êрніку панарываём га едôм.

ЖА́БІКІ мн. Неядомыя грыбы.

ЖА́БУР м. Жабер. Жабур на вадзе такі, бу коўдра.

ЖАВА́КА ж. Жвачка. Карова жаваку загубіла. Лутка́ прывязваюць да галавы і ў рот, каб жавала. Як жавакі не жавацьме карова, то не жыцьме худобіна.

ЖА́ЛАБШЧЫЦА ж. Журботніца. Ах ты мая жалабшчыца, кожны дзень ходзіш на кладбішча, выеш.

ЖАЛЯЗЯ́ЦТВО н. Жалеззе. Прыязджалі з Маскву, наймалі хлапчакоў, даставалі чарэп'е, жалязяцтва.

ЖВА́КАЦЬ, ЖМА́КАЦЬ незак. Жаваць. І зелле карова жвакае. Карова зелле жмакае.

ЖДАЦЬ незак. Чакаць.

ЖМÔДЗЬ ж. Машкара.

ЖНІ́ВА мн. Жніво. У жніва прышлі.

ЖО́ЛУД м. Жалуды. Калісь жолуд елі, сухі жолуд у чыгун, разапрэе, аццадзіцца, патаўчэш, падмешваецца ў хлêб.

ЖО́РВАНЫ мн. Жорны. Жорваны былі з дзерава, з дубоваго.

ЖЫ́ЖКА ж. Жыгучка-крапіва. Жыжка -- катора печэцца.

ЗАВÊСІЦЦА зак. Павесіцца.

ЗА́ВІЦА ж. Залвіца, залоўка /сястра мужа/.

ЗАГА́РЛІВЫ прым. Заўзяты. Така загарліва ваша хазяйка, дайжэ й цепер дзесяць баразён буракоў узяла.

ЗАГІ́НУЦЬ зак. Заблудзіцца, прапасці, знікнуць. Загіне карова -- стане пастух трубіць -- карова на голас ідзе.

ЗА́ГЛУШ ж. Глухмень. Там заглуш крэпка.

ЗАГРО́БА ж. Глухая затока ракі.

ЗАГУ́КАЦЦА зак. Пачаць праяўляць стан цечкі /пра свінню/.

ЗАДУ́ЖО прым. Занадта. Задужо ужэ печэ̂.

ЗАДУ́ХА ж. Задышка. Задуха на цебе напада.

ЗАІКМА́ТЫ прым. Заіклівы. Буваюць у раду́ такіе заікматые.

ЗА́ЙВЫ прым. Вольны, не заняты. У каго зайва кварціра, там вучылі.

ЗАЙСЦІ́СА зак. Зайсціса на смерць. Прыйсці /дайсці/ да смер-

/санях/ два дубу, а кôнь саскóчыў на тальню, а я як крыкнуў, а ён як хваціў, дак пераламаўса абáрак. А ён па зямлі як лінь паêхаў... І не стаў папраўляцца, дак за етым прадаў. Ну і я так не перэкладаў, не дагружаў. І буў у мене сêм гадóў. І хітры буў. Простаго, дак не паймаеш, не лавіўса. Дак ёхаў цыган. Кабула сíва ў аглоблях. Кажэ: "Давай паменяём!" Я гавару: "Давай". Его аддаў цыгану, а цыган даў кабулу. Дак тая кабула пабула у мене гóд. Ена сільно лёгкая була! Сабí ее -- па дзераву сераўно. А прыехаў з Барысавіч чалавêк. Кабыла, но да маладая. Дак я даў сто рублей прыдачы й вôз сêна увосень. І вуменяў. Ох, була хітра, хітра! От була разумна да разумна! Да недоўголêтня. Напралêт! Ходзіць у стадзі, да ўгледзіць цебе, дак травы не есць, да стаіць, ужэ пазірае на цеб. От красавіца була! Да й лёхка! Запражы ў вôз, да не садзіся зразу на калёсы, а зведзі з двара, тагды ўжэ й пабежыць. А то як сядзеш зразу на возý, дак як хваціць, дак панесе. Ну добрэ. Патôм купіў каня после ее зімою. Маладого. Худы. Маладзіца запусціла его бес харчы. Сташчыла. П'ятсот рублей аддаў. Я прышоў ее гледзець, а хазяін кажэ: "Я ўчоро ў Мазыр ездзіў". А я кажу: "Ты с ума сайшоў! Етые косці, а ты ў Мазыр імі êздзіў". Даў ему п'ятсот рублей. Папілі магарыч. Рêчка була так мéтроў тры. Я кажу: "Еслі ету рêчку перэскóчыць, дак паведу дадому, а як не перэскочыць, дак назад тагды у хлêў аддам. Я ўперод перепрыгнуў па кладцы, а ён перэскочыў. А сваячка була. Заўêў к тэй сваяцы. Страмлюса людзей. Што такі худы кôнь. Праўда, заêхаў к сваяцы, ена дала êсці ему. Пабуў, змеркло. Сêў я навèрх, прыўêў. Прыўêў, дак перэзімаваў. Я на веснê вупусціў, дак ужэ людзі -- этэ не той кôнь. Не пазнаюць. Гліва, хвост! Гліва на два бóкі. Красáвец! Разумны. У трыццаць чацвёртум гаду дзевятнаццатаго аўгуста урадзено. А я аддаў за его пяцьсот... А давалі поўтары тысечы. Калеснэй дарогай уêз сорак пудоў вêсу. І мух не баяўса. Стаіць, муха не сядзе. Як дзвіне, дак та... Но Бêлуй дзêд буў Лазар з Броева. Да купілі зéмлю. Патомство жыве і цепер там, ужэ ўнукі, ўжэ сыны памéрлі. Я жыў на тôм селішчэ, то ўнука таго там за бором сад. Я его заўêў на пашу. Ён просты, гледзêў коней. Прышоў дадому. Нада було пусціць у сад, ён бу цэлы і астаўса. Коней там хадзіло штук дваццаць п'яць. Я скінуў броць да пусціў проста, ён гледзêў коней, ад коней нікагда* не атха-

дзіў. А ён завернуўса да на мене паглядзеў, паглядзеў. На другі дзень усталі -- нема трое коней. Аднаго кабула була з Барысэвіч Козыра Івана, дванаццэць гадоў, а майму п'яць гадоў. І шчэ аднаго. Пытаём кацюкоўцаў, а ены кажуць: "Уночы ехало ўтрох на верхох". А ены заехалі ў Мозыр, а там еўгэй буў знакомуй. Буў у Паходні пограб, а ены /коней/ у той пограб. Суткі падзержалі у пограбі ў том Пахадном, да за ноч у Брагін дай папродалі. Свой злодзей і свой перэдаччык. Дак злодзей знакомуй. Ужэ пасля давёдаўса. Да кажэ: "Не сказалі, што твой конь, я не ўзяў бу". Его цепер дзве дачкі живо, а ён так і прапаў. Шыяўся, так і пагінуў. Я б, каа, не ўзяў. Але не сказалі, што твой конь. Воч што. Калхоз наш у трыццаць чацвертум увосень пастроіўса, дак я токо зброю, воза, плуга /аддаў/. А каня ўжэ не купляў.

Апавяданне Ткача Івана Паўлавіча
/транскрыпцыя з магнітафоннага запісу
А.А.Крывіцкага і Ф.Д.Клімчука/.

* Зорачкай адзначаны словы і выразы, якія да лексікона мясцовага дыялектнага маўлення не належаць і крыніцай якіх з'яўляецца пашыраны простамоўны вытворчы жаргон. Падаецца іх спіс у парадку ўжывання ў тэксце з каментарыямі да некаторых з іх: прастынею -- замест мясц. просцілкаю; тагда -- гл. ніжэй мясц. тагды /тады/; не паложэно -- руск. не положено; на вужын -- руск. на ужин, памылкова замест мясц. на абед; нада -- мясц. трэба; недаразуменне -- тут у значэнні непаразуменне; жывотнае -- руск. животное; рангэ -- мясц. даўней; не абрашчаецца па-чалавечаскі -- руск. не обращается по-человечески; відзіце -- руск. видите, мясц. бачыце, гл. ніжэй я бачу; натацэю даў -- руск. нотация, тут у значэнні даў выгавар; нікагда -- руск. никогда, но -- руск. но, мясц. але; смотра екі -- руск. смотря какой, зачым -- руск. зачем; нікагда -- руск. никогда.

Вераб'і, вароны, ластаўкі веліся. На дамах злепіць ластаўка кубло -- і ластаўчанят наведзе. У хлеве несліся. Уздумала: і кнігі па балонні несліся, вуводзіліся. Кніга усе: "кніга, кні-га". Дзеркача ўродзе не чутно. Падподачка як верабей. Падподачка: "падпаду, падпаду". Буські -- красные ногі, беларабые, неаднакавые, двохцветные. На дубох кубла рабілі, на

кладбішчы былі, на полі, пуд лесом. Буў абучай -- скінуць буські яйцэ ці дзіця. Як дзіця скіне -- трунны год. Дзюбай возьме і скіне. "Дзеткі, побачце, кого скінуў бусько: яйцэ ці бусьлянятко?" Курапаткі, яечка рабенькія несуць. Пасеш тавар -- кубелца і наводжаные яечка. Жураўлі прылецяць -- крычаць. На зімоўе ўлятаюць. Адзін папераду, праваднік. Птаства мало цепер. Раньшы -- сіла було!

---

Німа вады, німа чым паліць, канчаюцца картоплі. Сухея ўсе, в'яне. Усе пажоўкло. У гэтом месяцы німа дождЖу. Прысак, дзе свіння парылі, пяшчана земля -- што на ёй вырасце? Тамака, дзе пададавалі па клетках зёмлю, картоплі ідуць на дзіво. У нас ужэ трэці год сохне за садом. Цяпер не"раджай. Дажыдаюць дождЖу.

Граза ідзе, сілна граза. Хмары ходзяць па небу. Недзель дзве не буў дошч. Тэй стараной велікі дошч, град буў з бураю, усе положыло. Град пасек цыбулю, буракі, адны матарлясы маталіся. А град усе ссек. Дромненькі дошч доўго падаў.

Раньшы чарот рос. Крылі чарóтом, цепер не крыюць. Колісь лапці плелі з лазы. З ліпу плелі. Санапрадкі булі. Кацікка, колясо. Матае хутко-хутко, праде, нітка на вілачкі зачэпваецца. Знімае кацюшку -- і на верацёна.

А шчэ жэ ткалі ў восем нітоў. Скацеркі на стол. Рушнікі воцета такее ткалі. Хто хочэ -- вуш'е. Ужэ цепер маладые не рабіцьмуць, не ткацьмуць.

Комінок буў, насяком лучыны, прадом кудзелю. Залезо кладуць, шчэ мешок прыстроюць. Мешок сашыюць. Лушнік глеем аблепюць. Цёсачкі гараць. К камінку двох-трох сядалі. К месецу пралі.

Сеялі каноплі. Було сем'е такое, сушылі, таўклі у ступі. Сахару ўсыпе, размешае -- і харч така була. З сем'я льняного. Поджарвалі, камакі м'ялі ложкаю. Сем'е кіпіць. Ложка дзераўяна, памном сем'е. Алéі білі, алейніцы булі дзераўяные. Саб'е, берэ памéр алею і макухі /хто алей біў/. У палатняну трапку сем'е абвертваюць, панатоўкваюць сем'я, панабіваюць алеяў на пост.

Запісала С.Г.Лобач.

-- Я радзіўса на лузі. Павоў бацька з мацер на сенокôс, і матка радзіла там на лузі, сёна грабучы. Тады ж не далікацілі-са так, як цепер. Ехаў чалавек і падабраў матку. Мая родзіна -- сенакôс.

-- Тато, а я ж ў хляве радзілаcа. Дак што, ета мая родзіна?

Запісаў А.А.Крывіцкі

---

Як паспее лён, яго біруць жменямі. В'яжуць у снапу, чатыры у ені ўжэ й снôп. Лёном вяжуць снôп -- перэвесло круцілі і снôп перавязвалі. Стаўлялі ў кучкі. Ён пасохне за тыждзень. Бяруць пранікі, расцілаюць прôсцілку і ўжэ абіваюць лён. Пабіваюць, кладуць на вôз і везуць на гôру, прасцілаюць яго і ён ляжыць, пакуль атлêжыцца. Як лён праціраецца, яго саберуць і в'яжуць у снапу і ўжэ перэвесло робяць з саломы. Прывозяць дадôму і на печ кладуць, каб добрэ вусах. Тады труць у церніцы. Була така церніца з чатырма нôжкамі і язычком. Язычком у церніцы цёрлі. Кайстра сыпаласа ўніз. Кайстру збіралі і сыпалі на чардак, штоб цёпло було. Паўтрэпвалі траплôм дзераўяным, а патом на грэбені абдзіралі. Рабілі кудзелю: бралі верацено і трусілі, каб кайстра ўся ўлятала і тады пралі. Прасніцу стаўлялі на лаву, дзірку пракручвалі ў лаві, штоб прасніца стаяла. Кудзелю прыўязвалі аборкамі к прасніцы. Кайстрыну ўсю ні вытрусіш -- пальцы папрапрадваеш -- жывая кроў цячэ. Пралі верацяном. Верацёна на камін стаўлялі, коб вусахло. За яго і ў клубôк маталі. У клубку дзêсяць хунтоў. Дзве ручайкі маталі ў адзін пачынак. Пралі на вячôрках. Калі папеём, а калі багато напрадôм. Хадзілі на вячôркі з хлопцамі. Хлопцы рвалі кудзелю і галкі с кудзелі рабілі і палілі. Галкі расцягне і каторае паляціць галка, тая дзêўка замуж пôйдзе, а которае згарыць на мêсці, тая замуж ні пôйдзе.

Снавалі на хаці, цёто пракручвалі дзіркі і забівалі калочкі. Дзесець губак наснуеш, заматаеса пака наснуеш. Перамôт рабілі, клалі перамôт і разрываць ніўмелі, а перамôт пакладзеш і нінаўеш. Асновы здымалі і плялі ў пляцёнку. Бралі муку і пляцёнку мачылі, пôтым расплêталі, сушылі і навівалі. Навівалі і на навôйку і ў галаву палку ўсаджвалі, коб навôйка ні круцілаcа. Палкай затыкалі навôйку, коб ні дзвіжыма була і на стацыві-

ну лбжылі. Блізну рабілі. Як парвецца нітка да ні з'яжэш, то блізна. Ужэ накідаць у ніты. Анна садзіцца накідае у ніт, а патом у берде. Цэлка с гражаю ў чоўніку. Ніт прывязаны да бурок, а набіліцы да кручкоў. Панажы чапляліса за ніта. Закідалі чоўніка і наступалі на панаж. Ступаеш на панажа -- адзін ніт узырнае, на другога панажа — другі ніт узырнае. Набіліцамі прыбівалі нітку і палучаецца палатно, просцілкі. Сарачэчнае і абдзірковае палатно ткалі. Палатно ў пастаў качалі да ў скрыню.

Апавяданне Рабчанкі Ганны з в. Ясянец запісала Т.М.Трухан.

С.Г.Лобач. Т.М.Трухан

## МАТЭРЫЯЛЫ ЭКСПЕДЫЦЫІ Ў БУДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЁН
/з гаворак мясцовых жыхароў/

В.Негаўка /бліжэйшы ДАБМ № 896, в.Забалацце/

Палолі лён. Бралі уручную. Візалі ў снапы. Жмень дзве, тры ў сноп візалі. Перавясло дзелалі і сноп звязвалі. Становілі ў абабкі снапоў па дзесяць. Як пагода, за нідзелю пасохня. Тады абівалі і слалі. Пранікі дзелалі мушчыны. Клалі на дошчачку сноп і абівалі. Семя веялі муг ыны. Атыходжаюць атходы. З лёну было алею. Слалі лён, улéжыцца — бярэш спы́там. Ціранеш рукамі і падбіраеш. Соўчылі піравясл і перавязвалі кулі. Насаджвалі у ёуню і там сох, тапілі і сох. Тады мялі ў гумне. Мяліца была дзіравянная, мялка. Самнеш, мя́ленне, кастра́ падала. Памяці, у каморку паўношваем, на печы сушылі вязкі дзве-тры. Неік дзяды былі у сыботу. Я печ тапіла. Спічку чорк, а спічка жах і у лён. А вязка як учыгарыць. На печы стала ясна. А я жыла ў трохсценні, дачка спала у калысцы. Я стала тушыць. Вадзянкі на руках паўскаквалі. Чуць хату не спаліла, так дзяды справіла. Трапалі жменькамі. Бярэш і трэпіш на́чыста траплом. А тады грэбень быў. Гваздзё убівалі у грэбінь. Клалі пад задніцу і дралі лён. Падала зрэб'е, абдзіркі. Тады рабілі кудзелю голкай /спічаком/. Аборкай абматвалі кругом прасніцы. Разы два нада прывезаць да прасніцы. На верацёны пралі. З вірацён маталі на матавіла. Напавешаім матавіла на гвоздзікі, на жэрдзі. На стопцы клубкі ліжалі. Снавалі, пірамоты рабілі. Накладзеш не на той колік — перамот наклала. На дзве губкі снавалі, па тры, па пяць губак. Пляцеш пляцёнку такую, тады навіваіш на ставы́. Ставы́ ставіш, на ставы́ кладзеш навой і н зіваеш аснову. Абратна выцягнуць, тады сплятаіш у пляця́нку. Навесіш , штоб іна сохла. А тады навіваіш. Убіваюцца гвоздзічкі, вешаіш палку і надзевалі катушкі для нітоў. Становішся на панажы і катушкі ходзяць. У на́білкі бёрда закладаюць. Палачка атла́малася у лесі і закладалася ў чаўнок, а чаўнок кідалі ў зеў. Пругі былі, шоб ні сцягала палатно бёрда. Па дзве голачкі ў пругі. Як у бёрда ні так укініш — блізна на палатне. Прасесць на навойку наматаецца. Датыкаеш да нітоў — датыкальнік называецца. Да канцоў ткалі, а тады трапкачы дзелалі дзяцей біць. Палку уторкалі ў навойку ў дзірку, а нацягавіч у навой,

у палатно. Палатно выношаім рана на расу выбілівацца. Тады складаім у трубку, туга пакачаім. Ткалі нечасна палатно і чэсана палатно. У ёлачку ткалі, у кружочкі палаценцы. Іпратыкалі запалачу, штоб палаценцы на канцах шарочыя былі. Запалач чорная была.

Запісала Т.М.Трухан ад Мосевай Анастасіі Цімафееўны, 75 г.

Па Шчодрах хадзілі. Бралі каробачку на бліны, торбачку на сала. Пад акны падходзілі і пелі.

Тады нам нясуць сала, бліны. Адзін раз пелі у глухую сцяну. Мы пяём, а яны нам нічога ні выношаюць. Пашлі пець далей. Тады назбіраем вузёл, прыходзаем у хату гуртом. Хлопцаў прыглосім, музыку наймаем. Музыка суткі рэжа. Рубец у сарочцы мокры.

Матка перад паскай загадаець куры ў падпеччы чысціць. Хто палезе вычышчаць, таму яйцо дась. Палезеш у красную суботу, падпечча чысціш. Тады пабягу к матцы кросная — яйцо дась — во і назбіраю яечак.

На паску духу ў хаці такого ж укуснага. Паску павязуць свяціць, а мы сядзім і ждом, пакуль пастачку пасвецяць. Прывязуць пастачку, мы як наядзімся: і смятана, і булка, і мяса, і ўсяго.

Дзяды ў нас гулялі. К нам прыіжджае радня з усіх вёсак. Повін двор, як наедзя радня. Я ўжо гатуюся. Дзіргаю, каб напеклі драных блінаў. Стаўлілі на стол чарачку, закускі ўсякае і накрывалі стол. Пілі па п'яць стаканоў і п'яныя ні былі. Памінал мяртвых. Матка станя перад іконай і мы станам на калені, тады садзімся за стол. А тады пашлі па хатах хадзіць. Памянзелі гармонь граіць, а мы пяём. Кажнае свята светкавалі.

Як прыдзя Мікола, нацягня дзе і гола. Адзін Мікола галодны, другі Мікола халодны.

Варвары палавіна ночы ўварвалі.

У лесі на Дзвіжанне ўсе вужы, гадзюкі спаўзаюцца — дзвігаюцца. Яны спаўзаюцца ў адно места. На дзвіжанне бацюшка ў цэркві дзвіжацца. Бацюшка прысідае, як вокам прысідае.

Мяне мама пужала русалкамі. Цыцкі ў іх зялезныя. Мама жалела бобу, штоб я ні рвала. А я прыдумалася: боб паела, шалупкі пад чугун хавала, каб матка ні бачыла.

Дралі ліпу, вязы. Надзяруць лыкаў, у каточкі пакруцяць, яны праменькія. Дзяруць лыка нажом с краю да краю. Садзяцца і пля-

туць. Потпілітка с палена. Сплятуць адну рэдзь, а патом другу рэдзь, яшчэ і патплятуць. Каблучок патплятуць с аборак.

А сват овасі а сплёў лапці с таўстых лык. А сам сядзіць, чамадорыцца, як індык.

Дзеўкі хадзілі штук па дзесяць на вячоркі. Сярэдзі хаты запаляць лампу. Кавалер к барышні хадзіў. Жаніх сядзіць каля маёй прасніцы. Вузёл пасунууся, жаніх спічку чорк, кудзелі німа, адзін вузёл астауся. Тады нада на масту спаць. Нада кулёў напасіць з гумна. Паверху пасцілкай пад голаў світку, накрыцца радно. Хлопцы палягуць, кожны сваю дзеўку шукае. А хто ні захоча, тады хопіц за дзяругу і у карыта і памоча. А ўранні цэўка дavailable быць напрадзена. Цяпер дзеўка ні знаіць кату хваста завязаць.

Запісала Т.М.Трухан ад Асіпцовай Агафіі Міхайлаўны, 80 г.

В.Іванаўка /бліжэйшы ДАБМ № 899 в.Марозавічы/

Куцця перад Калядамі. Шостага на Каляды варуць куццю. У каляды тры куцці. Хрышчэньская куцця: дзелаюць хрэшчычак, кідаюць у калодзеж, хто найдзець, той у сарай уторкнець. На Новы год — багатая куцця: пякуць бліны, ходзюць пець на Новы год. Дзяўчаты збіраюцца, ідуць, пяюць. Тры кускі сала нясуць. Бульбіну у бліны ўверцюць і кладуць. На Новы год уранні дзеці ходзюць, а мы ўвечары.

Калдаванне — вялікі грэх. У свінню пірадзелась Марыха на чужых слухах. Прыбегла свінпёй к Колі, а Коля вартавау на Купалу і ударыў свінню. Быу з'ян і на ёй, так гаварылі.

Каторыя малако адбіралі. Сядно іхнія каровы хварэюць. Калдаванне — вялікі грэх, неатпушчоны грэх.

Калісь ета гуркі начынаюць ці мак, а дачка на гарод і пайшла. Глядзі, дачка, на гарод ні учашчай, а то русалка паваліць, цыцку у рот дась. Скінала юбку, распусціла косы, у рубасі русалка. Ідуць хлопцы, а іна трусне галавой да за хлопцамі. Нічаво ні было, так дзяцей запугалі.

К Благавешчанню хата пабеліна. Двор вымесці. Я двор сама абмітаю у чисты чацвер, штоб ніякія нужы ні было — хаджу, мяту і прыгаварваю: мяту ад двара, штоб ні было ніякае нужы /нечысці/.

Загарыцца нарыу і гарыць агнём — эта рожа. Нада лячыць яе. Каму паможэ, каму не — як дух палюбя.

Адна на мяне усё завідае. Прылячы мне спуг. Словы кажу усе прыходныя. Я на рэкі ні кажу. І что с чорнае кнігі, агкідала.

Самасей сыпалі некалі у калодзіж, у каго ё самасей, тые сыпалі.

У Алсе за ракой казу вадзілі. Мушчыну убяруць. На кожа казіная, і вадзілі. Калісь пра калісь было — казу вадзілі, но ета ні пры нас.

Другая Прачыстая дваццаць першага сентибра. Госці прыіжджалі і гулялі на Прачыстую. Абед згатуіш палуччай.

Лі каліткі пасыпалі жоуцінькі пясок, штоб знахар ні прыходзіу.

На Купалу коланыя дровы былі, засыпалі шашу /імі/. Я карову цырканула і давай дровы уносіць. Квортка на кворгку навесюць, лавачку навесюць. Патопкі калісь насілі, на палку наніжым і пашлі на поля:

Талака, талака, наелася малака,

Наелася, напілась, легла спаць, абдулась.

Нясом патопкі на выган, куфайку на чучала напянем, здзелаем чучала. Спробалі чэраз агонь прыгаць. Усё у агонь папалім. Талака мо*а што-небудзь і здзелаць.

Запісала Т.М.Трухан ад розных асоб

В. Уза /бліжэйшы ДАБМ № 901, в.Гусевіца/

Н. Сóракі балáбушкі пяклі, сорак штук.

На Юр'я да сонца хадзілі шукалі трэсачкі, чараз забор перакідвалі. На Юр'я ў хлопцаў штапіну разарвеш, і са штанінай разорванай пойдзе. На Юр'я вярбой свянцонай білі: ні я б'ю, вярба б'е, будзь крэпка, як зямля, чыстая, як вада.

На Пятра выган пастухам давалі: хлеб, сала.

На Тройцу кумéнне дзелалі: калыхаліся ўжо ўзрослыя /на качэлях/. У гумнах куменне рабілі. Ад сонца да сонца рабілі, а потым сядзелі на заваліцы і песні пелі. На Тройцу траецкая сыбота — усіх памінаюць: і ўтоплініц, і вешальніц.

Каб дож пайшоў, хадзілі ўдовы і плуг цігалі па вуліцы. Мак свецюць на Макавей і сыплюць у калодзеж, каровы апсыпаюць макам ад уроку.

На Стрэчанне свечку пасвячалі і як паміpae чалавек, у рукі давалі.

На Крашчэнне ваду свецюць, ёлачкі ад грома пат крышу ложылі. Голюкі ламалі / у царкве / ад свянцоных дрэўцаў і дамой насілі, пат страхой торкалі.

Дзяцей жалезнай бабкай пужалі і дзіця ні пойдзіць у гарод. І русалкамі пужалі.

Саседка к нам хадзіла. Каровы ні маглі ў двор загнаць. Карова ні дала малака і была зверам. Гэта ўрок. Нада ваду саседке пат шулу выліць.

Пражываў дамавы ці ў хаці, ці ў сараі — хляўнік звалі.

Крыксы лячылі, упіры свяшчоным дубчыкам хліcталі, гаманіла бабка.

Пад...чую тожа бабкі вылéчаюць. Як б'е чалавека, чорны платок накідаюць.

Зубы лячылі маладзіком.

Маладзік маладой,
Быў на тым свеці?
Быў.
Бачыў майго дзеда Хомку?
Бачыў.
Баляць у яго зубы?
Не.
Хай у мяне не баляць.

Калі была рожа, то засцілалі на ліцо трапку красную. І на трапцы палілі лён. Рожу лёнам выпальвалі.

На шчодра гадалі: выйдзеш у двор і шчапіну ахваціш — ці у пары ці ні ў пары. Грабянкі клалі пад галаву, хто прыйдзе,

грабяшок падасць. Платкі скручвалі і у паланкі кідалі і палалі платкі -- чый выпадзе раней, тая замуж выйдзе.

Дожджык, дожджык, сікані /рубані/
Бабу с поля прагані.
Дожджык, дожджык, пераcтань,
Мы паедзем на растань.
Богу маліцца,
А цару кланіцца,
А у бога сірата
Атчыняла варата
Ключыкам, замочкам,
Залатым пярснёчкам.

На Благавешчання дажэ пцічка гнязда сабе ні уе.

Варуць куццю, ставяць на кут і Мароза завуць: Мароз, Мароз, хадзі куццю есці.

Тры кашы варилі: на Каляды, на Новы год, на Крашчэнне.

Ятроўка мая павіла мяне у лес, на чізкая места, на Звіжання. Іна міне падводзе, а гады бугром такім. Яны спаўзаюцца на Звіжання, аж страшна.

У Піліпаўку Варвары, Савы, Мікола — аброчныя празнікі. Свячу піраносілі ад адной суседкі да другой на Варвары. Чараз вуліцу нільзя піраносіць, а толькі радам. Варвары палавіну ночы атарвалі.

Заломы у жыці рабілі, памірали ад іх. Як жыта жнём, у жыці рабілі. Яго нада абжаць, або там опаліць. Насці залом дамой нільзя.

Пришоў Пятрок, атарваў лісток. Пришоў Ілля, атарву і я.

На Прачыстую свецяць жыта, на Макавея -- мак, на Спаса -- яблыкі.

Два Юр'я -- абодва дурні: адзін галодны, другі халодны.

Запісала Т.М.Трухан ад Сарокінай Хрысціны Емельянаўны, 82 г.

В. Старая Буда /бліжэйшыя ДАБМ № 899, в.Марозавічы, № 901, в.Гусевіца, № 903, в. Чабатовічы /.

На трэйці дзень Вялікадня — мяртвы дзень — ходзяць памінаць. І на Радауніцу ходзяць памінаць, уначалі мы ні хадзілі.

Перад Міхайлай у пятніцу дзяды скаромныя, на Кращчэння посныя дзяды і Траецкія дзяды.

На Кращчэння гадалі: сапог скініць і чараз забор кідаіць. Сарочку такую шыті і ластавіцу устауляді. На Кращчэння мароза гукалі, куццю пасвіцалі, тады куццю туую карові аддаюць. Калісь на куццю клалі сена пад скацірку. Хто выцегне даужэйшую саломінку, у таго доугі лён будзя.

На Шчодру хадзілі увесь дзень, бегалі, пелі пападвокнамі. На Шчодру цыгане з казой хадзілі у нас калісь. Насілі звязду, украсюць і паюць. Куль саломы, як абіваіш, каласкі астаюцца. Іх на галаве звяжаш — красіва. Цыгану даюць кнут, а цыганцы лялькy, і скакалі.

Каліоь на Юр'я на расу каровы выганялі да сонца.

Жыта, пшаніцу на Прачысту пасвіцаць насілі.

У Вербну нядзелю пасвіцаюць вербу. Етай вярбою жудобу выганяюць, дзяцей б'юць.

На Уздзвіжанне сонца іграе усякімі цвітамі. Ні хадзілі у лес на Уздзвіжанне, змеі тады сабіраюцца.

Завітку завівалі у ляну, тады ён харошы, кажуць. На худобу, на чалавека завівалі завітку. Завітку пат крыж на магілцы закапвалі. Той чалавек, хто рабіу, балеу і богу душу аддавау.

Калісь у пятніцу ні пралі — грэх быу. С хаты выносілі самапрадку пад пятніцу. У пятніцу снуюць кросны, а ні ткуць і ні прадуць.

Ікону бралі, хадзілі кругом хаты, штоб дож пайшоу. Штоб дождж пайшоу, нада укінуць маку у тры калодцы. Удава сыпала мак.

Май ламалі: клён, дубок. Насілі у хату ад грозы. Як май пасохня, тады сена будзе сухое, а як паутыркае у хату мокры май — тады мокрэ сена. Плюшчай прыносілі, усюды у хаце лажылі. Як патсохне —у адзёжу, у сундукі лажылі — запах харошы.

Як жабу уб'е — дож будзе.

Да Пятра кукушка кукуе. Тры дні да Пятра — кіне.

Будзем [illegible], як [illegible] ластаўкі [illegible]. Як пат карову ластаўка падляціць -- нада чэраз трэсачкі і марлю малако працадзіць.

Камары мак таўкуць, будзе цёпла.

У дзеваччы /у дзявоцтве/ у мяне страх барадавак было. Як зорачкі пералятаюць -- церці рукі. Конокім хвастом перавязвала — паэлятал і. Яны паразмываюцца, ні дай бог.

На первы дзень каляд, еслі прыдзе першы мужык у хату, то бык будзе, а як жанчына -- цёлка.

Як сасніш краснаю карову -- добра, як чорнаю -- плоха. Як на белых конях у сне ехаць -- то нідобра.

Запісала Т.М.Трухан ад розных асоб.

Т.М.Трухан

## ЛЕКСІКА ГАВОРАК БУДА-КАШАЛЁЎСКАГА РАЁНА

АБКАРЭЦЬ. Як абкарэе дзежка, так і мылі. Ст.Буда.

АНДАРАК. Воўну пралі і ткалі — андаракі называліся. Уза.

АТЛЯПАЦЬ. Ні нада была казаць, а я бэх і атляпаю. Іванаўка.

БЕГЦІ: бегці бягцом. Я бегаю бягцом з дзецьмі. Іванаўка.

БРУСНІШНІК. Бруснішнік харашо ат почак. Уза.

БУЛЬБА-ЦЭЛКА. Як вара бульбу-цэлку, цыбулінку кладзе, солі. Падсалее, зварыцца, высыпле на стол — харошая бульба. Іванаўка.

ВЕШАЛЬНІК. Вешальнікаў дзе-небудзь у вугалочку хаpанілі. Ст.Буда.

ГАРЛЯНКА. Гарлянка на пралесках, на буграх, ад горла. Ст. Буда.

ГАРЧЫЧНІК. Гарчычнік горкі, ніхто ні есь. Ст.Буда.

ДВОЕ. Сядзела із двамі дзіцямі. Іванаўка.

ДЗЁНУШКА. На дзёнушках кіпіць, усе кайструлі пазагадзілі — мыць ліняцца. Уза.

ДОЖДЖ. Цыганскі дождж: сонца свеціць і дождж ідзе. Ст.Буда.

ЖАДОБАК. У мяне сахару было у жадобку. Іванаўка.

ЖАЎТУХА. Ад жаўтухі тапіла лён, сураўку піла і прайшла. Уза.

ЗАВІДКІ. Завідкі і на людзей і на усё. Ст.Буда.

ЗАКУРАЦЬ. Закураць воску вугальком і мылі дзежку к чыстаму чацвергу — усе мылі да пасху ўчынялі. Ст.Буда.

ЗАМОЖНА. У нас адна харашо жыла, заможна. Іванаўка.

ЗАЧАЦЬ. Зачала песню да другую. Іванаўка.

ЗВЕРАБОЙ. Зверабой ад кашлю, ат усяго ён. Уза.

КАЛА. А дзяцей кала мене німа. Уза.

КАНОН. Канон як па пакойніку — тры стравы. Іванаўка.

КАРАПКАЦЦА. Матка мая карапкаецца с печы. Негаўка.

КАРАЧЭЙ. Я старэй, памяць карачэй. Ст.Буда.

КЛОПІК. Клопікі ўродзі сівенькія, канопелькі. Уза.

КРОСНА. Ставы, а накачваюць аснову, то кросна. Уза.

КРОСНЫ. Кросных пасадзяць у карыто і бабу пасадзяць да катаць. Ст.Буда.

КРЫСАК. Панясу парасёнку, а крысакі во такія бегаюць. Іванаўка.

КУЛАГА. Кулагу ўчынялі: заварвалі муку, ставілі на печ, яна наткісала і пяклі. Уза.

КУЛДЫКАЦЦА. Цэлую нядзелю кулдыкаюцца. Із кажнае хаты ідуць, пяюць, граюць. Негаўка.

КУРАСЛЕП. Кураслеп жоўты, увідзе рамашкі — урадная трава. Ст.Буда.

МАЦЮК. Мацюка завярнуў такога. Негаўка.

НАВЯРНУЦЬ. Навярнуў анучы на буркі, ідзеш і коўзь-коўзь. Негаўка.

НАЛУГАЦЦА. Як налугалася раз самагонкі... Негаўка.

НАСЦІГНУЦЬ. Вайна насцігла мяне у Гомелі. Негаўка.

НОЖ. А хлопец нажам па вуху. Уза.

НУТРО. Сэрца рваць, нутро. Негаўка.

ПАВЫВЕЗАЦЬ. Павывезала пакрывала, лапці. Уза.

ПАДАРОЖНІК. Падарожнік ложуць дзе якая ранка. Уза.

ПАМІНАЦЬ. Мама ні памінала ні разу пра папоў. Іванаўка.

ПАМЯНУЦЬ. Памянулі, я ужэ знаю што рабіць. Негаўка.

ПАНАМОШЧАНЫ. Сталы панамошчаны, от ужэ атгулялі. Іванаўка.

ПАРАШЭЦІЦЬ. Шалёўкай парашэціў дом, а патом пашчакатурыў. Іванаўка.

ПАСВЯЦАЦЬ. Жыта, пшаніцу на Прачысту пасвяцаць насілі. Ст.Буда.

ПАЧАЎРАЦЬ. Пачаўраеш саўсім ужэ за пост. Негаўка.

ПІЖМА. Піжма ад жывата. Уза.

ПРЫТАРАЧЫЦЬ. Мы ш прытарачылі дзеда у сыботу дамой. Іванаўка.

ПУСКАЦЬ. А яму дыхаць ні пускае. Іванаўка.

ПЫЖМА. Пыжма ад глістоў, па канаві, па садзіку расце. Ст.Буда.

ПЫРЭЙ. Пырэй еты ё, ужо малы, мо у адным гародзі. Уза.

САБАЧКІ. Сабачкі, ваўчкі ад кашля. Дзяцей купалі ад наружных. Уза.

СЕРПАРЭЗНІК. Серпарэзнік — выжымаць сок і сокам закапваць. Ст.Буда.

СКОС. Хацелі сена пакасіці, а другога скосу ні было, пагарэло усё. Іванаўка.

СОЛЯ. Нож у руках ці соля, а я шукаю. Ст.Буда.

СОН. Сон ат сэрца збіралі, галубенькія цвяточкі. Уза.

СТАДА. Курэй стаду с падпечча як выпусцілі. Негаўка.

СТАЦЬ. Сім'я стала, дзеці сталі: і пралі, і ткалі. Уза.

ТАРАБÁНІЦЬ. Язык тарабане, а сілы нема. Негаўка.

ТКÁТЫ. Работа ўся тката. Негаўка.

УЗДАЛÉЦЬ. Як мы ўздалелі на паоледні вянок цэменту падаць. Іванаўка.

УРОК. Мяне сурочылі ў моладасці. Ёсць мужскі і жаночы урок. Мужскі цяжэйшы. Ст.Буда.

УСÉРАДНЫ. Усерадная -- палавіна паста прайшло, храсты п...лі, елі. Уза.

УСЮДАХ. Усюдах было добра. Іванаўка.

УЧЫНЯЦЬ. На Дзяды пекла кулідачкі, учыняла. Іванаўка.

ХВОШЧ ПАЛЯВЫ. Хвошч палявы ад почак. Уза.

ЦМЕН. Цмен п'юць ат печані. Ст.Буда.

ЧЫСТАЦЕЛ. Чыстацелу ў саду столькі было, аранжавае малако, ат ран. Сухіе мазалі зганяе. Уза.

ШАЛУПКІ. Шалупкі абдзіраюць з папкоў і ад жалудка п'юць. Уза.

ШЧУПУЛІЦЦА. Хоць бы мой рот шчупуліўоя - пяю. Негаўка.

І.Я.Яшкін

## ІЗ ГАВОРКІ В.ШАЛАМЫ СЛАЎГАРАДСКАГА РАЁНА /ДАБМ, № 592/

Рыскажу табе, Іван, як мы ў бежынцы хадзілі. Усё, як було.

Атступаў неміц ужо. На Проні, за пронным мастом бой быў. Нашы цірэз брод, кыла Красныя Слабады хацелі прырвацъ хронт, каб у Чыстуй Лужы /у балоці/ сыйдзініцца з пырцізанымі. Ні ўдалося ні пырцізаным аццюліцька ныжаць, каб прырвацца кы сваім, а нашым з-за Проні, таго што немца дыгналі ды Сожа і Проні, а тыл застаўся далёка. Ой, яй-жа богу, каб тады рванулі, то неміц уцёк бы жаж за Няпро і столькі б людзей ні пылягло зы Прапойськ, а тады і зы Дынепыр. Як стаў неміц хронтым нц Сожу, тады ён узяўся зы пырцізануў і зы людзей, якея думылі, што хронт праскоча і усе вернущца дамоў. Немцуў наехыла у Шыламы многа. Ста і дзелыць мост тэй што спалілі пырцізаны ў нас ны Пішчанцы. Спалі мы ў зімлянцы, што якую выкыпылі ны гародзі пад ліпуй.

---

Пра бой пыт Красныуй Слыбадой рыскажу. Бой ішоў усю ноч, быў сінцябырь ці што. Мы выйдзім зь зімлянкі, то заріва там і бой ідзець. Маліліся богу, каб нашым пумаглося. Сціх бой і ны заўтріга пы Шляху з Прапоську вялі нашых сылдацікуў у серых шынільках, худзенькіх. А немцы ж тут пырыскармлітыя. У наж жа ні кароў, нічога ні було, усё паелі.

Вой мы арявылі пайщіць у лес. Па горых у Шылымах немцы пынырысстуўнуўлялі пулямёты, каб глядзець за ўсім. Некытырыя нашы ў кустох тутыцька хуваліся думылі што скора будзя. Нашы тата і дзядзька, як ішлі на хронт, то пріказылі тут хувацца, нііккууддыш няйщіць і ня веріць немцым. У сваёй месныецці -- вы паны, вы ўсё тут знайіцця. Мы аряшыліся пайщіць у лес. Нашы суседзі,ужо пыкыпалі бліндажы ў лесі, жылі тамыка. Мы пашлі з клумыкамі ў бабі Дуні /у канцы вуліцы/ і пы вызярішчу пашлі ў кусты на Пажозі/ рэчачка, левы прыток Пяшчанкі/. А немцы пы гаре ездзюць.

---

Мясцовыя жыхары, каб выказаць свае эмацыянальныя адносіны, расцягваюць вымаўленне слова: "У наж жа ні кароў, нііііічоггга ні було, усё пайеллі", "У часы зыпрігалі кыня, пакуда жырэ, дык мы рабботылі".

У Сімнаццытым немцуў ні було, там лес блізка. Людзі у кустах ныпрятали лёну копы, пы капе ў топкіх местых. Пысядзелі мы лі такея капы, піріждалі і пашлі лі вітріка ў лес. Бліндаж быў с краю лі Гутароў /дзе Гутары жылі/. Нашы суседзі пыдаліся далі ў балоты, а мы ў іхнім бліндажы нучувалі, варілі ў лесі суччыкым. Ноччы немцы банбілі лес. Страшна ў лесі. Схадзілі мы з Людуй Машкінуў ў дзяреўню. Цётка Сціпаніда і цётка Насця кажуць, што на лес пышла туча чорныя немцуў і што вас аттуліка выгыніць ці паб'юць. Немцы ішлі аблавуй, 'дзін лі 'днаго з сыбакькімі яўчаркімі, стрілялі і ўсіх выгынялі. Скрозь ат Проні і ды Дніпра ціряз балоты, пы лясу. Дзін лі Сімнаццытнга /Шаламы II / на полі пыд лазовым кустом выр-уў коп, залезлі сь сям'ёй і куст на выхыд пысадзіў. То сыбакі ўчулі і немцы крічалі: "Русь, выхадзі ". І выгнылі. Праўды ні пыстрілялі. Во й мы ны бліндажы зыкыпалі падушку, дзіяла свае работы. Мама зукруціла ў мох і зарыла ў пясок. То ніхто ні нашоў /послі хронту хадзілі і ткыпалі самі/. А ў лесі людзі і з каровымі з торбымі пыныдзіватымі на морды. То яны му-у-у, а пеўні пяюць. Называйііцца схуваліся. Нямецкыя разведка ны манцыклых паўз лесу чыж-ж, чыж-ж, днём йездзія. Страшна було.

Ма пышлі зь лесу нызад у Шыламы. Вышлі лі Шпачковых на лог, а тут пыляцелі нашы сымалёты на немцуў і строчуць. Немцы бегыюць і нашы людзі бегыюць. Літалі сымалёты, зь якіх гуваріла радзіва, што немцуў прагонюць. Нізка, нізка лётылі сымалёты. Йіх ня зьбілі, а стрілялі. Стрябкі былі. Прішлі мы к цёццы Сціпанідзі і татку хрёсныму Йвану, у гумне яны стыялі. Поўна гумно снапоў ны стыране, а немцы пы хатых жылі людзей пуўгыняўшы. Немцы мост ужо пастройілі. Йструб на мост зыбралі, хату Соні Пёклiныя, дачкі Змітрыка Тыратонувыга. Прасілі, ні ддалі. Посьлі піряйшлі мы жыць у сваю зімлянку на Лупуўцы.

---

Пра етый мост указзя цэлыя. Як яго палілі парцізаны пірід тетупленіійім. Было эта ў юлі. Ныраббовытыйісся, то сьпіш як пшаніцу прыдаўшы. Пырцізаны бачуць, што ў хылупі згаріць сылпатка, прішлі й будзюць: стувайця ,згэрецё! А мост гаріць, трящиць, пловінькій ведума ж быў. Йіскыріцца і ны наш двор вєтрам ныэівая. Пыставілі лесвіцу, венік, вядро з вадой і пырсылйі на крышу. Тушыць мост ніхто ня йдзець, каб жаж ня быць

вінуватым, а то й пырціваны с кустоў глідзяць. Згареў етый мост, а мы ні згарелі. Вецір нейік абтух. Раніім немцы пріехылі, 'хвіцэры пыгіргыталі і паехылі. Усё звязьлі пырцізаны, нікога ні пабілі.

Посьлі вайны ужо дызналіся, як палілі етый мост. Так і ні ныградзілі нікога з нашых людзей. Пырцізаны зыгыдалі насіць зь Піўнувыга гумна салому Машцы і Ганні Піўнувым, Машцы Кувалісі, Кузьмовым, Таньцы Кірейівуй. Мост чуць зыгареўся, сырэй быў.

---

Наша баба Дуня жыла там у канцы вуліцы Лу́пуукі з Наташкуй сваёюй. Рыжый неміц бытта ні дышчытаўся дзіялуў ці яму стукнула, і пызваў пальцам яе і атвёў ны гарод і забіў. Натачка прішла ак нам, а мама з цёткуй кажуць, што ідзі далі ат нас, каб і нас не пабіў ён. Йіна пышла к хрёснуў машцы, на тэй бок рэчкі.

---

Як уласуўцы атступалі, мост быў спалінытый, то ны Шылымах /вуліца/ немцы стыялі, а ў нас на Лу́пууцы йіх ні було. Мы кыпалі бульбу і зыка́палі ў капцы, думылі можа што атстанецца ат пыжару, як немцуў прагонюць. Прідуць і стыяць зы пряслым, нешта гіргочуць. Матка кажа, прыдайця газы для лампы. Нікс, матка, ахвіцэр пух! Сталі атступаць уласуўцы. А ны сашы Мысква-Выршава дзень і ноч ішлі вайскі́ немцуў. Уласуўцы сы Смаленшчыны пыстыялі суткі і паехылі ны Васькувічы. Йехылі ж жонкімі, лён ны калёсых вязьлі, думылі ў немцуў прясць. Курей у нас паскручылі галовы. У суседа Йвана былі пчолы стыялі. Уласуўцы пызпалілі снапкі кулявэя саломы, пубвязыліся і палезлі ў хізоны. Пубралі вёдры і ў вёдры мёд з вашчынымі вытамылі. Такая мітусьня была, што як ішчэ пыжару ні надзелылі. Немцы стаяць на тым баку рэчкі і рагочуць: русь, русь... Уласуўцы былі ны нас злэя волі, што вы астаіцёся, наших ждзіцё?!

---

Як нас пывыгыняли ў бежынцы. Раннім бачым немцы з круглымі бляшкімі на цэпцы на грудзях хо́дзюць пы хатых і людзей выгыняюць к мосту /дзелылі прiхрантавую пыласу/. Пыдыйшоў к нашуй зімлянцы і кажа цурік! і пака́зыя на мост. Мама пабегла у барозну бульбы і выкапыла там схованытыя кускі манерыйі і на сьмерць што. Ён пыглядзеў, пірятрёс і аддаў. Мы зайшлі у хату, аччыніілі юшку, піріхрісціліся на йконы і пашлі. Трох малых

дзящей і мама зь цёткуй. Узіла я квасолі, цяжка несць, зыйшла пад мост і высыпала. Сыгналі усіх, хто быў шыламоўцуў. Хто кароў пызыпрігалі, хто так. Дзед Хрол Йіканорінык і дзед Лявон Кувалёў-Гутуруў з кошыкамі з ручкуй. А ў етых кошыках дзісятык бульбін печынных буўтайіцца, кычаюцца. Вера Бычыкува квасолі ўзіла, дужа ўрадзіла. А што б зірна якога усыпыць?. Мылання Рыманчыкува Сухаручка ўзіла паўмешша мяса з прасолу. Яна кажа, а як жа мне, бабычкі, быць, цяжола, а зь етыга мяса праз мех расол сік-сік. Йна трёх-трёх, а расол сік-сік. Тут немцы атыбралі мушчын і хлопцуў і на лагу пастроілі, зыгыдалі зняць шапкі і пыставілі шаренгымі ны калені. Падняўся сквіл сярод баб і дзяцей. Пыстрілялюць, пыстрілялюць гаварілі кожны сабе ціха і ў галаве. "А вы, пырцізаны, пырцізаны..." А тут быў Яшкін Сяргей Паўлавіч, Сярёжка Пуўлючонык, якей быў у тую вайну ў пляну ў Гірманіі. Умеў пы-нямецку гуварыць. Ён ім канвойным скызаў, што ета пырцізаны, а хворыя — падлеткі, старыя. Немцы, як хто ўмеў па-йіхныму, то увыжалі. Так етых мужчын 'тпусцілі ў бабым.

Пыгналі нас пылявымі дарогамі ны сашу, пы Слыбадзе /вуліца у в.Шаламы/, у дные, ні наша йна, чумуйдан цяжолый. Йна стала плакыць, трэсца. А неміц кажа цурік! Йна кінула чумудан і пышла са усімі. Дыгыняюць на Уречча, а уречынь ня гонюць ішчэ, йіх кінулі, яны ў ету пыласу ні пупыдаюць. Мы хацелі увільнуць к каму, самі ўречіні ня хочуць, каб мы да іх ішлі, быяцца, што йіх будуць вінуваціць. Прыгналі нас далі пу пылявой дарозі ны ГынчароЎку. У Гынчароўцы лі саду сталі, каб пірадыхнуць, каб людзі пры сабе здзелылі у кустох. Некаторыя быццам пры сабе і пухуваліся ў кустах, каб астаецца. Далі пыгналі ны Заречча, што лі Васькувіч, выгнылі ны сашу. Пыгналі ны Лібядзёўку сашой. Йина стала, прігналі і кінулі. Мы мокрыя селі пад стогым. Трохі, да паўночы пысядзелі, заснулі, а тады памітуючы, што нам кызалі бацькі ні 'тлучацца, пашлі ны Прыволля. А там тожаж усіх выгнылі. Мы 'т_уліка пашлі у бок лесу, далі 'т сашы. Засціг дзень. Мы йшлі ні адны. З намі была і Варка Дзянісіха Круглікува Ройіха з сімярмі дзяцьмі і ле сістра, наша кума Хадора Кызакова тожа ж сваімі дзіцямі. Селі мы пы дарозі з Пріволля у Р..ўку у Кыпальніх /кар'еры/. Пысярод Кыпальнюў дарога йшла, а бірягі Кыпальнюў сасоннічкы пырасьлі. Йван Варкін усё /ма-

лый быў/, то сухарёў прасіў. Думайым, піряседзім дзень, а тады далі пойдзім. Надвічыр конный раз'езд аб'іжджая Кыпальні, праверка. Убачылі нас вірьхавэл і нешта кажуць. А мы у адзін голас: паночкі, бсм, бом, то мы тут. А яны: нікс, маткі, бом, бом. Цуррік! І паехьлі. Мы вылізьлі і усё ж ідзём далі, у бок лесу. Узыйшлі ны Ржаўку. То ж ні душы. Лі калодзіша бярэць неміц ваду. Мы тожа ўлілі сабе ў вядро. А тута с хаты выбігая уласувіц і крычыць: дзей-та вы былі, сянні ж тут усіх выгнылі. Крікнуў і схуваўся ў хаці. Мы ні жывэя, ні мёртвыя ідзём далі. З крайнія хаты выбігая баба і кажа: дзетычкі, будзьця ў мяне. Не, бабычка, пайдзём далі. Стаў туманок. Зайшлі мы на лог паміж Аржаўкуй, Ленінскім /пас./ і Молатавым /пас./ і ляглі пад ёлачкі ў алешнічку.

---

Як кароў у нас пубралі немцы. Було вой як. Пыгналі мы /дзеці/ — Люда Машкіна, я, Коля Хрысцінін, Танькіна карова была — сваіх кароў на Мугулёўчык /уроч./ пасьціць. У пуніх быяліся дзіржаць, таго што ўзень ездзілі тступаючыя немцы і бралі скот. Кыманда немцуў з Васькувіч, дзе яны атступалі на Удоўск /Доўск/ ехыла па Ціцілінувуй вуліцы. У бінокыль яны замецілі кароў. Мы былі ны пыляныццы. З усіх бакоў немцы су ўтуматымі тырк, тырк і пыгналі кароў. Нашы бачылі эта, і прібеглі, каб прасіць, што аддалі кароў. "Паночкі, кляйнэ кіндэр, аддайця кароў" — прасілі мы і плакалі. Яны гонюць кароў ны Васькувічы, а мы бяжым і з імі і просім, маткі цалуюць рукі. Яны рукі кладуць на грудзі і кажуць: маткі, нам во йдзе ныбалела. Уверьх стріляюць. Рады, што зданія выканылі. Прігыняюць кароў у Васькувічы, зыгыняюць у пуню. Ахвіцэр пыглядзеў і кажа: "Гуд, гуд!" А пераводчыку кажа, што скажы, штс як пріедуць у Гырманію, то там ім аддадзім. Мы 'ттуліка выйшлі і дай бог ногі дамой. Там жа Рыпка Мажэйіха прасіла аддаць казу. "Паночкі, аддайця мэйго цыгана" — прасіла баба. Йна служыла ў яурэю і знала ны-нямецку. Дуракі мы былі, маглі б немцы нас піристрілять там у кустах і усё — выйна.

Запісана ад Яшкінай /Паўлоўскай/
Марыі Якаўлеўны, 1906 г.

Мужык ідзець звaць бабу бабіць дзіцёнка. Нясець хлеб і кладзець на стол і кажа: "Наця вам хлеб-соль, а дайця мне бабу". Баба сыбірайіцца, бярэць сала, пыдарык, мацерійі метры трі. Бяре сала кусок, хлеб ні бярець. Ета усё ў вузёл, у вузёл і пойдзя. Бярець дзіяла дзіцёнку. Пріходжыя, пірібабя, атрежа пуп т места, такей каўбух, дзе дзіцёнык бувая. Пупавіну кладзе ны праннік, пальцы ны два тмерія і атрежа, зывяжа алляной ніткуй. Ета як дзевачка, то будзя плацця праць. Ета усё вымудры. Еслі хлопчык, то бяруць тряпышку, яе у тряпышку і тмеріюць трі пальцы і трежуць пуп. Баба завяжа крепка, алляной ніткуй, што б кроў ні цікла. Тады дзіцёнычка мыюць. Баба ваду піряхрісця, перва сыма піряхрісціцца і скажа: "Госпыдзі, пумажы, каб було харошыя здароўя, хай бог дае". У купелі патсцеля, пыд галоукі болі, штоб мякчэй. Галоўку, як доўгінькыя, то пакругліць, што б круглінькая была. На галоўку платочык завяжыш. Памыюць, каб кары на йім ні було, як у бальніцы рыджайіцца. Баба спаўе, ножкі шчытнінька звяжа, што б ні былі крівыя. Раншы було болі кріваногіх, а цяпер не . Пыкладзе дзіцёнка ў люлічку, у начовычкі. Што ёсць. Бабі грошы кладуць на пелюсць купела. Кладуць на стулік бабі грошы, а ні ў ваду. Косціць вязуць у цэрькву ці к матушцы ў хату. Мы Колю Пілінёнкувыга як вазілі косціць, то к матушцы ў хату зынасілі, папом быў тады Йванька. Піряд етым кума йдуць звaць. Мужык кладзе хлеб-соль і кажа: "На табе хлеб-соль, а мне дайця кума /ці куму/". Куму завуць.

Баба кашу гатуя. Зразу кашу варюць у чугуну, а тады у гаршчок кладуць. Возьмя масла, абкытáя гаршчок, каб каша ні прістала, **выкладыйіш** кашу прысяную, дужа ні сціскáіш. Ныкладáйіш курганком, ныкрывайіш місычкуй, што б каша вырысла. Пытсыпаджайіш сахырым. Мёдым ня добря, дзелыйіцца красныя. Нада варіць кашу крутую. Дзед нясе кашу, а ты ладкі, сцюдзень, пыдарык пырадзісі. Калісь-то дзед у лубцы насіў. Прінясе кашу, бабы схуваюць, шукаюць, найдуць кашу. Мыгаріч ставюць, нясуць на кут, ставюць на столь. Ны кашу кладуць грошы. Кум кладзе спычатку капейкі. Усе кажуць: "Кумува каша, кумува каша". Кум болі кладзе, усё пыкрывая. Як грошы былі дырожэя, то рублёў дзесіць кум кладзе, а цяпер рублей підзісят кладзе. Кажуць: хто пыны кума? Як ніхто, то каша кумува. Ну, тады бярушча

біць кашу з нысьвікамі ў руках баба, кум і кума. Утраіх пыдмаюць кашу і кажуць сабе: раз, два, тры. І ўах. Кашу аб стол. Добря зварітыя каша стаіць, а няўмела зварітыя рассыпліцца. Усі хвалюць: ой добрыя бабіна каша, ой добрыя бабіна каша. Во харошыя каша. Баба режа нажом кашу. Пырадзіха ны кашу бабі намётку дае, метруў чатыры с пылавінуй, пяць метруў мацеры! /йікая шырына/. Бабы хыпаюць дзецім кашы у платочык, гасцінца са кеціня. На кеціных гарелку п'юць. Ну і усё. У Рябінуўцы бабу апкручуюць цiрiз плячо намёткуй і скачуць з бабуй. А мужык пырадзіхі у зімнюй шапцы ходзя, часціць. Як ужо болі гарелкі ставіць на стол /вёдрымі ставілі/ ня будзя, то знімая шапку і кажа "Па хлебу солі". Гульня, бяседа йдзець далі. Дыпіваюць, пяюць, скачуць. Гасціць ужо ня будуць, садзіць зы сталы ня будуць.

Запісана ад Мікалаенкі /Яшкінай/
Алены Міхайлаўны, 1911 г. /транскрыпцыя магнітафоннага запісу/.

---

Як карова ціляецца. Калі ўремя карові ацяліцца і ноччы ходзяць сцірягуць, каб прігледзіць цялення. Перва йдзець пузыр, яго прішчыпнйіш, што б выда сыйшла. Карову бяруць нажмы. Перва ножкі йдуць. Мыйіш чыста рукі і рукамі там глядзіш, ці правільна ідзець галоўка. Карову бяруць нажмы, галоўку вызваляйіш і увесь цялёнык выходзіць. Цiрiз два часы карові дайеш банку сахыру у вядро вады, і каб йіна выпіла. Ну, як устаня карова, бліжа цялёнка. Усё прігляд любоя.

Запісана ад Прачуханавай /Чарковай/
Ганны Іванаўны, 1928 г. /транскрыпцыя магнітафоннага запісу/.

Я, Гўтуруў Сяргей Антонувіч, радзіўся у тысяча дзівяцьсот двацдыць дзівятым гаду. Ды вайны акончуў шэсць класуў. Ды вайны ужо прынімаў учасція ў рабоці. Ды вайны ў калхозі картошку акучуваў. Бацька памёр ж чахоткі. Начылысь вийна. Асталіся мы з братым. Ны нас лігла ніпасільныя работа. Усе землі треба було абработыць. Землі былі раздзеліныгы ны хызяйствы. Пымыгаў нам старік, наш дзед Ілля Яуменувіч, а баба Ганна. У чатыры часы утра зыпрігалі кыня, пакуда жыра, дык мы работылі. Патом случыўся пыжар, згарела наша вуліца. Абшыбка прыйзышла у дзяцей са гнём і згарела наша Слыбнда /назва вуліцы в.Шаламы/. Прішлося ішчэ сы стыріком, кромі работы, вазіць лес. І вот мы ўдваём зь дзедым вывізьлі хату. Па два разы на дні, паміма етый работы, што успыхаць, нада ішчэ два разы ў лес ездзіць у Кабінную Гару. Так што завідуўвуў, як дзеці гуляюць.

Патом армія. Нада ж було ехыць служыць на Дальні Васток, прінящь клімыт другой стараны, балезней прынящь. І чатырі гадкі арміі. Слава богу, што цяперіціська біларусы будуць служыць у Біларусі, дома. Да чатыры годы арміі. За харошую службу хацелі с первыга года, агледзелі, што спасобны, хацелі пыслаць вучылища. Ні прыпусціліі, таму што быў під акупацыюй, акызаўся, стаў браковы. Вот такім пуцём закончыў службу і дамоў. Ну а дома было... Пашпырта нет і абратна ў калхоз. І пакуля пашпырт было заработыць, то німа якея мукі трэба було прынящь...

Да вот січас з вадой. Вот біда Чарнобыльская. Усё гывырят нам, што многа помышчы аказываюць. А факцічэскі вады у нас чыстай папіць ня можна, а мы ў кынтраліруемуй зоні. Калонкі нам ня б'юць. Лічна калонкі мы зы свае дзеньгі хацелі, каб прабілі мне трубу, я б насос свой купіў. Дайця, пумагіця калец. Ніхто, нічога. Нет каму кыпаць і нет машыны. Лі Арцёмуўўны Пуўлючонкуў калодзіж сталі строіць, нямножка здзелылі, а тады закінулі. Самі мын дзесіць раз хадзілі ў сільсавет. А ета прописьць /калодзіжная яма/, там жа й скот ходзіць, усё. Вымушыны былі закыпаць. У нас і школа без вады. Калодзіж Гаўрільчыкуў зысаріўся. Сталі ездзіць вады з бітоным. Ну, канешня, начальства вöзілі каждыга дома харошыя калонкі і асхвальтувыя дарожкі к сабе. Ета яны зделылі для сябе, а пры людзей /махнуў рукой/... Каждый, [illegible] сісцема праходзя, каждый абішчайіт, што калонкі і дарогі зздзелыюць, і вадапровод і калонкі. Как кончылісь выбо-

ры, прайшлі выбыры, усё заціхла. І усё да следующчыга. І так піцігодка зы піцігодкуй. Ну, як мы ужо дажывём, хто яго ведыя, хто зная. Так што старысць ішчэ больш стала страшней, чым молыдысць была. Ну, з прадуктымі у асноуным, как гаворыцца, мы надзеймся ны сваё усё. Мы яшчэ, як гуваріцца, ны ныгах, дзержым парасёнка, карову, так што нам паддзержка. Хоць яно й грязныя усё, зыряжоныя у нас. То й трува зыражоныя. А што дзелыюць ішчэ? Да етыга пыдырыжанія у магазін прівазілі больш чаго, прадуктуу. А нашчот різультата праверкі нічога ні знайім. Бралі мылако прошлую восінь. Зямлю хадзілі бралі, а што у нашуй зямлі ні знайім. Мылако упытрібляйім. Усё мы ядзім. У газеці пісалі, што ныбірая, у чым болі, бабовыя ныбіраюць, ябылыкі не набіраюць. У нас йіх ні бувая. У лес ніхто не ходзя, ні у ягады, ні у грібкі, хоць мы і бальшыя любіцілі. ніхто не ходзя. А сад цвіце, а яблык німа. Усё абсыпліцца. Да хоць і астануцца ны яблыні, становюцца паршывыя. А ета хімізацыя, сымалёты літаюць і льюць. Стайіць тыкая ванішча!? Усё гібня, пціцы у нас пірістаюць. У лес вот еслі вам прайдзіць каму, то нікакога звука. Хоць бы вот якей гук, мёртва, як у магілі. Віраб'і ёсць, у лесі яны ні жывуць. Бувала канцэрт у лясу, такія песні. Ну, толькі што апувішчаюць людзей, што ні хадзіця у лес, ні бяріця ягад, ні сыбірайця грібоу. А мы ужо ні хадзілі, хоць мы былі бальшэя любіцілі. Пу вызярішчу, кажуць, у яме сто адзінак. Ну, прійізджау Алег прівозіу дызомітыр, то йдзе сто, а йдзе можэць восімдзісят, можа быць й мені. Дай жа пядзісят, дваццаць. Тут апяць сто. А чаго яно так, хто яго ведая. Ну, пат крышымі /пад капяжом/ больш. Нам жа скызалі, што газ прывядуць. А калі яны прывядуць, тоь хто яго зная. Вот, а у тых Шыламах жа дзвесця. Дроу ні выпісвыла лясніцтва. Нашы дровы ня годны, ніхто ні загатаулія. А нам прівозюць з гартопа, з Віцебска, па спіску, па вочарадзі, прівозюць і брікету і дроу... Ну, цяперь падвозюць па шэсць кубаметруу па семсот рублей. З нашыга лесу возюць самі.

Запісана ад Гутарава Сяргея Антонавіча, 1929 г. /транскрыпцыя магнітафоннага запісу/

Я радзілыся у вёсцы /ужыла літаратурнае слова/ Шаламы. Мой мужык быў у парціізаных. Наша сім'я была дарослыя, то нам нільзя було зыстувацца. І мы пашлі к пырціізаным. Зыпряглі кыня, пыгрузілі такую-сякую маёмысць сваю і паехылі. Спычатку мы жылі у вёсцы, тут у Зыбалоцці. А потым /літ.слова/ сталі бамбіць і днём і ноччу. Так бамбілі, што і пыжары былі. Мы былі вырішылі пайцііць у лес, к пырціізаным. Зрабілі там сабе шылаш такей. І у тым шылашы нучували, а днём хываліся. Таго што літала нямецкая "ряма" /самалёт/. А калі ны пылянцы было німагчыма, то мы пашлі у балота. У балоці сядзелі, а "ряма" таксама літала. І вот мы, каб йіна нас ні абнаружыла, закрываліся мохым і ліжалі ат самый раніцы , ды самыга вечыра. На купіну лажыліся, гылаву на купіну. Ужо ж мароз быў і ні було мокра. Навот мы, каб йіна нас ні абнаружыла, закрываліся мохым і ліжалі ат самый раніцы і ды самыга вечыра. На купіну лажыліся, гылаву на купіну. Ужо ж мароз быў і ні було мокра. Накрываліся мохым, елі журавіны. А аднойчы чуйім, што сыбакі брешуць і немцы гаворуць. Мы кінулі усю сваю маёмасць і пабеглі туды далі, углыб. Мы пыхываліся, пылажыліся. У Чыстай Лужы пыхнзаліся там, а пулі усё кругом нас. Усё у дзеріва плік ды плік. Во так, пірізждалі, стала цямнець. Ужо ета отрідяніна пірістала. Усе кінуліся наўцёкі, дальшы у балота. І мы тама пырысціряліся. З намі ж то былі цётка Гапка з дзяцьмі і Бычкуны былі з дзяцьмі. І усе мы пырысціряліся. Ну, мы свыя сім'я сыбраліся. Потым к нам патхадзілі парціізаны, рызгуварілі, дзяліліся, што у іх було, яны нам дувалі. Скызалі, што Пітрыка ранілі. Цётка Ганна так плакала! /Ой, ні магу, так хочацца плакаць/, а дайці туда йіна ні можа, таму што вот з Рябінуукі і туды ны Жалезінку стыяла стража. А к яму нада будо йці цірез ету стражу. Так што, памлелі, памлелі. А халадэы. Акцябырския прыйшла. Стайім, слухыйім. Ага. Байі. Учора быў там бой. Тады паслухыйім — ужо туды, дальшы. Ага. Ета ужо, значыць, нашы прагналі немцуу. Чырізз дзень апяць на тым самым месці б'юцца. Аж ета біліся на рацэ Проня, тут йдзе Улукі, Красныя Слыбыда. Вот тут во. Ну а што, нівазможна було ужо жыць большы. Пойдзім у вёску, можэ там як пымыйімся у бані. Зытапілі баню, і мы туды прішлі і дзеці пысыбіраліся, і толькі хацелі, а немцы верьхавыя едуць с Курганяя. Ага. А мы пыбяліся. І мама гаворіць: ні будзім. А мы — і я,

і мама — пабеглі назад у лес. А яны усё крічалі: хальт! хальт! Стрілялі пы нас. Ну, а мы уцяклі. Послі нівазможна було — ужо дужа холыд. Мы ноччы вышлі у яму такую. Ужо і снег быў. Адзін кы днаму прігнуліcь і сядзелі. Сядзелі, піріждалі ды раніцы. Ну, мыя свякрова пышла ны Кульшычы. Там ужо, значыць, мы ж ні знайім, куды нам выйці, у якую хату, хто там нас прімя. Можа, мы наткнёмся на немцуў. Уродзі там дугуварілiся. Прішлі мы увечары. А яны /гавораць/ — не! не!, тут немцы. Бялiся, што мы з лесу, што б йіх ня выгнылі. Ну. Ды раніцы пубылі, нызад прішлі у Рябінуўку. А потым мы піріброліся к Борікувуму Карпу, к сымаму. Раз толькі улягліся усе. Упакот лажыліся ат парогу. А нейкій паліцэйскій, чорт яго зная, сюды прішоу. Стойця, стрілящь будуць. А мы свет пыгасілі, бяліся. Ну, выстріліу раз угору і пашоу. Вот так. Тады ужо дні тры прайшло. Бачым, ужо танкі нямецкія бігаць назад і етыя абозы едуць. Ужо адступаюць. Мы ужо тут узрадувыліся. Вапшчэ с хаты выйшлі. І пашлі у кустах селі. І ну й ждалі. А пад вечыр стау бой. І крічалі урра, За Сталіна! За Родзіну! Хто раніныя крычалі, то што. Ну, й за ныч яны атступалі. А мы раніцай сыбралі якія там ужо клункі /што у нас було!?/, нічога ні було і пашлі цамой /у Шаламах/ мост разрушын. Ні вакон німа, падлогі німа, нічога. Ні бялiся, што міны. А што було дзелыць? Дзень пуб... . Мушчыны, каторыя былі, пашлі, мыбылізувалі йіх. А мы з буртоу бульбы сабе нынасілі. Йдзе сноп які. Так і зімувалі. Сылдаты што-небудзь дувалі. Вот так. А вясной плуг ны сабе цігалі. Чылавек тры-чатыры пары, па шэсціра і па восім чалавек. Ну, дык мы ж гуськом за адну палку два, следым яшчэ, і хто та там за плугам. Сённі пасейім ..е, заўтра пасейілі хто тут удзельнічыя у етый кынпаніі. Ета так бульбу сейілі. І пыд ячмень, і пыд усё. Пыд ячмень хто лопатуй капалі. І барану ны сабе цігалі. Ня лёгкыя жысць была. А далі-болі сталі рыжжувацца. Ціряз нескылькі гадоу ужо цялёнычка раздыбылі. У Крыснаполля схадзіла мама, купіла бычка там. Прівіла. Нада ж було саломін якіх. Пашлі з ношкімі у салому. Салома была у Грішчуковым там раўку. Ныбралі там етуй саломы. А сторыж услед бяжыць...

на Да́л'н'ij Восто́к. Вajну́ ja ако́нчыў факт'íч эк'i у со́рак вас'-мо́м. Тры о́рдэ'іны у м'ін'е́, два дэ'іс'а́тка м'іда́л'аў. Здаро́ўja н'ет. І ра́дас'ц'і ад ц'іп'е́рашн'aj жы́з'н'і н'ікако́j. У вajну́ мнагачы́с'л'ін:ыie же́ртвы был'і́. По́с'л'і вajны́ врэ́м'а тру́днаia, го́лад. У Зал'е́с'ц'і н'і адно́j ха́ты це́лаj н'і засталóс'. Но ус'ідно́ жыло́с' тада́ інц'іре́сна.

Запісана ад Міњкова К.З., 65г.

*****************************

Вёска Покаць

Оj, дэ'е́тачка, ты ду́маiш ja успо́мн'у, те́ia п'е́с'н'і стары́н:ыie. Во каб с' к'ім на па́ру, мо́жа б шче j jак. На маio̧j жа па́м'аец'і сто́л'к'і праjшло́. Jе́та ж с'о́л'іта мн'е ажна́ с'е́мс'ат п'ац' м'іну́ла. Ja ужо́ два һады́ ба́ц'ку сваjго́ п'іражыла́. Дык і наба́чылас' ус'аго́. По́мн'у jак і гра́пы (графы) жыл'і́ у Чычара́jску, а паны́ во тут у хво́л'варку был'і́. Ja і к па́ну хадэ'і́ла дэ'е́укаj. А пан до́бры быў чалаве́к. Л'удэ'а́м грышчы, кал'і́ рабо́ты н'і было́, нала́джаваў. Тады́ у с'імна́ц:атым струс'ану́ха та́ia. Падн'іхв'е́рыл'і хло́пца сав'е́ч:ык'і. Jон аа ча́рку і прада́ўс'а, падпал'і́ў па́н'с'к'і пала́ц. Вы́скачыў теj но́чаj ц'іраз шы́бку у спо́дн'ім сам. Жо́нку то́жа пас'п'е́л'і а' ц'іпла́ вы́ц'агнуц', а да'іц'о́начкавы ко́стачк'і то́л'к'і вы́грабл'і с по́п'ілу. Сышл'і́ те́ia л'у́дэ'і ц':ул'. У je̋ты краj наза́д н'і сыска́л'іс'а. Во паку́л' һавары́ла, уэбрыла́ на вум дна п'е́с'н'а. Мы jак танк'і́ на гу́л'н'ах вадэ'і́л'і, дык ус'о́ п'е́л'і je. Слу́хаj і п'ішы́ саб'е́. Мо́жа мн'е һывары́ц' тро́х'і б'о́л'і пама́лу.

Запісана ад Юрчанкі Е.Ф., 75г.

***

Jака́ia мн'е ц'іп'е́р ры́ба, Было́ wрэ́м'а хадэ'і́ў. Но ін'ц'іре́сных істо́рыj са мноj на ры́б'і н'і было́. Адна́ка дэ'е́даву адну́ хараш'о́ по́мн'у, jак дэ'ед в ры́бы уц'о́к. Паie̋хаў jон на ры́бу і с'ец' к'і́нуў. Jе́дэ'а ц'іхо́н'ачка. А пад ло́дкаj кх-х-х- Дэ'ед jак бы н'і чу́ia. Праjшло́ тро́шк'і wрэ́м'а і аноў там н'е́хта кре́кча. Дэ'ед п'іратрус'і́ў ма́ласц' і дава́j быстре́j с'ец' падб'іра́ц'. Jон с'ец' ц'а́гн'а, а н'е́хта ло́дку б'іра́чаia. Jаму́ н'е́куда дэ'е́ц:а. С'ец' ско́рын'ка сабра́ў і дамо́ў с'ігану́ў. А до́ма jаму́:

--Чаго́jта ты так ра́на? -- пыта́iуц:а. Аб'ас'ц'і́ўс'а дэ'ед:

--Руса́лк'і абантава́л'і. Ло́дк'і п'ірав'іра́чаiуц'.

Запісана ад Барабанава В.І., 82г.

**********************************

Вёска Куклічы

Вот у пам'а-ц'і асталос'а. Шче малеіа і пашл'і з бац'кам работац'. Л'ада капан'ічыц'. Куз'м'анк'і сваіім гуртам, і шче з Карпаўшчыны был'і л'уда'і. І нада ж ја на јолачку скалола нагу. Вопух мн'е зраву нагнаў. Сту"'ен' разбух. Баба тады Куз'м'анкова кажа: јета ж таб'е дз'еўка паўрочылас'. Іда'і ты памалу дамоў. Дык пакул' ја дајшла да Ѣас'іл'св'іны, і іны м'ін'е wжо дагнал'і. Чуц' дапаўг'а дамоў, а наһа -- во калода. Матка уголас:

-- Дачушка ты маіа, нада б'ежч за бабкај ц'і јехац' к С'в'атому калодз'іжу абракац:а.

Паслала јна З'ену нашу за пакојнај ужо Марчыхај. Што таіа дз'елала, вот н'і помн'у добра. Но пакул' јна һаварыла са мној, мн'е так јакта л'огка стала, што ја і заснула пры јој. А праснулас'а здаіец:а і вопух трошкі пам'еншыўс'а. Но к калодз'іжу бац'ка wс'іраўно ваз'іў. Так Марчыха маці:ы наказала. У тым жа м'ес'ц'і і праўда вада н'ејкаіа гаіучаіа. Туды л'уда'і спр..у wв'ек јез'дз'іл'і л'ачыц:а. З ус'ој нашај вакол'іцы. І баһата каму палучыла. Л'етам там вада с'ц'удз'онаіа, аж п'аче јак глын'еш кал'іва, а уз'імку у тога краіу зруба кл'уч ц'оплы бје. Памыла ја там сваіу нагу, л'іцо спаласнула тожа і у збанок набрал'і с сабој. Доўга ц'і н'е, а наһа маіа пажыла скорын'ка, јак н'ічога і н'і было саўс'ім.

Запісана ад Карэцкай К.Я., 70г.

***

Ты ж знаііш, М'ікол, маіу Нас'ц'у. Пражыл'і з' јој душа w душу ужо бол'ај двадц:ац'і с'ам'і гадоў. Троіа сыноў у м'ін'е. Мы уароx н'ікурашчыіе, а С'арг'еј кура. Прас'іл'і јаго і ја, і хлопцы, і жонка: к'ін' хлоп'іц. А јон вотпав'ідз':

--У нас јо дз'ед Мас'еј. Кура јон з вас'м і л'ет. Ц'іп'ер јему дз'ев'аноста вос'ім л'ет, а wс'е шче смал'а с'ігаретк'і. "Б'іламор" глаўным вобразам. І зубы у јаго лучы:ы вашых, пашц'і ус е цэлыіе, тол'к'і выпала тры штук'і. Кажа і ја буду јак дз'ед Мас'еј. Ја ж јаму:

--Сынок, јета тваіо дз'ела, ужо сам ваэрослы, но пры матк'і ходз' н'і смал'і.

С жонкай у м'ін'е б'іда стала. Да вы чул'і. Нас'ц'а на дыхан':а стала бал'наіа. Было wс'о добра, а ц'іп'ер напала на је на-

пас'ц'. Мучаiц:а . 'ншчына. Збыў ја i скот јак'i быў, тол'к'i с'в'iн':еј гадуiу. А ана ц'iп'ер в бал'н'iцы н'i выходз'а. Дактары н'iчога канкретна н'i кажуц', а мы самы думаiiм јета з радз'iiацыii. Была ж iна да л'еташн'ага году нармал'наiа хаз'ајка. Пачаўс'а Чарнобыл' i на је сразу хвор прык'iнулас'.

Запiсана ад Тарасенкi I. В., 57г.

***

У с'ем гадоў ја на попрадк'i хадз'iла. Јак н'i праду, клачк'i выскакваiуц' i выскакваiуц'. Хто вумн'ејшы, дык јак iдуц' дамоў ј iх v с'ц'ану папхатаiуц'. А ја, в'едама дз'iц'онак, с сабој в попрадак дамоў н'асу. Прышла w хату i плачу: куда'ел'а н'i прадз'ец:а. Матка м'iн'е наб'iла. А баба на iiе: б'азумнаiа, ты ж дај јој добраiу кудз'ел'у, а сама јету папрадз'i.

Запiсана ад Шуманавай А. I., 76г.

************************************

Вёска Добрынь

Сумна у нас стала жыц'. Н'уда на wс'о напала i на л'удз'еј, i на птушак. Во ж прыгл'едз'ц'iс' ц'iп'ер i з'аз'ул'а н'i кукаiа. Н'екаму јој выводз'iц'. Птушак друг'iх тожа маiа. Адз'iн удот добра дз'аўб'е. Дно н'iма н'iкога у л'ес'i. То в'iсна скрыiiц:а, ус'е у л'ес. Тапары з'в'iн'ац', каровы мыкаiуц', л'удз'i п'аiуц'. Јес'л'i гукн'еш пры пас'б'i, то i чужаiа карова прыјдз а к нашаму стаду, рыкн'е i пашла дал'еј. Н'екаму ужо п'ец' птушкам у л'ес'i н'i чалав'ека, н'i каровы там.

Запiсана ад Конан С. П., 75г.

***

Шче баба маiа кал'iс' расказала. З'iмој, кал'i ваўк'i свадз'бы водз'уц', iшл'i л'удз'i в рыбы. Нап'ерад јiм свадз'ба јшла. Теiа рыбак'i хто куды. А дз'iн чалав'ек на дз'ерыва пал'ез. А јны дз'ерава грызц'. Праўда, таўстоiа было, дык н'i дал'i рады. А чалав'ек тој ажно да ран':а с'адз'еў, пакул' в'iдна н'i стала.

Јано ж так. Јак наб'ег воўк, уц'iкац' н'i wц'iкај убје хвастом. Хавај л'iцо, лажыс' н'iц. Јаны ц'iб'е абн'ухаiуц', абл':уц', што можыш н'i падн'ац:а i појдуц'. У нас ц'iп'ер так н'iчутна, што јдз'е чалав'ека з'јел'i.

Запiсана ад Кебiкава I. В., 56г.

***

Вы маiадеiа вот н'iчога н'i знаiiц'а, а даўн'ејшыiе л'удз'i,

ту́тышн'іје жы́ц'іл'і, пра wс'о зна́л'і і дз'елал'і тады́, јак јано́ на́да было́. Вот уз'а́ц' ходз' бы Ју́ры – Јаго́рја. Јон жа ус'і́мы з'в'іра́мы каманду̧іа. Калдуны́, чарадз'е̧іі з'дз'е́лал'і чалав'е́ка ваўко́м. Іх па-другому у нас зва́л'і ваўкъла́к'і. Јон з' з'в'іра́мы хадз'і́ў. А Ју́ры – Јаго́рыј падаслаў таго́ ваўка́ к чалав'е́ку. Пры-хо́дз'іц' ура́н':і хаз'а̧іін у хл'еў, а там јак воўк ста̧іц'. З'б'е́гл'іс'а на крык л'у́дз'і. Уда́рыл'і то́га ваўка́. П'іратварыўс'а јон у чалав'е́ка. То́л'к'і шер^^ц' на хрыб'е́ц'ін'і да с'м'е́рц'і засталас'а.

Запісана ад Каменевай В. В., 53г.

*************************** ********

Вёска Падасоўе

А было́ так. Пашл'і́ да'е́ўк'і купа́ц:а. З'да'е́л'іс', вы́купа-л'іс'. Нада'е́л'іс'. А на дны̧іе́ дзе́жы вуж л'ажы́ц'. Теј вуж і ка́жа чалав'е́чыск'ім го́ласам:

--Н'і wц'іка́ј. Бу́да'іш мн'е за жо́нку, по́јда'іш жыц' са мној у л'ес.

Іна́ сагласі́лас'. Ка́жа пајду́. Вуж ад:а́ў јој ада'е́жу. Іна́ над-з'е́лас' і пајшла́ за јім ус'л'е́д у л'ес. Тры һады́ прајшл'і́. Да'е́-вачка у јіх знајшла́с', і шче друг'і́ дз'іц'о́нак. Захац'е́ла та̧́іа дз'е́ўка дамо́ў. А јак вужа́ в'ез'ц'. Запре́гла кан'а́, ускла́ла ха-з'а̧іі́на на воз. Да̧іе́хал'і да маста́. Ка́жа вужу́:

--Ја ц'іб'е́ тут л'і маста́ аста́ўл'у. Бу́ду јц'іц' наза́д, паза-ву́: Вуж мој, вуж таптуж. Ты вы́л'із' т:ул', і мы па̧іе́да'ім наза́д.

Пры̧іе́хала дачка́ к ба́ц'ку. Пыта̧іц:а ма́тка.у дачк'і́, јдз'е ж твој муж. А да'е́вачка ка́жа: јон вуж. Ма́тка јаго́ пак'і́нула пад ре́чкај. Јак бу́да'ім наза́д з'б'іра́ц:а, на́да сказа́ц' так'е̧́іа сло́вы: вуж мој, вуж таптуж. Јон вы́паўз'а і тады́ па̧іе́да'ім. Дачка́ з ба́ц'кам у разгаво́ры к'і́нул'іс'а. А стара̧іа паб'е́гла пад мост і пазва́-ла вужа́, јак дз'е́вачка расказа́ла. Вы́паўз вуж. Іна́ јаго́ і парашы-ла. Тым ча́сам засаб'іра́лас'а дачка дамо́ў. Дајшл'і́ да маста́. А там іје́ хаз'а̧іін пам'е́рлы л'ажы́ц'. С то́га уре́м'а та̧іа дз'е́ўка з а-з'у́л'кај і пал'ац'е́ла. А дво̧іа дз'е́так засталос'а. Во ј л'о́та̧іа іна́ і то́л'к'і два јајцы́ н'ас'е́ і у чуже̧іа ку́плы падкла́да̧іа.

Запісана ад Кандрацьевай М. М., 73г.

***

Ц'іп'е́р ба́бн ма́ла п'а̧іу́ц', а даўн'е́ј жа Н'і дно да'е́ла б'із' п'е́с'ін н'і прахо́дз'іла. Што wжо п'е́ла Во́л'га М'іха́лкава у нас.

Ц'іц'ер н'іхто і бл'ізка так н'і п'аіец'. Гол:с жа у іі́е прама јак царкоўны звон. Бывала пачн'е јдз'е у пол'у п'ес'н'у, а на с'ал'е чутна. Вот адну іі́е п'ес'н'у таб'е раскажу. Іна крепка в'ісока п'аіец:а і дужа крас'іва. Ја сама іје с'ц'агнуц' н'і магу. Јак л'он брал'і, дык іна іі́е п'ела.

За л'ес сонца закац'ілас'.
Дачка ѡ мамк'і эагас'ц'ілас'
Мамачка ж маіа родн'аіа,
Прав'адз'і м'ін'е дадому.
Ц'іраз теіа л'асы ц'омныіе,
Ц'іраз теіа бары шчырыіе,
Ц'іраз теіа речк'і быстрыіе,
Ц'іраз теіа кладк'і г'ібк'іі́е.
Кладачка спадг'ібнулас'а,
А дачушачка ул'акнулас'а.
А чаго ж дачушачка ул'ікаііс':а,
Ц'і да дом'ін'ку с'п'ішаііс':а,
Ц'і трав'іца ножк'і спутала,
Ц'і рас'іца вочк'і вып'іла.
Ој, мамачка маіа роднаіа,
Спутала м'ін'е замужн'аеіка,
Распракл'атаіа падружјајка.
Кал'і б знала ја тоіа,
Што замуж:а л'іхоіа,
Рашчасала б ја сваіу косачку.
Дај с'адз'ела б ја дома,
Дај запл'італа б л'енту краснаіу,
Дај пракл'інала б сваіу дол'у н'ішчаснаіу.

Запісана ад Шаўчэнкі А.Я., 70г.

***

Л'удз'і јны ус'ак'іі́е. Был'і каторыіе чараўн'ікамы, калдавал'і. Са мној такоіа адз'ін раз прыкл'учылас'. Јак ја грыбы брала. У курк'і пајшла. Гузоўна тож на тоіа м'еста трап'іла. А дождж-жык с'іп'іц', с'іп'іц'. Гузоўна прыјшла, махрамы абв'ес'ілас'. Такаіа хустка у іје рабаіа, кл'ец'істаіа. Гл'аджу ја, а Лук'ірја косы распус'ц'іла і м'ін'е каб спужац'. А ја ж знаіу, што јета Лук'ірја. Тады јна хыркнула: х-хм-х. Бачу іна у мој бок ц'ікуіа, ц'і гл'аджу на іі́е. А ја гл'аджу -- і н'і слова. Тады јна пајшла, прыбралас'. І хмыз'н:ачком ка мн'е.

--Јета і ты тут б'ареш.

--Б'ару́, - кажу́, - і ты б'ары́, м'е́ста хва́ц'а. Ты ж тут ужо́ друг'і́ раз.

--Jа, чаго́ jа дру́г'і, 'jа во то́л'к'і прыjшла́ п'е́ршы.

Jа так ду́маjу: кажы́, дз'е́ван'ка, кажы́, jа ж сама́ зна́jу. Jе́та ж іjе́ так ба́бка навучы́ла, іна́ ж чарау́н'іцаj была́, wс'о калдава́ла.

Запісана ад Маісеенка С.Ф., 62г.

************** *********************

Вёска Дубок

Jа таб'е́ раскажу́, што ко́жнаму чалав'е́ку пры ро́дах вы́значана, jак жыц' і ко́л'к'і. Радз'і́ла тут дна ба́ба тро́jн'у. І hару́jа: jак жа мн'е дз'е́так ус'і́х падн'я́ц'. А хаз'а́іна н'і^к^ма́: на платы́ паjшо́у, у гру́ак'і. Н'е́jак то́п'а jна п'еч, па хаз'а́jству то́пчыц:а. Тут старе́ц у ха́ту. Так'і́ ху́дз'ін'к'і, з то́рбаj з бо́ку. Заjшо́у, паздаро́укаус'а і ка́жа: гару́jіш ты, хаз'а́jка, што дз'іц'е́j баhа́та, н'і зна́jіш, як падн'а́ц', а жыз'ц' твајі́х дз'іц'е́j праданачана. Вы́jдз'іка ты с ха́ты, падыjдз'і́ к вакну́, пагл'адз'і́ у шы́бку і знац' бу́дз'іш, што wп'е́рад стрэ́н'а твајі́х дз'е́так. Іна́ wго́лас: н'і магу́, н'е́кал'і во, і п'е́чка н'івы́тапл'інаjа і хаз'а́jства шчэ н'ідагл'е́дз'іла. А jон падп'і́хаjа:

--Ідз'і́ і ідз'і́, -- ка́жа. -- Паку́л' пры́jдз'іш, ус'о́ дадз'е́лаjу. Н'е, к'і́нула, паб'е́гла. Заjшла́ пад вакно́, гл'адз'і́ц' у шы́б'іну. Там дз'е́тк'і jе́тыjе гул'а́jуц'. Адз'і́н у вадз'і́цы пл'о́скаjіц:а, с'аре́дн'і ж жы́там гул'а́jа, а м'е́ншын'к'і з або́рачкаj. Пагл'адз'е́ла, пры́ходз'а. І пра́уда, у ха́ц'і ус'о́ дагл'е́джана. Р ска-за́ла старцу, што ба́чала.

--Ну вот, -- jон ка́жа, -- ус'о́ ты і вазна́ла, што дз'іц'е́j тых жджэ. Хто з жы́там гул'а́jа, хл'еб бу́дз'а с'е́jіц', хто з бо́рачкаj - с'іло́ саб'е́ сам падстро́jа, хто у вадз'е́ пл'о́скаjіц:а -- заб'аре́ jаго́ сау́с'і́м маладо́га к саб'е́ вада́. Застан'е́с':а ты, маіладз'і́ца, то́л'к'і з адны́м дз'іц'о́нкам. Така́jа ц'іб'е́ жыз'ц' нап'е́радз'і жджэ. Jано́ і пра́уда, л'удз'і каза́л'і, што так у тоj ц'о́тк'і і паjшло́. За дз'ін год с'м'ерц' абаjі́х забра́ла.

Запісана ад Шанкевіч А.Ф., 73г.

***

Jе́та ц'іп'е́р маіа хто дз'і́к'і м'од з'б'іра́jе а ран'е́j л'у́дз'і хадз'і́л'і у л'а́да ву́л':і ста́в'іл'і. Паjшл'і́ дз'ін раз так. Чу́jуц' н'е́шта загургачэ́ла. Гл'адз': м'адз'в'е́дз' м'од с'к'і́ну. А

јон там у дз'ерав'і заскаб'іў лапу. Ус'і убачыл'і м'адз'в'эдз'а, п'ірапужал'іс' і уц'акл'і. А дна баба засталас'. Іна шепты знала, мал'ітвы. Зн' іла таіа баба јаму кроў. Дык м'адз'в'едз' кару садраў, м'оду прын'ос јој раз, друг'і. Так адз'ачыў јој. Јано пон'ітна: м'эдз'в'едз' жа с чълав'ека.

Запісана ад Шанкевіч Т.М., 71г.

Ф.Д.Клімчук

## З МАТЭРЫЯЛАЎ ЭКСПЕДЫЦЫІ Ў БУДА-КАШАЛЁЎСКІ І ЖЛОБІНСКІ РАЁНЫ

Запісы зроблены ад жыхароў вв. Бершчоўка /1991 г., запісы ад перасяленцаў з в. Баршчоўка Нараўлянскага раёна, якія жывуць у в. Акцябр Жлобінскага раёна/, Іванаўка /1992 г., Буда-Кашалёўскі раён/, Крукі /запісы ад былых жыхароў в.Крукі Брагінскага раёна, якія жывуць у в. Губічы Буда-Кашалёўскага раёна/, Пучын /1992 г., запісы ад былых жыхароў в. Пучын Брагінскага раёна, якія жывуць у в. Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна/, Шарыбаўка /1992 г., Буда-Кашалёўскі раён/.

### Л е к с і к а

АБГРА́БЛІВАЦЬ незак. Грабіць. Абграблівають людзей, убіваюць. Пучын.

АДНА́КІ прым. Аднолькавы. Ліс і ліса — яны аднакіе. Баршчоўка.

А́ЖНА злуч. Памералі — ажна шэсцесят градусаў. Іванаўка.

А́ЙСЦЕР м. Чорны бусел. Баршчоўка.

БУ́ЦЕЛЬ м.: у буцелі. У росквіце сіл. Са́ма у буцелі етыя дзеўкі. Іванаўка.

ВЕ́РАС м. Нераст. Рыба на верас ідзе. Крукі.

ВІСНЯ́НЫ прым. Вясенні. Давайце спяём вісняную песню. Іванаўка.

ВУ́ДЗЬДЗЕ н. Вудзільна. Крукі.

ДАЎЛЯНУ́ЦЬ зак. Прыціснуць. Твайго Восіпа трактар даўлянуў — рэбры пацёртыя ў яго. Шарыбаўка.

ДАЎМЕ́ЦЬ зак. Дадумацца. Хацэлі сена накасіці, а я не даўмела. Іванаўка.

ДЗЕРУНЫ́ мн. Дранікі. Крукі.

ЖЖО́ХМАЦЦА зак. Насупіцца. Чаго ты жжохмаўся — скандал падымаць хочэш? Крукі.

ЗАПАМІНА́ЛЬНЫ прым. Памятлівы. Я такая запамінальная была. Шарыбаўка.

ЗАСАРЫ́ЦЦА зак. Зарасці. Старык — тудою рака йшла да засарылась. Баршчоўка.

ЗАЦІШШО н. Зацішак. Мы прыехалі у такое зацішшо. Шарыбаука.

ЗІМАВЫ прым. Зімні. У мяне зімавы чоснык. Шарыбаука.

ЗЛЯК м. Спалох. А як зляк еты лячылі? Іванаука.

ЗМАСЦІЦЬ зак. Звіць. У аусе сытаука гнязло змасціла. Баршчоука.

КАГДАТАШНІ прым. Колішні. Ета кагдаташняя песня. Шарыбаука.

КАЛІСЬ-ПРАКАЛІСЬ прысл. Вельмі дауно. Мога калісь-пракалісь у нас вадзілі казу і масленку гулялі. Іванаука.

КАЛЯСАЙКІ мн. Сланечнік. Крукі.

КАУЦЁБІНА ж. Невялікая яма з вадой. Крукі.

КРАСАЧ м. Прыгажун. Іванаука.

КРЫСАК м. Пацук. Панясу парасёнку, а крысакі такія во бегаюць. Іванаука.

КРЫШАНІ мн. Суп з бульбы. С крышанёу суп. Крышані — жыдкая бульба. Шарыбаука.

ЛОУЖ м. Куча галля. Баршчоука, Крукі.

ЛУЧАЦІ незак. Нападаць. Буду стралящі, буду лучаці / з песні/. Шарыбаука.

МАРШЧАКІ мн. Скураныя лапці. Пашыю маршачкі — ето лапці з шкуры, уверху сцягваюцца шнурком. Баршчоука.

МОГА прысл. Можа, мо. Мога некаторыя знаюць. Мога сто раз ету песню прагяю. Іванаука.

МОЖЭТКІ прысл. Можа ж. Я ж гаспадыня можэткі! Шарыбаука.

МОЛАЖ ж. Від лазы. І лаза, і молаж е, расце на лугу, нападобіе, як лаза, лаза зялёная, а молаж жоутая, лаза дзярэцца, у лазы кара крэпкая, а у молажы слабая кара. Баршчоука.

НАЛЕСНІКІ мн. Бліны з мукі. Налеснікау напікла. Налеснікі— блінчыкі з мукі, а дранікі з бульбы. Шарыбаука.

НАПНУЦЬ зак. Накінуць на плечы. І кухвайку напянеш. Іванаука.

НАШЫВАЦЬ незак. Вышываць. Нашы бабы добра сарочкі нашываюць; цёця кохты усім панашывала і хвартушкі нашываныя. Іванаука.

НЕАТПУШЧОЛЬНЫ прым. Недаравальны. Калдаваць — ета неатпушчольны грэх. Іванаука.

НЕБОГА ж. Пляменніца. Пучын.

НЕПРЫДУМНА прысл.: НЕПРЫДУМНА АПІСАЦЬ Немагчыма перадаць словамі. Столькі гора перажыла, апісаць непрыдумна. Шарыбаўка.

НІСХАДЗІМЫ прым. Непраходны. Тут нісхадзімае балота. Шарыбаўка.

НУЖА ж. Дробныя шкоднікі. Штоб ніякае нужы не было, ні крыс, ні етага. Іванаўка.

ПАДПАЛАК м. Блін. Крукі.

ПАДТАЛАНІЦЬ зак. Пашанцаваць. Добра, што ета ж падталаніла, перахітрыла іх. Іванаўка.

ПАЛЯМБІЦА ж. Паляндвіца. Шутнае Буда-Кашалёўскага раёна.

ПАЛЯНДРЫЦА ж. Паляндвіца. Папробуйце мае паляндрыцы. Шарыбаўка.

ПАНАМОШЧАНЫ прым. Застаўлены ехай. Сталы там панамошчаны. Іванаўка.

ПАРАНУЦЬ зак. Прапарыць гарачым. Ніна чай грэла, прынясіце, я парану горла. Іванаўка.

ПАТОПКІ мн. Атопкі лапцей. Іванаўка.

ПАЎЗУНЦЫ мн. Прыстасаванне перавозіць зімой невялікі груз. Беруць такіе паўзунцы і везуць. Пучын.

ПЕРСНІК м. Пярсцёнак. Разрэшы мне на рушнічок стаці, персьнікі паміняці. Іванаўка.

ПЕРЧЫНА ж. Перац. Другі раз мяса ўкіне, перчыну пасыпя. Шарыбаўка.

ПЛАШЭЙ прысл. Горш. Калі яму вісялей, мы уключым радзіва, а калі плашэй — мы выключваем. Іванаўка.

ПОРАЦЦА незак. Упраўляцца з работай. Вы там пораецеся? Шарыбаўка.

ПРАМКА ж. Роўная, не мятая салома. Бярэш кулі, прамку. Прамка — прамая салома. Шарыбаўка.

ПРАКАЗАЦЬ зак. Вылячыць загаворамі. Гаворыць: пракажы мне спуг, — я пракапала. Іванаўка.

ПРЫЛЮБІЦЬ зак. Упадабаць. Каму паможэ, каму не, ета як яго прылюбя. Іванаўка.

ПРЫЛЯЧЫЦЬ зак. Вылячыць. Прылячы мне спуг. Іванаўка.

ПРЫТАРАЧЫЦЬ зак. Прывезці, даставіць. У суботу мне яго прытарачылі дамоў. Іванаўка.

РАСШЫВА́ЦЬ незак. Вышываць. Кохты расшывалі. Баршчоўка.

РО́СЛІКАВЫ прым. У якім многа спарыньі/пра збожжа/. Рослікавая пшаніца, у рослікі ідзе. Шарыбаўка.

РО́СЛІКІ мн. бат. Спарыння. Рослікавая пшаніца, у рослікі ідзе. Рослікі -- для якой-та хваробы. Шарыбаўка.

САДЗІВА́ЦЬ незак. Адзяваць. Як сталі самі работаць, сталі сябе садзіваць /судзіваць/. Шарыбаўка.

СКА́БКА ж. Стрэмка. Загнаў скабку. Крукі.

СКАПА́ЦЬ зак. Выкапаць. Скапалі бульбу, а я лігла і ляжу. Іванаўка.

СКІ́ЦЕР м. Свежаніна. Сусед скіцер нясе мне. Скіцера прынеслі мне. Шарыбаўка.

СКОС м. Укос сена. Хацелі сена касіці, а другога скосу не было. Іванаўка.

СЛЫ́ХІ мн. Чуткі. Ета па чужых слыхах, а я не бачыла. Іванаўка.

СРО́ДСТВА н. Родзічы. Жыў там паляк і яго сродства. Шарыбаўка.

СЫ́НЕВЫ прым. Сынавы. Унучыка прывезлі сынева. Іванаўка.

ТА́МБУРКА ж. Кручок для вязання карунак. Тамбурка -- кручок ...карункі візаць. Шарыбаўка.

ТРУДЗЯ́КА м. і ж. Працавіты чалавек. Ён трудзяка такі. Пучын.

ТРУСНУ́ЦЬ зак. Трасянуць. Ён труське галавою. Іванаўка.

УЖАДО́БКУ прысл. Удосталь. Сахару было ужадобку. Іванаўка.

УЗДАЛЕ́ЦЬ зак. Змагчы. Не уздалелі па паследні вянок цэменту падаць. Іванаўка.

УМІНУ́ЦЦА зак. Прайсці, мінуцца. Яму ета не умінецца, каб ему ета паглядзілі. Пучын.

У СІЛА́Х. У росквіце сіл. У сілах чалавек. Пучын.

ХАДЗІ́ЦЦА незак. Брадзіць. Ужо ходзіцца мая брага. Шарыбаўка.

ЦЫРКАНУ́ЦЬ зак. Падаіць. Карову цырканула. Іванаўка.

ЧУПУРУ́ХА ж. Неактыўная да работы жанчына. Чупуруха ужо будзе мужыку. Шарыбаўка.

ЧЫ́РКА ж. Чыр. Такая вялікая чырка села. Баршчоўка.

ШКАДАВА́ЦЬ незак. Жалець. Я так шкадую дзетак. Шарыбаўка.

ЯГРУС м. Агрэст. Ягрус — такія кусты, у мяне іх кустоў шэсць, яны стаяць паўз плот. Шарыбаўка.

ЯКСЯ прысл. Неяк. Ён якся сказаў, найшоў такое слова. Іванаўка.

## З мікратапанімії

БАРЭЙШЧЫНА ж. Поле і кусты. Шарыбаўка.
БЕЛАЕ БАЛОТА н. Поле і балота. Шарыбаўка.
БЕЛЫ КРУГ м. Лес, грыбу раслі. Пучын.
БЕРАЗЕНЬСК м. Ручай і кусты ніпраходныя. Шарыбаўка.
БЫІНАЎКА ж. Вуліца. Шарыбаўка.
ДУБОВІК м. Балота. Пучын.
ЕЛЬЛЕ н. Балота. Крукі.
ЕЎХІМАВА ДАЛІНА ж. Даліна. Крукі.
КАЗЁННАЕ н. Лес. Шарыбаўка.
КАЙСТРЫШЧА н. Урочышча. Шарыбаўка.
КАМАРОЎКА ж. Ву..ца. Жылі Камаровы. Шарыбаўка.
КРУЖОК м. Урочышча. Шарыбаўка.
ЛОГ м. Сенакос, паша. Шарыбаўка.
ЛЯ ДЗЕЦЯНОГА КРУГА. Поле. Пучын.
МАХІ мн. Кусты, арэшнік, чарот пат столь. Шарыбаўка.
МІКАЛАІХА ж. Балота і лес. Пучын.
МОХ м. Урочышча. Шарыбаўка.
НОВЫ ШЧЭБЕНЬ м. Поле. Шарыбаўка.
ПАД БЕЛЫМ КРУГАМ. Поле. Пучын.
ПАЛЯКОЎКА ж. Вуліца. Жыў паляк і яго сродства Шарыбаўка.
ПАНСКАЕ н. Балота. Пучын.
РАЖОК м. Балота. Пучын.
РУДНЕЦКІ ЛЕС м. Лес. Шарыбаўка.
РЭКА ж. Була рэка, стаў ручэй. Крукі.
СЕЗЁНАЎКА ж. Поле. Пучын.
СМУКІ мн. Поле. Пучын.
СТАРЫ ШЧЭБЕНЬ м. Поле. Шарыбаўка.
У РАЖКУ. Балота. Пучын.
ХАРЫТОНАЎ ХУТАР м. Поле, сенажаць. Шарыбаўка.
ЧЫРКОВА ГАРА ж. Лес, грыбу раслі, грыбоўшчыкі хадзілі, ета грыбные места. Пучын.

ШУМАВА н. Балота і лес. Пучын.
ШЧАМІЛАЎКА ж. Вуліца. Яна вузкая. Шарыбаўка.
ШЧЭБЕНЬ м. Поле. Шарыбаўка.

## П р ы к а з к і, п р ы м а ў к і, у с т о й л і в ы я в ы р а з ы, з а г а д к і

Божая кароўка леціць -- цепло будзе. Баршчоўка.

Да Юр'я каб было сена і ў дурня, а на Міколу падавай да й вілкі пахавай. Крукі.

Зубы -- як чо̂снок. Баршчоўка.

І так гінем, і так гінем -- давай па адной укінем. Шарыбаўка.

На чорны дзень друзей нема. Пучын.

На чужы каравай рот не раззяўляй. Баршчоўка.

Не бач /'не выдавай злачынства'/, а то вочы павыкальваюць. Пучын.

Ой, сыночок, колосочок, ой ліночок мой. Баршчоўка.

Па двары летам бегае з бранзалетам /загадка/. Іванаўка.

Па добром ладу жывом. Баршчоўка.

П'емо, кумко, п'емо тут -- на том свеце не дадуць, на том свеце, гаспадар, там гарэлка дарага. Баршчоўка.

Сахарам вам у душу. Іванаўка.

Стаіць пястунчык, за кожны глытунчык просіць пацалунчык /чарка/. Іванаўка.

Такая жытка -- на трох адна світка. Баршчоўка.

У сальца /салца/ ні памочыш пальца. Шарыбаўка.

Усяго-ўсяго даволі -- бяды ніякай ніколі. Іванаўка.

У чалаве̂ка вочы -- яма. Пучын.

Хавайсь, душа, за плечэ, бо гарэлка цечэ. Баршчоўка.

Хлопцы, як ліны. Баршчоўка.

Хто гаруе, той і мае. Пучын.

Як е, дак шчэ хочэ. Пучын.

## Э Т Н А Л І Н Г В І С Т Ы К А

В.В.Казначэеў

# СУЧАСНЫ СТАН УСХОДНЕПАЛЕСКАЙ МІФАЛАГІЧНАЙ ТРАДЫЦЫІ

Можна сказаць пэўна, што ў 1992 г. Гомельская вобласць у этналінгвістычных адносінах прыцягнула пільную ўвагу даследчыкаў. У прыватнасці, розныя па шырыні даследаванні ў галіне міфалогіі праводзіліся ў 13 вёсках сямі раёнаў Гомельшчыны. Усе міфалагічныя звесткі групуюцца вакол асобных міфалагічных персанажаў, і трэба адзначыць агульную заканамернасць: больш за ўсё міфалагічнай інфармацыі — аб знешнім выглядзе міфалагічных персанажаў і аб іхніх дзеяннях, прычым у першую чаргу аб дзеяннях, якія непасрэдна тычацца чалавека, і значна менш даных — аб паходжанні міфалагічных персанажаў або аб іх камунікатыўных зносінах паміж сабой. Лакалізацыя пераважна тычыцца магчымых месцаў сустрэчы чалавекаа з міфалагічным персанажам, але не месцаў іх пражывання ў той перыяд, калі іх бачыць нельга. Г.зн. ва ўмовах вядомай рэдукцыі міфалагічных уяўленняў у міфалагічна" сінхраніі функцыянальная накіраванасць персанажаў захоўваецца значна лепей, чым абстрактныя міфалагічныя характарыстыкі. Безумоўна, вялікае значэнне мае адлюстраванне ў міфоніме[1] локуса, які міфалагічны персанаж займае і ў якім пануе. Гэты фактар вызначае жорсткую прасторавую прыналежнасць, а ў адпаведнасці з гэтым і набор пэўных якасцяў, у залежнасці ад якіх, у сваю чаргу, выстройваюцца нормы паводзін людзей у адносінах да гэтага персанажа.

З падобных персанажаў найбольшай частотнасцю валодае той, які займае самы блізкі да чалавека локус — хату. Звычайна яго найменне — <u>дамаві́к</u>, якое выкарыстоўваецца ў в.в. Бубнаўка Акц., Іванаўка Буда-Каш., Губічы Буда-Каш., Бабічы Рэч., Галоўкі Рэч, і фанетычныя варыянты <u>домові́к</u> /в. Махнавічы Мазыр./ і <u>домаві́к</u> /в. Спярыжжа Браг.[2]/. Субстантывы выкарыстоўваюцца ў в. Добрынь Ельск. /<u>дамавы́</u>/, а таксама ў іншых вёсках, аднак значна радзей, чым вышэйпамянёная лексема: в. Радзеева Буда-Каш /<u>дамаво́й</u>/, в. Спярыжжа /<u>домаво́й</u>/, в. Бабічы /<u>дамавы́</u>, <u>дамаву́</u>, <u>дамаво́й</u>/, в. Галоўкі /<u>дамаво́й</u>/, прычым ужыванне апошняй лексемы ў вёсках Рэчыцкага раёна з"яўляецца нетыповым, і наяўнасць яе ў матэрыялах тлумачыцца, відавочна, тым, што яе ўжылі ў пытанні, калі яно задавалася на рускай мове.

Выгляд дамавіка звычайна антрапаморфны. У в. Губічы дамаві́к [illegible] "мужчы́на ў чо́рнай адзе́жэ з бальшы́мі гуза́мі, як у генера́ла. Кр[illegible]вы, высо́кі, ві́дны". Вялікія бліскучыя гузы — вядомая пры[illegible] чорта. Тут паўплывалі дыфузія характарыстык розных міфа[illegible]

натуральная ва ўмовах рэдукцыі міфалагічных уяўленняў, і вядомая тэндэнцыя да абагульнення ўсёй нячыстай сілы ў вобразе чорта /хаця персанальна ў інфарманткі, якая дала апошні адказ, гэтая тэндэнцыя адсутнічае/. З"явы кантамінацыі дамавіка гэткага ж плану маюцца паводле асобных адказаў у Рэчыцкім раёне: у в. Галоўкі ёсць адказ "дамавік — непрыяцель" /а непрыяцель там — эўфемізм чорта/, і ў в. Бабічы дамавік /варыянт: насланы дамавік/ —'хадзячы нябожчык', — тут, аднак, не выключаецца этымалагічная сувязь лексемы дамавік ва ўказаным значэнні з лексемай дамавіна 'спецыяльная скрыня, у якую кладуць нябожчыка для пахавання; труна'[3], і ў гэтым выпадку у Бабічах лексема дамавік суадносіцца з рознымі дэнататамі, прычым абодва маюць міфалагічную напоўненасць. Калі гэта так, тут мае месца не палісемія, а аманімічнасць. У в. Радзеева дамавой падобны на гаспадара хаты, у в. Бубнаўка ён маленькага роста, з доўгімі валасамі, у в. Іванаўка ўдакладняецца, што дамавік мог быць і жаночага полу; без усялякіх удакладненняў выгляду антрапаморфным дамавік з"яўляецца ў в. Перарост Добр. У в. Галоўкі меркаванні інфармантаў наконт дамавіка раздзяліліся: адны сведчылі, што ён антрапаморфны, другія — што нябачны. Апошняе характарызуе гэтую міфалагему таксама ў в.в. Добрынь, Капань Рэч. і Бабічы /ці ніколі не паказваўся/. Заамарфныя рысы надаюцца гэтаму персанажу ў в. Спярыжжа /"Шэрсцю пакрыты, велічыной з кошку"/ і в. Махнавічы /"кошлатое нешта", "як кот чорны"/. Здольнасць дамавіка ператварацца ў дамашніх жывёл адзначана ў в. Перарост, у пацука — у в. Бабічы. У в.в. Радзеева, Капань, Галоўкі адзначаецца, што дамавік ёсць у кожнай хаце. Наадварот, не ў кожнай, а толькі ў некаторых — в.в. Спярыжжа, Махнавічы, Губічы, Іванаўка. У Рэчыцкім раёне дамавік мог выбраць у якасці месца жыхарства і хату, і гаспадарчую забудову: "Дамавік дзе хацеў, там і сяліўся — у доме, у двары", "Жыве сабе ў хаце дамавой. Уходзіць у сцену і там жыве", "Дамавік і ў бані, і ў хляву мог жыць" /в. Бабічы/, "Дамавік мог в доме, мог в хлеве, мог в бані жыць" /в. Галоўкі/, але калі ён жыў у хаце, дык не быў вузка ў ёй лакалізаваны, мог хадзіць у хлеў і ўплываць на скаціну — таксама, як і ў Буда-Кашалёўскім раёне, у в.в. Іванаўка і Губічы, дзе дамавік жыў толькі ў хаце. З в. Махнавічы супрацьлеглыя звесткі: "Домовікі у хлеве не жылі — только по хатах" /больш распаўсюджанае пераданне/ і "Домовік у хлеве мог поселіцца". Фактычна арэал дамавіка не абмежаваны адным локусам,

хаця толькі гэты локус і выказаны ў яго найменні. Вузкая лакалізацыя мае месца толькі ў в. Спярыжжа, дзе адназначна зафіксавана, што домавік у хлеў не хадзіў. Што датычыцца функцыянальнай накіраванасці, дык трэба звярнуць увагу на параўнальна невялікую колькасць населеных пунктаў, у якіх дамавік мае выразную апякунскую функцыю — гэта в.в. Добрынь, Капань, Перарост. Гэтая функцыя з"яўляецца рэлевантнай рысай архетыпа дадзенай міфалагемы як адлюстраванне сувязі ягонага вобраза з памерлым гаспадаром сям"і, аднак на Беларусі гэткая сувязь як такая практычна нідзе не захавалася, а ў Гомельскай вобласці і яе рэшткі ў выглядзе пазітыўнасці дамавіка рэдукаваліся яшчэ мацней, чым па беларускай міфалогіі ў цэлым. Часцей у залежнасці ад прыхільнасці дамавіка жыццё ў хаце і гаспадарчыя справы вяліся добра ці дрэнна. У чыстым выглядзе гэта ўласціва Буда-Кашалёўскаму раёну: у в.в. Іванаўка і Радзеева дамавік адмоўным ці станоўчым чынам уплываў на здароўе чалавека і скацііны, на настрой людзей, на парадак у хаце, у в. Губічы ад дамавіка залежыла, ці будзе ладзіцца гаспадарка, а таксама гледзячы на стаўленне да гаспадароў хаты ён укачваў або пужаў іх па начах. У Рэчыцкім раёне дамавіка́, разглядаючы ўсю інфармацыю аб ім, можна ахарактарызаваць як персанажа амбівалентнага /ці, радзей, нейтральнага/ з яўным крэнам у бок адмоўнасці, параўн. паведамленні з в. Галоўкі: "Дамаві́к — як каго́ злю́біць. Каму́ дабра́ нанасіў, каму́ го́ра — ці на само́га, ці на худо́бу", "Некато́раму каню́ заплята́е ко́сы. А като́рага не лю́біць — на том ката́ецца", і ў той жа час адказы з канстатацыяй яскравай негатыўнасці дамавіка́: "Дамаві́кі пуга́лі людзе́й", "Стра́шны бы́ў. Плахо́е, нехаро́шае не́шта рабі́ў", будзіў па начах стукам ці "во́зьме руко́ю за грудзь ці за но́гі бу́дзіць", адзін адказ фіксуе глабальную значымасць негатыўнасці дамавіка́: "Калі́ спіш — ў акно́ стук-стук, ці па і́мі заве́. Абзыва́цца /адгукацца — В.К./ ні́льзя́, абзаве́сься — умрэ́ш", што карэлятыўна вядомаму старажытнаму павер"ю аб увасобленай хваробе ці смерці; паводле паведамленняў з в. Бабічы, таксама мог будзіць па начах, але да зазначаных у Галоўках спосабаў дадаецца: "Дамавік на мяне́, як лягла́ атдыха́ць, навалі́ўся — не магу́ дыша́ць. Не́шта яму́ не панра́вілася", і яшчэ, абмаўляючыся, што толькі пры ўмове, калі дамаві́к "не злю́біць" гаспадароў хаты ці іхнюю скаціну — "худо́ба не во́дзіцца, і лю́дзі бале́лі", "пло́ха у іх у до́ме бу́дзе", "каро́ва не дае́ малака́". У в. Спярыжжа домаві́к /домаві́/ праяўляў сваю прысутнасць выключна тым, што давіў па начах, прадказваючы такім

спосабам будучыню - яго трэба было спытаць: "К дабру́ і́лі к худу́?" Еслі ху́кнет — "Ху!" — к ху́ду — зна́чыт, должно́ быть в до́ме нешча́сце. Еслі к дабру́ — молчі́т— што-та до́брае бу́дзет". У в. Махнавічы дамавік прадказваў будучыню трохі інакш: калі чалавек праводзіць першую ноч у новай хаце, да яго /паводле розных сведчанняў, у сне ці наяве/ з"яўляецца домові́к. "Як пры́дзе обро́слы — до́бра /у другім адказе канкрэтызуецца: "Як у шэ́рсці — бога́то жыць бу́дзеш" — В.К/, го́лы — пога́но". Наогул стаўленне да домові́ка́ ў гэтай вёсцы ў розных інфармантаў неаднолькавае, залежыць яно, зразумела, ад таго, пра якога рода дзейнасць персанажа той ці іншы інфармант дасведчаны. Так, домові́к можа праяўляць нябачную прысутнасць: прыйсці прасці, калі пакінуў на ноч кудзелю, або проста хадзіць па хаце: "Ішо́ў, дзве́ры расчапі́ў і пайшо́ў", "Домові́чо́к хо́дзіць по ха́це — хо́дзіць, сту́кае" /што датычыцца апошняй фіксацыі, дык далей інфармантка паведаміла, што ні шкоды, ні карысці ён не прыносіў, аднак дэмінутыў паказвае даволі дабразычлівае стаўленне да дамавіка/. Але ж падобнае меркаванне не з"яўляецца распаўсюджаным у Махнавічах: маецца значна большая інфармацыя, паводле якой домові́к, напрыклад, хадзіў у хлеў /часам удакладняецца, што лазіў там па карове/, у выніку чаго "коро́ва молока́ не дае́". "молоко́ з кро́ўю бу́дзе", "коро́ва хо́дзіць мо́кра-мо́кра". Каб пазбегнуць наведванняў домові́ко́м хлева, там вешаюць забітую сароку ці, радзей, мажуць крыж каровы калам. Акрамя гэтага — "Няве́ста пла́ча, спаць не мо́жа. Домові́к спаць не дае́", прычым у дадзеным выпадку без усялякага ўяўнага ўздзеяння, хаця сустракаецца і апошняе: "Домові́к ноч'ю ляга́е, чолове́ка ду́шыць, пока́ той не кры́кне". Розным інфармантамі адзначаліся негатыўныя дзеянні домові́ка́ ў адносінах дзяцей: "Домові́к не дае́ дзе́цям спаць", "Домові́к спужа́ў дзіця́". Каб выгнаць домові́ка́, трэба "вуглі́ кі́даць на ву́ліцу, гору́шчага тако́га, с пе́чкі", але адказ адзінкавы, і чым не падабаецца домові́ку́ гэтае дзеянне, высветліць не ўдалося. Чалавека, якому домові́к перашкаджае спаць, трэба "обсы́паць свянцо́най со́льлю, ма́ком, зерно́м — чым-то све́чаным обсы́паць". У іншых вёсках — іншыя спосабы выгнання ці правілы паводзін у адносінах дамавіка, яны адзначаны пераважна ў Рэчыцкім раёне: у в. Бабічы дамавіка можна было выгнаць свянцоным макам і вадой; трэба, каб на стале заўжды ляжалі хлеб, соль і лыжка; нарэшце, уціхамірыць яго можна было малітвай /апошняе адзначана і ў в. Бубнаўка/. Свянцоны мак і малітва з той жа мэтай выкарыстоўваліся і ў Галоўках "Тады́ ён у лесу́ жыў ці валачы́ўся па све́ту". У в. Перарост дамавіка, насупраць, клікалі з сабой, калі

пераязджалі ў новую хату. Тое ж самае адзінкава адзначана і ў Бабічах, зафіксавана быліčка, паводле якой інфармантка, вяртаючыся жыць у хату да бацькі, паклікала з сабой дамавóга: "Дамавý, дамавý, хадзéм са мнóй", аднак тамашні дамавы́ сустрэў прыйшлага неласкава /бо, як вядома, два дамавіка ў адной хаце жыць не могуць/, яны пачалі біцца, і гаспадар адстаяў сваю тэрыторыю: "Яны́ як грýкнулі, крыкнулі, як каты́ кусáліся — і пабéг той назáд". Нарэшце, з в. Спярыжжа адзначаная інфармацыя: "Домавóга не выганіш".

Асаблівай увагі заслугоўвае інфармацыя аб роднасных дамавому духах гаспадарчых пабудоў. М.М.Нікольскі лічыў, што ўяўленні аб гэтых духах з"явіліся тады, калі надворныя пабудовы аддзяліліся ад жылля, г. зн. у глыбокай старажытнасці[4]. Некалі яны складалі цэлы міфалагічны пласт, які на сучасным этапе міфалогіі амаль цалкам рэдукаваўся. Іхнія міфалагічныя характарыстыкі часткова інкарпараваў дамавік — вышэйпрыведзеныя прыклады паказваюць, што ў сферу ўплыва дамавіка ўваходзіць не толькі хата, але і двор, і хлеў, часам і іншыя пабудовы. І, нягледзячы на тое, што пытанні аб падобных персанажах з давалíся мэтанакіравана, сабраць звесткі аб іх у даследаваных населеных пунктах Гомельшчыны не ўдалося. У в. Бабічы фіксуюцца самі лексемы /натуральна, без шырокай распаўсюджанасці/з іншай, чым раней, семантыкай": "І бáннік, і хлéўнік — э́та всё дамавікí. Дамавíк і ў бані, і ў хляву́ мог жыць", прычым у гэткім выпадку у хаце другога дамавікá ўжо не будзе,— г.зн. самастойных міфалагічных персанажаў гэтыя лексемы не абазначаюць і, адпаведна, з"яўляюцца субстратамі архаічнай міфалагічнай парадыгмы бліжэйшых да чалавека локусаў. Гэтыя ж міфонімы, поруч з міфонімам пýннік, адзначаны і ў в. Добрынь — аднак толькі іх наяўнасць, без усялякіх падрабязнасцяў — і думаецца, што сітуацыя з імі прыкладна тая ж, што і ў Бабічах, бо ніякіх міфалагічных характарыстык за гэтымі лексемамі не стаіць.

Пытанне аб вужах у міфалагічным кантэксце існуе ў першую чаргу таму, што мелíся на ўвазе ўяўленні аб вужы як увасабленні дамавіка. У Гомельскай вобласці нідзе такога не знойдзена; хаця, напрыклад, у в. Перарост існуе паняцце вуж-дамавíк, да дамавіка як міфалагічнага персанажа ён не мае дачынення, прынамсі, у сінхраніі. Аднак, нягледзячы на гэта, забарона забіваць хатняга вужа існуе ў некаторых вёсках, хаця з іншай, не настолькі выразнай міфалагічнай семантыкай, і, увогуле , паўсюдна без указання

канкрэтных вынікаў парушэння. У в. Радзеева вужы жылі пад парогам, і іх прысутнасць абараняла хату ад пранікнення туды нячыстай сілы і наогул усялякай бяды, г.зн. парог успрымаецца як мяжа, якая аддзяляе жыллё чалавека ад знешняй прасторы, і ў дадзеным выпадку ахоўваючыя міфалагічныя функцыі надаюцца вужу. У в. Добрынь хатні вуж можа гуляць з дзецьмі і есці з імі з адной міскі, і жыхары вёскі нічога кепскага ў гэтым не бачуць, а забойства хатняга вужа, па тамашнім уяўленням, пагражае бядой. Нарэшце, у в.в. Перарост, Бубнаўка і Махнавічы адзначаецца забарона забіваць хатняга вужа без усялякай матывацыі, прычым у апошняй вёсцы дзе наогул з усіх разглядаемых тут населеных пунктаў міфалагічныя ўяўленні з"яўляюцца самымі супярэчлівымі, гэтая забарона суседствуе са сведчаннямі, па якіх вужа забіваць можна, носіць некатэгарычны, "факультатыўны" характар, і з"яўляецца архаізмам — "Казалі, што нельзя́ того́ біць ву́жа, што ў ха́це прыжаве́цца", і тут жа дадаецца, што на сённяшні дзень мала хто гэтага прытрымліваецца. Адсутнасць забароны мае месца ў в.в. Крукі Браг. і Галоўкі, і ў Галоўках якраз адзначана, што гэтай адсутнасцю вельмі шыро́ка карысталіся, бо, па-першае, вужы гуляюць з дзецьмі, да чаго, у адрозненне ад в. Добрынь, бацькі ставяцца крайне непахвальна, па-другое, вуж можа ўкусіць, і, галоўнае, вуж "абвіва́ецца кругом нагі і сасае /ссе, сасе́/ каро́ву" /аб значнай колькасці гэткіх адказаў можна зрабіць вывад з прыведзеных розных формаў дзеяслова ў Ш асобе адзіночнага ліку/. У суседніх Бабічах вужа таксама забівалі, "штоп каро́ву не ссаў", а паводле аднаго з адказаў, адсутнасць забароны пераходзіла нават у пажаданасць: "Еслі вужа́ не ўб"ёш — пло́ха бу́дзет. Со́нца, зна́чыць, на цябе́ не паглядзіць. Верацёльніцу, вужа́ уністажа́ць на́да — скаці́на, Го́спадам не да́дзена". Другі інфармант у Бабічах пасведчыў, што былі людзі, якім вужы прыносілі малако /параўн. паведамленні з Махнавічаў: "У зна́хара на пры́пячку вуж у ха́це жыў", "Ўмер адзі́н чалове́к — гадзю́ка у яго́ ха́це па[?]віласця і жыла́. Ка́жуць, знаў мно́га /г.зн. быў знахарам — В.К./ гэты чолове́к"/, чым падкрэсліваецца яўная сакральна-нячыстая канатацыя вужа ў в. Бабічы.

У поўнай колькасці населеных пунктаў атрымлівала пацвярджэнне пытанне аб дыферэнцыяцыі вужоў. Найбольш падрабязнай яна з"яўляецца ў в. Махнавічы, дзе вужы дыферэнцыруюцца, па-першае, па колеру вушэй: "Е вуж — жо́ўценькія ву́шкі, све́тлыя, ён не куса́е, а е з чырво́нымі вуша́мі", і гэткі вуж кусае горш за гадзюку, інфармантка

прыводзіць прымаўку "Вуж кусае под гроб, под лапату, а гадзюка — под зелле, под бабу", у сэнсе ад гадзюкі можа быць гаючым, акрамя таго, ад укуса можна вылечыць, а вуж з чырвонымі вушамі кусае адразу насмерць; па-другое, ёсць апісанне вужачага цара — прыблізна паўтара метры ў даўжыню, з вялікай галавой і з рожкамі — інфармантка ў дзяцінстве з сяброўкамі бачыла такога вужа, і калі яны расказалі аб гэтым дарослым, тыя сказалі: "Гэто цар. Вам трэба было напірод зайці, хусточку чырвоную кінуць. Ён бы рожкі кінуў. Гэто быў вужачы цар". Вужоў падраздзялялі на "хатніх" і "нячыстых" у в.в. Перарост і Добрынь — у Добрыні "нячысты" вуж высасваў з кароў малако і, у адрозненне ад хатняга, не меў на галаве жоўтых рожак; у в. Бабічы, дзе да вужоў наогул стаўленне негатыўнае, таксама вылучаецца яшчэ і "нячысты" вуж — "тоўсты-тоўсты, як дзерэва,і длінны". У в. Крукі адзначаюцца "насланыя вужы. Хто знаў, насылаў перад Іванам" з мэтай адбіраць у кароў малако.

Перайдзём да міфалагічных персанажаў, у найменнях якіх прысутнічае прымацаванасць да іншых локусаў — якія, хаця і не з"яўляюцца ў поўным сэнсе слова культурнымі, як хата ці гаспадарчыя пабудовы, але ж з якімі чалавек мае пастаянны кантакт. Найбольш поўнымі і разнастайнымі з"яўляюцца звесткі аб лесавіку. Гэтая лексема выкарыстоўваецца ў вёсках Губічы, Добрынь, Крукі, Радзеева, Галоўкі, у в. Іванаўка і Махнавічы гэты міфалагічны персанаж называецца лясун, у в.в. Бубнаўка і Капань — лешы, у в. Унорыца Рэч — лящук /у якасці застрашвання дзяцей зафіксаваная таксама лексема лешчыха, але ж спецыяльных звестак пра яе няма/, у в. Бабічы — лесавы дзед, лясны дзед, у в. Галоўкі — лісавы дзід. Вельмі разнастайнымі з"яўляюцца варыянты яго вонкавага выгляду ў розных населеных пунктах: нябачны або ніколі не паказваўся /в.в. Махнавічы, Галоўкі/, як звычайны чалавек /в.в. Іванаўка, Губічы/, "зелёная жэншчына, в моху, і дзеці" /в. Крукі/, стары дзед велізарнага росту, з барадой, у доўгай кашулі /в. Унорыца/, прычым у апошніх дзвюх вёсках таксама не часта паказваўся. /"трудна яе так усім пабачыць, толькі кому свуім быў абычна" —в. Крукі/, стары з барадой, падобны на сухое дрэва /в. Бубнаўка/, у белым адзенні, у капялюшы, ніколі не падпаясваўся /в. Радзеева/.

Даныя аб паходжанні персанажаў у прынцыпе часта з"яўляюцца цёмным месцам у міфалагічнай сінхраніі, і, акрамя в. Крукі,

дзе адзначана, што лесавіком становіцца "чэловек /у значэнні 'мужчына' — В.К./ іли баба, которая вешаецца у лесе", у іншых вёсках паходжанне лесавіка не высветлена. Тое ж самае у адносінах камунікацыі лесавіка з іншымі міфалагічнымі персанажамі: зноў жа адзінае паведамленне "І лесавікі, і русалкі вмесьце в лесу ходзілі —і те, і те з таго света" /в. Крукі/. У в. Унорыца адзначана, што лящуку паддарадкоўваюцца ўсе лясныя звяры і птушкі. У в. Губічы зафіксавана "пугай ляскае у лесе", і хаця нічога не гаворыцца пра тое, што лесавік быў пастухом лясных звяроў, безумоўна, этымалогія гэтага дзеяння менавіта такая. Значна больш багата інфармацыі іншага плана — аб формах адносін лесавіка з людзьмі, што не дзіўна, бо ва ўмовах вядомай рэдукцыі міфалагічных уяўленняў ёй менш за ўсё паддаецца самае істотнае для чалавека, а больш — тое, што не мае для яго вялікага значэння, а паходжанне міфалагічных персанажаў, камунікатыўныя зносіны паміж імі і да т.п., бясспрэчна, адносяцца да апошняга. Ітак, шкаданосным лесавік з'яўляецца ў в.в. Радзеева, Унорыца, Губічы, дзе ён мог вадзіць чалавека па лесе, заблытваючы яго там. У в. Галоўкі "лісавы дзід палохаў людзей", "лесавік у лесе абгукваў" /г.зн. калі нехта ідзе — выпускаў розныя гукі/, а інфармантку, якая начавала ў лесе ў кашары, прыблізна ў 4 гадзіны ночы лесавікі гукалі на імя, "кругом кашары абышла — нікога". Гэткім жа чынам праяўлялі сябе лесавікі ў в. Крукі: "Пужалі людзей. Абб тры разы тапаром стукне, абб тры разы свісне, абб тры разы крыкне — а нікога няма". Радыкальная негатыўнасць лешага адзначаецца толькі ў в. Бубнаўка, дзе чалавек, які да яго трапіў, дадому не вяртаўся. Дарэчы, у Галоўках ёсць адказ, які прама паказвае на амбівалентнасць: "Лесавік — каму памагае, каму гора". У Губічах лесавік дапамагаў адной жанчыне, але ж на тое ў яго меліся важкія прычыны: "Лесавіку панаравілася адна, дак аж ад яго радзіла. Лесавік к ней дамой прыхадзіл і жыл". У в. Іванаўка лясун быў абсалютна нейтральным, і калі кагосьці і пужаў, дык ненаўмысна, мэты такой перад сабой лясун не ставіў — " лучайна: чалавек незнакомы у лесу, страшна". Лесавік характарызуецца пазітыўна ў в. Капань /там ён мог аукаць, выводзячы на правільную дарогу заблудзіўшых/, і ў в. Бабічы /"Былі лясныя дзяды. Інагда людзям как-то памагалі", а ад другога інфарманта запісана легенда аб тым, як у аднаго мужыка памерла жонка, і ён, выконваючы патрабаванне новай, выгнаў сваіх дзяцей у лес. "Там іх дзед лесавік карміў, пасьцель ім слаў; холад стаў — дзед іх саграе".

Аднак новая жонка была занадта злая, муж яе выгнаў, знайшоў дзяцей, стаў іх клікаць назад дадому /ён да таго ж хварэў і яму не хацелася заставацца аднаму/, але дзеці яму сказалі: "Жыві, тáтка, як Бог даў"/. У Бабічах жа зафіксавана замова, якую трэба вымаўляць, ідучы ў лес па грыбах ці ягадах:

"Лес лясно́й, гаспада́р чэстно́й,
Пакажы́ дарóгу і пуць,
У лясý карысці дабýдзь.
Хлеб і соль. Благаславі́,
Гóспадзі, насы́ць нáшу грéшную дýшу". Гаспадаром лесу лесавіка лічылі такcама ва Унорыцы і ў Капані, а ў Махнавічах, дзе, дарэчы, лясýн пужаў людзей акустычным уздзеяннем, так жа, як у Галоўках і Круках /"крычы́ць, лóміць лес"/, у замове вакатыў выглядае яшчэ больш ганаровым: "Дзень дóбры, цар лясно́й, я к тобé з дóбрымі словáмі, а ты ко мне з дóбрымі дарáмі. Закры́й мянé, цар, от гáда ползýчага, от звéря бягýчага, от чалавéка нáгляного непры́яцеля". Трэба звярнуць увагу, што ў дадзеным тэксце не выказваецца імкненне ахраніцца ад самога лесуна́ /а ў гутарцы выкарыстоўваюць менавіта гэтае найменне, "цар" — то толькі для замовы/, і акцэнт робяць на просьбе не аб спрыянні ў збіранні грыбоў ці паляванні — "дóбрыя дары́" нават не канкрэтызуюцца,— а аб абароне на ягонай тэрыторыі, г.зн. за ім яўна захоўваліся заступніцкія функцыі,якія, аднак, кепска вяжуцца з яго сучаснымі праявамі, і семантыку замовы мы мусім лічыць архаічнай. Падсумоўваючы, трэба зазначыць, што ў бабіцкай і махнавіцкай замовах закансерваваліся архетыпічныя рысы персанажа, якія ўзыходзяць, відавочна, да язычніцтва і сведчаць пра успрыманне яго як лясного бога ці накшталт таго. У махнавіцкай замове гэта рэалізуецца мацней, затое ў бабіцкай — яскравая кантамінацыя хрысціянскіх і язычніцкіх матываў. У іншых населеных пунктах не йдуць так далёка, і ратуюцца ад лесавіка ці малітвай /в.в. Крукі, Унорыца/, ці экстравербальнымі спосабамі, выконваючы адпаведныя рытуалы: вывернуць адзежу навыварат /в. Радзеева/, вытрусіць пясок з абутку /в. Добрынь/.

Калі на падставе прыведзеных даных параўнаць міфалагічныя характарыстыкі лесавіка і дамавіка, можна зрабіць вывад, што адна з заканамернасцяў беларускай міфалогіі, згодна з якой чым бліжэй да чалавека локус, які займае міфалагічны персанаж, тым гэты персанаж больш пазітыўны, на Гомельшчыне у значнай ступені

дэфармаваная.

Аб цалявіку ў Гомельскай вобласці звесткаў значна менш /трэба сказаць, іх параўнальна мала ў беларускай міфалогіі ў прынцыпе/, адзначаны ён толькі ў дзьвюх блізкіх адна ад адной вёсак Рэчыцкага раёна: без усялякіх падрабязнасцяў у Бабічах, і ў Галоўках — "Цалявік — невідзімае такое, здаецца ў полі — то добра павязе, то пагана на рабоце з-за яго".

Для вадзяніка ў в. Радзеева тапілі крадзенага каня, там жа адзначана наяўнасць балотніка /балотнага духа/, які прасынаецца на Мікіту /16 красавіка/. Воднік мог ператварацца ў агромністую рыбу, жыў у мутнай, бруднай вадзе; меў жонку-тапельніцу, мог зацягнуць на дно дзеўку, якая купаецца ў рацэ. /в. Унорыца/. Вадзяны дзед у в. Бубнаўка мог зацягнуць чалавека на дно. Паводле звестках з в. Капань, вадзяны выглядаў як пакрытая багавіннем карчага, праяўляў сябе крыкамі, усплескамі, бурбалкамі на вадзе, мог зацягнуць у раку ці сажалку тых, хто не хрысціцца і не ходзіць у царкву. У в. Галоўкі гэтаму міфалагічнаму персанажу /без намінацыі яго асобнай лексемай/ даецца вычарпальная характарыстыка, не з пункту гледжання падрабязнасцяў выгляду, але эмацыянальнай ацэнкі: "Пужайла, шушыдла страшнае ў вадзе жыве". У Бабічах звесткаў аб персанажы няма, але дзяцей, каб не хадзілі на раку, пужалі ракавым дзедам. У той жа якасці словазлучэнне дзед вадзяны выкарыстоўваецца ва Унорыцы, хаця для ўласна міфалагічнага персанажа ўжываецца іншае найменне. Наогул вобраз дзеда як сродак запалохвання дзяцей, каб пазбегнуць іх прагулак да вады варта адзначыць як распаўсюджаную на Гомельшчыне цікаўную рысу: каб дзеці не хадзілі да калодзежа, іх пужалі дзедам /в. Галоўкі/, дзедам з барадой /в. Добрынь/, "не глядзі ў колодзец, в колодцы — дзед з бородой" /в. Махнавічы/; вадзяным дзедам, якая міфалагема ўжо адзначалася ў в. Бубнаўка.

З міфонімаў, дэрывацыйна не звязаных з локусамі, якія займаюць іхнія дэнататы, найбольшай распаўсюджанасцю валодае русалка. Акрамя разнастайнасці інфармацыі аб ёй, трэба адзначыць, што найменне гэтае ў інварыянтным выглядзе сустракаецца без выключэння паўсюдна, дзе і сам персанаж, і ў якога амаль няма фанетычных і абсалютна няма словаўтваральных і лексічных мадыфікацый — ні адзін персанаж, зафіксаваны на Гомельшчыне больш чым у дзвюх вёсках, падобнай намінатыўнай стабільнасці не мае. Паходжанне русалак у Гомельскай вобласці пераважна трывіяльнае. Русалкамі

станавіліся нябожчыкі без указания причин смерці — в.в. Перарост, Крукі; тапельніцы — в.в. Радзеева, Спярыжжа, Капань /зразумела, ва усіх названых вёсках у якасці магчымага месца сустрэчы з русалкамі адзначаецца вадаём/; у Капані таксама людзі, памёршыя не сваёй смерцю і зніклыя, а у Радзееве — нехрышчоныя дзеці, і нявеста, памёршая да вяселля. У в. Бубнаука ахвяра русалак, якая не змагла ад іх уцячы, сама станавілася русалкай. Усё гэта вядома, але цікавая інфармацыя з в.Іванаука: русалкай становіцца калдуньня, прычым не пасля смерці /што часам сустракаецца/, а пры жыцці прымае выгляд русалкі. Гэтае уяуленне носіць яуна другасны характар і сведчыць пра тое, што у свой час існавау нейкі "русальны" пласт, які спёрся — інакш наогул немагчыма растлумачыць наяунасць уяуленняу аб русалцы як такой з яе атрыбутамі, роуна як і наяунасць самой лексемы русалка, якой да таго ж страшаць дзяцей, каб не хадзілі у гарод. У Галоуках вельмі складаныя умовы магчымасці стаць русалкай: калі жанчына, якая нарадзілася па-за шлюбам, працягне сямейную традыцыю і таксама народзіць незаконнае дзіця, гэта дзіця, па-першае, акажацца дзяучынкай, а па-другое, рана памрэ, дык яно стане русалкай; акрамя гэтага, ёсць адказы, што русалкай становіцца той, хто памрэ на русальным тыдні.

Найбольш частотнай прыкметай выгляду русалкі з"яуляюцца доугія, распушчаныя валасы — яны адзначаюцца паусюдна, дзе наогул ёсць апісанне русалкі /в.в. Спярыжжа, Махнавічы, Іванаука, Перарост, Добрынь, Радзеева, Бубнаука, Капань, Галоукі, Бабічы/. Пры гэтым русалка можа быць у белай адзежы /в.в. Спярыжжа, Радзеева, Іванаука, Перарост, Галоукі — у апошніх дзвюх вёсках поруч з белым адзначаецца і прыгожае адзенне русалкі/ або голая /в.в. Махнавічы — "усóкія, нерасчэ́саныя, кошла́тыя ба́бу, го́лые; бо́льшыя, як жэ́ншчына, длі́нныя і то́нкія, сі́льно з до́угімі косы́ма, і цыцкі до́угія былі́" /інфармантка удакладніла рост русалак як прыблізна двухмятровы/, Перарост, Капань, Бабічы, Галоукі, Добрынь — у апошняй вёсцы адзначана, што русалкі былі звычайна голыя/. У Галоуках і Перарosце, такім чынам, апранутасць/аголенасць русалак варыятыуна. У Бубнауцы адзначаецца, што русалка — жанчына старая і непрыгожая, прычым з рыбскім хвастом; у Бабічах поруч з адказамі, што русалка выглядала як звычайная жанчына, адзначаны свіныя капыты і хвасты. Цікавыя звесткі з в. Крукі: русалкі нябачныя, /"то́лькі кому́ су́ждзена — той поба́ча"/, лятаюць ветрам, могуць ператварацца у птушак і лятаючых насякомых.

Часам інфарманты ўдакладняюць выгляд русалкі як прыгожы або страшны, але гэтыя эпітэты не столькі даюць уяўленне пра аблічча, колькі дэманструюць эмацыянальнае ўспрыманне персанажа тым ці іншым інфармантам, якое, у сваю чаргу, залежыць ад акцыянальных праяў русалкі. У межах аднаго населенага пункту могуць сустракацца розныя характарыстыкі выгляду, але гэта адбываецца толькі там, дзе, падсумоўваючы сведчанні розных інфармантаў, можна зрабіць выснову аб амбівалентнасці русалак — прыгажосць русалкі інфарманты звычайна адзначаюць разам з яе бяскрыўднасцю, а страшны выгляд — разам з негатыўнасцю. Так, у Махнавічах русалкі прама характарызуюцца словам "красівые" інфарманткай, якая адзначае, што ніякай шкоды русалкі не прыносілі, а другая інфарманка, па паведамленню якой русалка складае небяспеку для чалавека, надае апісанню персанажа яўна негатыўны фон. Тое ж і ў Рэчыцкім раёне: у в.в. Бабічы і Галоўкі інфарманты, упэўненыя ў негатыўнасці русалак, даюць іхняму выгляду азначэнне "страшныя", а станоўчы інфармацыйны фон /прыгожае адзенне, магчымасць любавацца русалкамі/ у Галоўках спалучаецца з адсутнасцю адмоўных рысаў.

Локус русалкі, не замацаваны ў найменні, з"яўляецца рухомым у рамках не толькі розных, а, як правіла, і аднаго населенага пункта. Локусы, якія займаюцца русалкамі, можна падзяліць на тры групы:

а/ звязаныя з вадой: 1/ ля вады — в.в. Бабічы, Галоўкі, Капань, Унорыца, Махнавічы, Перарост, Радзеева, Добрынь; 2/ у вадзе /у рацэ, у возеры/ — в.в. Спярыжка, Галоўкі; 3/ на балоце — в. Радзеева; 4/ у калодзежы — в. Губічы.

б/ акультураная прастора: 5/ у жыце — в.в. Іванаўка /у полі/, Губічы, Крукі, Добрынь, Бубнаўка; 6/ у гародзе, у каноплях — в.в. Унорыца, Спярыжка, Крукі, Іванаўка.

в/ 7/ у лесе — в.в. Махнавічы /пры гэтым хадзілі на ручай умывацца і купацца, г.зн. таксама адзначаецца сувязь з вадой/, Крукі, Перарост, Радзеева, Капань, Галоўкі.

Як бачым, у пераважнай большасці населеных пунктаў паказваецца па некалькі месцаў магчымай сустрэчы з русалкамі. Часцяком арэал русалкі змяшчае ў сабе некалькі локусаў паводле сведчання аднаго інфарманта, а не толькі па суме адказаў. Адзіны русалачын локус фіксуецца толькі ў Бабічах і ў Бубнаўцы, аднак і тут ёсць падставы меркаваць, што альбо сабраная інфармацыя няпоўная, альбо поўныя ўяўленні, якія існавалі аб гэтым персанажы, сцёрліся — дзяцей пужалі русалкамі, каб яны не хадзілі ў Бабічах у гарод,

а у Бубнаўцы на раку. Калі ўлічваць гэткага роду матэрыялы, дык у в. Спярыжжа русалка амаль не была абмежаванай у прасторы, бо ў гэтай вёсцы то самы папулярны персанаж для запалохвання дзяцей: акрамя названых спярыжскіх локусаў русалкі, ёю страшылі, каб дзеці не хадзілі ў поле, у жыта і "в калодзец зацянет русалка". Гэта, канешне, не сведчыць аб тым, што яна пражывала ледзь не паўсюдна, а пасля частка локусаў у якасці атрыбутаў русалкі рэдукавалася, але і не выключае гэтага. Зрэшты, не выключана і другое — рэдукцыя адваротнага плану, калі страцілiся ўстойлівыя рысы русалкі, у выніку чаго персанаж стаў аморфным, пазбаўленым спецыфічных атрыбутаў, што і прывяло да таго, што ім сталі "затыкаць усе дзіркі", у прыватнасці змяшчаць у любы локус хаця б з мэтай застрашвання.

Што да часу з"яўлення русалак, дык у в.в. Махнавічы і Іванаўка без жорсткага азначэння тэмпаральнага перыяду фіксуецца, што летам, прычым у Іванаўцы у адным адказе трохі канкрэтызуецца — "калі гуркі начынаюць ці мак"; і інфармацыя гэтая адносіцца да прошлага часу, "калісь казалі". Архаічнасць ўяўленняў аб русалцы дэманструюць і адказы ў Рэчыцкім раёне — "як зямля была несвечана" /в. Бабічы/, "да Савецкай власьці яны былі" /в. Галоўкі/, — паводле якіх зараз русалак ужо няма. Паняцце русальнага тыдня з захаваннем міфалагічнай семантыкі, г.зн. непасрэдна звязанага з міфалагемай, а не толькі як свята ці назва каляндарнага перыяду, мае месца 1/ у в.в. Бубнаўка, Радзеева; 2/ у в.в. Добрынь, Круткі; 3/ у в.в. Перарост, Капань. У першай групе вёсак адпаведна Купальная нядзеля /уключае ў сябе тры дні Тройцы, Градавую сераду, Сухі чацвер/ і русальная нядзеля /пачынаецца ў першы панядзелак пасля Тройцы/ — то быў адзіны час, калі можна было сустрэць русалак; у вёсках другой групы іх можна было бачыць да русальнага тыдня /у в. Добрынь — русальная нядзеля, русальны тыдзень/, пасля чаго яны знікалі; у трэцяй групе з русалкамі сутыкаліся ў асноўным, пераважна ў русальную нядзелю /у в. Капань часцей — русалач"я нядзеля/, у гэты час яны былі больш актыўнымі і паказваліся часцей, чым звычайна, г.зн. тэмпаральныя рамкі некатэгарычныя. Найбольш выразна русалны /радзей русальны/ тыдзень як тэмпаральны кампанент міфалогіі праяўляецца ў в. Круткі. У русалны тыдзень паводзіны русалак, якія ў іншы час людзей "абычна не трогал рэзка мяняюцца. У сувязі з гэтым у русалны тыдзень наогул "не

трэ нічога рабіць", і катэгарычна забараняецца хадзіць у жыта, у лес, угарод /г.зн. практычна нікуды/, бо, як ужо адзначалася, у Круках русалку можна сустрэць ва ўсіх гэтых месцах, а настроеная яна ў гэты час агрэсіўна. Праўда, "яна скідаецца або мухаю, або жукам, або вераб"ём. Ветрам лятаюць, матылём носяцца. Толькі каму суждзена — той пабача. А так — нябачныя", але ж ад гэтага не лягчэй. Яны маглі спалохаць /"Адна жэншчына хадзіла па траву у русальны тыждзень. Па ўода ціха была, а жыта раскланялась, як бы дарогу кто сабе дзелаў", пасля чаго жанчына кінула кошык і ўцякла дадому/, маглі нанесці цялеснае пакалечанне /інфармантка расказала, што калісьці яе маці ў русальны тыждзень пайшла ў лес, "і яе русалка укалола лазой у цела, у ляшкі. Пракалола так далёка — палка так не праколе сама. Кроў як пацякла. І сама убегла", аб чым маці інфарманткі здагадалася па моцнаму трэску і шастанню ў кустах/, "а то повешаюць на оіне каго". Да таго ж "русалкі на русальны тыждзень завіткі завівалі", якое дзеянне, натуральнае для ведзьмаў як адна з іхніх рэлевантных прыкмет, з"яўляецца аказіянальным для беларускіх русалак — пры гэтым трэба звярнуць увагу, што як магічны акт таго, хто знае у Круках гэта не зафіксавана. Пасля русальнага тыдня русалкі "абратна на той свет уходзілі", у святле чаго зладжаная міфалагічнага парадыгма русальнага тыдня знаходзіць сваё завяршэнне ў тым, што і праводзіны русалак робяць у месцы, прама звязаным з хтанічнай прасторай: "Ідуць праводзіць русалак на кладбішчэ. Пеюць да танцуюць.

"Сядзела русалка
На белай бярозе,
Касу расплятала,
Дзяцей папужала".

Вянкі нада плесць". Я-к будзе ясна з далейшага, толькі ў дадзеным населеным пункце гэты абрад у поўнай меры захаваў сакральны змест. У в.в. Добрынь і Радзеева адзначана, што пасля русальнага тыдня русалкі ішлі ў ваду. У Радзееве перад Пятровым пастом /праз тыдзень пасля Троіцы/ старыя бабулі робяць чучала з аржаного снапа, апзяюць яго як жанчыну, і з галашэннямі нясуць у жыта, дзе і пакідаюць на мяжы. У в. Капань, дзе русадач"я нядзеля была тады ж, калі і ў Радзееве, на праводзінах русалак прыбіраюць жанчыну, вядуць д рак і або ў поле, пакідаюць там і адбягаюць. У Перароснe, зыходзячы з таго, што русалкі пасля русальнага тыдня нікуды не дзяваліся, у канцы русальнай нядзелі /якая адзначаецца перад Троіцай/ ніякіх праводзін не рабілі. У в.в. Махнавічы, Бабічы,

Галоўкі русальны тыдзень адзначаецца, але прамая сувязь з самімі русалкамі практычна цалкам рэдукавалася. У Махнавічах ро́зыгры /радзей розы́гры/ — тэрмін, які ўжываецца ў некаторых населеных пунктах Беларусі як найменне русальнага тыдня — называліся ў кантэксце гаворкі пра русалак, але ж невядома, якое канкрэтнае дачыненне маюць ро́зыгры да міфалагемы — ні ў якасці магчымай сустрэчы з русалкамі або іхняй актывізацыі ро́зыгры не ўказваюцца, праводзін русалак такс... [illegible] не рабілі. Верагодна, комплекс вераванняў, які злучаў ро́зыгры з русалкамі, сцёрся, на што паказвае і тое, што дзве з трох інфармантак не памятаюць, калі тыя ро́зыгры был /адна паведаміла, што розы́гры пасля Тройцы/. Рэдукцыі міфалагічнай семантыкі ро́зыграў, відавочна, спрыяла і адсутнасць этымалагічнай сувязі з русалкай гэ[illegible]й лексемы, і ў сінхраніі яна ўжываецца толькі як назва пэўнага каляндарнага перыяду, ды і тое як архаізм. У названых вёсках Рэчыцкага раёна, у адрозненне ад Махнавічаў, руса́льная нядзе́ля адзначаецца як час праводзін русалак, але сам абрад да русалкі як суб"екта міфалагіі зноў жа не мае дачынення. Руса́льная нядзе́ля адзначаецца ў Бабічах перад Пятром, а ў Галоўках разам з гэтым адказам варыянт "ме́жду Петро́м і Іва́нам". Наогул у Рэчыцкім раёне, апроч русальнага тыдня, русалак праводзілі, відаць, заўжды, калі не лянота — крайняя варыятыўнасць адказаў: в. Бабічы — "На Пятра́. Надзявалі, вадзілі руса́лак па се́лу́. Палілі касцёр", "На вясьне́ в Юр"еў дзень праважа́лі руса́лак. Па сялу́ вадзілі дзе́вак у вянка́х, пе́лі", "Руса́лак праважа́лі пе́рад Тро́іцай", "Пасля́ Тро́іцы караго́д вадзі́лі, пе́сні пе́лі — руса́лак как бы праважа́лі" /у гэтых адказах апісваецца і сам абрад, можна яшчэ дадаць: "Маладзёж, дзе́ўкі і хло́пцы, вянкі́ плялі́ да на рэ́ку хадзілі абе́даць"/; в. Галоўкі — "на ве́дзьміна Іва́на руса́лку наряжа́лі", "у канцы́ Пятро́ўкі" /абрад апісваецца практычна такі ж самы, як і ў суседніх Бабічах, толькі там ва ўсіх адказах "русалкі" у множным ліку, а ў Галоўках у адзіночным — апраналі дзеўку ў доўгую кашулю, прыбіралі, вадзілі па сялу, пелі: "Прывяду́ руса́лку да Бо́га, а сама́ вярну́ся дадо́му", варыянт: "Правяду́ руса́лку да чыстага бо́ру, а сама́ пайду́ да́до́му /. Сувязь руса́льнай нядзе́лі з самой русалкай часткова адлюстроўваецца толькі ў вышэйпрыведзеным варыянце паходжання гэтага міфалагічнага персанажа ў Галоўках.

Акцыянальныя праявы русалак у цэлым выглядаюць даволі нега-

тнўна. Архетып русал і як істоты, якая садзейнічае сельскагаспадарчай працы, ствараючы спрыяльныя для багатага ўраджаю прыродныя ўмовы, не робіць уплыву на сучасную міфалагему. Малапрыемныя для чалавека дзеянні русалак у Круках ужо выкладаліся; у в. Капань русалкі зазывалі людзей і зашчыкочвалі ці зацягвалі ў ваду, а таксама кралі скацінуля ракі, возера; у в. Спярыжжа таксама маглі патапіць у рацэ, або забіць у гародзе; у в. Добрынь заваблівалі чалавека за сабой і губілі; у в. Бубнаўка тое ж самае, але з канкрэтнай мэтай, — павялічваючы такім чынам сваю папуляцыю; у в. Іванаўка, дзе русалкай скідалася калдунья, "хо́дзе русалка, да паваліе, да цыцку ў рот", прычым інфармантка ўдакладніла, што гэта далёка не сучасныя звесткі,— і, верагодна, яны належаць таму дыяхранічнаму зрэзу, калі ў вёсцы яшчэ існавалі ўяўленні аб русалцы як аб асобным міфалагічным персанажы. У іншых вёсках, адкуль ёсць падобныя даныя, інфармацыя аб шкоднасці русалкі не з'яўляецца ўніверсальнай, г.зн. ў цэлым па гэтых населеных пунктах русалка характарызуецца як нейтральная з негатыўным ухілам. У Махнавічах пасведчылі, што русалкі "шлакаталі. Шлако́ча, шлако́ча чалаве́ка, пока́ той не до́йдзе", "убяга́лі ад іх, бо яны́,ка́жуць, заму́чвалі", і разам з гэтым — інфармацыя, што русалкі не прыносілі людзям ні шкоды, ні карысці. Паводле матэрыялаў з Бабічаў, русалкі "лаката́лі людзе́й, е́слі ўгне́вяцца", і, наадварот, пры сустрэчы з русалкамі "нічо́га не рабі́лі, яны́ са́мі людзе́й бая́лісь і убега́лі". Тое ж самае у суседніх Галоўках: пабач з бяскрыўднымі, па адных адказах, русалкамі — русалкі, якія "заслако́чуць", "напужа́юць" /хаця апошняе можа мець месца, калі русалка і не дае для гэтага спецыяльных падстаў/. Таксама і ў Перароснe: па аднаму з адказаў, русалка "мо́жа наско́чыць, і жывы́м не заста́нешся", а па другіх — русалак баяліся, але без бачных прычын страху; адсутнасць небяспекі з боку русалкі пацвярджаецца і тым, што ў Перароснe яе можна было забраць дадому, дзе яна плача, "нічо́га не есьць, па́ру нака́паецца ро́там — і сыта́", і не прыручаецца, нават калі жыве ў хаце доўга — усё роўна ідзе ў лес, калі яе не зачыняюць. Надзейны спосаб абароны ад русалак зафіксаваны ў Радзеева — тройчы хрысціліся, маліліся, чарцілі на зямлі круг у крузе, усярэдзіну якога станавіліся — аднак няма матэрыялаў, якія б паказалі, ад якой канкрэтна небяспекі ратаваліся такім чынам. Безадносна людзей русалкі праяўлялі сябе і ў нас-

тупных дзеяннях: гушкаліся на дрэвах, у асноўным на бярозах— "русалка на бярозу якую-небудзь залезе, за галоўку валасамі прывяжышча, да і кручыць" / . Перарост/, "На лесе яны, калишуцца усалкі. У 12 часоў дн — у лясу "У-у! У-у!". Гэта ж русалкі калышуцца на русалны тыждзень" /в. Крукі/;"Пакруціць бярэзнік. На бярозах шугаюцца"/в. Галоўкі/; вадзілі карагод вакол сасны, пасля чаго там не расце трава /в. Перарост/; адпачывалі на жоўтым пясочку ля ракі /в. Бабічы ; "Баба адна бачыла многа русалак. Яны на пясочку каля ракі іграшца да рагочуць. Яна стаяла два часы, любавалась" — в. Галоўкі/; іграліся у лесе /в. Перарост/; "перасушваюцца русалкі у жыце" /в. Крукі/; "русолкі /такі варыянт вымаўлення гэтай лексемы спарадычна сустракаецца у Махнавічах — В.К./ у лесе, у водзі купаюцца", "Колісь казалі, што бачылі у лесе русалкуў. Ходзілі на ручай па воду, умываліся" /в. Махнавічы/. Фіксуюцца рэдкія выпадкі камунікатыўных зносін:паміж персанажамі на вербальным узроўні, і паміж рознымі міфалагічнымі асобінамі. Наконт апошняга даныя прыводзіліся вышэй /пра лесавікоў з русалкамі у Круках/, наконт першага — у в. Добрынь інфармантка ў дзяцінстве чула размову русалак паміж сабой /пры гэтым русалкі танцавалі/, але не разабрала, што менавіта яны гаварылі, а з в. Махнавічы ёсць сведчанне "У лесе по двое - трое русалкі ходзілі. Говорілі между собой, как людзі, только сільно мучалі людзей".

У беларускай міфалогіі здаўна маюцца нешматлікія даныя пра расамаху, паводле якіх гэта альбо жанчына з распушчанымі валасамі, якая жыве ў лесе[5], альбо "Расамака жыве у каноплях, а русалка у вадзе". "Ні ідзі, там у каноплях расамаха, дась стальное цыцкі пассаць"[6] — і у тым, і у другім выпадку выразная карэляцыя з вобразам русалкі. У в. Перарост падаецца звычайнае значэнне слова расамаха — 'звер', але падкрэсліваючы архаічнасць другога ўяўлення, інфармант паведамляе, што расамаха — 'нечысць', якой становіцца маці, забіўшая сваё дзіця і утапіўшаяся. Больш распаўсюджаны міфалагічны персанаж мара, зафіксаваны у в. Унорыца — "красна дзеўка", якая жыве на балоце ці у зараслях каля ракі /мяркуецца, што то вярба ці лаза — вядомыя сакральна-нячыстыя локусы/, можа адабраць у кароў малако, наслаць на іх хваробу, а таксама наслаць на чалавека кашмары, калі яго разморвае на сонцы — як бачна, персанаж даволі электычны /яўная карэляцыя з рознымі міфалагемамі: па знешнім абліччы — з адным

з варыянтаў выгляду русалкі як прыгожай дзяўчыны, па лакалізацыі — з чортам, па акцыянальных праявах — з ведзьмай/, што зрэшты, у прынцыпе яму ўласціва, у розных крыніцах беларускай міфалогіі маюцца звесткі аб самых разнастайных якасцях мары́, але гэта — тэма для асобнай размовы. У дзвюх вёсках міфалагічная семантыка мары́ рэдукавалася, слова пакінула сваю былую лексічную мікрасістэму: "Мара́ — ругальне: "Пляцёшча, як мара́". "Адкаснісь, мара́!" /в. Крукі/, "Мара — хто надаеда́е". "Адстань ад мяне, мара́ ты!" /в. Бабічы/. Кікі́мара, найменне якой, паводле прыведзенага ў "Міфалагічным слоўніку" меркавання[7], этымалагічна звязанае з маро́й, мае абсалютна розныя міфалагічныя характарыстыкі ў в.в. Добрынь і Радзеева. У Добрыні гэта нячыстая сіла, якая жыве ў лесе, а ў Радзееве кікі́мара набліжаецца да вадзяніка і, відаць, бярэ на сябе частку ягоных якасцяў: кікі́мары запягвалі людзей у ваду, і, казалі, калі ніхто не тоне: "На́да быць — і нямá!" Параўн.: "Галоўны яго /вадзяніка/ занятак — тапіць людзей. Ён нярэдка ў поўдзень выскаквае з вады і крычыць: "Рот есць, да некого есть!"[8]я У кікі́мары, як і ў русалкі, адсутнічае замацаванне ў найменні рэлевантнай міфалагічнай рысы, што спрые аморфнасці міфалагічнай семантыкі — але калі у русалкі склаліся пэўныя стэрэатыпы ў беларускай міфалогіі, яна валодае сваёй выразнай атрыбутыкай дзякуючы распаўсюджанасці павер"яў аб ёй, дык у кікі́мары гэтага няма з-за нязначнай колькасці даных.

Атрымліванне інфармацыі аб чо́рце звычайна выклікае цяжкасці, на пытанні пра яго інфарманты часта адказваюць неахвотна і табуіруюць само найменне. У абследаваных населеных пунктах выкарыстоўваюцца наступныя эўфемізмы: непрыя́цель /часцей/, ура́г /в. Бабічы/, плахі́ /в.Іванаўка/, нядо́бры, пога́ны; тыя, што ў балоце сядзяць /в. Крукі/. Пры ўтварэнні гэтых эўфемізмаў матывуючай прыкметай, якая кладзецца ў аснову намінацыі, з"явілася негатыўная ацэнка асабістых якасцяў чорта /акрамя адной крукоўскай канструкцыі, у якой ажыццяўляецца намінацыя па месцы жыхарства/. Што датычыцца вонкавага выгляду чорта, дык назіраюцца два тыпы: І/ трывіяльны чорт з рагамі і хвастом — в. Пераросг, /мог ператварацца ў ката ці барана/, в. Бубнаўка /у чорта кручкаваты нос; каб схаваць рогі надзяе капялюш/, в. Капань /плюс да зазначанага казліная барада і часам парасячы пятачок; можа прымаць аблічча звычайнага чалавека, але рожкі на галаве захоўваюцца і ў гэтым выпадку/, в.в. Спярыжжа, Добрынь; 2/ цал-

кам антрапаморфным чорт з"яўляецца у в. Радзеева /салдат ці паляўнічы, мог ператварацца ў жывёлу, часцей за ўсё ў казла/, в. Крукі /"хлопцы ў чорнай адзежэ"/, в. Бабічы /"мужчыны маладыя /другі інфармант удакладніў: "васемнаццаць гадоў" — В.К./, у новенькіх чорных пінжаках /ці касцюмах - В.К./ з белымі гузамі", паралельна з гэтым у адным сведчанні чэрці прымаюць выгляд панічоў — аднак, паводле іншых адказаў, чэрці бываюць касматыя, у чорнай поўсці і з хвастом; адзначаецца і тое, што "чорт — дух такі здзеланы, нівідзімы, можа перакінуцца кім хочаш"; жанчыну, у якую усяліўся чорт, бачылі у яе сапраўдным абліччы толькі зблізку, здалёку яна здавалася свіннёй/. У трох населеных пунктах, дзе былі атрыманы звесткі аб месцы жыхарства чорта, адказ аднолькавы: балота — в. Крукі, дзе гэты локус нават уваходзіць у склад эўфемізма, які прыводзіўся вышэй, в. Перарост, в. Бабічы. Аднак сустрэць чарцей можна было і ў іншых месцах: у в. Перарост — пад зламаным дрэвам /пры тым, што ў вёсцы няма забароны выкарыстоўваць зваленае бурай або маланкай дрэва на дровы і нават на будаўніцтва хаты/; у в. Бабічы — у лесе /былічка пра тое, як чорт праз кожныя некалькі крокаў прасіў дзеда даць яму закурыць, нарэшце "дзед кінуў люльку ды пабег, а чорт зарагатаў і пайшоў у лес"/, на базары /былічка пра тое, як музыканту нябачныя чэрці на балоце памазалі нечым вока, у выніку чаго ён атрымаў здольнасць бачыць чарцей, але з умовай нікому пра гэта не казаць", умова была парушана якраз на базары, што скончылася для музыканта сумна: "Тут яму як быццам палец у глаз — торк! — і глаза няма! І ужо ні чарцей, нічога гэтым глазам не бачыць"/; у в. Добрынь — у лесе на дарозе, звычайна ў цемры; у в. Крукі — у лесе /"Адзін чалавек хадзіў чэраз лес у сяло Сцяпаноў. Там ап"янеў. А вечарам ішоў дадому. У яго было ружжэ. Даліна шырокая. Падбягаюць тры хлопцы у чорнай адзежэ. "Хадзім, дзядзька, завядзім цябе на с[illegible]дзьбу". Прывялі ў круг —там сталы стаяць накрытыя. Кажуць: "Тут ужо мы вып"ем і закусім". Певень запеў — кукарэку! Стаіць у балоце, і дзе тэі сталы, і хлопцаў няма. Ружжэ загубіў. То чэрці былі, там бы яны яго і ўтапілі"/. У Бубнаўцы лакалізацыя чорта не фіксуецца, але адзначана, што чарцямі страшылі дзяцей, каб не хадзілі ў поле ці ў жыта. Канкрэтныя праявы шкадданоснасці чорта заключаюцца ў наступных дзеяннях: ён мог прымусіць чалавека заблудзіць, занесці ў чашчобу /в. Добрынь/, мог учыняць сямейныя сваркі /в. Перарост/, чэрці маглі заманіць у балота і патапіць ці павесіць, прычым для гэтага яны стваралі ілюзорныя вобразы нечаканай знаходкі — стрэльбы,якая стаіць на балоце ў

лазовым кусце /сумяшчаныя два сакральна-нячыстыя локусы/, і калі не браць - яна знікае, і можна утапіцца ў балоце, або сталоў на вяселлі, як у вышэйпрыведзенай былічцы /в. Крукі/, у в. Махнавічы — апавяданне пра тое, як да дзеўкі "чорт прічэпіўся" і яна ўпляла у валасы тою і руту, бо гэта зелле Прачыстай Божай маці. Нарэшце, чэрці могуць з"явіцца ў вядомай сітуацыі, калі нехта парушае забароны, прадпісаныя традыцыйнай народнай духоўнай культурай альбо, як у абследаваных населеных пунктах Рэчыцкага раёна, хрысціянствам: у Бабічах "адна́ ве́шацца сабра́лась, то́лька пе́тлю накі́нула, ві́дзіць — тры чо́рта стая́ць", пасля чаго яна адмовілася ад свайго намеру і пабегла ў царкву, а ў Галоўках "на Благаве́щенье адзін ры́бу лаві́ў — чэ́рці утапі́лі" /Алафоны /ш'/ і /ч'/ нетыповыя для сістэмы кансанантызму галоўскай і бабіцкай гаворак, роўна як і для махнавіцкай, адкуль прыклад з мяккім "ч" прыводзіўся вышэй — але ж як спарадычная з"ява мае месца/. Зрэшты, у Бабічах зафіксавана і больш бяскрыўдная гісторыя пра тое, як адна баба пабыла павітухай у чарцей, зразумела, не ведаючы, з кім мае справу /"Я ў такі́х панічо́ў сёння ў ба́бах была́!"/ і яны ёй добра аддзякавалі — далі каня і дзве штукі матэрыі, якія пасля ператварыліся адпаведна у палку і бяросту. Апроч трывіяльнай метамарфозы "д"яблаўскіх падарункаў", тут варта звярнуць увагу на тое, што дзіцяняты чорта з"яўляюцца на свет натуральным чалавецкім шляхам. Атрымана інфармацыя і аб карысных дзеяннях чорта, але толькі у адносінах пэўных людзей. У в. Бабічы і Галоўкі адзначана, што чорт дапамагае ведзьме — у прыватнасці, у сельскагаспадарчай працы. Прыкладна тое ж самае — у в. Губічы /"на чый дух калду́н натрапіць — той яму́ памага́е"/, у в. Крукі /"тым, хто знае /параўн. сінтаксічную структуру фразеалагізма з адным эўфемізмам чорта тыя, што ў балоце сядзяць — В.К./. дык памага́лі, рабо́ту ім рабі́лі"/; у в. Іванаўка інфармантка настолькі асцерагалася дапамогі чорта, што выключыла з замоў, лячэнне якімі яна практыкуе, выразы нібыта з чорнай кнігі, паколькі /"каму́ плахі́ бу́дзе памага́ць — таго́ Бог не пры́ме"/.

З чортам непасрэдна звязаны пытанні аб некаторых прыродных стыхіях, а менавіта: ці можна выкарыстоўваць зваленае бурай ці маланкай дрэва і што трэба рабіць пры сустрэчы з віхрам. Наконт першага выразная сувязь з чортам адзначана у в. Бубнаўка, дзе лічылі, што ў бураломе замяшаная нячыстая сіла, у в. Крукі,

дзе нельга было браць такія дрэвы ні на будоўлю, ні ў печку — "то пога́ные повалілі". Аналагічная забарона адзначаецца і ў Махнавічах, але тут же міфалагічная семантыка страцілася. У Бабічах катэгарычная забарона наконт скарыстання ў будаўніцтве, а што датычыцца дроў — неаднастайныя звесткі: ёсць адказы, што паліць іх можна толькі у лесе, у вогнішчы, і ні ў якім выпадку ў хаце, бо "нячыстая сіла яго́ ўда́рыла і разбіла", а па другіх адказах, апошняя акалічнасць /трохі інакш выказаная: "там сядзе́ў ура́г"/ не перашкаджае таму, каб паліць гэтае дрэва ў печы. У Бабічах фіксуюцца два варыянты легенды, якая тлумачыць, чаму маланка б"е і ў дрэва, і ў чалавека: першы варыянт абвяшчае, што Бог і ураг спрачаюцца, хто із іх сільнейшы, і Бог, даказваючы сваю праваты, разбівае дрэва, у якім сядзіць ура́г; другі варыянт, карэлятыўны даўно вядомаму ў беларускай міфалогіі /чарцей забівае гром, таму іх увесь час становіцца менш і менш; каб знішчыць чорта, Св. Ілля не спыняецца перад забойствам чалавека, у адзежы якога схаваўся чорт/[9], больш выразна паказаны: "Бог ваева́ў з чо́ртам, чорт каза́ў: "Я схава́юсь у дзе́рэва". "Буду біць у любо́е дзе́рэва" - атвіча́я Бог. "Я схава́юсь у чалаве́ка". "Буду біць у чалаве́ка" - сказаў Бог. Калі чалаве́ка гро́мам убіла — зна́чыць, чорт у яго схава́ўся". Дрэва, якое звалена маланкай, не выкарыстоўвалі для будаўніцтва хаты ў в. Губічы /каб унікнуць пажару/; в. Спярыжжа /без матывацыі/ — а на дровы бралі. У в. Добрынь паведамілі, што калі пабудаваць хату, задзейнічаўшы гэткія дрэвы, у хаце пастаянна будзе чуцца свіст, шум, завыванне ветра. "Нячыстая" прырода віхра таксама ў цэлым выразная. У розных населеных пунктах зафіксаваныя два варыянты паводзін: хрысціцца ці маліцца Богу ці і тое і другое разам, альбо ўцякаць. Першага варыянта прытрымліваюцца ў Бабічах, хаця там і не ўдакладняецца ні паходжанне, ні небяспека віхра, і ў Брагінскім раёне: в. Спярыжжа /"кто-то пове́сілся, чо́рту ду́шу адда́л"/, в. Крукі /"нядо́брыя сва́дзьбу гуля́юць"/ — апошняе тлумачэнне, дарэчы, з"яўляецца распаўсюджаным напаўненнем гэтай міфалагемы на Беларусі. Другі варыянт скарыстоўваецца у Добрыні, дзе віхар мог задавіць, і ў Махнавічах, бо "ве́дзьмы бале́зню перадаю́ць на віхры́". Гэткае ж тлумачэнне віхра адзначаецца і ў Бубнаўцы, поруч з другім — чэрці кружаць карагод. У Губічах, як і ў Бубнаўцы, няма звестак як ратавацца ад віхра, але ёсць яго міфалагічная функцыянальнасць: "Віхр пага́нага чалаве́ка мог у во́здух падня́ць. І насіў, і насіў, і адпусціў", пасля чаго чалавек захворваў або паміраў. Тут, як і ў вышэйпрыведзеных даных

Рэчыцкага раёна, у. ззлівасць чалавека перад . ячыстай сілай залежыць ад яго самога, толькі у дадзеным выпадку не ад сакральных паводзін, а ад асабістых якасцяў.

Словам кадук, паводле шматлікіх крыніц, абазначаецца разнавіднасць чорта. З даследаваных населеных пунктаў яно сустракаецца толькі ў Бабічах, дзе страціла міфалагічную семантыку і, у адпаведнасці з тэндэнцыяй, якая сустракаецца ў беларускіх дыялектах у адносінах субстратаў міфалагічнай лексікі, перайшло ў лаянкавы лексічны пласт — "А кадук тваёй мацеры нехай" — ні чаму ўзнікла гэтая прымаўка, ні значэнне лексемы кадук інфарманты ў Бабічах не ведаюць.

Зараз гаворка пойдзе аб персанажах, якія не з"яўляюцца "нячыстымі" па прыродзе — аб людзях, якія валодаюць звышнатуральнымі здольнасцямі. Адна з гэтых здольнасцяў, стэрэатыпнае ва ўсходнеславянскай міфалогіі — уменне ператварацца ў ваўка. У в. Крукі гэткі чалавек называўся воўкалака, а магічнае дзеянне выглядзела наступным чынам: "пашоў у лес, узяў тапара, того тапара ў бярозавы пень, тры разы туды-сюды перакуліўся", усё гэта з адпаведнымі заклінаннямі; ёсць інфармацыя пра людзей, якія выпадкова даведаўшыся пра спосаб ператварэння, не ведалі, як зноў стаць людзьмі. Адзін з іх не хацеў жыць у лесе "к хаце падходзіў, пужаў людзей", пакуль яго не ўдарылі тры разы па ілбу іконай, у выніку чаго да яго вярнулася чалавечае аблічча, а другі стаў чалавекам праз пяць ці шэсць гадоў, без чыйгосьці пабочнага ўмяшання, і сам не ведаў, як гэта адбылося. Ва ўсіх іншых вёсках дзе гэты міфалагічны персанаж зафіксаваны, ён называецца традыцыйным словам ваўкалак; у в. Добрынь поруч з гэтым міфонімам ужываецца вывірыцінь, а ў в. Перарост — перавяртун. І ў адной і ў другой вёсцы ў ваўкоў ператвараліся калдуны, прычым у Перароcце гэта рабілася з мэтай нападаць на скаціну, а ў в. Добрынь — былічка аб тым, як калдуння ў выглядзе сабакі хлябтала са слоікаў чужы бярозавы сок. Спосаб ператварэння, адзначаны ў Перароcце, такі ж трывіяльны, як і ў Круках: перавярнуцца праз уваткнуты ў зямлю нож ці праз пояс. Аднак у Перароcце фіксуюцца былічкі, паводле якіх калдуны маглі ператвараць у ваўкоў і іншых людзей: напрыклад, на вяселлі, для чаго калдуння падклала свой пояс пад парог хаты, ці павязаўшы хустачку на шыю палюбоўніку сваёй дачкі у адплату за намер ажаніцца з другой. У в. Галоўкі за магчымасць ператвараць людзей у ваўкоў знахары мусілі ад-

даць нячыстай сіле сваё дзіця /г.зн. здзейсніць яго рытуальнае забойства/, у в. Бабічы "ведзьмáр мог здзéлаць чалавéка вóўкам, калі з ім пасварыўся, пабіўся. На врэ́мя" /г.зн. пасля пэўнага тэрміна воўк зноў станавіўся чалавекам; ці вызначаў гэты тэрмін сам ведзьмáр — невядома/, а на вéдзьміна Івáна /устойлівая назва Купалля ў Бабічах/ ведзьмы маглі ператварыць чалавека наогул у любога звера. Ваўкалакі прымалі воўчае аблічча раніцай, з першымі пеўнямі у в. Радзеева /зноў жа шляхам кувыркання праз уваткнуты нож/ і ў поўню ў в. Бубнаўка без ніякіх намаганняў з боку самога ваўкалáка; у поўню яго не выпускалі з цёмнага пакою, пакольку гэта выключала ператварэнне, і, нягледзячы на тое, што ў "воўчым" стане ён мог нападаць на людзей, не ставіліся да яго адмоўна. У Бубнаўцы ж адзначана, што да забітага ваўкалáка вяртаецца чалавечае аблічча.

Здольнасці людзей асаблівага тыпу ператварацца ў іншых жывёл будзе разгледжана ніжэй. Гэтыя людзі, у параўнанні з іншымі суб"ектамі міфалогіі, валодаюць найбольшай распаўсюджанасцю, але не з"яўляюцца міфалагічнымі персанажамі ў поўным сэнсе гэтага слова. Сувязь людзей, здольных здзяйсняць магічныя дзеянні з нячыстай сілай на Гомельшчыне выглядае больш-менш выразнай, але ў цэлым на Беларусі гэта адзначаецца далёка не заўсёды, існаванне магіі і, значыць, людзей, якія ёй займаюцца, часцяком лічыцца натуральнай з"явай у самых бедных у адносінах міфалагічных матэрыялаў населеных пунктах, і інфарманты, якія скептычна ставяцца да міфалагічных вераванняў, не бяруць пад сумненне гэты факт як бытавую рэалію жыцця. Пераважна мае месца апазіцыя паміж дэнататамі ў залежнасці ад станоўчай ці адмоўнай накіраванасці магічных дзеянняў, адпаведна яны абазначаюцца рознымі лексемамі. Так /першымі, улічваючы ступень распаўсюджанасці, падаюцца негатыўныя суб"екты/: калдýн — лéкар /в. Губічы/, чарадзéй/-ка/ — знáхар /мн. лік знахары́/, знахóр /в. Спярыжжа/, вéдзьма, колдýнья /радзей/ — знáхар /в. Махнавічы/- пазітыўнасць знáхара пераважная, але не ўніверсальная, параўн. два адказы: "Былі знахары́, робілі зáвіткі", "Залóм у жы́ці знáхар рóбіць на худóбу. Другóй знáхар мóжа помóчь", у якіх паказваецца амбівалентнасць знахара, а таксама "Знáхар нялёгка, у цяжóлым состоя́ніі умірáе" і даныя пра знахара-млынара і знахара-немца — цяжкая смерць і зазначаны род заняткаў, як даўно вядома, уласцівыя ведзьме, а выгляд іншаземца поруч з іншымі увасабленнямі нечага чужароднага, нетутэйшага з"яўлення адной з іпастасяў чэр-

та — усё гэта у ..дзеным выпадку падкрэсл. ае сакральна-нячыстую семантыку лексемы знáхар. Падобная сітуацыя даволі тыповая, пазітыўная накіраванасць знáхара рэдка бывае безагаворачнай, тут адбіваецца і яскравы хрысціянскі светапогляд асобных інфармантаў, і натуральны недавер да любых магічных дзеянняў: вéдзьма /ведзьмáк/, калдýн — знáхар/-ка/, шаптýн/-ня/ /в. Добрынь/, калдýнья /фанетычны варыянт колдýнья/ — знáхар /в. Іванаўка — аднак таксама фіксуецца ўжыванне абедзьвюх лексем у аднолькавым, зразумела, адмоўным сэнсе/, чарадзéй, ведзьмáк /ведзьмáрка/ — знáхар/-ка/ /в. Унорыца/, вéдзьма — знáхар /в. Галоўкі/, чарнакніжнік, калдýн, ведзьмáр, вéдзьма /апошняя лексема мае значна большую частотнасць у параўнанні з астатнімі/ — знáхар/-ка/ /в. Бабічы — але таксама ёсць адказ "Казáлі "Івáн прайшóў — малакó знáхарка з"éла/, вядзьмáрка, калдýн — знáхар /в. Капань/. У в. Бубнаўка лексема знáхар сінанімічная лексеме калдýн і вéдзьма і мае адмоўную семантыку, як і калдýн /в. Перарост/, калдýн, вéдзьма /ведзьмáк/ /в. Радзеева/. У в. Круткі амбівалентным з"яўляецца хто знáе /тáя ці той, хто знáе; той, катóры знáе — параўн. канструкцыю ідыёмы з эўфемізмам тыя што ў балóце сядзяць/. Адзначаецца, што ведзьма магла з"явіцца ў выглядзе ката у в.в. Унорыца /чорнага/, Іванаўка /толькі на Купалу/, Добрынь, Губічы, Круткі, Бабічы, Галоўкі; свінні ў в. Іванаўка /толькі на Купалу/, Добрынь, Бабічы; сабакі у в.в. Добрынь і Губічы; вужа ў в.в. Махнавічы, Бабічы, Галоўкі; змяі ў в.в. Бабічы /ператваралася ў лятучую змяю/ і Галоўкі; жабы ў в.в. Добрынь і Круткі. З в. Бабічы таксама ёсць інфармацыя, што вéдзьма магла ператварацца ў любую жывёліну ці птушку, але толькі на вéдзьміна Івáна /устойлівая назва Купалля у гэтым населеным пункце/. У Буда-Кашалёўскім раёне ўдакладняецца, што на самой справе калдýн можа ні ў каго не ператварацца, а "так закалдоўвае, што толькі здаецца, што свіньнá, кот" /в. Іванаўка, дзе гэтай здольнасцю калдýння валодае толькі на Купалу/, "Дзéлаецца сабáкай, катóм. Ці так налéчыць, што я бýду бáчыць вóлка ілі сабáку' а не калдунá тагó", пры гэтым, калі будзе на тое воля калдунá, астатнія будуць бачыць яго у сапраўдным абліччы /в. Губічы/. У гэтым сведчанні цікавасць выклікае таксама налéчыць з відавочным значэннем 'начаруе'. Дарэчы, падобнае /лекі 'чары'/ зафіксавана і ў Бабічах, аднак там ад гэтай лексемы не утвараецца дэрыватаў, а ў Губічах ужываецца і лексема лéкар, чые магічныя дзеянні маюць пазітыўную накіраванасць, і лексема

лячыць 'зняць урокі', а таксама "Калдун сурочыць — дзіця крычыць. Спуг паддзелае. Ад спуга лекары лечаць". Этымалогія лексемы лекар у Губічах няясная — несумненнае паходжанне ад лячыць, але ці з традыцыйным значэннем, ці са значэннем 'чараваць' — невядома. /Параўн. яшчэ інфармацыю з в. Махнавічы: "Колдунья была — на Егорія бегала где-то, лякарство шукаць" — няма ўпэўненасці, што лякарство мае ў гэтым кантэксце звычайную семантыку./ Хаця, зрэшты, магчыма, тут ' няма супярэчнасці: ЭСБМ выводзіць лек, лекі ад прагерм. *ľэка 'лякарства' і "не выключае сувязь герм. са ст.-грэч. Lέγω 'збіраць, лічыць, гаварыць' і лац. Lecō 'гучна пра...тваць', 'прагалошваць', што ...аглю б мець значэнне 'замаўляць', 'лячыць замовамі'[10]. Як бачна, прыведзеная ў ЭСБМ версія знаходзіць пацвярджэнне у в. Губічы Буда-Кашалёўскага раёна /ускосна таксама в.в. Бабічы і Махнавічы/. Са здольнасцю ператварацца ў жывёлу звязана і распаўсюджаная магчымасць распазнаць ведзьму: жывёліне наносіцца цялеснае пакалечанне, затым аналагічная траўма выяўляецца ў нейкага чалавека, што адзначана у в.в. Добрынь, Бабічы, Галоўкі, Крукі. У прынцыпе ў вёсцы звычайна ведалі, хто з"яўляецца ведзьмай, і без спецыяльных спосабаў, але яшчэ адзначаюцца наступныя: кіпяцілі цадзілку, у выніку чаго прыходзіла ведзьма /в. Радзеева/, на Купалу перасыпалі дарогу мурашкамі, праз якіх не магла пераступіць карова ведзьмы /в. Бубнаўка/ "коб узнаць ведзьму — посыпаць коноплю. Проскуні наскубуць да перасыплюць — ведзьма і пошла" /аднак інфармантка, якая у сувязі з узростам размаўляла кепска, дакладней растлумачыць гэтае дзеянне не здолела — в. Махнавічы/, "лекар находзя" /в. Губічы/, "яны ў цэркаў рэдка ходзяць, а як прыдуць, то не ідуць у іконам, а дзержацца за клямкі /в. Бабічы/. Што датычыцца дзеянняў ведзьмы, дык калі здольнасць ператварацца ў жывёл, асабліва ў ваўка, усё ж такі пераважна успрымаецца як нешта ірэальнае, астатнія акцыянальныя праявы лічацца бытавымі і натуральнымі, што не выключае сакральнага іх успрымання. Гэткае сакральна-бытавое стаўленне да шкодных дзеянняў, якія здзяйснялі ведзьмы і якія будуць разгледжаны ніжэй, з"яўляецца характэрным, а спектр дзеянняў, як звычайна, даволі абмежаваны. У першую чаргу гэта урокі, якая лексема ўжываецца у в.в. Спярыжжа і Махнавічы, урок /в. Губічы/, сурочыца /в. Бабічы/, нарадка /в.в. Бубнаўка, Бабічы/, порча /в. Бубнаўка/, прыстрэка, прікамець /в. Бабічы/, паддзелкі /в. Губічы/; лексемы, план вы-

разу якіх змяшчае спосаб уздзеяння: зглаз /в.в. Губічы, Радзеева, Бабічы/, падзівок /семантыка не ўдакладнялася, але паддаецца рэканструкцыі: параўн. укр. дивитися 'глядзець', аднак нават выключаючы ўплыў прыведзенага значэння — здзіўленне, захапленне наконт дзіцяці або скаціны раўнасільна зглазу, які нярэдка менавіта гэтак і рэалізуецца — не выпадкова у традыцыйнай народнай духоўнай культуры прадугаджваюцца даволі няветлівыя вербальныя формулы рэагавання на гэтыя эмоцыі; выходзячы з гэтага, можна зрабіць выснову, што падзівок і зглаз —сінонімы/, поглады /в. Махнавічы/, нагавор /в. Радзеева/. У в. Спярыжжа у якасці устойлівага эпітэту у адносінах выніку магічных акцэнтаў чарадзея выкарыстоўваецца прыметнік насланы 'плахое такое наслалі'. Са значэннем 'навесці урокі' выкарыстоэваюцца наступныя дзеясловы: з коранем -раб- зрабіць /в.в. Крукі, Галоўкі, прырабіць /в.в. Крукі, Добрынь/, нарабіць /в. Спярыжжа/, з коранем -дзел- — здзелаць /в.в. Спярыжжа, Бабічы/, іздзелаць /в. Іванаўка/, паддзельваць /в.в. Губічы, Радзеева/; дэрываты ад урокі — суробіць /в.в. Губічы, Бабічы/, урачы /форма прошлага часу адзіночнага ліку мужчынскага роду — уракнуў — в. Спярыжжа/; са значэннем 'псаваць' - порціць, наслаць порчу, спаганіць /в. Унорыца/; зачараваць /в. Унорыца/; прыстрэкіць /в. Бабічы/; зглазіць /в.в. Спярыжжа, Добрынь, Бабічы/. Тут трэба адзначыць розніцу паміж "зглазам" і "урокамі", якая, хоць і не знайшла адлюстравання у беларускай літаратурнай мове, у дыялектах часта мае месца: напрыклад, у в. Спярыжжа плахіе глаза мае зусім не абавязкова чарадзейка, а чалавек, якога ў дзяцінстве "маць карміла грудзью, патом отняла, потом — дзіця ж крычыць — пожалела і снова начала корміць", прычым шкоду ён робіць мімавольна, "он сма не рад, што так получаецца", па аналагічнай прычыне і ў в. Губічы з"яўляюцца "плахія вочы. Нільзя глядзець ні на дзіцёнка, ні на худобіну", урокі ж — дзеянне заўжды свядомае. Адваротнае, абясшкоджваючае дзеянне абазначаецца лексемамі зняць /в.в. Спярыжжа, Бабічы/; адрабіць /в.в. Спярыжжа, Крукі, Добрынь/; лячыць, /в. Губічы/, адлечваць /в. Іванаўка/; адгаварыць /в.Унорыца/, выгаварываць /в. Радзеева/; адчытаць, крэст налажыць /в. Унорыца/. Вельмі распаўсюджанае дзеянне ведзьмы таксама — заблытаць, завязаць у пучок некалькі каласоў у жыце, што прынясе шкоду гаспадару поля, калі ён да гэткага жыта дакранецца, або нават і не дакранецца, але ,не адбудзецца абасшкоджваючага магічнага дзеяння. Літаратурная назва

такога жыта зало́м выкарыстоўваецца толькі у в. Махнавічы, ды і то поруч з лексемай з коранем -в- /за́вітка/, якія непараўнальна больш распаўсюджаныя на Гомельшчыне. Лексема за́вітка фіксуецца таксама і ў в.в. Спярыжжа /"ку́клу таку́ю рабілі" , прычым туды укручвалі камені ў анучы, або проста звязвалі чырвонымі ніткамі/. Крукі, Іванаўка, Бабічы, Галоўкі; у дзвюх апошніх вёсках Рэчыцкага раёна, аднак, пераважна ўжываецца назва завіць, завітак /в. Бубнаўка/. Самы шырокі спектр уздзеяння за́віткі /залома/ адзначаецца у в. Махнавічы: яна можа адняць малако ў каровы, выклікаць падзеж скаціны, хваробу ў чалавека, ад якой мог вылечыць знахар; нарэшце, "зало́м рабілі на пога́ное ўсё". У в. Спярыжжа за́віткі калечылі і чалавека, і скаціну, прычым чалавек хварэў столькі гадоў, на колькі "чарадзей нарабіў" — на два, на тры, на дзесяць. Ло́міт ко́сці, отніма́ецца фсё. Адна́ ву́рвала ку́клу — дзе́сяць гадо́ў ляжа́ла". У в. Губічы тое ж самае дзеянне за́віткі, але без падрабязнасцяў — "і на чалаве́ка, і на скаціну" аналагічна і ў Рэчыцкім раёне: "За́віць завівалі на худобу ці на сям"ю, а ў адным з адказаў апісваецца, як "адна́ зжа́ла гэта паламанае жы́та, на паты́ліцу упа́ла і закрічáла, ру́кі ёй пакорчыла", пасля чаго знахар дзевяць разоў здзяйсняў магічнае лячэбнае дзеянне, вылячыў, але ж усё роўна ямчэ тыдзень гэтая жанчына не магла есці /в. Бабічы/, "зав"юць за́вітку — падо́хнуць каро́вы ілі сам умрёць" /в. Галоўкі/. На хваробу чалавека завіткі рабілі у в.в. Крукі /дзе іх завівалі русалкі на русальным тыдні/, Бубнаўка /дзе ад гэтай хваробы чалавек паміраў, калі знахар, які завіў за́вітак, сам яго расплятаў/. Радзеева. Пакалечыць або забіць чалавека за́вітка магла ў в. Іванаўка, у в. Добрынь адна - начна зафіксавана, што яе рабілі на смерць чалавека, у в. Капань — на падзеж скаціны. Калі завітку знаходзілі на полі, зафіксаваныя тры магчымыя варыянты паводзін. Найбольш папулярны з іх — не кранаючы завітку /абжынаючы яе, калі справа адбываецца ў час жніва/, клікаць на поле знахара: в.в. Капань /або святара/, Губічы /"ле́кара зва́лі , вы́ражэ тую за́вітку і спа́ліць на ро́станях"/, Крукі; у астатніх вёсках адзначаецца магчымасць знахараў перавесці шкаданоснасць завіткі на зрабіўшую яе ведзьму — в. Галоўкі /паралельна з адказамі тыпу "Сам не вырыва́ю, наніма́ю зна́харя" /і ма[illegible]ленне зна́харь у назоўным склоне не выяўлена/. "Яна́ не чапа́ла, пасла́ла па дзе́да Сту́жу. Так дзед малі[illegible]ўсямаліўся — а яго́ падыме да аб зе́млю, падыме да аб зе́млю. "Ну,- каха, — сі́льная за́віць!" зафіксаваныя дзве былічкі — у адной

сын ведзьмы "скінуў з сябе ўсё і закруціў жыта. Цесць мой малы абед прынёс, бацьке кажа пра завітку. Бацька кажа: "Заўё яму сраць". На след таго пацана сказаў нешта /нада было след узяць, каб яго ўзяць/. Пацан здурнеў. Бацька яго у слязах прыйшоў, кажа: "Прасьці!". Прасьціў, бо пацан і першы раз, а ў другой да ведзьмы паставіліся больш жорстка — знахар, як запеў першы певень, пайшоў разам з гаспадарамі на поле, "прыказаў адвярнуцца ўсім, каб ніхто не бачыў, з сябе ўсё зняў, пахрысціўся, памаліўся, вырваў завіт... Знахар кажа: "Да вас абязацельна прыбяжыць жэншчына ці скавароды прасіць, ці чаго — толькі штоб не далі, а то адпусціце яе. А не даш — бярэш на сябе грэх — я здзелаю, што яна і ўмрэ". Пацярпеўшы мужык узяў на сябе грэх, адмовіў суседцы, якая прыйшла прасіць патэльню, яна і памерла/; в. Бабічы /паралельна з адказамі тыпу "в жыце завіць абажнуць і шукаюць чалавека, каторы лячыў, ён пашэпча і там жа на полі спаліць яе", "нада дзеда ці бабу шукаць, хто мог яе раскідаць" зафіксавана былічка пра тое, як знахар з адпаведнымі заклінаннямі вырваў завітку, прынёс у хату гаспадароў поля, загадаў запаліць печ, над печчу павесіў завітку, і пачаў шаптаць, папярэдзіўшы, каб ніхто не вымаўляў ні гука, пасля чаго праз чвэрць гадзіны прыйшла суседка, якая аказалася чарнакніжніцай — "сагнутая, рукі ёй корчыць, гаворыць плоха. "П-р-а-с-ц-і" — кажа пяясным голасам" /інфармантка перадавала яе голас прыдаўлена, як быццам вихарквкаючы гукі/. Як высветлілася, суседку прымушае рабіць завіткі нячыстая сіла. Пасля адпаведнай просьбы гаспадароў хаты знахар дараваў чарнакніжніцы — "зняў гэтую завітку і ў печ кінуў. Атпусціў ёй. Распрамілася ды пашла". З прыведзенай былічкай перакліkaюцца і іншыя паведамленні з Бабічаў: "Чарнакніжніка калі ў армію вазьмуць, ён там са строя выйдзе і завіць на кусьце хоць завяжа — не можа ўжо без гэтага", "Ведзьма ноч"ю ўстане і ходзіць, ходзіць. Чорная кніга ей не дае пакоя"/; в. Махнавічы /паводле аднаго са шматлікіх і разнастайных адказаў на гэтую тэму "бацька к знахару ездзіў на млінок /гэты локус здаўна звязаны ў традыцыйнай культуры з чараўніцтвам — В.К./, на поле прывьёз його. Тия усё порваў, з собою ўзяў — на яе, ведзьму, перавёў. Яна засекла сякерай сына своего"/; в. Іванаўка /ускоснае сведчанне — інфармацыі аб адваротным дзеянне завіткі няма, аднак знахары, абясшкоджваючы яе, прымаўлялі: "Я на парог — сатана за парог. Што было нам — то будзе калдуням"/. Другі варыянт паводзін — абжынаць завітку, не кранаючы яе — фіксуецца у в.в. Сярыжка, Бубнаўка і Махнавічы. Трэці

варыянт — вырваць самімі і абавязкова прынесці да знахара. — парушае ўстойлівую забарону дакранацца да завіткі, і, відаць, менавіта таму ён мае спарадычны характар, фіксуецца рэдка і толькі ў тых вёсках, дзе адзначаюцца і іншыя дзеянні у гэтай сітуацыі /в.в. Махнавічы, Галоўкі/. Шырока адзначаецца здольнасць ведзьмы адбіраць у кароў малако або рабіць так, што карова доіцца з крывёю: в.в. Губічы, Іванаўка, Спярыжжа, Крукі, Бабічы, Галоўкі, Махнавічы, Бубнаўка — у адных населеных пунктах гэтая здольнасць праяўляецца толькі на Купалу, ад чаго і сцераглiся адпаведнымі спосабамі /в. Бабічы — "крапіву затыкалі на дварьі, в хлеву, в хату на ведзьміна Івана", в.в. Крукі, Бубнаўка і Галоўкі — тое ж дзеянне, пры гэтым у Галоўках ёсць інфармацыя, што "ведзьма мо́ла адбіра́ць малако́ любо́й но́ч"ю, а на Іва́на Купа́лу крапіву заткнуў — і ўсё, на цэлы год абараніўся", в. Іванаўка — "насыпа́лі ля каліткі песка́ на Купа́лу — ад зна́хараў", у в. Махнавічы дзейнічалі прасцей — "пілнуюць, каб ве́дзьма ў хлеў не зайшла́"/, у другіх населеных пунктах ведзьмы не былі абмежаванымі тэмпаральнымі рамкамі, аднак таксама знаходзілася супрацьдзеянне /в. Спярыжжа — "знахо́ры лячы́лі каро́ву", в. Губічы - "калясо́ станаві́лі ля хле́ва, што́б яна́ ў калясо́ учапілася"/. У в.в. Губічы і Уноpыца ведзьмы маглі выклікаць разлад у сям"і, у в. Галоўкі "ве́дзьмы зро́бяць — чалаве́к хварэ́е, хварэе ды і памрэ́", а ў в. Бабічы яны не толькі "балёзьнь насыла́юць на людзэ́й, на скаціну; убіць мо́гут", а маглі нават і з"есці чалавека, але ж даўно, "паку́ль зямля́ несвянцо́ная была́"/ аб гэтай ідыёме ніжэй яшчэ пойдзе гаворка/. У в. Губічы ведзьма "спуг паддзе́лае", г. зн. можа зрабіць так, што дзіця будзе крычаць. Выратаванне звычайнае — "ад спу́га ле́кары ле́чаць". Падобнае ж выратаванне скарыстоўваецца і ад во́ласа у некаторых населеных пунктах: "Во́лас — нарыў. Магла́ ве́дзьма здзе́лаць, што во́лас будзе. Зна́хар во́лас ву́рве, зацягне ў іго́лку і працягне ў гэты нары́ў" /в. Бабічы/, і ў в. Радзеева во́лас — нарыў "ад вачэ́й і нагаво́ра", які лечыць адпаведнымі магічнымі дзеяннямі. Трэба дадаць, што шкоду ведзьмы рабілі рознымі спосабамі. Акрамя вербальных формул, якіх інфарманты, зразумела, не ведаюць, адзначаецца наступнае: по́клади — прадметы, якія падкладаліся пад хату ці ў гарод і прыносілі шкоду /в. Махнавічы/; "Снопу́ жы́та с по́ля вазілі. Чарадзе́й сказа́л: "Як ты ско́ра зваро́чваесься — ты тры во́за, а я адзін" — і чалавек, да якога ён звярнуўся, зваліўся з воза хво́рым, пасля яго вылечыў зна́хар /в. Спярыжжа/;

у Бабічах з дапамогай іголкі з ніткай, якімі шылі падушку, калдуны маглі "звесьці маладых" у час вяселля, яшчэ "калдуны бралі пясок з магілак і калдавалі, а потым чалавек ілі памрэ, ілі ум пацярае"; і да т.п. Розныя магічныя спосабы дасягнення адной і той жа мэты могуць мець месца і ў межах аднаго населенага пункта: у Бабічах, дапусцім, адзначаюцца выпадкі, калі ведзьма пранікала ў хлеў адбіраць малако у зааморфным выглядзе, і у той жа час"ведзьма пашэпча-пашэпча: "Хай тваё будзе маё!" — і ей малако адходзіць, ей і ў хлеў хадзіць не нада", прыблізна тое ж самае і ў Махнавічах — поруч з даным і, па якіх ведзьма прабіралася ў хлеў, скінуўшыся вужом, адказы тыпу — "Чаловек корову дзержыць — ведзьма із хлева выцягне страху — сільно погана становіцца корова, молоко не дае". "На Івана на Купалу маглі ведзьмы зрабіць што плохое. Сцягвае солому с хлева, прыговарывае, каб молока не давала ці зводзіцца худоба". У апошніх дзьвюх вёсках адзначаецца, што людзі, якія валодаюць звышнатуральнымі здольнасцямі, цяжка паміраюць, прычым у Махнавічах гэта і ведзьма, і знахар /г.зн. незалежна ад накіраванасці магіі/, а ў Бабічах пакуты застаюцца на долю таго чарнакніжніка, які не перадаў нікому свае ўменні — "страшна мучыцца, нячыстая сіла яго не адпускае. Нада паталок взрываць, каб памёр. Аналагічны метад у Губічах: "Калдун уміра́е дужа страшна, трудзіцца. У паталку дошчачку вырывалі". У в. Махнавічы адзначаюцца пазітыўныя магічныя здольнасці асобных людзей разганяць хмары і спыняць /ці сцішаць/ пажар.

ТСБМ падае значэнне лексемы здань як 'вобраз нябожчыка, які ўзнікае ва ўяўленні містычна настроеных або псіхічна хворых людзей; прывід'[11]. Але міфалагічная семантыка лексемы гэтым значэннэм не толькі не вычэрпваецца, а і не зусім адпавядае яму — у прыватнасці, у абследаваных населеных пунктах Гомельшчыны няма прыкладаў, каб "вобраз нябожчыка" называўся гэтым словам ці яго словаўтваральнымі варыянтамі, акрамя Брагінскага раёна: в. Крукі, дзе назоўнік таксама не ўжываецца, в. Спярыжжа, дзе гэта праяўляецца у значна меншай ступені — даця дыяхрані[?]ую сувязь з гэтым вобразам выключыць нельга. У Гомельскай вобласці зданкі /калі ўжываецца апелятыў, як менавіта гэты/ фіксуюцца зрокавыя, і, радчэй, акустычныя. Выключна апошнія апісваюцца ў Махнавічах: "Сярод /варыянт вымаўлення — сярэд/ дня, у палавіну д[?]і можэт здаіцца, і полночі здаецца. Нешта было —

гукáе, скулíць — не віднó"; час і характар з"явы пацвярджаецца усімі адказамі, і толькі ў адным пасведчылі, што а першай гадзіне; апелятыў у Махнавічах не выкарыстоўваецца. Акустычныя здáнкі адзначаюцца і ў в. Галоўкі /"Здáнкі: нéшта ўдрýг у акнó — гук! бух!/, але там жа і гісторыя, як у ноч пад Новы год здаўся "бéленькі-бéленькі дзядóк", які зніх пасля таго, як з ім павіталіся. У Бабічах адна інфармантка чула, як "на нéбе крычáць, а пóтым бýхнула. Тады стáлі стагнáць"; некалькі інфармантаў паведамілі пра здáнкі /ці відзéнье/ ноччу на магілках /напрыклад, бліснýшчы столб бывáіць"/ і праінструктавалі, як трэба сябе паводзіць у такім выпадку: "ідзíце спакóйна, не ўбегáйце, калі бýдзе даганяць — сніма́йце платóк ці што і атмáхвайцесь"; адтуль жа паведамленне: "Здáнкі былі: нóч"ю ідýць — кóціцца ўслéд, як клубóк /бéлы бывáе, бывáе яркі такі, як залатóй/, патóм — дзе дзéлася? Да рóстаняў дакóціцца і прападáе". У в. Спярыжжа здáнкі здавáліся апоўначы, напрыклад: "Із мóгілак ідзé дзéвушка, ва ўсём бéлам. Прашлá всю дзерéвню, возвраціласяапяць на клáдбішче. Предвещáла штó-то недóбрае"; таксама былічка, дзеянне якой адбываецца ў азначаны час сутак, на ўсяночную, калі баба з дзедам, якія сядзелі на печы, нічога не бачылі, а здáнкі здалíся выбіральна, толькі ўнуку, які да таго ж чытаў у той момант евангелле ў голас; ён беспаспяхова спрабаваў звярнуць увагу сваіх родных: "Ідзé чалавéк у хáту ў бéлым. Я на свaé вочы бачу". Пастаяў, собрáвся і пошоў". Выразная і адзначальная сувязь гэтай з"явы з хтанічнай прасторай адзначаецца толькі ў в. Круκі: "Пугáе на клáдбішчы. Хто знаў і ўмер, і за сабóй усё панёс, не адказáў нікóму", "каró нядóбрыя завелі да ўтапілі ці павéслі — ён мóжа здавáцца у 12 часóў дня ці у 12 часóў нóчы", таксама могуць здавацца памёршыя нехрышчоныя дзеці, на магілках — ва ўсіх гэтых выпадках, каго б ні ўбачыў, "ягó перакрасціць трэба", а нехрышчонаму дзіцяці пры гэтым яшчэ і даць імя Адам ці Ева. Як бачым, у Круках, адзінай з даследаваных вёсак, уяўленні аб зданках змыкаюцца з уяўленнямі аб "заложных" нябожчыках /і класічны для беларускай міфалогіі пералік мёртвых, якія ўваходзяць у гэтую катэгорыю/, пры гэтым, аднак, яны сінанімічныя, але не тоесныя, бо здавацца — гэта не адзіная здольнасць нябожчыка. Паводле зафіксаванай ў гэтай вёсцы легенды, "адзін, хто знаў", пасля смерці прыходзіў па начах да сваёй жонкі і спаў з ёю. Яна пра гэта нікому не паведамляла: "мо ён хóдзіць, мо ён у хáце бывá — жóнка ж не скáжа", — і прызналася толькі тады, калі стаў

расці жывот. "Бацюшка асвяціл жывот", і без нікага выкідышу ён спаў. А каб гэтага не зрабілі — калі б ёй прыйшла пара раджаць, "яна б не радзіла, а умерла бы". Каб пазбегнуць падобных сітуацый, раней пры пахаванні "таму, каторы знае, асінавы калок у голаву забівалі". Прэвентыўныя меры гэткага ж кшталту прымяняюцца ў Губічах: "як калдун памрэ — кол забіваюць асінавы /у магілу — В.К./, і мак-самасей сеюць на кладбішчэ. Што б прадзьвіжэньня нікага не было". Нябожчыкаў у Губічах не бачылі, а толькі чулі. Звычайны нябожчык"да шасці нядзель можа хадзіць. Чуюць — адчыняюцца дзьверы, і пойдзя". Калдун сваякоў не турбаваў, хадзіў не ў сваю хату, а "на каго зло мае" /падобнае, дарэчы, адзначана і ў Махнавічах — В.К./. Прыходзе, хату адчыняе, стукае". Хаця акцыянальныя праявы свайго нябожчыка і калдуна фактычна ідэнтычныя, спосабы выратавання дыферэнцыруюцца: у першым выпадку "у царкву ходзяць, свечкі ставяць, свецяць хату", а супраць калдуна трэба "ад самага дома да магілы абсыпаць макам". Нябожчыкі могуць "хадзіць" і тады, калі у адносінах да іх не выконваюцца пэўныя рытуалы — праўда, у Круках такія нябожчыкі праказваюцца больш далікатна, у параўнанні з "заложнымі": "Пад Дзяды дзела. У нас була такая хата, а с прыходу печ була. Палеглі спаць на тыя самыя Дзяды /а інфармантка нічога не прыгатавала — В.К./. Ложкі як пасыплюцца, і гаршчок разбіўся. Я ноччу устала, да вады салодкай намешала, да белага хлеба полажыла". У Круках, у святле таго, што катэгорыя "заложных" нябожчыкаў вельмі дакладна вылучаецца, мае месца жорсткая размежаванасць паміж імі і астатнімі, — у іншых вёсках гэтага няма, выпадкова трапіўшыя ў гэтую арбіту нябожчыкі /"калі хто паміраe і дома свечак не паляць, і ў царкаў не ідуць — душа можа астацца дома, важка /інфарманты падалі значэнне слова як 'кепска'; відавочна, хутчэй 'цяжка' — В.К./ ей будзе долга" — в. Галоўкі; калі нехта пераскоча праз яму, якую выкапалі, але яшчэ не паклалі нябожчыка, альбо "каго коцік палізаў ці сабака. Нільзя; штоб ні ката, ні сабакі не было, калі хто ўміраe. А то душа астанецца на кату" — в. Бабічы/ паводзяць сябе так жа, як і тыя, каму належыць"хадзіць" у апрыёрным парадку. То наступныя разрады: "жанчына, радзіўшая без нікога";"матка, якая пры родах памерла"; адкуль, у якім гэтыя ўмовы спалучаюцца — "радзіла без нікога і памерла пры родах"; "хто доўга, неспакойна паміраe" — тут відавочная сувязь з ведзьмай, якой гэта уласціва —

і, нарэшце, ужо прама — ве́дзьма /уся гэтая разгалінаванасць адзначаецца у в. Бабічы/. У в. Махнавічы поруч з адназначным адказам "каторы зна́хар" даныя, што хадзіць, увогуле, мог любы нябожчык, але зна́хары учынялі гэта часцей за іншых. Цікава, што адным са спосабаў барацьбы з хаджэннямі нябожчыка з"яўляецца зварот таксама да знахара, чым зноў жа пацвярджаецца яго амбівалентнасць у Махнавічах, а за адным разам неаднастайнасць і супярэчлівасць міфалагічнай сістэмы гэтай вёскі. У астатніх населеных пунктах, з якіх ёсць матэрыялы пра "хадзячых" нябожчыкаў — а гэта в.в. Іванаўка і Добрынь — наогул ніякіх разрадаў не адзначана. З гэтых дзвюх вёсак, што цікава, атрыманыя амаль аднолькавыя звесткі і аб іншых правыяўленнях нябожчыкаў такога роду: выглядаў так, як пры жыцці; ад яго бараніліся, таму што баяліся, што можа звесці за сабой; у абедзвюх вёсках адзначаюцца выпадкі, калі маці пасля смерці прыходзіць карміць свайго немаўлятку, вось толькі трактуецца гэтая акцыя па-рознаму — у Іванаўцы "жо́нщына, памёршы, ко́рмя свайго́ рабёнка. Мог умярэць рабёнак", а ў Добрыні гэта — адназначна пазітыўнае дзеянне, ніякай шкоды яно дзіцяці не прыносіла, хаця працягвалася звычайна цэлы год, і, наадварот, расцэньвалася як дапамога. Розная з"яўляецца і методыка супраць наведванняў. У в. Добрынь трывіяльна — абсыпаць магілу або хату пасвяцоным макам ці пакрапіць вадой, або забіць у магілу асінавы кол, у в. Іванаўка — "збяры́ ёлак ад другога пако́йніка — і сабе́ пад крава́ць". /Маюцца на ўвазе галінкі з вянкоў ці з труны, альбо, калі нікога не хаваюць — з ялінаў, якія растуць на чыёй-небудзь магіле/. У Махнавічах інфармантка, якая пасведчыла, што хадзіць мог толькі зна́хар, прычым "к своім не хадзіў , к чужи́м — пужа́е ці коро́ву сця́гне, ро́біцца мо́края, молока́ не бу́дзе", і як з гэтым змагацца — па меркаванню інфарманткі, невядома. Іншыя інфарманты, насупраць, далі разнастайныя звесткі пра спосабы абароны — "як покойнік сніцца ча́ста—то ха́ты ма́ком свяцо́ным обсыпа́лі", "як хо́дзіць — мак свяціл і обсыпа́лі ха́ту. Як сні́цца ча́ста, на́до ву́галь сы́паць на двор", "крэсціліся, моліліся", і, поруч з апошнім, звярталіся да знахара /спалучэнне для дасягнення адзінай мэты праваслаўных дзеянняў і дапамогі магіі — з"ява, якую лічаць недапушчальнай і царква, і глыбока рэлігійныя людзі, але ж распаўсюджаная ў традыцыйнай народнай духоўнай культуры Беларусі/ — але не далі выразных тлумачэнняў, нашто ж, уласна, гэтая абарона наогул патрэбная, за выключэннем "хо́дзіць, пужа́е". Тое ж і ў Бабічах — разам з данымі

пра канкрэтную шкоду "хадзячага" нябожчыка, аб якіх яшчэ будзе сказана, некаторыя інфарманты сведчаць і пра адсутнасць такіх даных, і тым не менш, ад візітаў нябожчыка ратуюцца з матываціроўкай таго ж тыпу — "пугаліся людзі — цяжка відзець", "нервы ж гэта - пакойнік ходзіць". На самой справе матывацыя здзяйснення абароны ад "хадзячага" нябожчыка, нават калі для гэтага, на першы погляд, і няма прыкметных падстаў, канешне, больш глыбінная. Звесткі, паводле якіх любы нябожчык мог "хадзіць", вынікаюць з рэдукцыі міфалагічных уяўленняў, якія раней былі звязаны з "заложнымі" нябожчыкамі, чые нячыстыя трупы, як пісаў Д.К.Зяленін, маці-зямля не прымае, якіх з гэтай прычыны не хавалі нармальным чынам, і "нябожчыкі, пазбаўленыя звычайнага пахавання, помсцілі жывым"[12]. Больш за то, некаторыя іншыя міфалагічныя персанажы без бачных прычын традыцыйна выклікаюць страх з-за дыяхранічнай прымацаванасці да "таго" свету. І, у любым выпадку, сувязь з хтанічнай прасторай заўжды натуральна ўспрымалася як нешта небяспечнае, нават калі і не адзначаецца адчувальных вынікаў гэтай небяспекі. Вынікі, зрэшты, у Бабічах адзначаюцца — і нязначныя /"прідзёт, паадчыняе ў сараі, худобу павупускае"/ і істотныя: "мог на тот свет за сабой увесці", "маць памерла пры родах — год хадзіла гадаваць дзіця. І ўдзень ха - дзіла, і ўноч. А як чэраз год сталі людзі паміраць , дык яе ноч"ю адкапалі і зацесалі ў грудзь асінавы кол. Яна пішчала" /у адрозненне ад в.в. Добрынь і Іванаўка, тут трэці варыянт уплыву мёртвай маці, які ў негатыўным плане датычыцца не дзіцяці, а тых, хто вакол, якія трапляюць у сакральную аўру, створаную прадстаўнікамі хтанічнага свету/, але ж маецца і чацвёрты варыянт, які заключаецца ў прамым негатыўным уздзеянні маці на дзіця — "адна жэншчына гуляла-гуляла, двух дзевачак і мальчыка без мужыка нарадзіла". Яе бацька, каб гэтага больш не бачыць, пабудаваў ёй хату і адправіў туды. "Ён бы і на вуліцу выгнаў, но куда ж, унукаў жалка. Там яна без бацькі яшчэ болей гуляла, пакуль не памерла. Ужо пахавалі, мальчык ляжыць на печкі, — улезла на яго ў белым і давіць. Не мог, крычаў, біўся. Дзьве дзевачкі не відзяць, а яго замучвае. І на другую ноч — Івана гэтага давіць, а дзевачак не трогае. Дзедушка дзяцей забраў да сябе. Гэты Іван патом не мог відзіць пакойнікаў". Акрамя акцыянальных праяў "хадзячага" нябожчыка, можна зрабіць наступныя назіранні: І/ аб знешнім выглядзе нябожчыка /у белым адзенні/,; 2/ аб

здольнасці паказваецца не ўсім у памяшканні, а выбіральна; 3/ аб лакалізацыі нябожчыка межамі свайго былога жылля. Яшчэ ў Бабічах "хадзячы" нябожчык адзначаецца у выглядзе ценя, а што да спосабу абароны, дык паводле аднаго адказу "каб дамавік /у значэнні "хадзячы" нябожчык' – В.К./ ноч"ю не трануў, нада сабрáць самасéю, асвяцíць і абсыпацца самасéем", астатнія пяць адказаў маюць выразную агульную рысу — прамое ўмяшанне святара /або, прынамсі, чытанне евангелля пры пасыпанні хаты самасеем/: "бáцюшку наймáлі", "хóдзяць у цэркаў, а там бáцюшка знáе, малíцца як", "бáцюшку прíвóдуць і асінавы кол у магілу забьюць". У адным сведчанні апошняе дзеянне набыло вельмі складаную і працаёмкую ў выкананні мадыфікацыю: інфармантка апавядала пра тое, як у мужыка памерла жонка, і хаця, прыходзячы, яна нічога шкоднага не рабіла — "пасýду мóе, печ затапíла" — мужык вельмі спалохаўся, а паколькі гэта паўтаралася некалькі начэй раз за разам, мусіў звярнуцца да святара. "Бáцюшка сабрáў людзéй — лéта было́, у всех рабóта былá, но раз такóе дзéла, всé памагáлі. Пабрáлі тапары́, íконы і пайшлí. Нарубíлі вóрах асíнавых калóў. Бацюшка сказáў, што нáда прабíць труну скрозь магілу, раскопваць магілу нíльзя́. Бáцюшка мéста паказáл, кудá бíць нáда /у грудзі – В.К./ і сталí біць. А цяжка — трунá сасновая, калы́ асíназыя, паламáлі ўсé калы́ — там ужó новы вóрах нясýць. Наканéц прабíлі — звук такí пайшóў, як свíст ці звон. /Судзячы па перадаванню інфарманткі — нешта падобнае на няспраўны вадаправодны кран – В.К./ Бáцюшка сказáў, калá гэтага не трóгаць і ўсé дыры́ ў зямлí пазабíваць /тымі зламанымі каламі –В.К./. З той пары́ не хадзíла". У Галоўках значна меней інфармацыі пра "хадзячых" нябожчыкаў; адна інфармантка паведаміла: "прышлá ўдзень — мат... голас. А яна ўжо памёрлая ляжáла, но мы не знáлі. У бальніцы яна былá. Завé па íмені, а я не абгукáюсь, казáлі, што абгукнесся – а то ж ты умрэ́ш, ці нéхта ў вас умрэ́. А патóм узнáла — мáтка памéрла". Спосаб абароны ў Галоўках фіксуецца адзіны, звязаны з зазначанай вышэй прычынай з"яўлення "хадзячага" нябожчыка ў гэтай вёсцы — "трэ́ба дóма багáта вельмі свечак палíць". Сканчваючы размову пра дадзеную міграцыйную парадыгму, трэба заўважыць, што ў ёй часцей за іншыя выпадкі ў якасці сродкаў супрацьдзеяння выкарыстоўваецца непасрэдны ўдзел царквы і наогул хрысціянскія метады /што заканамерна, калі ўлічыць спецыфіку гэтай галіны міфалогіі/, а таксама дадаць, што ні смактанне крыві, як ак-

цыянальнай праявы ябожчыка, ні лексемы вупар /ці упыр/ — спрадвечнага ўсходнеславянскага міфоніма, скажонай формай якога з"яўляецца заходнееўр. вампір, у Гомельскай вобласці не выяўлена, ды і наогул, у беларускай міфалагічнай сінхраніі рэшткі гэтай міфалагемы захоўваюцца надзвычай рэдка. Пры дастаткова шырокім комплексе ахавальных дзеянняў амаль няма іх дыферэнцыяцыі ў залежнасці ад стаўлення да чябожчыка, аб якой у этналінгвістычным архіве ёсць матэрыялы Брэсцкай вобласці[13].

Сувязь з хтанічным светам праўвыступае таксама ў вобразе смерці. Розныя іпастасі яна можа прымаць у в. Радзеева: жанчына ў белай сукенцы, голая жанчына /то больш прывабны варыянт, таму што вядомая магчымасць застацца ў жывых — не вымаўляючы ні слова, што-небудзь на яе накінуць/, прыгожа апрануты памерлы сваяк; смерць нават не абмежавана яў гэтым населеным пункце антрапаморфным аблічам — яе бачылі ў выглядзе прыгожай цярэшачкі 'матыля'. У в. Бабічы назіраюцца даволі ўстойлівыя ўяўленні пра адушаўлёную смерць — звесткі далі 5 інфармантаў. Тры адказы сведчаць пра тое, што смерць — жанчына ў белай сукенцы /нават узімку/, з касой у руцэ, а ў адным удакладняюцца іншыя рысы выгляду /будзе прыведзена ніжэй/. Паводле двух адказаў, смерць нябачная для усіх, акрамя тых, чый час паміраць, і таму выгляд невядомы — правыяўляе сябе толькі тым, што расчыняе дзверы. Але і ў тых выпадках, калі яе не бачуць, можа паказацца не ўсім, аб чым сведчыць былічка: "Я сама́ сьме́рць ба́чыла. Е́ду з мужыко́м, зімо́й, на саня́х у Ба́бічы — днём. Чу́ю, са́ні — хрась! /скрыпнулі, а не зламаліся — В.К./ — сядзіць жэ́нічына. Зіма́ — а яна́ ў бе́лым пла́цьі, высо́кая, худа́я, маладая яшчэ́, з касо́й. Я ей: "Ты хто?" "Я сьмерць". "А куды едзеш?" "У Бабічы". Я ўскалыхну́лася, уздрыгну́лася — яна і прапа́ла, як не было. Хацела спытаць мужыка: "Ілля, ты бачыў сьмерць?", а потым думаю: "А як я спытаю, а яна мяне задушыць?". Год нікому не раска́звала. Пато́м спытала — не відзеў Ілля. А ў Ба́бічах яна аж дзьве́ душы́ забра́ла". І гэтая, і наступная былічка паказваюць, што гэты міфалагічны персанаж не стварае вакол сябе адпаведнага сакральнага поля, у адрозненне ад "хадзячага" нябожчыка, і выпадковая сустрэча з ім не прыводзіць да смерці тых, чый час яшчэ не надышоў: "Сасед чуе: за калі́ткай не́шта сту́кае-сту́кае, ён адкрыва́е — а там жэ́нічына з касо́й. Гэта сьме́рць хо́дзіць. Ён стаў пла́каць-прасіцца, каб не бра́ла яго, а яна: "Тваё врэмя яшчэ́ прыдзёт" — і ў дом напро́ціў пашла́".

Як вядома, у беларускай міфалогіі персаніфікацыю можа мець не толькі смерць, але і хваробы. Праўда, у адрозненне ад балгарскай міфалогіі, дзе персаніфікаваныя хваробы складаюць цэлы разгалінаваны міфалагічны пласт, адзін з буйнейшых пластоў міфалогіі, у беларускай атаясамліванне хваробы з дэманічнай істотай заўсёды, паводле наяўных крыніц, было даволі звужаным. Ранейшыя назіранні пацвярджаюцца і сучаснымі даследаваннямі ў Гомельскай вобласці. У в. Добрынь трасца нападае на слабых людзей у аблічы цёткі. У в. Радзеева пошасць уночы ходзіць па дварах, стукае і кліча, хто адгукнецца — захворвае /карэляцыя з вышэйпрыведзенай інфармацыяй з в. Галоўкі, дзе смяротна небяспечна было адгукацца на покліч нябожчыка і на стук дамавіка/, параўн. прыклад з польск.: "Калі на пытанне халеры пад вокнамі хаты "Śpicie?" жыхары адказваюць: "Śpimy", халера кажа: "Śpijcie na wieki", і ўсе ў хаце паміраюць, калі ж яны скажуць: "Nie śpimy, jeno Boga chwalimy" яна адказвала: "To chwalcie na wieki", і людзі ўцалеваюць"[17].

Апроч міфалагем, у даследаваных населеных пунктах фіксуюцца паняцці, марфалагічная семантыка, ці, прынамсі, сакральнае ўспрыманне якіх канчаткова страцілася. Напрыклад, лексема вырай вядомая ў беларускай, і, шырэй ва ўсходнеславянскай міфалогіі, як найменне фантастычнай краіны, куды адлятаюць птушкі або назва рая, у якім поруч з душамі памёрлых людзей жылі зноў жа птушкі. ТСБМ у якасці сучасных значэнняў слова падае 'цёплы край, куды вылятаюць на зіму пералётныя птушкі' і 'чарада пералётных птушак'[15]. У матэрыялах з Гомельшчыны адлюстраваліся абодва літаратурныя значэнні лексемы, і фіксуецца яна зараз без міфалагічнай семантыкі. Вырай 'месца, куды адлятаюць птушкі' адзначаецца у в.в. Добрынь і Радзеева, прычым канструкцыя "птушкі лятуць у вырай" з'яўляецца сінанімічнай "птушкі лятуць на поўдзень", што выключае ўсялякую міфалагічнасць. Водгаласы сакральных уяўленняў пра вырай зафіксаваныя толькі ў в. Унорыца, дзе гэтая лексема мае тое ж значэнне, але без геаграфічных удакладненняў, як месца, дзе цёпла, светла, і дзе яно знаходзіцца, ведае толькі Бог. У в. Губічы вышэйпамянёная канструкцыя ў іншым значэнні: "Пташкі ляцяць у вырай" 'птушкі лятуць чарадой', а таксама маецца канструкцыя "Вун вырай паляцеў", якая безумоўна, немагчыма іншы трактоўцы лексемы як у Добрыні і Радзееве. Аналагічнае значэнне і ў Бабічах": вырай 'чарада, якая ад-

лятае ўвосень', пры гэтым выкарыстоўваецца і словазлучэнне "вырай пчол" 'рой'. Улічваючы ўсё гэта, верагодна, нельга выключыць этымалагічную сувязь лексемы вырай ні з рай, ні з рой, хаця першае ЭСБМ адмаўляе, а другое не разглядае[18]. У беларускай міфалогіі ёсць даныя пра тое, што слова абазначала міфалагічнага персанажа, які ўвасабляў холад, але нават з даўнейшых крыніц можна зрабіць вывад аб яго малой распаўсюджанасці. У сучаснасці лексема фіксуецца на Гомельшчыне ў значэнні 'холад' у в. Бабічы /Дзяцям казалі — зюзя на дварэ — холадна, значыць"/ і з в. Добрынь, і не валодае ў гэтых населеных пунктах высокай частотнасцю ўжывання. Можна яшчэ згадаць пра іншую персаніфікацыю ўвасаблення холада — маецца на ўвазе шырока распаўсюджаны рытуал запрашэння мароза на куццю, што, хаця знаходзіцца па-за рамкамі праграмы "Міфалогія", фіксавалася па іншых напрамках этналінгвістычнай работы у в.в. Махнавічы, Губічы і Крукі; пры гэтым мароз, безумоўна, ні ў якім выпадку не ўспрымаецца як міфалагічны персанаж і фігуруе ў розных населеных пунктах Беларусі толькі ў адпаведнай вербальнай формуле. З Бабічаў маецца паведамленне "кажуць, калі дзіця не спіць — начніцы нападаюць", у якім начніцы пазбаўленыя міфалагічнай семантыкі, аднак у сучасных слоўніках гэтая семантыка адзначаецца /начніцы характарызуюцца як "начныя зданi" і "злыя духі", пры тым, што лексема ў іх прыводзіцца менавіта ў спалучэнні з дзеясловам "нападаць", а дэнатат уздзейнічае на яе дзяцей[17]. М.І.Талстой прыводзіць тэкст замовы ад начніцы[19], зафіксаванай, дарэчы, на Гомельшчыне, і ў гэтай замове да яе звяртаюцца як да адушаўлённай істоты, акрамя таго, аўтар знаходзіць паралелі элементаў кампазіцыі гэтай замовы з замовай, у прыватнасці, ад злога духу. Не кажучы пра сучасныя даныя, начніцы здаўна вядомыя як персанажы беларускай міфалогіі. Усё гэта не даказвае, але ж не выключае ўспрымання начніц як міфалагемы ў свой час і ў Бабічах, тым больш, што ўнутраная форма гэтай лексемы таксама спрыяе з"яўленню міфалагічнага персанажа /параўн. міфонімы палуднікі, палуночнікі і да т.п., а таксама абмежаванні дзейнасці некаторых персанажаў часам сутак/. Што датычыцца начніц і зюзі, дык невядома, што з"яўляецца першасным: спрадвечная міфалагічная семантыка гэтых лексем, якая рэдукавалася, альбо неміфалагічнае значэнне, якое на пэўных абмежаваных тэрыторыях набыло сакральны характар, і лексемы ператварыліся ў рэгіянальныя міфонімы, а

насля набытая міфалагічная семантыка зноў жа страцілася. Таксама ў Бабічах пужалі дзяцей наступным чынам: "Жалезная баба схваціць і уцяне ў калодзец". Жалезная баба, як і жалезны чалавек, —старадаўнія вобразы ў беларускай міфалогіі, але ўжо ў даўніх крыніцах жалезная баба адзначаецца як сродак застрашвання дзяцей, і яка-сці яе /напрыклад, хапаць жалезным крукам дзяцей, якія ідуць у гарод, таўчы іх у жалезнай ступе і з"ядаць[20] /маюць хутчэй фальклорны, казачны, а не сакральны характар. Пра жалезную бабу, якой страшылі, каб дзеці не хадзілі ў зазначаны ў Бабічах калодзеж, а таксама ў гарод і каноплі, багата даных у этналінгвістычным архіве, але як міфалагічны персанаж яна нідзе не адзначаецца. Акрамя гэтага, у якасці сродкаў застрашвання ўжываюцца лексемы, першапачатковая прыналежнасць якіх да міфалагічнай лексічнай мікрасістэмы не выключаная, хаця і падазроная: баба Яга, старцы /в. Бабічы/, бабай /в. Капань/, дзед /в. Галоўкі/, дзед каплаты /в. Унорыца/ — першым словам пужаюць дзецей, каб яны не хадзілі ў лес, астатнімі — у гарод. Апроч лакалізацыі і выключна вузкага функцыянальнага прызначэння названых лексем у дадзеным кантэксце, ніякай іншай атрыбутнкай іхнія дэнататы не валодаюць. Невядома, ці з"яўляюцца гэтыя лексемы этымалагічна міфонімамі, але ў сінхраніі міфалагічнай семантыкі ў іх няма. Першая з лексем трапіла ў гэты шэраг таму, што наяўнасць у фальклорнага персанажа адпаведных характарыстык зусім не прадугледжвае успрымання яго як сакральнага аб"екта Лексема дзэд з яе шматлікімі словаўтваральнымі і фанетычнымі варыянтамі сустракаецца ва ўсходнеславянскай міфалогіі як эўфемізм міфонімаў і як адгалінаваны ад эўфемізмаў самастойны вузкарэгіянальны міфалагічны персанаж, але ж то не даказвае абавязковай сувязі паміж непасрэдна міфалагічным і "застрашваючым" значэннямі. У гэтым пераліку апушчаныя застрашванні ваўкамі, змеямі, цыганамі і да т.п., якія міфонімамі не з"яўляюцца адназначна.

Пад заканчэнне работы мае быць разгледжаным шэраг легендаў і павер"яў, якія можна размеркаваць па некалькіх тэматычных групах. У адну з такіх групаў вылучаюцца апісанні міфалагічных падзей, жорстка абмежаваных тэмпаральнымі рамкамі — яны могуць адбывацца аднойчы ў год. Першае з гэтых апісанняў не змяшчае канкрэтнай даты /наўрад, ці, зрэшты, яна адсутнічае ў прынцыпе, хутчэй невядомая інфармантцы, альбо рэдукавалася/:

у год раз толькі ўзелаецца закалдованае золата. Агонь такі. Махні рукою па тому агню — надо не голай рукой махаць, а платочкам белым — і золата посыплецца". /в. Крухі/. Трэба адзначыць, што матыў міфалагічнага ўзбагачэння вядомы даўно, але к у сучасных даних ён гучыць усё радчэй з-за страчвання міфалагемамі сакральнай ролі. А ў в. Галоўкі захавалася даўняе павер"е, пра тое, што калі "на гэсмочну"" зварыць чорную котку і не баяцца таго, што "потым загаварыла кошка, падымаецца з чугуна", і таго, што пасля "будуць лезці гады і чэрці"; дык будзеш разумець, пра што гавораць звяры. Аналагічнае павер"е ў беларускай міфалогіі больш як стагоддзе таму: гаворку, якую вядуць звяры і дрэвы, можна разумець, сарваўшы папараць-кветку, для чаго ноч на Купалу трэба правесці ў лесе, прычым не спужацца д"ябла /ад якога абарона — начарціць круг пасвячоным мелам, а д"ябал будзе кідацца на чалавека ў выглядзе розных звяроў і змей, затапляць яго вадой, уражваць ягоны слых прынізлівым гіканнем і пісканм, і пры гэтым чалавеку будзе здавацца, што на яго валяцца вялізныя дрэвы[21]. І мэта, і перашкоды на шляху яе дасягнення ўвогуле такія ж самыя, як і ў галоўскай быліччы, толькі іншым з"яўляецца календарны момант і ўмовы крыху больш складаныя: у наяўнасці рэальная небяспека, ад якой трэба бараніцца, проста "не баяцца", у адрозненне ад Галовак, недастаткова.

Таксама ў Рэчыцкім Раёне, але ўжо у в. Бабічы, зафіксаваныя дзве звязаныя паміж сабой былічкі, якія паказваюць найглабальны негатыўны ўплыў чорта на жыццё людзей, таму і падаюцца зараз, а не раней, калі гаворка ішла пра акцыянальныя праявы чорта, бо праяў падобнай ступені значнасці чорта на канкрэтным узроўні болей у атрыманых матэрыялах з Гомельшчыны няма. І/ "Якога я бачыла страшнага непрыяцеля. Галава круглая, шэрсць віcіт. Я не спужалася, села на ганак і сяжу. Хто не баіцца ні ў ночы, ні ўдзень, той далгавечны. Хвост круць-круць. Ён упаў, гэты непрыяцель. Гэта было перад вайной. Ён сарваўся з цэга і сеў з"есці многа людзей. Тады праз год палучылася вайна. У нядзелю я бачыла, і ў нядзелю пачалася вайна". 2/ "Сню я сон — жыдоўка прыносіць такое самае без шэрсці: "Сматрыце, ано ўжо здохла". За акном ляжыць многа хлеба. Значыць, хлеба будзе многа. Кончылася вайна". Варта звярнуць увагу на такія моманты, як наяўнасць-адсутнасць поўсці як паказчык таго, што прадвяшчае дэман /падобная з"ява прыводзілася з матэрыялаў з Махнавічаў адносна доmoвіка, пра-

у год раз толькі дзелаецца закалдованнае золата. Агонь такі. Махні рукою па тому агню — надо не голай рукой махаць , а платочкам белым — і золата пасыплецца". /в. Круки/. Трэба адзначыць, што матыў міфалагічнага ўзбагачэння вядомы даўно, але ж у сучасных даных ён гучыць усё радчэй з-за страчвання міфалагемамі сакральнай ролі. А ў в. Галоўкі захавалася даўняе павер"е, пра тое, што калі "на усюночную" зварыць чорную котку і не баяцца таго, што "потым загаварыла кошка, падымаецца з чугуна", і таго, што пасля "будуць лезці гады і чэрці"; дык будзеш разумець, пра што гавораць звяры. Аналагічнае павер"е ў беларускай міфалогіі больш як стагоддзе таму: гаворку, якую вядуць звяры і дрэвы, можна разумець, сарваўшы папараць-кветку, для чаго ноч на Купалу трэба правесці ў лесе, прычым не спужацца д"ябла /ад якога абарона — начарціць круг пасвячоным мелам, а д"ябал будзе кідацца на чалавека ў выглядзе розных звяроў і змей, затапляць яго вадой, уражваць ягоны слых пранізлівым гіканнем і піскам, і пры гэтым чалавеку будзе здавацца, што на яго валяцца вялізныя дрэвы[21]. І мэта, і перашкоды на шляху яе дасягнення ўвогуле такія ж самыя, як і ў галоўскай былічцы, толькі іншым з"яўляецца календарны момант і ўмовы крыху больш складаныя: у наяўнасці рэальная небяспека, ад якой трэба бараніцца, проста "не баяцца", у адрозненне ад Галовак, недастаткова.

Таксама ў Рэчыцкім Раёне, але ўжо у в. Бабічы, зафіксаваныя дзве звязаныя паміж сабой былічкі, якія паказваюць найглабальны негатыўны ўплыў чорта на жыццё людзей, таму і падаюцца зараз, а не раней, калі гаворка ішла пра акцыянальныя праявы чорта, бо праяў падобнай ступені значнасці чорта на канкрэтным узроўні болей у атрыманых матэрыялах з Гомельшчыны няма. 1/ "Якога я бачыла страшнага непрыяцеля. Галава круглая, шэрсць віціт. Я не спужалася, села на ганак і сяжу. Хто не баіцца ні ў ночы, ні ўдзень, той далгавечны. Хвост круць-круць. Ён упаў, гэты непрыяцель. Гэта было перад вайной. Ён сарваўся з цэга і сеў з"есці многа людзей. Тады праз год палучылася вайна. У нядзелю я бачыла, і ў нядзелю началася вайна". 2/ "Сню я сон — жыдоўка прыносіць такое самае без шэрсці: "Сматрыце, ано ўжо здохла". За акном ляжыць многа хлеба. Значыць, хлеба будзе многа. Кончылася вайна". Варта звярнуць увагу на такія моманты, як наяўнасць-адсутнасць поўсці як паказчык таго, што прадвяшчае дэман /падобная з"ява прыводзілася з матэрыялаў з Махнавічаў адносна домовіка, пра-

ўда, зусім у іншым ракурсе/, тыповы для "нячыстага" кантэксту элемент іншапляменнасці /хаця тут магло зрабіць уплыў і тое, што памянёны народ найбольш пацярпеў ад вайны/, фармулёўка "сарваўся з цэпа" карэлятнўная вядомай легендзе пра д"ябла; адзін з варыянтаў якой прыводзіцца ў кнізе Ю.Крачкоўскага /старшы — чорт — Анціхрыст — сядзіць у пекле на ланцугу, і грызе яго, але на кожную Пасху пры словах "Хрыстос уваскрэс!" ланцуг зноў становіцца цэлым; М.Н.Нікіфароўскі адзначае 12 ланцугоў, якія знікаюць па адным штомесяц, але зноў жа на Пасху ўсё ўзнаўляецца[21], і дадзеная быліччка — ілюстрацыя да таго, што прыкладна здараецца, калі д"ябал ад ланцуга ўсё ж вызваліцца і пакіне хтанічны свет.

Чатыры наступныя легенды яшчэ больш непасрэдна, чым прыведзеныя быліччкі пра чорта, звязаныя з народным праваслаўем /асабліва бабіцкія легенды, звязаныя з дзьвума іпастасямі Бога/, у якім болей рысаў традыцыйнай духоўнай культуры, чым царкоўнага канона. Па словах інфармантакі з в. Спярыжжа, апісаны ніжэй выпадак носіць трывалую назву дзіво, і асацыяцыі ў гэтай вёсцы пры вымаўленні дадзенага слова ўзнікаюць менавіта звязаныя з гэтым выпадкам, г.зн. лексема дзіво у Спярыжжы набыла ўстойлівую канатацыю: "Дзіво — ікона абнавілася. Нічэго не было, а патом ікона пад Пятніцай абразавалась. Пятніца — даліна так называлася". Калісьці вельмі даўно ў гэтай даліне раптам з"явілася св. Пятніца — "людзі толькі яе пабачылі" — і даліну назвалі Пятніца. Так і цяпер: "Дзе кароў пасёце?" "Пад Пятніцай". В той даліне всегда вода стаяла — ів сухое лета". Дык там раптам з"явілася ікона, якую ніхто не чапляў: "дрэўца было — груша — на грушы віселa. У Лоеў у цэркву ўзялі, ікона сама зайшла ў цэркаў, ніхто яе туды не прыносіў. Хаця Лоеў — далёка, гэта іншы раён, а даліна Пятніца знаходзіцца побач са Спярыжжам. У другой вёсцы Брагінскага раёна, Круках, інфармантка расказала, як яе маці, якая была глыбока рэлігійная і часта, у тым ліку нават і ў ночы, наведвала царкву, у час аднаго з такіх паходаў знайшла прадмет-засцярогу ад нячыстай сілы: "Мацъ хадзіла у царкву. У час ночы пешкі пойдзе. Яна ўстала, умулась, пашла. Была ноч лунная. Стаіць лазовы корч. Матка як вышла са свайго двара — будта агоню пад плот хто падклаў. Сонца-сонца гарна. Хацела пабачыць — хлоп — і патух. Бачыць — ляжыць хрэшчык, не залаты, а памешанае золата з другім. Яна тога хрэшчыка ўзяла і насіла з сабой усюды. А як найшла — ні русалак не відзела, ні лесавікоў". І

зусім напрамую ўвасходзячыя ў народнае праваслаўе дзве легенды з в. Бабічы, прычым у першай сукупна з апісаннем вобраза практычна толькі канстатуецца выпадак, фабула якога распаўсюджаная ў розных населеных пунктах, а другая пры адсутнасці апісання мае прытчавы характар і сваю мараль, вельмі, дарэчы, талерантную. 1/ "Я была яшчэ дзеўкаю. Ісус Хрыстос ішоў па нашай вуліцы. На від — як хлопчык, але адзет быў красіва, не па-нашаму. З белым кіёчкам, у дамацканай світкі. Я пытаюся: "Дзетка, гдзе ты будзеш начаваць? Ты ж такое малое". А ён нічога не атвеціў і пайшоў. А тады яго бачылі і ў другіх вёсках". 2/ "Ішоў Бог па лесе, а там чалавек чэраз калоду скача: "Гэта,Бог, табе", — пераскоча, — "а гэта мне"; зноў пераскоча: "Гэта, Бог, табе, — назад, — а гэта мне"."Што ты робіш?" — пытае Бог. "А гэта я Богу малюся. Ці, можа, я не так малюся?". Бог: "Як маліўся, так і маліся, тую Бог малітву прымя".

У некаторых адказах у Круках і ў Рэчыцкім раёне адзначаюцца дзве тэмпаральныя мяжы, перад якімі паказваецца значная актыўнасць дэманічных сілаў і колькасць іхніх прадстаўнікоў, а таксама акцыі, якія нэ могуць учыняцца цяпер. Маюцца на ўвазе два здарэнні, якія выклікалі мацнейшую рэдукцыю ў галіне традыцыйнай народнай духоўнай культуры ў цэлым, і ў першую чаргу міфалогіі: "прыняцце хрысціянства і кастрычніцкі пераварот. Прычым калі пасля першага ў міфалагічных персанажаў было магчымасць інкарпаравацца і сістэме хрысціянскага светаразумення э дэманалогію, дык другое не пакінула і такой магчымасці, што і адбіваецца у адпаводных паведамленнях з Гомельскай вобласці. У в. Круківі пасведчылі: "Калісь земля была не заклята /у значэнні 'незамоўленая, неабароненая перад нячыстай сілай' – В.К./, када той свет быў", тады было багата нячыстай сілай, а наогул амаль перастала сустракацца нячыстая сіла пасля таго, як "Леніна ставілі на нашу власць — да таго усё було". З апошнім перакліткаецца інфармацыя пра русалак з в. Галкі:"Дзеўкі касматые, голые, страшные. Да Савецкай власці яны былі", а час прыняцця хрысціянства больш выразна выяўляецца ў Бабічах і на ўзроўні вельмі ўстойлівага ўяўлення, і на лінгвістычным узроўні. Ужываецца адпаведная ідыёма як зямля была несвечана — яна сустракаецца ў паведамленнях шасці інфармантаў, і быў прыведзены найбольш распаўсюджаны яе варыянт; можа вар"іравацца ўжыванне злучніка /калі, пакуль, пака/, выказніка /была несвенчана, была несвенчоная/ і сінтаксічнай структуры /пака не пасвяцілі зямлю/, але сэнс у гэтых выпад-

ках застаецца ранейшым. Якраз гэты перыяд зазначаецца розным! інфармантамі як час значнай велічыні папуляцыі русалак, альбо наогул іхняга існавання; як час значнай у параўнанні з сучаснасцю актыўнасці ведзьмаў, якія пры жаданні маглі з"ядаць людзей, альбо зноў жа вялікая іх колькасці і свабоды дзеянняў, а таксама сведчанні вялікай колькасці нячыстай сілы без відавочнай канкрэтызацыі, і іншага хаосу. /"Пака не пасвяцілі зямлю — багата гібелі было", "Як зямля была несвечана, людзі елі друг друга, змеі і гады ўсюды поўзалі, і нечысці ўсякай багата было". Як бачна з прыведзеных даных, рэальныя тэмпаральныя межы перад якімі міфалагічныя уяўленні былі багацейшыя і разнастайнейшыя, чым пасля, у народным усведамленні ператварыліся ў межы сакральныя, і адпаведна паводле сакральнага ўжо ўспрымання сталі асэнсоўвацца як межы колькасці і дзейнасці непасрэдна саміх міфалагічных персанажаў.

Коратка падсумоўваючы, трэба адзначыць наступнае. За мэту бралася вылучыць на падставе аналізу канкрэтнага матэрыялу спецыфічныя міфалагічныя рысы ўсходнепалескага рэгіёна, пры гэтым знаходзячы паралелі з ужо вядомым у беларускай міфалогіі і максімальна поўна падаючы зафіксаваныя даныя. Рабілася спроба, дзе матэрыялы давалі такую магчымасць, адшукаць рэдукаваныя архетыпічныя характарыстыкі міфалагем. Хаця прыклады параўнання ўсходнепалескіх міфалагічных рэалій з агульнымі тэндэнцыямі і стэрэатыпамі беларускай міфалогіі і сустракаюцца ў артыкуле, увага на іх не засяроджвалася, бо гэта варта разглядаць асобна. У цэлым высвятляецца, што міфалагічныя персанажы Гомельскай вобласці, набор якіх з"яўляецца ў асноўным шповым, і іншыя аб"екты сакральнага ўспрымання валодаюць пэўнымі адметнымі асаблівасцямі. Міфалагічная і калядміфалагічная тэрміналогія, улічваючы фанетычныя і словаўтваральныя мадыфікацыі, складаюцца са значнай колькасці лексічных адзінак, дыстрыбуцыя якіх на тэрыторыі Гомельшчыны звязана з дыялектным драбленнем, як у галіне мовы, так і ў галіне традыцыйнай народнай культуры.

## СПАСЫЛКІ

1. Тут і далей тэрмін"міфонім" ужываецца ў значэнні лексемы, якая абазначае найменне міфалагічнага персанажа, або іншую міфалагічную рэалію, а тэрмін "міфалагема" — міфалагічная рэалія з сукупнасцю яе дыферэнцыйных прыкмет, міфалагічны персанаж з усім комплексам яго міфалагічных характарыстык.

2. Непасрэдна у Брагінскім раёне даследванняў не праводзілася, апытанні сярод перасяленцаў з в.в. Спярыжжа, Крукі вялися адпаведна ў в. Буда-Люшаўская і в. Губічы Буда-Кашалёўскага раёна.

3. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", т.2 — Мн., 1978. С. 129.

4. Нікольскі М.М. "Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваннях беларускага сялянства". — Мн., 1933. С. 291.

5. Древлянский П. — "Белорусские народные предания". — СПб, 1846, С. 18; Сержпутоўскі Д.К. "Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" — У кн. "Беларуская этнаграфія ў доследах і матар"ялах", кн. 7 — Мн., 1930.

6. "Матэрыялы да слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак" — Мн., 1974. С. 138; Янкоўскі Ф.М. "Дыялектны слоўнік", вып. I. — Мн., 1959.

7. "Мифологический словарь" — М.,1992. С. 288.

8. Романов Е.Р. "Белорусский сборник", вып. 8—9. - Вільна, 1909. С. 290.

9. Крачковский Ю. "Быт западно-русского селянина". - 1874. С.205.

10. "Этымалагічны слоўнік беларускай мовы". т.5, Мн.,1989. С.281.

11. ТСБМ. т 2. С. 458.

12. Зеленин Д.К. "Восточнославянская этнография". - М., 1991, С. 353.

13. Параўн. звесткі з в. Спорава Бяроз., паводле якіх, калі снпаць мак на магілу, гэта прычыніць нейкі дыскамфорт нябожчыку, таму лепей абсыпаць хату, і з в. Аброва Івацэв., дзе мак сыпалі якраз на магілу, і нябожчык зноў атрымліваў магчымасць хадзіць, толькі пералічыўшы ўсе зярняткі, пры гэтым больш радыкальны сродак — пакласці на магілу важкі камень, які назаўжды гарантуе немагчымасць новага візіту — амаль не скарыстоўваецца, асабліва ў адносінах да сваякоў, бо камень ціснe на грудзі нябожчыку і яму цяжка дыхаць.

14. Санникова О.В. "Говорит нечистая сила" — У кн. "Этнолингвистика текста. Семиотика малых форм фольклора", т. I. — М., 1988, С . 102.

15. ТСБМ, т. I. - Мн., 1977. С. 569.

16. ЭСБ, т. 2 - Мн., 1980. С. 279.

17. Янкова Т.С. : "Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны". - Мн.,

1982. С. 213; "Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча", т. 3 — Мн., 1982. С. 196.

18. Толстой Н.И. "Из наблюдений над полесскими заговорами".- У кн. "Славянский и балканский фольклор". - М. 1986. С. 140.

19. Романов Е.Р. "Белорусский сборник", вып. 8-9. С. 290.

20. Крачковский Ю. "Быт...". С. 124—125.

21. Там жа. С. 205; Никифоровский Н.Я. "Нечистики". Свод простонародных в Витебской губернии Белоруссии сказаний о нечистой силе" — Вільна, 1907. С. 33.

В.В.Казначэеў

# З МАТЭРЫЯЛАЎ ДА "БЕЛАРУСКАГА ЭТНАЛІНГВІСТЫЧНАГА АТЛАС'"/ЛІСТАПАД 1992 г., БУДА-КАШАЛЁЎСКІ РАЁН/

Экспедыцыя 1992 г. у Буда-Кашалёўскі раён у этналінгвістычным напрамку работала ў в. Губічы /з перасяленцамі з в. Крукі Брагінскага раёна і з мясцовым. жыхарамі/ і ў в. Буда-Люшаўская /з перасяленцамі з в. Спярыжжа Брагінскага р-на/. У гэтай рабоце выкарыстоўвалася анкета-апытальнік для этналінгвістычнага атласа "Народная культура Беларусі", якая з'яўляецца даволі рэпрэзентатыўнай /хаця, здаецца, не ва ўсім аптымальнай/ выбаркай з поўнай праграмы Палескага этналінгвістычнага атласа. Анкета змяшчае ў сабе пытанні па сямейнай і каляндарнай абраднасці, абрадах гаспадарчага цыклу, уяўленнях пра прыроду, фальклору[1]. Такім чынам, матэрыялы, атрыманыя ў выніку работы з анкетай, адлюстроўваюць пэўныя фрагменты традыцыйнай народнай духоўнай культуры ва ўсіх яе галінах.

Вяселле. Падобныя адзін на другі адказы адзначаюцца ў вёсках Брагінскага раёна наконт вясельнага каравая — ён быў круглай формы, упрыгажэнні рабіліся з цеста: "Баха́нку кру́глую пе́клі, ля́зными фігу́ркамі абдзе́лывалі. З са́ма ці́ста — пра́ма як ро́зачкі, пляцёначкі. Як вы́нясем гэ́ты карава́й — блясцэ́ў краси́ва" /Спярыжжа/, "Учы́няць це́ста, большо́й крэ́сцік чэ́раз весь карава́й. Кру́глы пяклі́" /Крукі/. У Губічах каравая як такога не рабілі, але "ра́ншэ пе́клі са́мі ла́дкі, кла́лі на стол. Хлеб кла́лі. Не украша́лі". У Спярыжжы і Губічах адмаўляецца звычай ставіць на вяселле дрэўца, а ў Круках ён адзначаны з адпаведным найменнем гэткага дрэўца: "Ве́лца пхялі́: із гру́шы тры рагі́ убіра́лі бума́гамі вся́кімі га́рнымі, калі́най украша́лі, а ле́там — цвета́мі. На кут ста́ўлілі". Дождж у час вяселля ва ўсіх трох вёсках адзначаецца як станоўчы момант /што наогул тыпова для Беларусі/: "Каза́лі — та шчаслі́выя малады́я, шча́сця дож прыно́сіць" /Спярыжжа/, "Харашо́, вро́дзе, ка́жуць" /Губічы/, нарэшце, у Круках дождж быў паказчыкам багацця маладых у будучыні. У Губічах дадалі, што для шчасця і дабрабыту "зе́рне абсыпа́лі малады́х, тарэ́лку білі".

Радзіны. Што тычыцца тлумачэнняў дзецям, адкуль яны бяруцца, дык адказы атрыманыя банальныя і маючыя, відаць, мала адносін да традыцыйнай культуры — у Губічах дзяцей куплялі, у

Спярыжжы знаходзілі ў капусце, а ў Круках наогул нічога не выдумлялі: "урадзіла, напладзіла — ды й расціце".

Пахаванне. На пытанне, ці клалі ў старадаўнасці на магілы драўляныя калоды, ва ўсіх абследаваных вёсках адказалі адназначна адмоўна /таксама, як няма і звычая "вадзіць калодку", і толькі ў Губічах адзначана: "як сва́дзьба — перагара́джваюць даро́гу кало́дкай"/. Па-рознаму падыходзілі ў Брагінскім раёне і ў Губічах да праблемы пахавання пэўных катэгорый нябожчыкаў: у апошняй вёсцы і няхрышчаных дзяцей, і самагубцаў "харанілі на кана́ве, што круго́м кла́дбішча абко́пана, на бро́ўцы", і там жа — "е́слі нежывы́ ражзе́шца", а ў Круках і Спярыжжы няхрышчаных дзяцей хавалі на могілках разам з усімі, бо яны, у адрозненне ад самазабойцаў, ні ў чым не вінаватыя, ніякага грэха не ўчынілі, а самагубцаў і "тых, хто ад гарэлкі памёр", хавалі "тро́хі ад кла́дбішча ўбок" /маецца на ўвазе — на тэрыторыі мо́гілак, але ж не разам з усімі — Крукі/, "уто́пленнікам і паве́шэнным спецыа́льны угало́к атвадзілся на кла́дбішчэ. Для ніх асо́бая малі́тва есць у цэркві" /Спярыжжа/. Вынікі парушэння забароны на звычайнае пахаванне такіх нябожчыкаў нідзе не зазначаюцца.

Каляды. Звычай абвязваць дрэвы саломай на Каляды зафіксаваны толькі ў Круках: "Було́ тако́е, мая́ ма́тка сама́ аб'я́звала. Соло́му, што са стала́ з бага́тай куцці́ — гэ́тыя шчэ́пкі уве́чары ў по́ўначы аб'я́звалі". Рытуальнае запрашэнне на куццю адзначана ва ўсіх даследаваных вёсках: "На куццю́ прыглаша́лі маро́з: "Маро́з, маро́з, хадзі́ куццю́ е́сьці" /Губічы/, "На багатую: "Маро́з, маро́з, ідзі гу́шчу е́сць, а на Пятро́ўку ня йдзі, бо бу́ду пу́гаю біць" /Крукі/, "На пе́рвую куццю́ — дзядо́в. "Прыхо́дзьце е́сьці куццю́" /Спярыжжа— там жа расказалі пра наступны звычай: "Ку́рачкам у абру́ч насыплюць куцці́, штоб з аднаго́ абруча́ паелі і не йшлі ў чужы́ двор"/. У Губічах дзядоў на куццю не запрашалі, але запрашалі на Дзяды: "Дзяды́, радзіцелі, хадзі́це вячэ́раць". У Спярыжжы і ў Губічах фіксуюцца звесткі пра ранейшы звычай хадзіць з казой і са "звяздой" на Каляды, прычым у Губічах даецца апісанне казы — "кажу́х вывара́чвалі, надзе́нуць як шку́ру; казе́ надзява́лі каро́ну", — а ў Спярыжжы запісана песня пра казу:

"Ого-го, каза́,
Ого-го, шэ́ра,
-Дзе ро́гі дзела́?
-На соль прадала́".

Наяўнасць песні, якая пачынаецца словамі "Ого-го, каза", сцвярджаецца і ў Губічах, аднак інфарманты тэкста не памятаюць. З гэтых дзьвюх вёсак маюцца тэксты калядных песень ў гонар гаспадара і гаспадыні /Спярыжжа/, іхняй дачкі /Губічы/:

"Ішо́ў Ко́лечка беражы́наю,
На́йшоў ве́тачку пад ружы́наю.
То ня ве́тачка -- вінагра́дачка,
Яго На́дзячка -- ненагля́дачка.
Ён яе шука́ў -- у ла́дачкі пляша́ў,
Ён яе найшо́ў -- ўпры́сядкі пайшо́ў".

/На месцы ўласных іменаў песіся, зразумела, імёны гаспадара і гаспадыні/.

"Чырво́на, чырво́на ро́жа ў гаро́дзе.
Чырвані́й таго́ Та́нечка ў ма́мкі.
Святы́ ве́чар!
Па двару́ хадзі́ла,
Весь дом красі́ла.
Святы́ ве́чар!
А ў се́ні вышла́ --
Се́ні заззя́лі.
Святы́ ве́чар!
А ў ха́ту вышла́ --
Паны́ стая́лі.
Святы́ ве́чар!
Паны́ стая́лі --
Ша́пкі зніма́лі.
Святы́ ве́чар!
Ша́пкі зніма́лі --
Та́нькі пыта́лі.
Святы́ ве́чар!
-Ці ты пано́ўна,
Ці каралёўна?
Святы́ ве́чар!
- Я не пано́ва,
Не каралёва.
Святы́ ве́чар!
Я Іва́нава дачка́ --
Як я́гадачка.
Святы́ ве́чар!

Пасля выканання песні ў гонар дачкі калядніќі казалі:

"Кароткі світкі — памерзлі лыткі.
Кароткі фартушкі — памерзлі пятушкі.
Дарыця — не барыця,
Кусок сала нясіця".

І, нарэшце, са ўсіх населеных пунктаў — найтыповая інфармацыя пра сувязь пола першага госця з прыплодам каровы: "На першы дзень Раждмаства /вымаўляецца яшчэ і "Раждаства" — В.К./", калі мужчына першым прыдзе — "бучок родзіцца, а як жэншчына — цялічка" /Спярыжжа/, "На багатую куццю хлопчык першым прыдзе — бучок будзе, а як жэншчына — цёлачка" /Крукі/, "Тое карова ацеле — бычка ці цёлачку" /Губічы/.

Звычай рабіць спецыяльную свечку на Беларусі прыўрочваецца да розных святаў, таму пытанне пра яго немагчыма аднесці да нейкай канкрэтнай тэмы. У Спярыжжы спецыяльныя свечкі да святаў выраблялі на Новы год /"паставім ёлачку ў хаце, на кожны вяршочак дзелалі свечкі"/, на Дзяды і на Грамніцы. Цікавы звычай меў месца ў Чысты Чацвер: "З царквы бралі сьвячу і ішлі з этай сьвячой — зажжонай, дажэ еслі ісці восем кіламетраў, закрывалі ад ветру — у дом, і на поталке дзелалі крест свечой на балке" /полымям свечкі выпальвалі — В.К./. У Губічах была "пераходзячая свечка", штогод на Прачыстую яе перадавалі з адной хаты ў другую, "таму, хто жалае. Адзін год — у адной хаце, праз год — у другую, і йікону, і свячу нясуць. Цяпер ужэ не носяць.

Вясна. У час біцця дзяцей вярбой у Вербную нядзелю ў Брагінскім раёне выкарыстоўваліся наступныя вербальныя формулы: "Вербахлёст, бей да слёз" /Спярыжжа/, "А сей дзень — Вялікдзень, // А ўставай, не ляжы, // Да па вуткі бяжы" /Крукі/. У Губічах пры гэтым нічога не прыгаворвалі, аднак растлумачылі семантыку дзеяння — дзяцей і скаціну білі, каб здаровымі былі.

У якасці свята, да якога прымяркоўваецца раскладанне вогнішча, у Губічах і Спярыжжы назвалі Купалу, пры гэтым у Спярыжжы ўдакладнілі, што заўжды на адным і тым жа месцы — "называлі Купальна гара. Нацягаем туды дроў. Вянкі плелі, в речьку брасалі". У Круках "на Івана Купальнага не палілі. Палілі на Усюночную". У Спярыжжы без матывацыі фіксуецца забарона купацца на Купалу, а ў Круках адзначана, што "бывае серада пераплавна — вясной — после её можна купацца", адпаведна, на Купалу можна было купацца,

але і неабходнасць гэтага не рэгламентуецца. На Купалу ж у Спярыжжы моладзь учыняла бясчынствы, рытуальная семантыка якіх не захавалася: "На Купалу бочкі сцягалі да палілі — каб гарэлі добра. Ніткамі мне крыльцо поплятали. Шуціла моладзёж".

Распаўсюджанае павер'е пра "гульню" сонца, калі яно пераліваецца рознымі колерамі, адбываецца ў абследаваных населеных пунктах у розныя дні — на Уздвіжэньня /Спярыжжа/, на Благавешчанне /Губічы/, і даволі няпэўны адказ "раз у год, дзе-та летам" /Крукі/, — і дзеянне гэтае абазначаецца наступнымі лексемамі: "пераліў сонца. Тры раза здвігаецца. Мяняецца разнымі цветамі" /Спярыжжа/, мяняецца /Крукі/, грае /Губічы/. Наогул у Спярыжжы, верагодна, назва свята паўплывала на тое, што ў час яго трэба здзяйсняць, або здзяйсняюцца апроч удзелу чалавека, розныя дынамічныя дзеянні: акрамя азначанага "сонца здвігаецца", "на Уздвіжэньне гадзюкі упоўзвалі, вужы — гэта іх быў празнік. Толькі ў етай дзень — собіраліся ў кучы, клубкамі сворачваліся і гулялі. Вожак змей рукавадзіл гэтымі змеямі". Важак — большы па памеры, чым астатнія змеі, "как цвяткі на нём, два цветка тіпа короны, убраты дажэ золатам. Уздвіжэньне вселенной землі — в лес не хадзілі", затое трэба было хадзіць у госці, пажадана ў іншыя вёскі — "у Рыхвалаў хадзілі гасціць". У гэты ж дзень трэба было бочку, у якой засольваюцца гуркі ці памідоры, "поварушыць трі раза — штоб крэпкімі былі".

Сеў і жніво. У Губічах пасля заканчэння жніва "бараду завязвалі і астаўлялі", а таксама "на Макаўе /6 мая/ насілі ў цэркаў пучок жыта, свяцілі. Жыта свецяць на Юр'я весняного — на карню /г.зн. прама ў полі — В.К./". У Спярыжжа "барады" не рабілі і наогул каласоў у полі не пакідалі, але "першы снопок ставілі ў канторы, а то свяцілі — і пад ікону, на кут ставілі. І патом засявалі этім святым жытам". У Губічах у час жніва каліськці гаспадара поля "перавёсламі абвязвалі", а ў Спярыжжы на яго "вянок адзявалі — штоб поставіл выпіць". Акрамя гэтага, у апошняй вёсцы існаваў наступны звычай: "Дужу жэншчыну посылалі зажынаць жыта".

Скаціна. Ва ўсіх трох вёсках пры першым выгане скаціны ў поле не існавала звычая падкладаць штосьці пад парог хлева, але пэўныя рытуалы, звязаныя з гэтай падзеяй, маюцца. Губічы: "Выганяюць са двара — у ніт с кроснаў замыкалі замок", і клалі гэты замок "перад варотамі, штоб карова пераступіла. Кажуць, не губляецца карова ў лесе". Крукі: "Первы раз выганяюць только на Пасху. Бяруць,

з цэлай паляніцы адразаюць кусок і пастуху даюць, пару яец даюць". У Спярыжжы першы раз карову выганялі "святой вярбой. Перэд эцім в полоценца заварачвалі хлеб", выгнаўшы карову, ёй давалі кавалачак гэтага хлеба альбо кідалі апасля хлеб ёй у пойла. У вёсках Брагінскага раёна ніякіх прадметаў у хлеве не змяшчалі, а ў Губічах "май /г.зн. траецкую зелень — В.К./ кладуць у хлеў. Ікона віcела ў хлеве". Па пытаннях пра скаціну атрыманы дададзеныя, не прадугледжаныя анкетай звесткі: "Еслі кроў'ю мочыцца карова — прабіваюць места, дзе яна мочыцца, асінавым колам" /Губічы/, "Як ласіца прабяжыць — пераскочыць карову — менш малака, врэднае яно" /Спярыжжа/.

Ткацтва. Ва ўсіх абследаваных вёсках існавала забарона прасці ў пятніцу, і паўсюдна без матывацыі — невялічкае ўдакладненне было толькі ў Спярыжжы, дзе патлумачылі, што гэта звязана са Св. Пятніцай. У Губічах дадалі, што "пад пятніцу не работалі ўвечар — святы вечар". Таксама без матывацыі ў Губічах і Спярыжжы адзначаецца забарона пакідаць аснову на ноч — "на спяне ж не аставлялі" /Губічы/, "як хочас дасноўвай, штоб не была" /Спярыжжа/.

ХЛЕБ з аржаной мукі, які пяклі ў будныя дні для штодзённага ўжывання, у Губічах і Спярыжжы называўся аднолькава — баханка і кулідка, у Спярыжжы "із пшаніцы — паляніца". У Губічах фіксуецца тыповая легенда пра тое, што раней колас пачынаўся ад самай зямлі: "Мы хлеб ядзім толькі каціны ды сабаччы.

Колас быў: "да самага кораня — зерно было". Адна жанчына "бліном дзіцёнку жопу падцёрла. Бог убачыў — і колас здзелаў толькі для ката і сабакі, а не для людзей". У Спярыжжы легенды як такой няма, але ёсць прымаўка "Зрадзі, Божа, на каціну, на сабачу, на аслячу — што на свеце е, на ўсіх долю" — і каментыруецца, што "чалавек усіх должан карміць". Нідзе не было нейкага канкрэтнага дня, у які б належыла мыць хлебную дзяжу, у Спярыжжы "муйюць после кожнага хлеба".

Рэчы. У дзвюх вёсках адзначаны звычай секчы дзяркач на пэўнае свята. У Губічах гэта рабілася "на Хрышчэнне. Пасекці і выкінуць на вуліцу" са словамі "Шыла, рашшывайся!" Гэта рабілася дзеля таго, "штоб Бог грэх прасціў — хто ў Каляды работаў", а грэшнымі былі ўсе: "Каляд жа ж дзьве нядзелі — што-небудзь і дзелаеш". А ў Спярыжжы іншая матывацыя гэтага дзеяння: "Багата кущця ўжо была — каб чыста ў хаце было, на багату кущцю, на

Раждаство, секлі, і кідаюць на уліцу".

"І на боране, і на калёсах, і в санях вазілі цёшчу на свадзьбе" /Спярыжжа/, "На хрэсьбінах куму з кумам і бабу на барану садзілі і ў магазін везлі — ці на санках" /Губічы/.

Тлумачэнне плямаў на поўным месяцы, якое грунтуецца на біблейскай легендзе пра Авеля і Каіна, з'яўляецца тыповым: "Чалавек дзяржыць на вілах брата. Так і здзелалі, штоб он усю жызню яго дзяржаў і увесь свет яго бачыў. Авель Кавеля дзержыць" /Спярыжжа/, і тое ж самае рэдукаванае ў Губічах — "брат брата убіў".

Дождж, гром. Дождж, які ідзе, калі свеціць сонца, у Круках і Губічах без тлумачэння назвы называецца цыганскі. Ва ўсіх абследаваных населеных пунктах фіксуюцца спосабы выклікаць дождж, звязаныя з удовамі. Крукі: "Собіраюцца тры ўдавы, ім трэба ўкрасці тры кушыны да кідаць у тры калодцы на разных вуліцах у адзін дзень". У Спярыжжы рытуал з калодзежам мае месца па-за сувяззю з выкліканнем дажджа — "воду святую лілі в колодец на Крещенье",— а каб выклікаць дождж, "собіраліся I2 удоў. За дзень напрадуць, аснуюць, вуткуць полаценца. На Юр'я гэтая полаценца цэраз усю дарогу перасцілаюць, штоб скот перагналі" цераз яго. Губічы: "У удавы кралі гладышку, адбівалі рыла і кідалі ў калодзеж.

Бабы-удовы на сабе дарогу пахалі плугам". Зафіксаваныя ў Губічах і іншыя спосабы: "Еслі кто-то закутаў плот на Граной нядзелі — секлі той плот.

Мак-самасей свечаны у калодзеж кідалі,

Жабу убівалі".

Там жа зафіксаваны шэраг прыпевак, якія спявалі дзеці, каб спыніць або выклікаць дождж:

"Дождж ык, дождж ык, перастань,
Мы паедзем на Растань
Богу маліцца,
Цару кланіцца".
"Дождж ык, дождж ык, сыпані,
Бабу з поля прагані.

---

Дождж ык, дождж ык дзікі,
Дзерані вялікі.

---

Дождж ык, дождж ык, дзерані,
Матку з поля прагані.

Дожджык, дождзжык, пушчэ,
Дзерані пагушча".

Адна падобная прыпеўка запісана і ў Спярыжжы: "Дождзжык, дождзжык, памачы, // Бабу з поля прагані".

Пачуўшы першы гром вясной, "трэ печ падпіраць спіной, штоб не балела" /Куркі/, "нада спіной печ падымаць і красным платком ліцо выціраць" /Губічы/, у Спярыжжы на першы гром не рэагавалі.

Расліны. На пытанне, галінкамі якіх дрэў упрыгожвалі хату на Сёмуху, атрыманыя наступныя адказы: "Віткамі ліпы, а на варотах — бярозкі. На іконы ліпавыя веткі забрасвалі, па сцянах развешвалі іх. Плюшнік пажыналі, пахучы такі, і па ўсёй хаце сыпалі на Троіцу" /Спярыжжа/, "На Тройцу — ліпу, да ясеню, да клёну — да пазатыкаем" /Крукі/, "Клёнам, асінай і бярозкай" /Губічы/. Толькі ў апошняй вёсцы траецкая зелень мае асаблівае найменне: "май выцягваюць і на растанях палюць" пасля свята.

Калі садзілі капусту, у Губічах "камень-дзічак /г.зн. вялікі круглы камень — В.К./ клалі, і крапіўну тыркалі"; У Круках на гэты выпадак існавала адпаведная вербальная формула, запісаць якую, аднак, не ўдалося /"я саджала капусту, дык прыказвала, да забулася"/; нарэшце, у Спярыжжы нічога не рабілі.

Жывёлы. І адрозненні, і агульныя рысы абазначыліся ў даследаваных вёсках пры тлумачэнні сноў. Убачыць у сне рыбу вядзе да розных вынікаў: "харошы сон — прібыль" /Спярыжжа/, "дож будзе" /Крукі/, "рыбу ловіт — родзіць дзеўка" /Губічы/. Наадварот, адно і тое ж ва ўсіх населеных пунктах прадвяшчае ўбачаны ў сне чорны конь: балезь /Крукі/, хвароба /Губічы/, "лошадзь любога цвета — балезнь" /Спярыжжа/. Супрацьлеглыя адказы наконт белага каня: Крукі — багатства, Губічы — смерць. Тое ж самае ў Губічах, "еслі на каню серам катаешча". У Круках бачыць у сне карову, незалежна ад яе масці, абазначае "смерць, або балезня", а ў Спярыжжы яны дыферэнцыруюцца па колеру, хаця ў любым выпадку нічога добрага не прыносюць: "Красная корова — слёзы, пажар. Чорная корова — непрыятнасці. Белая корова — нешта плохо".

У Губічах пры сустрэчы з ваўком, каб ён не чапаў, трэба "сказаць "Агу!" — ён тады пабягіць".

Забойства жабы ў Губічах, як ужо адзначалася вышэй, вядзе да дажджа, таму, калі выклікаць дождж не трэба, "кажуць: "Не бій жабу, а то дождж пойдзе". У вёсках Брагінскага раёна сувязь

забітай жабы з даждиом адмаўляецца.

Птушкі. У дзвюх вёсках лічаць, што зязюля кукуе да Пятра: "Як Хрыста падымаюць -- закукуе, і да 12 юля. Ад Пасхі до Пятра. Тады яна ўжэ скрываецца" /Спярыжжа/, "Да Пятра -- патом лётае, да не кукуе. Казалі:

"Кукуй, кукуй, зязюлячка,
Цябе немножка кукаваць:
После Пятрочка -- ні дзянёчка" /Губічы/

Зафіксаваныя прыкметы, звязаныя з першымі буслами, якіх убачылі вясной: у Губічах "дзеўка ўбача аднаго -- адна і будзе, а пару -- замуж пойдзе" сёлета, а ў Круках "еслі бусел сядзіць на зямлі -- будзеш бальны, а еслі ляціць -- дык будзеш здаровы, быстры". Там жа, убачыўшы бусла, які ляціць /не толькі першага, у любы момант/, "трэба па зямле качацца". Ва ўсіх абследаваных населеных пунктах -- забарона рабіць шкоду буслу. "Не разрашаюць буслянку бурыць -- нікагда ў хату гром не ўдара, калі буслянка ля хаты" /Губічы/. "Не чапаюць". Адны людзі "раз кубло скінулі, другі -- буслу надоела. Дзесь галавеньку взяў з агнём, палажыў на крышу, да хата згарэла" /Крукі/. "Бусел очень мстітельны -- у комін набрасае палак, еслі гняздо разрушыш. Буслоў нельзя убіваць -- шчіталась благародная пціца. Потому яго і не ядзяць" /Спярыжжа/. Там жа фіксуецца тыповая легенда, якая тлумачыць, чаму бусел з'яўляецца "высакароднай птушкай", пра ягонае паходжанне ад чалавека: "Бусла называют Гаврііла. Бог сабраў усякую твар" у мех і наказваў нікому не адкрываць. "Гавріла -- был человек. Человек очень любопытны -- аткрыл і пасматрел. Бог сказаў: "Будзеш всю жызнь ходзіть по балоту і собіраць змей, лягушак, жабы" -- і зделал яго буслом". Вынікі разбурэння гнязда ластаўкі адзначаюцца аднолькавыя і вельмі травіяльныя: "Разрушыш гняздо ластачкі -- вяснушкі нападуць" /Спярыжжа/, "Плясківы будзеш, гняздо еслі скінеш" /Губічы/.

Насякомыя. Метад барацьбы з прусакамі, клапамі, блохамі і да т.п., які выкарыстоўваецца ў Губічах, наўрад ці звязаны з традыцыйнай народнай культурай -- "кіпятком абліваілі". Значна больш цікавыя даныя са Спярыжжа -- у час пахавання каго-небудзь "жукі і тараканы у каго былі -- калі опусцяць у могілу -- выведуцца"; можна было не ў магілу, а ў труну; асаблівую эфектыўнасць гэтая мера набывала, калі скарыстоўваць магілу ці труну чарадзея.

Метэяралагічны прагноз у сувязі з таўкатнёй насякомых у паветры ва ўсіх трох вёсках гучыць аднолькава -- "цёпла будзе". Назва гэтай з'явы адзначаецца ў Губічах -- камары мак таўкуць, і ўскосна ў Спярыжжы -- комары кучай лятаюць, стаямі лятаюць.

"На Новы год павукі з саломы дзелалі. Салома жоўтая, блестяшчая. Ромбамі дзелался. Бумагу рэжуць бахрамкамі, са ўсех старон на углах. Убіралі этага павука". Гэтая інфармацыя са Спярыжжа, дзе толькі і адзначаецца саламянае ўпрыгажэнне.

На пытанне "Як гавораць пра чалавека з дзівацтвамі?" у трох вёсках атрыманыя даволі прамалінейныя адказы: памяшаны, чокнуты /Губічы/, дурны /Крукі/, не хватает у нево клёпкі /Спярыжжа/.

Каб звесці барадаўкі, у Спярыжжы апоўначы ішлі на скрыжаванне /"на ростокі"/, не азіраючыся і не размаўляючы ні з кім /роўна як і вяртаючыся дадому/, закопвалі адну барадаўку, а астатнія перавязвалі ніткай -- тады ўсе сыйдуць. У астатніх вёсках менш складаныя метады лячэння: "Верацяно пяткай круцяць. Ніткай перавязвалі" /Губічы/, "Барадаўку ўпекваюць чымсьць, перав'язваюць" /Крукі/.

Фіксацыя матэрыялаў, якія мы імкнуліся прадставіць тут як мага паўней, своечасовая ў першую чаргу ў дачыненні да "чарнобыльскіх" перасяленцаў, таму што і лінгвістычныя, і этнакультурныя іхнія асаблівасці калі і захаваюцца ў бліжэйшы час, дык будуць падвяргацца моцнай дыфузіі з адпаведнымі рэаліямі новага наваколля -- гэта ўсё апроч аб'ектыўнай рэдукцыі традыцыйнай народнай духоўнай культуры, якая мае месца паўсюдна. Не менш актуальнымі ў святле гэтага з'яўляюцца распрацоўкі ў яшчэ адным напрамку "на стыку" навуковых дысцыплін -- сацыялінгвістыцы, прыклад грунтоўнага і ўсебаковага даследавання ў гэтай галіне прадстаўлены ў дадзеным зборніку В.М.Курцовай. Матэрыялы пададзеныя з захаваннем дыялектных асаблівасцяў -- як вядома, лексіка, якая выбіраецца з адказаў інфармантаў на пытанні этналінгвістычных праграм, мае павышаную каштоўнасць для дыялекталогіі, бо "дазваляе ўлічваць, калі мець на ўвазе кантэкст, якраз этналінгвістычны характар семантыкі асобных лексем або словаспалучэнняў"[2]. Трэба звярнуць увагу на адметнасць этнакультурнай аўры кожнай вёскі, нават у межах аднаго раёна -- што ўласціва не толькі Брагінскаму р-ну, дзе на прыкладзе Спярыжжа і Крукоў маецца магчымасць у гэтым пераканацца, але і іншым палескім рэгіёнам. У той жа час відавочныя і агульныя рысы, якія адрозніваюць даследаваныя вёскі Брагінскага

р-на ад Губічаў. Усё гэта ў вялікай ступені варта ўвагі, тым больш, што ў адносінах Палесся адзначана: "Асобныя этнамоўныя /этнакультурныя/ вобласці славянскага свету /якія ўмоўна можна назваць архаічнымі/ да цяперашняга часу захоўваюць асноўныя культурныя і моўныя мадэлі "славянскіх старажытнасцяў", якія могуць таму быць вывучанымі непасрэдна і ва ўсёй паўнаце адпаведна сучасным навуковым патрабаванням"[3].

## Спасылкі

1. У гэтым пераліку апушчаная міфалогія, па якой таксама ёсць пытанні ў анкеце-апытальніку, якія не падаваліся ў гэтым артыкуле, паколькі падрабязна разглядаліся ў іншым /"Сучасны стан..."/.

2. Антропаў М.П. "Беларуская дыялекталогія і этналінгвістыка: пытанні кантактаў". — "Беларуская лінгвістыка", вып. 39, 1991. С. 11.

3. Толстой Н.И., Толстая С.М. "Материалы к Полесскому этнолингвистическому атласу. Опыт картографирования. Предисловие". — У кн. "Славянский и балканский фольклор". — М., 1986, С. 5.

З М Е С Т



Дыялектныя матэрыялы



Этналінгвістыка

